Стварыць цяжка!
А перотварыць Створанае
яшчэ цяжэй.
Умей тварыць нястворанае!

Янка Юхнавец, *Калюмбы*

# Т Э Р М А П І Л Ы

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 18** Беласток **2014**


## Змест

---

**РЭДАКТАР**
***Ян Чыквін***

Ніл ГІЛЕВІЧ

# ЗАПІСЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

(з падрыхтаванай да друку кнігі эсэістыкі
“У віры быцця”)

## I

### У гэтым і мудрасць…

Даўным-даўно, яшчэ недзе ў школьным узросце, пачуў упершыню гэту прымаўку: “Дурны, як бот з левай нагі.” Пасля чуў яе неаднойчы. І сам прамаўляў пры нагодзе. Ніколі не задумваючыся: а чаму менавіта з левай? А што – з правай нагі разумнейшы?

У гэтым і мудрасць прымаўкі. Гэтым і інтрыгуе, і запамінаецца. Правакуе пытанне: а чаму? Чаму – з левай? Шукаць адказ, даваць тлумачэнне – справа марная. Народ так сказаў – і ўсё тут!

*1983*

### Лепш бы не ведаць…

У газеце “Правда” за 7.X.1988 г. змешчана публікацыя “Власть и Закон” – аб парушэннях законнасці ў СССР у 1930-ыя гады. Як кажуць: лепш бы не чытаць і нічога гэтага не ведаць. О, які жах! Якія страшныя людаедзіны кіравалі краінай і храбасталі жывымі лепшых з лепшых! Сталін, Вышынскі, Яжоў і іншыя пачалі знішчаць сацыялізм знутры. Вынікам іх злачынных, антычалавечных, людажэрскіх пастаноў і загадаў было ўсенароднае расчараванне. Яны адвярнулі ад сацыялізму мільёны людзей.

Вось такая наша гісторыя. Такі наш лёс. І як цяпер быць? І што рабіць? Перабудоўвацца? Лёгка сказаць…

*1988*

## Дык адкуль і з чаго крык, шаноўныя?

І вось нашы браты ў нас закрычалі: “Мы не павінны цярпець факты дыскрымінацыі па нацыянальнай прыкмеце.” (Гэта значыць, рускіх у Беларусі).

Скажыце, шаноўныя: а дзесяткі гадоў дагэтуль – дыскрымінацыі не было? Ды было горш, чым дыскрымінацыя! Быў фактычна генацыд. Быў жалезны курс на знішчэнне нацыянальнай мовы, нацыянальнай культуры, а значыць і самой нацыі. Пра якую дыскрымінацыю вы, шаноўныя, закрычалі? Дзе яна? А вось дзе яна была зусім нядаўна – бачна усяму свету. Ці, можа, гэта быў росквіт сацыялістычных нацый? Калі я не мог знайсці ў Мінску ні адной беларускай школы, каб вучыць сваё дзіця ў роднай мове – у мове вялікага славянскага народа – гэта была не дыскрымінацыя? Не здзек? Не прыгнёт па нацыянальнай прыкмеце? Ды што ў Мінску! Ні ў адным горадзе і гарадку Беларусі! А яшчэ праз 10-15 гадоў – і ні ў адной вёсцы ўжо не знайшоў бы беларускай школы.

Дык што ж вы цяпер так закрычалі пра дыскрымінацыю гэтак званага рускамоўнага насельніцтва? Што – яму няма дзе ў нас вучыцца рускай мове? Ах, ёсць дзе, ёсць?! Літаральна на кожным кроку ёсць! Дык адкуль і з чаго тады гэты крык, шаноўныя?

*1991*

## Пытанне “на засыпку”

Адбыўся развал СССР – Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Каб жа СССР! Саюза ўжо не было. Была імперыя – са смехатворнымі “суверэннымі правамі” рэспублік. Семдзесят гадоў “малацілі” ў друку, па радыё і тэле, на сходах і мітынгах пра Саюз раўнапраўных. А трэба было “малаціць” пра Саюз бяспраўных. Суверэнітэт Беларусі быў поўнай фікцыяй. Вярхоўны савет, Урад, ЦК КПБ – фігавыя лісткі.Ніводнага самастойнага кроку БССР не магла зрабіць – ніводнага! Нават ва ўнутранай палітыцы, не кажучы пра знешнюю (хоць і член ААН).

Ну, і вось развал… Распаўся “нерушимый”. А ці мог бы ён захавацца і існаваць далей, калі б сапраўды быў саюзам раўнапраўных, суверэнных дзяржаў? Ці ўсё адно распаўся б, паколькі “скрэпы” былі ілюзорныя? А якія маглі б быць не ілюзорнымі, а рэалістычнымі, г. зн. узаемавыгаднымі?

Пытанне “на засыпку”.

*1991*

## Не падтрымалі…

Бачачы, як кепска выконваецца Закон аб мовах, рашыў праявіць ініцыятыву і правесці праз Вярхоўны Савет РБ такую пастанову: “**Аб мове рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх і раённых газет.** Зыходзячы з пільнай неабходнасці рашучага пашырэння дзяржаўнай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця ў рэспубліцы, бачачы ў гэтым найбольш плённы спосаб садзейнічання беларускаму нацыянальнаму адраджэнню, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Усе рэспубліканскія, абласныя, гарадскія і раённыя газеты, якія з’яўляюцца выданнямі дзяржаўных органаў улады, перавесці на працягу 1993-1994 гг. на беларускую мову.”

Накідаў вось такі праект Пастановы і пайшоў у Камісію па СМІ як галоўную ў пытаннях друку – прасіць, каб падрымалі. “Не, сказалі, трэба гэта рабіць без Пастановы ВС, а практычна. Пастановай выклічам буру, паралізуем некаторыя выданні, бо няма беларускамоўных кадраў.”

І мая патрыятычная задума правалілася. А я ўжо так быў ёю загарэўся!..

*1992*

## Сёння – ганьба. Пакуты – наперадзе

Выйшаў першы пасля рэферэндума нумар “ЛіМа” (19.V.95). Калонка “Кола дзён” пачынаецца страшна (відаць, майму братку-рэдактару так не сыдзе). “Што казаць, калі няма чаго казаць… Усё сказаў пра сябе “народ” Беларусі 14 траўня. Ён яшчэ раз паказаў усяму свету, што ўласна народа няма, а ёсць – насельніцтва. А пра “няма” і размовы няма.” Далей пад загалоўкам “Ганьба тыдня” чытаем: “Тое, што адбылося на Беларусі, – пакуль не трагедыя. Гэта – фарс, гэта – агонія посткамуністычных сіл, у якіх няма ні перспектывы, ні будучыні. Яны непазбежна пацерпяць крах, але шлях Беларусі і беларусаў да сапраўднай незалежнасці ляжыць праз ганьбу і пакуты. Ганьбу мы перажываем цяпер, а пакуты – наперадзе.”

*1995*

## У ліпені 1995-га. З вышыні ААН!..

Сёння, 26-га ліпеня, “Народная газета” апублікавала артыкул

“Беларуская культура і мова просяць дапамогі”. Пад артыкулам – пазначана: з Нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Пазнака, мабыць, не зусім пісьменная, але такой бяды; галоўнае, што гэта – дакумент прадстаўніцтва ААН. І вось якія ў ім мы чытаем фармуліроўкі. “Беларуская культура апынулася ў глыбокім крызісе. Узнікла рэальная пагроза яе далейшаму развіццю, а разам з ім і захаванню беларускага народа як самастойнага, самабытнага этнасу.” Вось так, значыцца. На думку ААН – узнікла рэальная пагроза. І далей – больш страшнае ўдакладненне: “Галоўным негатыўным вынікам двухполюснай арыентацыі грамадскай свядомасці беларусаў з’явілася тое, што іх нацыянальная культура і мова зведзены да становішча другараднага элемента грамадска-культурнага жыцця. Зараз у цэласным выглядзе, у адзінстве ўсіх праяўленняў беларуская нацыянальная культура, па сутнасці справы, не існуе.”

Вось такія высновы, такі прысуд. Беларуская нацыянальная культура фактычна не існуе. І ў такой сітуацыі правялі пагібельны для беларускай мовы рэферэндум.

*1995*

## Які ж ён беларускі?

У Мінску 20 кастрычніка прайшоў Усебеларускі Сход. Ні дэлегатам, ні госцем яго не быў, дык глядзеў уважліва па тэле, ад пачатку да канца. Глядзеў з надзеяй, што нешта добрае пачую. Хоць нешта. Усё ж такі – Усебеларускі, з усёй краіны людзі сабраліся. Прадстаўнікі! Лепшыя з лепшых! Вядомыя! Нават знакамітыя! Размова павінна быць адпаведная.

Глядзеў, слухаў і вёў свой тэле-пратакол Сходу. Фіксаваў галоўнае ў прамове кожнага дэлегата. І што ж? Надзеі мае, на вялікі жаль, не апраўдаліся. “Хоць нешта” не прагучала.

Па-першае, усе да аднаго – хто менш, хто больш, хто аж ілбом б’ючы – неслі пахвалу і падзяку “усенародна абранаму”.

Па-другое, ніхто не закрануў пытання аб становішчы беларускай мовы; адзін – падзякаваў за рэферэндум аб дзвюх дзяржаўных.

Ну, а галоўнае: з 27 прамоўцаў – 26 гаварылі на мове суседняй дзяржавы. І толькі адзін – апошні! – па-беларуску. Нехта Майсейчык – прадстаўнік дыяспары, з Казахстана. (Мабыць, таму, што жыве ў Казахстане і не зусім “у курсе”).

Вось такі Усебеларускі Сход. Вось такія беларусы, прадстаўнікі народа. Ну, калі ўжо ўзаконены дзяржаўнымі дзве мовы – дык хоць

бы палавіна выступіла на роднай беларускай, ці хоць бы трэць, ці хоць бы адна пятая. Хоць бы адна сёмая! Не! Толькі адзін дэлегат, і той – з Казахстана! (А можа, не дэлегат, а госць? Ды напэўна! Хто ж яго – які беларускі народ – там выбіраў дэлегатам?).

Вось так яшчэ раз, на пасмешышча свету, беларусы засведчылі сваю пашану і любоў да мовы роднай зямлі.

У горкім настроі напісаў горкі-горкі верш; назваў яго – "Балада аб дваццаці шасці". Дзве страфы падам тут – самыя горка-іранічныя.

Як ні цяжка было – а змаглі
Устаяць, утрываць, не сарвацца
І не зганьбіць сябе – не азвацца
Мовай роднай бацькоўскай зямлі.

Ах, які быў бліскучы парад
Небывалага йшчэ паслужэнства!
Дваццаць шэсць! І ні слова, ні жэста,
Каб з Якубам і з Янкам у лад!

Дарэчы, з дзеячоў адукацыі і культуры слова атрымалі пяць дэлегатаў: дырэктар СШ з Ваўкавыска Нядзвецкая, дацэнт з Мазыра Касцян, прафесар з Віцебска Касінец, прадстаўнік інжынернай акадэміі Чардынцаў і артыст Гасцюхін. Да іх, мабыць, трэба далучыць і мітрапаліта Філарэта. Ніводзін пісьменнік слова на Ўсебеларускім Сходзе не атрымаў.

*21.X.1996*

## Не перараджэнцы, а прыстасаванцы

"Новыя беларусы". Хто яны? Якога сацыяльнага паходжання? А ўсякага, самага markнага. А чаму яны не падтрымліваюць беларускае нацыянальнае адраджэнне? А таму, што яны "ворагі беларушчыны". Былі такімі ўвесь час і застаюцца такімі сёння. У гэтай кучы аб'ядналіся: і былыя партыйна-дзяржаўныя чыноўнікі, і гандляры (і тыя і другія – не ўсе, ёсць сярод іх і "белыя вароны"). Першых называюць "пярэваратнямі", "перараджэнцамі". Гэта няправільна. А хіба яны былі ідэйнымі камуністамі? І маглі б за камуністычныя ідэі сесці ў турму ці пайсці на бой? Не. Яны такія і былі. Яны глыбока без'ідэйныя па самой прыродзе. Гэта – прыстасаванцы. І да таго, ранейшага, грамадскага ладу прыстасаваліся і смакталі на поўную губу, і да гэтага, цяперашняга. Толькі цяпер – зусім адкрыта, без камуністычнага камуфляжу.

*1996*

## Адаптаваная для адаптаваных душ

Знішчэнне беларускай мовы (не кажу адміранне, бо яна не сама адмірае) ідзе перш за ўсё па дзяржаўнай лініі. Ну так: дзяржавай, самой дзяржавай узяты курс на гвалтоўнае адрыванне людзей (пачынаючы з дзіцячага садка і школы) ад беларускай мовы, фактычная забарона яе ў афіцыйных установах, выцясненне другою дзяржаўнаю – рускаю. У выніку ідзе жахлівае збядненне мовы літаратуры, тэлебачання, радыё, газет і часопісаў. Тое, што мы сёння чытаем у друку, слухаем па тэле і радыё – гэта ўжо мова не зусім беларуская, бо абкарнаная і знівеліраваная, посная – без паху-водару і бляклая – без колераў і адценняў, адаптаваная для адптаваных душ, мова – амаль штучная, як сахарын, свайго роду – беларускае эсперанта, на вывучэнне якога шмат сіл і часу не трэба.

Што ж датычыць жывой, размоўнай плыні, то тут пануе "трасянка" – самае вернае люстэрка нашай моўнай культуры і наогул культуры нашага грамадства.

І што рабіць? Як быць? Як ратаваць сапраўдную беларускую мову? Як вярнуць яе ў літаратуру, у навуку, у СМІ? Лёгкае (эсперанта) спакушае – цяжка працаваць не хочацца.

*1998*

## Шасцісоткавая нацыя

Мы навучыліся жыць і карміцца з 4-ох, з 6-ці, у лепшым выпадку – з 10-ці сотак. У сярэднім – з шасці. Мы – шасцісоткавая нацыя! Ура! Гэта наш нацыянальны маштаб. Больш не хочам. Маштаб нашай душы. Пры маштабах Беларусі ў два, у пяць, у дзесяць разоў большых за маштабы многіх еўрапейскіх краін.

*22.I.1999*

## Не разумеюць

Нашы высокія чыны не разумеюць, што Беларусь павінна быць дзяржавай, якая для Еўропы нешта значыць і ў многіх адносінах заслугоўвае павагі, што яе слова на міжнароднай арэне – аўтарытэтнае, бо ў яе народа шмат розуму, таленту, творчай энергіі і іншых каштоўных якасцяў.

*1999*

## На парозе 2000-га

Чалавецтва ўсё больш стамлялася – і нарэшце стамілася. Людзей ахапіла глабальная абыякавасць. "Жывём адным днём". Адсюль – і агрэсіўнасць. Як выбух накопленай апатыі, прыгнечання, незадаволенасці, злосці… Дык што? Брацца за падрыхтоўку новай сацыяльнай рэвалюцыі? Не. Трэба шукаць іншыя спосабы зрабіць жыццё чалавека цікавым і актыўным. Духоўна цікавым.

*1999, снежань*

## Грань трагедыі

Вытравілі пачуццё прывязанасці да Радзімы (да Беларусі). Паехаць за край свету з Бацькаўшчыны – з радасцю! І там перастаць быць беларусам, зніveліравацца – з радасцю! Нават эмігранты ў ЗША ў большыні сваёй гуртуюцца ў рускіх абшчынах, пры рускіх цэрквах, як рускія. У СССР стараліся не прызнацца ў сваім беларускім паходжанні – і за акіянам таксама. І гэта прыкра бачыць, прыкра ведаць. Балгарын і на краі свету – балгарын, і паляк, і ўгорац, і эстонец усюды застаюцца сабою, а беларус – як з'ехаў, дык тут жа і адрокся ад беларускасці… Вось што страшна! Вось – грань нашай нацыянальнай трагедыі!..

*1990-я*

## З вывіхаў нашага лёсу

Калектывізацыя зламала, знявечыла, загубіла праўдзівую душу беларускага селяніна, ды і ўсяго беларускага народа, бо яна не адпавядала прыродзе беларускай этнапсіхалогіі. (Успомнім "Новую зямлю" Коласа, мару Міхася пра ўласны кут). Калектывізацыя знішчыла і эканамічны грунт, на якім мусіла паўставаць беларуская нацыянальная дзяржаўнасць, у якім павінна была караніцца беларуская нацыянальная ідэя, з якога браў бы, чэрпаў бы сілы беларускі нацыянальны дух.

*Канец 1990-х*

## Самы савецкі

Беларускі народ у масе сваёй з гэтай прыхватызацыяй не мірыцца. Чаму? Таму, што ён на ўсёй былой тэрыторыі СССР – самы савецкі і самы камуністычны, – нават у параўнанні з расіянамі. Вы ж

бачыце: бальшавіцкую “рэвалюцыю” зрабіла Расія, а святкуем дату 7 -га лістапада толькі мы. Чаму менавіты мы такія – асобная тэма для асобнай размовы. Тут досыць канстатацыі факта: мы – самыя сацыялістычныя і камуністычныя людзі на Зямлі.

*Канец 1990-х*

## Дзякую “ўсіх” за ўвагу

Ужо колькі гадоў кожны вечар з экрана беларускага тэлебачання чую: “Дзякую *ўсіх* за ўвагу…” Колькі ўжо гадоў частуюць мяне гэтай прыкрай калькай з рускай мовы! І хлопцы, і дзяўчаты. Гаворка пра іх – пра дыктараў і тэлекаментатараў. Шаноўныя спадарыні і спадары! Ды запомніце ж вы нарэшце раз і назаўсёды: па-беларуску трэба гаварыць “дзякую *ўсім* за ўвагу”! Як і дзякую *вам*, а не дзякую *вас*. Як і дзякую *ім*, а не *іх*. Як і дзякую *яму*, а не дзякую *яго*. Няўжо гэта так цяжка запомніць? Гэта на рускай мове трэба гаварыць “благодарю всех”, “благодарю вас”, “благодарю тебя”. Па-руску, спадарыні і спадары, па-руску! А па-беларуску трэба: дзякую вам, ім, табе, яму, і г.д.

Дзякую ўсім чытачам за ўвагу!

*1999*

## Толькі тады…

Твая Радзіма – зямля, на якой ты нарадзіўся? Увогуле, так. Але!.. Каб лічыць гэту зямлю Радзімай – мала ведаць толькі тое, што ты тут нарадзіўся. Трэба ведаць гісторыю гэтай краіны, яе трагічны лёс, яе духоўную і матэрыяльную культуру, мастацтва, народную творчасць ва ўсёй яе разнастайнасці, а найперш – трэба ведаць мову гэтай зямлі!.. Толькі тады ты маеш права сказаць:

– Вось мая Радзіма! Я – яе сын. Ці: я – яе дачка.

*1999*

## У свой час – і сёння

У свой час лідэры БНР разумелі, што кожная нацыя – каштоўнасць, як і кожны чалавек, і таму гэту каштоўнасць трэба берагчы. Сёння Пачвары гэтага не разумеюць. Або…

Лідэры БНР змагаліся за нацыянальную, то бок, за беларускую аўтакефальную царкву. Сёння Пачвары – супроць нацыянальнай царквы, а гарой за РПЦ – Рускую Праваслаўную Царкву, як за

інструмент русіфікацыі. Ды які магутны інструмент!..

А што – дэмакраты-апазіцыянеры? Тут адзінства няма. На вялікі жаль, многія з іх – глабалізатары, духоўныя касмапаліты.

*1990-я*

## Перастаньце! Іначай Бог вас пакарае

Перастаньце вяшчаць-крычаць пра клопат аб беларускай культуры! Перастаньце! Ужо сем з гакам гадоў вы робіце ўсё, каб нашу культуру задушыць. Задушыць даастатку мову ў школах, задушыць беларускую кнігу, беларускае слова і песню на радыё і на тэле, дзе толькі можна, усюды і скрозь задушыць сам дух беларушчыны. Ну душыце, душыце! Але чаму вы не баіцеся Бога: чаму вы пры гэтым так бязбожна хлусіце?

*2002*

## Ну дык гэта ж Латвія!..

Паводле Ю. Туронка (“Беларуская кніга пад нямецкім кантролем”, 2002) за гады нямецка-фашысцкай акупацыі (1941 – 1944) выйшла на беларускай мове 117 кніг і брашур (на ўсіх акупаваных тэрыторыях – у Беларусі, у Летуве, у Чэхіі, у Нямеччыне). А за гэты ж час у Латвіі на латышскай мове было выпушчана 1500 кніг і музычных твораў. Вось такія лічбы, такая розніца. У маленькай Латвіі – 1500! Ці нам, беларусам, гэта што-небудзь кажа? Кажа! Што надта шмат – аж 117 – выйшла на беларускай. А што ў Латвіі… Ну дык гэта ж Латвія!

*2002*

## Як чорт крыжа…

І да гэтага часу нашы дзяржаўныя ідэолагі, як чорт крыжа, баяцца ўсяго, што ёсць плёнам ці знакам БНР – абвешчанай у сакавіку 1918-га года незалежнай беларускай дзяржавы, усяго, што добра характарызуе дзейнасць Урада БНР. Шарахаюцца, заплюшчваюць вочы, замоўчваюць і горш за тое – шальмуюць, ачэрніваюць, бэсцяць. Ці ўвогуле сцвярджаюць, што ніякай незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі не было.

Вось апошні прыклад ігнаравання нашай праўдзівай гісторыі. Сёлета, у снежні 2002-га, адзначаецца 80-годдзе Мінскага педагагічнага ўніверсітэта. А ці ж 80 яму гадоў? Заснаваны ў 1914

(1.VII) як Настаўніцкі інстытут у Мінску. 30.XII.1918 г. на яго базе ўзнік Менскі Беларускі педагагічны інстытут – першая вышэйшая навучальная установа ў Мінску, які праіснаваў да ліпеня 1920-га года. Яго выкладчыкамі былі Карскі, Ігнатоўскі, Гарэцкі, Іваноўскі, Тарашкевіч, Канчэўскі і многія іншыя выдатныя навукоўцы і асветнікі. У 1918 годзе, калі Настаўніцкі інстытут вярнуўся з эвакуацыі з Яраслаўля, яго працу фінансаваў Урад БНР. Гэтай "прычыны" дастаткова, каб сёння зыгнараваць яго існаванне наогул.

*2002*

## II

### З запісанага ў фальклорнай экспедыцыі

"Цяжка жыць, калі волі сэрцу няма." (З аповеду жанчыны, якая жыццё пражыла за нялюбым мужам, – бацькі аддалі замуж сілком, з яе воляй не палічыліся.)

"І тады яны пусцілі сабак, і сабакі кінуліся на дзяўчыну і вырвалі ў яе сэрца, і дзяўчына ўпала…" (З успаміну старой жанчыны пра жыццё пад фашысцкай акупацыяй.)

*1970*

### У Гвінеі гэта разумеюць…

"Душа нацыі – у яе культуры" – на такую тэму адбылася размова ў ЮНЕСКО. І дэлегат Гвінеі І. Чэрчар сказаў: "Адраджэнне нацыянальнай культуры не з'яўляецца крокам назад. Яно вяртае краіне яе душу, яе маральную раўнавагу, падрыхтоўваючы яе да ўспрыняцця прагрэсу з гарантыяй, што прагрэс не праглыне яе" ("Кур'ер ЮНЕСКО", 1971, №1).

Гвінейцы ў сваёй роднай Гвінеі гэта разумеюць і гэтым кіруюцца. А беларусы ў сваёй роднай Беларусі?

*1971*

### Дзве цытаткі з нашага песеннага фальклору

Першая:

Ехаў мілы па нявесту –
Пад капытам камень трэснуў.

Вось так: аж камень трэснуў пад конскім капытом! Аб'ёмнасць метафарычнага вобраза – невымерная.

Другая:

Пайду к міламу ў дуброву –
Пагаворым па-сваёму.

Няма калі шукаць лепшую, больш дакладную рыфму. Асананс ёсць – і годзе. У духу народна-песеннай паэтыкі. Не рыфма галоўнае. Досыць і прыблізнай сугучнасці: ову-ёму. 1979

**Яшчэ адно бязглуздае рашэнне**

У пачатку 1960-х, калі я "штолета здымаў у Купе катушок", у тым Нарачанскім краі яшчэ была вузкакалейная чыгуначная лінія, якая цягнулася кіламетраў сорак – ад берага Нарачы да станцыі Лынтупы. Лінію гэту, у вышэйшай меры дасканала, пабудавалі ад Лынтупаў да мястэчка Кабыльнік яшчэ немцы ў 1915 годзе, а "за польскім часам" аднавілі і ў 1937-ым прадоўжылі на чатыры вярсты да Купы. Бегалі па ёй тры прыгожыя камфартабельныя вагончыкі. Усё лесам, лесам і лесам… О, якая гэта была любата, якая насалода – пракаціцца ў іх, а хоць і да самых Лынтупаў! Задавальненне гэта яшчэ паспеў зведаць і я – браў трохгадовага сына, купляў білеты – і гайда! Дзівосным зялёным тунелем. З абодвух бакоў лініі – высозныя баравыя сосны. Вельмі любілі гэтыя прагулкі ўсе, хто прыязджаў на Нарач адпачываць і прыватным чынам, і арганізавана: паблізу быў дом адпачынку паліграфістаў і летні лагер пры біялагічнай станцыі БДУ – для супрацоўнікаў універсітэта. Гэта – сотні людзей штомесяц. Ну, а мясцовыя жыхары карысталіся вузкакалейкай круглы год – выгадна, зручна і танна. І вось – па рашэнню ўрада слаўненькую чыгуначную дарогу з казачнымі вагончыкамі зліквідавалі. Спачатку закрылі станцыю "Нарач" (начальнік якой быў і стрэлачнікам, і пуцявым абходчыкам, і вартаўніком памяшкання – адзін чалавек!). Праз два гады садралі рэйкі са шпалаў. А тады і самі шпалы паўздзіралі – драўляныя на дровы, а металічныя, яшчэ нямецкія, – на іншыя патрэбы. А праз некалькі гадоў у Купе пабудавалі рэспубліканскі санаторый, а затым і дом адпачынку "Нарач". Гэта – паўтысячы людзей у кожную змену. У дадатак да тых – паліграфістаў і супрацоўнікаў БДУ. Ах, як бы маглі пракаціцца аж да летувіскай мяжы ў цудоўным цягнічку, ва ўтульных вагончыках! І ўсё лесам, лесам, лесам!..

Не пракоцяцца…

*1979*

## Трохі статыстыкі

Каб быць на ўзроўні свету – трэба, па магчымасці, увабраць у сябе гэты свет. А як мы ўбіраем? Па-мойму, з рук вон дрэнна. Усё пазнаецца ў параўнанні. Вось як імкнуцца да гэтага немцы ГДР (ГДР! – а не ўсёй Германіі). У 1980 годзе яны выдалі ў перакладзе з моў народаў СССР 370 кніг, у тым ліку – 180 кніг мастацкай літаратуры. За адзін год! А колькі выдалі мы ў Беларусі ў перакладзе на родную беларускую мову? Восем? Дзесяць? Ці нават усяго пяць?

Адносіны да кнігі, да прэсы – гэта адносіны да асветы і культуры. Гэта вельмі важны паказчык мудрасці грамадства і дзяржавы. У ГДР у 1980 годзе выйшла 6109 назваў кніг! Агульным тыражом – 148 мільёнаў экземпляраў! (а колькі ў БССР?). Працавала 78 выдавецтваў! (а колькі ў нас, у БССР?). Выходзіла 500 (пяцьсот!) часопісаў! (а колькі ў нас, у Беларусі?).

Вось такая статыстыка. Толькі з адной невялікай краіны. Думаю, дастаткова, каб мы цяжка ўздыхнулі і паглядзелі на сябе са шкадаваннем.

*1981*

## Адна з адметнасцяў

Прыўрочаныя да традыцыйных каляндарных свят прадказанні, папярэджанні, практычныя рэкамендацыі часцей за ўсё падаваліся ў форме складных, рыфмаваных прымавак і прыгаворак. Напрыклад: *Прыйшлі Грамніцы – скідай рукавіцы. Саракі пагналі снег да ракі. Прыйшоў май – каню сена дай, а сам на печ уцякай.* У гэтым, у складнай мове – адна з адметнасцяў беларускай народна-паэтычнай творчасці.

*1981*

## На маю думку…

Ад чаго залежыць свежасць, мастацкая навізна мовы пісьменніка? На маю думку – не так ад новых, свежых слоў, як ад свежых словаспалучэнняў, ад новых выразаў і не шаблонных сінтаксічных канструкцый. Новых, свежых слоў можа і не быць зусім. Іх наогул у мове пісьменніка небагата. Колькі, напрыклад, неалагізмаў у Коласа, у Чорнага, у Мележа? Бадай што і знайсці цяжка. А якая свежая, нетрафарэтная мова іх твораў! Нават самыя звычайныя, зацяганыя словы, нават самыя зацукраныя – будуць гучаць свежа і нова, калі

пройдуць праз сэрца, калі势 стануць у свой уласны кантэкст, калі будуць выяўляць тваю асабістую думку, твае асабістыя адносіны.

*1984, жнівень*

## Упушчэнне

На ўрачыстым вечары ў гонар 40-годдзя новага, сацыялістычнага ладу ў Балгарыі (1944 – 1984) я выступіў з дакладам. Па просьбе, вядома, ці, дакладней, па даручэнню. Дарэчы, першы раз мне быў аказаны такі гонар – на агульнагарадскім вечары ў сталіцы быць дакладчыкам. Першы раз – і апошні. Не апраўдаў даверу, не апраўдаў! Ну і атрымаў ад начальства “поўху”.

Даклад мне хацелася зрабіць не стандартным, не па трафарэту, да якога прызвычаіліся нашы слухачы. Шлях Балгарыі да Верасня 1944 -га я рашыў паказаць на лёсе балгарскіх паэтаў – на лёсе і змагарніцкім, і трагічным. На працягу 19-га і першай палавіны 20-га стагоддзя 28 паэтаў пайшлі з жыцця не натуральнай смерцю – не па старасці. Адны загінулі ў барацьбе з каланізатарамі (як Хрыста Боцеў), другія – на фронце ў баях за Балгарыю (як Дзімча Дэбелянаў, як Стамен Панчаў, у 1913-м), трэція былі расстраляныя сваімі балгарскімі фашыстамі (як Гео Мілеў, Сяргей Румянцаў, Хрыста Ясенаў – у 1925-м, як Нікола Вапцараў – у 1942); або былі даведзены подлым грамадствам да самагубства (як Пеё Явараў), або – у зусім маладым узросце сталі ахвярамі сухотаў (як Хрыста Смірненскі)… Расказаў коратка пра кожнага – як жыў і як адышоў з жыцця. Слухалі – затаіўшы дых. Такога на юбілейным сходзе грамадскасці яшчэ не бывала.

І вось урачыстая частка сходу закончылася. І падышоў да мяне – яшчэ ў прэзідыуме, на сцэне – сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін.

– Да, слушать было интересно, знаете материал конкретно. Но вот что странно: слушал я, слушал, ожидал, ну скажет же, наконец, о роли Болгарской Коммунистической партии! Нет, так и не сказал!..

Я здзівіўся, як малы – з усёй непасрэднасцю:

– Няўжо не сказаў? Не было?..

– Зачем же еще и шутить? Вот это уже ни к чему! Шутить тут неуместно… О таких вещах забывать нельзя…

– Прабачце, упушчэнне. Неяк не падумалася, пра літаратуру ішла гаворка, пра яе ролю ў гісторыі…

У Доме афіцэраў публіка была чыноўная, усе па абавязку, па разнарадцы, па спіску – 1 ці 2 чалавекі ад арганізацыі. Бо хто захоча сам пайсці на афіцыйную пасняціну, – у дзесяты раз слухаць лічбы,

лозунгі, пафас… І, можа быць, многія ўпершыню не пашкадавалі, што на іх долю выпала пайсці папрысутнічаць, – каб зала была запоўнена. Людзям, як я пераканаўся, было цікава.

Вядома, успомніць у сваім дакладзе пра БКП я быў павінен. Апалітычнасць была дапушчана недаравальная. Хоць сабе і паэтам…

*1984, верасень*

## Слушная выснова

Народны пісьменнік Балгарыі Нікалай Хайтаў (мой блізкі сябар) карэспандэнту газеты "Пулс" сказаў: "Калі апавяданне, напісанае балгарскім пісьменнікам, не балгарскае, – то яно і не апавяданне". І патлумачыў гэтую думку так: "Калі пры чытанні мастацкага твора незразумела, якой нацыянальнасці яго аўтар, то гэта не сапраўды мастацкі твор." ("Пулс", за 29.1.1985 г.).

Слушная выснова. Так, значыць твор не сапраўды мастацкі. Сапраўднае мастацтва пазанацыянальным не бывае.

*1985*

## Жах

Жах – калі на цябе напаў звер, ці накрыла хваля, ці ахапіў пажар… І жах – касмічны: землятрус, напрыклад…

А які жах – чарнобыльскі?

Самы жахлівы жах – жах незразумелага, нябачнага, неўявімага і – неадольнага…

*1986*

## Іменна таму…

Ужо самі назвы помнікаў гісторыі і культуры – увасабленне адзінства мінулага і сучаснага. Адыміце, пазбаўце іх назваў – і ўсё рухне, разбурыцца. Дарэчы, іменна таму свядомыя ворагі беларушчыны так спяшаюцца пераімяноўваць нашы паселішчы і вуліцы ў іх. Трэба – каб хутчэй усё рухнула! Усё – што ёсць нацыянальна адметнае, непаўторнае, самабытнае.

*1990*

## О, як уцешна!..

1992. Год прызнання незалежнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь

дзяржавамі свету. Па тэле – суцэльны парад уручэнняў Даверчых Грамат нашаму Старшыні Вярхоўнага Савета. О, як уцешна бачыць гэтыя гістарычныя, шчасліва святочныя для нас, беларусаў, моманты! Пачуццё гонару за родную краіну захлынвае сэрца.

*1992*

## Хам і вялікая палітыка

Нейкі адзін хам (з беларусаў) абазваў добрых, прыстойных людзей (мужа і жонку) небеларускай нацыянальнасці паганым словам. Адзін! А газета – рэспубліканская! – паведамляе пра гэта на ўсю Беларусь і падае факт тэндэнцыйна, ужо з пэўнай палітычнай падлівай: вось, маўляў, як ставяцца ў Беларусі да небеларусаў, тым больш, што добрыя людзі тут ваявалі і жывуць ужо амаль паўсотні гадоў. І тысячы чытачоў думаюць: ага, дык усё-такі ёсць *гэта самае* ў Беларусі, ёсць! І сёй-той ужо можа устрывожыцца – каб і тут не пачалося… А што ёсць? Ёсць хамства нейкага хама. Дык так трэба яго і назваць. Не ставячы ў пэўны палітычны кантэкст.

*1992*

## Радасць

У Віцебску ў 1993-94 навучальным годзе кожны трэці школьнік будзе вучыцца на беларускай мове. Мала? Вельмі мала. Усяго толькі кожны трэці! Але ўспомнім, што некалькі гадоў назад у гэтым горадзе не было ніводнага школьніка, які б вучыўся на беларускай мове! Значыць, зрух ёсць. І прыкметны. Можна і парадавацца.

*1993*

## Усё яшчэ завіхаюцца…

Усё яшчэ завіхаюцца вучоныя даследчыкі “міжнацыянальных адносін і этнакультурных працэсаў у Беларусі”. Усё яшчэ не стаміліся праводзіць сацыялагічныя апытанні: “Як вы лічыце: ці патрэбна ўвядзенне рускай мовы ў якасці другой дзяржаўнай?”

Вывучэнне этнакультурных працэсаў у Беларусі – справа патрэбная і карысная, пры ўмове – што робіцца яна людзьмі з чыстай душою, без палітычных хітрыкаў. Але ж у тым і рэч, што за ўсёй гэтай “навуковай” работай і ў яе аснове стаіць вульгарная палітыка шавіністаў-русіфікатараў.

Бачу іх – апантаных у гэтым подлым завіханні супроць нашай

мовы і культуры. Яны ведаюць, што нам цяжка, нават вельмі цяжка, і што можна і трэба скарыстаць сітуацыю і завінуцца… Вось і завіхаюцца.

*1994*

## Вось вам і фінансіст!..

Былы кіраўнік Праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч даў інтэрв'ю "Настаўніцкай газеце" ("Мы – не ізгоі і павінны жыць па-людску", нумар за 25 лістапада 1995 г.). Усе адказы высокаадукаванага эканаміста на пытанні журналіста А. Клюйко вызначаюцца глыбокай змястоўнасцю, дакладнасцю ацэнак і азначэнняў, прафесіяналізмам аналізу эканамічна-сацыяльнай ды і палітычнай сітуацыі ў краіне. Зрэшты, іншага ад Станіслава Антонавіча я і не чакаў, даўно ведаючы яго велічэзны практычны досвед у праблемах гаспадарання і яго дзяржаўна-палітычную мудрасць. Дык вось гэтай мудрасцю і ўразіў мяне адказ першакласнага фінансіста на пытанне, якое… ну ніяк не датычыла ягонай прафесіі. Гэта – калі паглядзець павярхоўна, – не датычыла. А калі ўдумацца?.. Цытую: " – Станіслаў Антонавіч, Вы прыхільнік адраджэння роднай мовы, беларускасці. Наколькі, на Ваш погляд, актуальна гэтая праблема сёння? – Нацыянальная свядомасць – пачатак усіх пачаткаў. Калі ты ведаеш свае карані, шануеш памяць продкаў, дык ты сапраўдны сын Бацькаўшчыны. Ведаць яе гісторыю – гэта выхоўваць у сабе нацыянальную годнасць, без якой немагчыма адчуваць сябе чалавекам. Менавіта толькі ад няведання гісторыі роднага краю некаторыя нашы суайчыннікі лёгка адмовіліся ад сваіх гістарычных сімвалаў у час рэферэндуму. Мова, культура нашай Айчыны – аснова нашай незалежнасці, тая мяжа, адкуль пачынаецца дзяржава."

Тысячу разоў верна: і аснова, і мяжа!.. Божа прамілы, прасветлы, дапамажы зразумець гэта ўсім, усім, усім беларусам!..

*1995, лістапад*

## Не бачу пачуцця жаху…

Браты-суседзі бяруць нас у абруч, які вось-вось замкнецца, калі мы гэта ім дазволім. Замкнецца – і тады ўсё! Канец!

Не бачу пачуцця жаху ў вачах народа, у вачах інтэлігенцыі.

Інтэлігенцыя разводзіць "балантэсы".

І гаркнуў рыжы: “Пустадомкі!
Спыніце гэту балбатню!
Бо як вазьму цурбэлак ёмкі –
Як пацукоў вас разганю!”

Гэта – з паэмы “Сказ пра Лысую гару”. Няма Рыжага. Няма каму гаркнуць. Таму і зашмат “балантэсаў”. Думаюць, што гэта палітычная гульня. Не, не гульня. Крэмль дазваляе пагуляць – пакуль яшчэ самому вельмі “пёрдка”. (Прашу прабачэння – гэта любімае слова майго дзеда Мікалая Давыдавіча.)

*1995*

## “…і патрабуем суровых мер!..”

Цішку Гартнага (Зміцера Жылуновіча) ворагі Беларусі і беларушчыны ў поўным сэнсе слова з’елі жывога. Ды галоўнае – як яны гэта рабілі, як цягам доўгага часу (1929 – 1936) гламзалі, ірвалі ікламі душу і сэрца вялікага беларуса, у якіх жахлівых пакутах, у якой нечуванай роспачы ён дажываў свой век. Гісторык Расціслаў Платонаў вельмі грунтоўна расказаў пра гэта ў нарысе “Палітычная “чыстка” Зміцера Жылуновіча” (“Беларусь”, 1997, №7). Неймаверна балюча чытаць гэты праўдзівы нарыс. Што яны вытваралі з лепшымі сынамі Беларусі, гэтыя маральныя пігмеі, гэтыя нікчэмныя падонкі, гэтыя азвярэлыя людажэры.

Калі Цішку Гартнага канчаткова – пасля некалькіх пераглядаў яго справы – выключылі з партыі як нацдэма і патуральніка нацдэмам, ва ўсіх газетах рэспублікі пайшлі матэрыялы з патрабаваннем “суровых мер” – ад імя грамадскасці, вядома, гэта значыць – ад імя народа. Нагадаю: Гартны (Жылуновіч) быў першым кіраўніком першага Савецкага Урада Беларусі (студзень 1919-га года).

Хто і дзе зразумее жахлівую нацыянальную трагедыю нашай Бацькаўшчыны? Хто і дзе – калі мы самі, дзеці гэтай зямлі, зразумець не спяшаемся?..

*1997*

## Разам

Колькі разоў чуў, як хораша пяюць хорам жанчыны. І як хораша спяваюць хорам мужчыны. А найлепш, найпрыгажэй – калі разам, у адным хоры.

У гэтым – вялікі сэнс! Вялікі, бо – ад Бога. Самой прыродай зага-

дана – спяваць разам, цягнуць песню разам. Як і жыццёвую лямку.

*1990-я*

## З нагоды свята – пра святое

Мова, мова, мова! – наша самае святое. Панаванне роднага слова ў вольнай беларускай Беларусі! Няўжо гэта так цяжка зразумець і прыняць да сэрца? І што больш разумнае і чалавечнае можна гэтаму процiпаставiць?

Нічога.

Супроць гэтага – толькі нялюдскі, тысячы разоў выкляты беларускім сэрцам, імпершавінізм.

*2000*

## Не палічыліся

На другі ж дзень, як пачалася вайна з нямецкімі фашыстамі, у нашай Слабадзе (як і ў тысячах вёсак Беларусі) мабілізавалі ў армію падлеглых па ўзросту мужчын. Мабілізавалі, то бок забралі на вайну, і майго бацьку Сымона Пятровіча. Я ніколі не чытаў тагачаснага савецкага закону аб мабілізацыі, але безліч разоў думаў і думаю: няўжо ў ім не было ніякіх агаворак наконт пэўных сямейных абставін? Думаў і думаю: як гэта ўлады не палічыліся, што ў Сымона Гілевіча восем малых, непаўналетніх дзяцей: старэйшай дзяўчынцы – пятнаццаць гадоў, самаму меншаму сыну – тры месяцы. Ад васьмярых малых бацьку забралі на вайну! Няўжо такое рабілася па ўсёй краіне? Няўжо такое рабілася дзе-небудзь у свеце? Ад васьмярых! – малых! – дзяцей! – забралі!.. А як жа маці адна будзе з такою гурмой спраўляцца, ды яшчэ маючы на руках трохмесячнае грудное немаўля? Не ўкладваецца ў галаве, як гэта ўлады не палічыліся.

*2000*

## Хто яны – ясна. Але…

Дажыліся: крыўлякі парадыруюць на эстрадзе геніяльных спевакоў – Шаляпіна, Казлоўскага, Лемешава… Гэта тое самае, што нейкі вершатворца-крыўляка парадыруе Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Блока, Твардоўскага, або Купалу, Коласа, Багдановіча… Хто яны? Хто яны, што дазваляюць сабе такое? Ну, што яны – калямузычныя і калялітаратурныя гніды, – гэта ясна. Але чаму ім дазволена гэта

рабіць на вачах мільёнаў? Ды яшчэ і за грошы? Вось гэта не ясна. Зусім не ясна!..

*2000*

## Справа годнасці і гонару

Самае горшае будзе, калі моладзь пойдзе за дэмагогамі і цынікамі, за іх хлуснёй. Дэмагогі крычаць пра патрыятызм, імянуюць сябе вялкікімі патрыётамі. Прабачце, патрыётамі якой краіны, якой зямлі? Зямлі Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Чорнага, Геніюш, Караткевіча? Зямлі Буйніцкага, Галубка, Драздовіча, Сергіевіча, Забэйды-Суміцкага, Шырмы? Ці патрыётамі "Отечества"? Заўважце, як гэтыя патрыёты любяць слова "Отечество". Не сумнявайцеся, што яны маюць на ўвазе не Беларусь, о не!

Таму і кажу маладым: толькі не паддайцеся на хлусню! Адзін раз не вытрымаеце – і цяжка будзе ўтрымацца, цяжка. Ні ў якім разе не памыліцеся і не клюньце на ільсцівую прыманку! Яна – атрутная. Калі своечасова не спахапіцца, не адрынуць – гэта кончыцца маральнай смерцю.

Сёння ўсё ясна: вы – за свабодную, незалежную, беларускую Беларусь – ці за "Отечество"? Так, усё ясна. Справа годнасці і гонару – у гэтай яснасці не заблудзіцца.

*2001*

## Нават і гэтага пазбаўляюць

Цяпер ужо працяг жыцця галоўным чынам – у памяці. Новага наперадзе ўжо небагата, усё больш успамінаў аб перажытым, асабліва аб даўно перажытым, у маладосці і пасля – у яшчэ поўныя энергіі і надзей гады… Доўгі час шчасліваму вяртанню ў тыя гады памагала начная музыка, дакладней – песні тых далёкіх гадоў, песні маладосці, а ўсе яны чамусьці выдатныя, цудоўныя, поўныя пяшчоты, лірызму, такія чыстыя і светлыя, такія духапад'ёмныя, нават калі і з журбою, і з горыччу. Цяпер такіх песень не складаюць, не пішуць. Тое, што гучыць цяпер ноччу ці рана ўранку з радыёпрыёмнічка, – хіба гэта песні? Прабачце, гэта суцэльная для слыху і душы абраза. І за што ж пазбаўляць душу маю нават гэтага?

*2002*

## "Значыць, не народ, а натоўп"

Вядомая руская паэтка Марына Цвятаева ў "Слове пра Баль-

монта” (таксама знанага рускага паэта) згадвае, што ён, успамінаючы Балгарыю і балгараў, сказаў пра народ, а менавіта, што “няма невыдатных народаў. Усякі народ выдатны… Калі не выдатны, значыць, не народ, а натоўп…”

*2002*

## І зноў так светла, так цёпла падумалася…

Прачытаў у “Новым Часе” паведамленне, што ў Трасцянцы на магіле ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага ўстаноўлены крыж Еўфрасінні Полацкай з надпісам: “Святы пакутнік Беларусі айцец Вінцэнт Гадлеўскі”. І зноў так светла, так цёпла падумалася: не загінем! З такімі святымі імёнамі ў сэрцы – не загінем.

*10.1.2011*

## Як бы ён сёння быў патрэбен!..

Напісаў “сёння”, а мог бы дадаць “і ўчора, і заўтра”. Ну так: і ўчора ён быў вельмі-вельмі патрэбен, і заўтра патрэба ў ім будзе не меншая. Калі б ён быў – як бы ён служыў нашай вялікай беларускай справе! І ўчора, і сёння, і заўтра…

Пра што гаворка? Хто гэта ён? Ён – гэта анталагічны зборнік “Публіцыстыка ЛіМа 1986-га – 1996-га гадоў”. Так: зборнік лепшых публіцыстычных артыкулаў, апублікаваных на старонках тыднёвіка “Літаратура і мастацтва” ў азначанае дзесяцігоддзе. Лімаўская публіцыстыка той пары – гэта выключная з’ява ў гісторыі беларускай грамадскай думкі ХХ стагоддзя. Друкаваліся добрыя артыкулы нашай, беларускай тэмы і ў іншых газетах (“Звязда”, “Чырвоная змена”, “Народная газета”), але столькі і такіх “вогненных”, такіх прыцэльных, такіх мабілізоўчых, як у “ЛіМе” – нідзе больш. Пісьменніцкая газета – у той найскладаны ў гісторыі Беларусі час – цалкам апраўдала сваё назначэнне, сцвердзіла сваю годнасць. З нумара ў нумар, адзін за адным ішлі артыкулы пра самае актуальнае, самае балючае, самае трагічнае. Пра самае беларускае… З якой бы карысцю чыталі іх сёння новыя пакаленні беларусаў!..

Хто ж возьмецца за падрыхтоўку гэтага зборніка? Хто дасць сродкі на яго выданне – ды каб вялікім накладам? Хто? Не скарыстаць такую зброю ў нашай сітуацыі – недаравальна.

*2011*

## III

### Дык, можа, і мы?..

У часопісе “Полымя” (1966, № 6) акадэмік Г. Гарэцкі апублікаваў артыкул “Горкі і беларускі фальклор”, напісаны ім яшчэ ў 1946-м годзе. Якія незвычайныя, дзівосна таленавітыя беларусы – гэтыя браты Гарэцкія! Вось Гаўрыла Іванавіч: выдатны, знакаміты геолаг, і ў той жа час – сааўтар цудоўнага Беларускага слоўніка і праніклівы даследчык-фалькларыст. Мог бы стаць яркай зоркай беларускай філалогіі. Яго аналіз адзнак і запісаў М. Горкага на палях кнігі А.Я. Багдановіча “Пережитки древнего созерцания у белорусов. Этнографический очерк” (Гродна, 1895) – гэта, па сутнасці, выдатнае навуковае даследаванне. І вось дэталь: А.Я. Багдановіч спасылаецца ў сваёй працы на кнігу А. Афанасьева “Поэтические воззрения славян на природу (1865). Дык Г.І. Гарэцкі звяртае ўвагу, штó ў вытрымцы з названай кнігі знанага даследчыка славянскага фальклору падкрэсліў М. Горкі, а менавіта: “у слове заключана ўнутраная гісторыя чалавека, яго погляд на самога сябе і прыроду”. Гэта падкрэсліў пісьменнік Горкі – і гэта бярэ на ўвагу геолаг Гарэцкі. Слова! Слова – у аснове духоўнасці і культуры чалавека! У слове – гісторыя народа! У тым ліку – і беларускага. (У беларускім слове, вядома.)

Падкрэсліў – Горкі, звярнуў увагу – Гарэцкі, дык, можа, у сваю чаргу, прымем да сэрца і мы – гэтую вялікую святую ісціну пра значэнне Слова?

*1966*

### Шанцуе ж некаторым!..

У Францыі выйшла з друку не зусім звычайная “Анталогія французскай паэзіі”. Чаму не зусім звычайная? Таму што яе складальнік – прэзідэнт Францыі Жорж Пампіду. У кнігу прэзідэнт уключыў свае самыя любімыя вершы – тыя, без якіх ён, цытую прадмову складальніка, “не мог бы жыць, калі б воляй нейкай фантазіі апынуўся на бязлюдным востраве”. Вось так: свае самыя любімыя вершы! З неагляднага мора французскай паэзіі – самыя-самыя!.. І зрабіў гэту анталогію хто? Кіраўнік дзяржавы. Прэзідэнт. Шанцуе ж некаторым!..

*1971*

## Заснавальнікі

Калісьці склалася азначэнне "заснавальнікі новай беларускай літаратуры". Меліся на ўвазе Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. (Цяпер, пасля рэабілітацыі, да гэтых імён справядліва далучаны Максім Гарэцкі.) "Заснавальнікі" не толькі таму, што найбольш поўна, рэльефна і магутна выявілі характар, дух, "нутро" народа, але і таму, што стварылі нацыянальную літаратурную мову; іх мова – гэта ўжо не мова папярэднікаў. Францішак Багушэвіч – вялікі народны паэт, але карыстаўся мовай вуснай паэзіі, г. зн. дыялектнай. Для прыходу "заснавальнікаў нацыянальнай літаратуры" неабходна было, каб склаліся пэўныя гістарычныя ўмовы, а менавіта – каб пачала фарміравацца беларуская нацыя, каб адбылася ці наспявала буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, каб на гістарычную арэну выйшла нацыянальная буржуазія, – з нацыянальнай самасвядомасцю.

Мова заснавальнікаў новай літаратуры – гэта ўжо мова асобы, індывідуума, а не вясковай мужыцкай грамады. Іх мова – якасны крок наперад. Яны развілі беларускую мову да новага ўзроўню, вызвалі да жыцця і рэалізавалі закладзеныя ў ёй магчымасці. Ад іх пачалася літаратура такая ж па якасці, па мове, як і літаратура Расіі і развітых еўрапейскіх краін.

*1977*

## Дык жа задумаемся, браткі!..

Сказаць людзям у іншых краінах свету – не паверацъ. А гэта – праўда. Наша, беларуская праўда. Самая геніяльная п'еса Янкі Купалы "Тутэйшыя", – твор, які назаўсёды застанецца ў гісторыі беларускай літаратуры – аж датуль, дакуль будзе жыць беларускі народ, – такая п'еса нават не згадваецца ў падручніках, у літаратурна-крытычных і энцыклапедычных выданнях! Для чаго я прашу звярнуць на гэты неверагодны факт увагу? Для таго, каб мы, дзеці зямлі беларускай, сыны і дочкі вялікага славянскага народа, зразумелі, які наш лёс, адкуль і як пайшло тое, што нясе нам як нацыі пагібель.

Я сказаў "вялікі славянскі народ", бо прашу параўнаць: славенцаў – 2 мільёны, македонцаў – 2, чарнагорцаў – 1,5, баснякоў – 1,5, харватаў – 5, славакаў – 5, чэхаў – 8, сербаў – 8, балгараў – 9 мільёнаў. А нас, беларусаў, – 10. Значыць, мы ў славянскім свеце на 4-м месцы: пасля рускіх, украінцаў і палякаў. Дык жа задумаемся,

браткі! Што мы дазваляем з намі, нашай мовай і культурай, рабіць? Дзе наша нацыянальная годнасць?..

*1980*

## З размовы пра латышскія дайны

Піша жывы класік рускай літаратуры С.П. Залыгін: "У Латвіі к гэтаму часу сабрана каля двух мільёнаў дайнаў – больш, чым па адной на кожнага латыша – і каля трыццаці тысяч мелодый, гэта сапраўды невычэрпная крыніца паэтычнай творчасці". І далей: "Народны пачатак і жывіць паэзію "прадметнасцю", і не дазваляе ёю злоўжываць. А небяспека такога роду, і сур'ёзная, існуе. (…) Нават у такога значнага паэта, як Пастэрнак, – я маю на ўвазе ранняга Пастэрнака, 20-х гадоў, – асацыяцыя, параўнанне аднаго прадмета з другім станавілася часам ледзь не самамэтай, ледзь не рухаючай сілай верша".

На жаль, і ў некаторых беларускіх значных паэтаў бачна злоўжыванне асацыяцыямі, параўнаннямі прадметаў, вобразатворчасць становіцца самамэтай. У народнай паэзіі гэтага няма, там "прадметнасць" трымаецца пачуцця меры.

*1980, чэрвень*

## Было сорамна…

Давялося пабыць на сёлетняй ММКВЯ-81 (Маскоўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы). І скажу адразу: было сорамна за нашу кніжную прадукцыю. Дзве-тры кнігі для паказухі – сапраўды Кнігі: выдадзены так, што можна і парадавацца, і паганарыцца. Усё астатняе – на ўзроўні Татарстана, Адыгеі, Інгушэціі… З зайдрасцю глядзеў на выданні еўрапейскіх дзяржаў. Нават у параўнанні са Славеніяй, Чэхаславакіяй – мы выглядаем недалэнгамі…

Ну, што ж: і пра свае дзве-тры мы пашумім дома здорава. Хіба ў нас толькі ў кніжнай справе пануе паказуха?

*1981*

## Нам бы такую серыю!..

Харватыя, адна з рэспублік Югаслаўскай федэрацыі. Народу, мабыць, разы ў два меней, чым у Беларусі. І вось – калі ласка: да паслуг народу – ажыццяўляецца серыя "Пяць стагоддзяў харвацкай

літаратуры”. Грандыёзная выдавецкая, дакладней – патрыятычная акцыя! Толькі што выйшаў 149-ы том серыі. Сто сорак дзевяты! – запішам прапіссю. Кніга гісторыка харвацкай літаратуры Іва Франгеша “Выбраныя творы”.

Паспрабаваў уявіць: “Восем стагоддзяў беларускай літаратуры”. Уяўляецца! Выдатна ўяўляецца! Уяўляю і рэзананс, які пайшоў бы па ўсім свеце. “Ого, якая ў беларусаў літаратура!..” Дык што ж нам не дае гэта здзейсніць?

*1981*

## З накідаў для выступлення ў ЦК

У нашай літаратуры, на жаль, развяліся блазны, якія, як і належыць блазнам, блазнуюць, дурную шапку надзеўшы; выдаюць сябе за геніяў, корчаць з сябе Талстога ці Дастаеўскага, робяць выгляд, што стаяць па-над усімі гэтымі дробязнымі зямнымі жарсцямі, а тым часам – вельмі прадумана, метадычна і зусім не шызафрэнічна, а мёртвай цвярозай хваткай хапаюць ад жыцця ўсё, што можна, і ў прыватнасці – прабіваюць свае ўласныя тамы, не такія ўжо, дарэчы, і выдатныя, дзе толькі можна і колькі можна. Справа блазнаў – блазнаваць, і я асабіста не маю ніякага жадання, ніякага намеру сарамаціць іх і даказваць, што блазнаваць – ганебна, бо прыніжае чалавека, а тым больш пісьменніка; і не падумаю нават прыніжаць сябе да такога занятку. Але я хачу сказаць – тут, з гэтай высокай трыбуны, каб пасля не гаварылі, што не чулі, – што той, хто патурае блазнам, хто іх так ці інакш падтрымлівае, бярэ на сябе вялікую адказнасць за будучыню нашай літаратуры.

Хадзіць і даказваць, што я не падлюга – прабачце! Увольце мяне ад такой “радасці”. Калі *тут* людзі не разумеюць, хто чаго варты, і каго трэба падрымліваць – дык чым я магу дапамагчы? Я па часці іх здольнасцей – хадзіць-бегаць сюды і займацца дробным інтрыганствам, недастойным пісьменніка палітыканствам і іншым махлярствам – я па гэтай часці з імі не канкурэнтназдольны.

*1985*

## Цікавыя лічбы

На І Усесаюзным З’ездзе савецкіх пісьменнікаў у 1934 г. ад БССР было 26 дэлегатаў, з іх: беларусаў – 15, яўрэяў – 9, рускіх – 1, палякаў – 1. Для параўнання: ад УССР украінцаў было – 22, яўрэяў – 17. Ад Масквы: рускіх – 91, яўрэяў – 57; ад Ленінграда: рускіх – 30,

яўрэяў – 11.

Усяго на I Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў было: 591 дэлегат. У іх ліку: рускіх – 201, яўрэяў – 113. Як бачым, пісьменніцкі атрад у СССР у вялікай меры рэкрутаваўся з яўрэяў. Пазней, пасля вайны, гэтыя прапорцыі зменяцца.

Уражвае, што ў 1934 годзе ў Беларусі ў рускай секцыі Саюза было так мала пісьменнікаў (усяго адзін дэлегат!), і ў польскай секцыі таксама. Пасля вайны "нацыянальныя" секцыі перасталі існаваць наогул

*1985*

## На жаль, так было…

На I Усесаюзным З'ездзе пісьменнікаў дэпутат ад БССР паэт А. Александровіч, між іншага, сказаў: "Менавіта кулацкімі элементамі фальклору жывіў сваю творчасць Ясенін. Гэтыя ж недэмакратычныя элементы ёсць у паэме Якуба Коласа "Новая зямля".

Кулацкія элементы фальклору… Якая страшная рэч – невуцтва! Ад невуцтва, ад няведання гісторыі сусветнай літаратуры, мастацтва, філасофіі ішло гэта вульгарна-сацыялагічнае дурноцце. А яшчэ – ад бальшавіцка-рэвалюцыйнай фанабэрыі. Колькі яго, гэнага дурноцця, насаджалася у нашых гуманітарных навуках 1920 – 1930 гадоў!

*1985*

## На змену этнаграфізму

Да "Гомана", да Багушэвіча быў этнаграфіны перыяд у гісторыі беларускай літаратуры – былі тутэйшыя, называлі сябе "ліцьвінамі", бо цеплілася памяць пра ВКЛ. Але: гоманаўцы, людзі адукаваныя, былі знаёмыя з працэсамі фарміравання славянскіх нацый у Еўропе. Грунтоўны беларускі слоўнік Насовіча і шматтомныя зборы фальклору немінуча павінны былі ім падказаць, што склаўся самастойны, з уласнай мовай і культурай, народ – такі ж, як балгары, сербы, славенцы, харваты, палякі, чэхі, славакі, украінцы і вялікарусы. І што гэта вынік гістарычнага развіцця славянскай сям'і народаў.

*1985*

## Залыгін: "ратаваць сітуацыю"

"Лит. газета" (25.12.1985 г.) апублікавала артыкул Сяргея Паўлавіча Залыгіна "Заглянем у паслязаўтра". Гэта – працяг дыскусіі аб

школьных праграмах па літаратуры. Славуты пісьменнік б'е трывогу: трэба "ратаваць сітуацыю". Бо "у СГА студэнты ўспрымаюць паэзію, як вясковыя бабы. Дай прымітыў, дай парагатаць." (З гэтым сутыкаўся на літаратурных вечарах і я.)

У школах злачынна скарачаецца праграма па літаратуры. Можа, у сістэму адукацыі трэба вярнуць гімназіі і рэальныя вучылішчы? – ставіць пытанне С. Залыгін.

*1985*

## Чаму? Ды ўсё таму…

Прачытаў у "Лит. России" (10.IV.1987) гутарку В. Агрызка з вядомым эвенкійскім паэтам і празаікам Алітэтам Нямтушкіным. Прачытаў – і на палях газеты напісаў: "Жах! Гэта – канец, смерць! А што прыдумаць? Няма паратунку ад апетыту пражэрлівых!.."

Малыя народы Поўначы выміраюць. І фізічна, і духоўна. Фізічна – бо ўшчэнт співаюцца, ушчэнт! Духоўна – бо гіне, канчаткова гіне родная мова, якая давала людзям сілы, імпэт да жыцця. Толькі адзін факт: "Наша Краснаярскае кніжнае выдавецтва амаль дваццаць (!) гадоў не выпускала кніг на эвенкійскай мове. Цяпер нарэшце вырашана – у год выпускаць па адной-дзве назвы на мовах ненцаў, эвенкаў і далган. Але які толк ад адной-дзвюх кніг? Трэба выдаваць па 15-20 назваў".

Вось у такім становішчы знаходзіцца мова паўночных аленяводаў эвенкаў. А між тым пра іх мову ў гэтым жа нумары газеты гаворыцца: "Нямтушкін сваёй творчасцю пераконвае: мова эвенкаў тоіць у сабе красу, сілу, моц".

Дык чаму ж мова, якая тоіць у сабе "красоту, силу, мощь" адмірае, знікае, гіне? Чаму?..

Чаму? Ды ўсё таму… Таму што наш грамадскі лад самы справядлівы ў свеце.

*1987*

## Пачалі думаць?

"Литературная газета", "Литературная Россия" і нават "Правда" пачалі досыць часта публікаваць матэрыялы па нацыянальным пытанні, найперш – пра становішча мовы і нацыянальнай культуры ў саюзных і аўтаномных рэспубліках, у нацыянальных абласцях і акругах. І пачалі ў гэтых мэтах даваць слова пісьменнікам-"нацыяналам". Так, у апошнім нумары "Лит. России" (11.9.1987)

змешчана гутарка з вядомым нанайскім пісьменнікам Грыгорыем Ходжэрам. (Помню яго па Трэцяй Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў у студзені 1956 года.) Ходжэр паездзіў па родным краі і дзеліцца сваімі думкамі.

“Это поколение… может совсем позабыть свое “нанайское” прошлое, но может к нему и вернуться. Ситуация для небольшого народа драматическая. Не случайно некоторые мои герои выход увидели в обращении к водке”.

“Не случайно у них появляется тоска по материнскому языку, по дедовским легендам и преданиям”. “У них” – гэта ў самых маладых нанайцаў, жыхароў роднага кутка Ходжэра. Факт відавочны: ужо не ўся нанайская моладзь валодае роднай мовай. “Язык нанайцев может умереть”, – сумна уздыхае Ходжэр. – “Раньше в печати об этом умалчивали. Проблема сохранения и развития родного языка северян считалась закрытой темой”.

Уздыхнуў Ходжэр – уздыхаю, толькі яшчэ больш сумна, і я, прадстаўнік не маленькага, а 10-цімільённага еўрапейскага народа.

*1987*

## З прамовы Яна Райніса

У зборніку “Працы акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі” (Менск, 1927, с.25) змешчана прамова ганаровага госця канферэнцыі, славутага латышскага паэта Яна Райніса. Мудрэц ёсць мудрэц, і верны сябар ёсць верны сябар. Вось урывак з яго выдатнага слоўца:

“Мне здаецца, што беларускі народ, які меў ужо высокую культуру ў той час, калі ў нас не было яшчэ ніякай культуры, гэты народ хутка дасягне культуры агульнаеўрапейскай і зойме віднае і пачэснае месца ў сям’і іншых народаў. Ваша будучыня самая слаўная. Гэтай слаўнай будучыні я і жадаю беларускаму народу…”

*1988*

## Да чаго ж яны былі ўвішныя

У часопісе “Маладняк” (№1 за 1931 г.) Алесь Кучар, якому толькі стукнула 20 гадкоў, апублікаваў артыкул “Пра адну рэакцыйную аповесць”, у якім здрапежыў, збіў, счарніў выдатную аповесць Кузьмы Чорнага “Лявон Бушмар”. Рэакцыйная – і ні больш ні менш. А рэакцыйная – значыць контррэвалюцыйная. Значыць – варожая. І аповесць надоўга знікла з поля зроку чытача. А на геніяльнага пісьменніка лягла чорная пляма, якая так і не сышла да заўчаснай – у

1944 годзе – смерці.

Што мяне асабліва здзіўляе – што ролю бязлітаснага суддзі-грамілы узяў на сябе 20-гадовы шпінгалет. Зялёны невук замахнуўся на творчасць вядомага, выдатнага майстра слова – самую вялікую надзею тагачаснай беларускай літаратуры. У мастацтве пісьма ён не разбіраўся, ён быў дока ў пытаннях ідэйнасці, ён скрозь зямлю бачыў рэакцыйнасць, то бок контррэвалюцыйнасць.

Колькі ж яны, гэтыя ўвішныя невукі, нанеслі шкоды нашай літаратуры, нашай нацыянальнай трываласці!

*1988*

## Але якая мова!..

Наткнуўся на першавыданне зборніка гумарыстычных вершаў Альберта Паўловіча “Снапок” (1912). З цікавасцю перачытаў. Ну, гумар, шчыра кажучы, такі – невысокага кшталту. Але затое – мова. Якая жывая вясковая мова! Якая фразеалогія! Якая выразнасць інтанацыйная! І ні паланізмаў, і ні русізмаў – чысцюткая беларушчына!.. А быў жа не з мужыкоў.

Не, трэба ім аддаць належнае, гэтым нерэвалюцыянерам-недэмакратам!..

*1988*

## Беларускі каляндар. Год 1913

Выдадзены каляндар у Вільні, у друкарні М. Кухты.

Пад рубрыкай “З Роднай Нівы” друкуюцца творы Купалы, Багдановіча, Коласа, Буйло, Гаруна, М. Арла, Бядулі, Власта, Ядвігіна Ш., Гурло. На тытуле два радкі (заклік) Бр. Свідэрскай: “Нашу мову, нашу песню між людзей шырыце!” (У сэнсе: пашырайце!)

У Бядулі знайшоў знаёмае мне з дзяцінства наша лагойскае слоўца “пукаецца” (пупышка пукаецца, дрэва пачынае распускацца). Нідзе, апрача як у нас, ніколі не чуў, не сустракаў.

*1988*

## “Саха”

Чытаю беларускі часопіс “Саха”. Раней, сорамна прызнацца, не чуў, не ведаў, што гэтакі быў у нас. Пад назвай часопіса значыцца: “Першы беларускі журнал сельскай гаспадаркі. 1920, чэрвень. 3-4 кніжка. Год выдання – IX.”

Першы… Для сельскіх гаспадароў… Яшчэ нават не часопіс, а журнал. Але ж – беларускі! На мове гэтых сельскіх гаспадароў!..

Вось так пачынала ісці ў народ роднае друкаванае слова. А хто ж былі яны – тыя пачынальнікі? Хто? Вялікія, мудрыя людзі.

*1988*

## Народны…

У мяне ў руках "Беларускі народны каляндар на 1929 год", выдадзены ў Вільні. Кінулася ў вочы слова "народны". Не проста беларускі, а народны. Народны!

Божа, які каштоўны каляндар! Колькі і якой даступнай для простых людзей інфармацыі! Другая палавіна названа: "Мы і наша Бацькаўшчына". У ёй – матэрыялы па гісторыі і культуры Беларусі, па мове. Вершы Н. Арсенневай і М. Васілька, Фр. Грышкевіча, С. Пеюна. Гартаю, чытаю і думаю: якая ішла ў Заходняй Беларусі праца па згуртаванні нацыянальна-патрыятычных сіл! У канцы 1920-х.

*1988*

## Мудры Ільін

У часопісе "Родина" (1990, №10) наткнуўся на мудрае выказванне вядомага рускага філосафа І. Ільіна, да якога, на вялікі жаль, Расія ў свой час не прыслухалася. "Ні на класавай, ні на расавай, ні на партыйнай нянавісці Расію нам не адрадзіць і не пабудаваць… Мы павінны ачысціць сябе ад гэтых разбуральных сіл і пагасіць, выкараніць у сабе гэты дух пагрозлівых грамадзянскіх войнаў".

*1990*

## Шкада скокаў пад чужую дудку?

Газета дэмакратычных плыняў прыдзвінска-прыдняпроўскага краю "Выбар" апублікавала ўрыўкі з прамоў В. Ф. Кебіча ў Віцебску, дзе ён сустракаўся з народам на прадпрыемствах, са спецыялістамі сельскай гаспадаркі, з ваеннаслужачымі. І сказаў там кіраўнік Урада Беларусі такое, што вось чытаю-перачытваю і не магу паверыць вачам сваім. Гаварыў В. Ф. пра падпісанне ў Віскулях Пагаднення аб распадзе СССР. Цытую (у перакладзе на беларускую): "Калі мы падпісалі… то што тут толькі было! Намі авалодалі такія эмоцыі, што некаторыя тут жа запатрабавалі, каб на

стол падалі шампанскага. Калі мы выйшлі з гэтага закрытага пакоя, эксперты сказалі: “А вы знаеце, што вы такое ўчынілі? Вы ж увогуле не проста путчысты, вы – пушчысты.” Так мы і атрымалі гэту назву – пушчысты, ад імені пушчы, у якой увогуле-то здзейснены дзяржаўны пераварот. Ды што там казаць? Ну так! Ну так! (…) Дастаткова было адной вашай роты, каб гэтых пушчыстаў узяць за карак і кончыць увесь гэты пераварот. Але я так разумею, што і разведка, і органы дзяржбяспекі, і мы не разумелі, што мы рабілі. Вось ЧП і адбылося. ЧП у Белавежскай Пушчы.”

Гэта – з выступлення перад ваеннаслужачымі.

Недарослыя хлапчукі не ведалі ў Віскулях, што яны робяць.

Калі хто з падпісантаў і не ведаў, дык хіба што адзін Вячаслаў Францавіч. Хіба што адзін ён!.. Падпісалі пагадненне, што СССР больш – з гэтай хвіліны – не існуе, і не ведалі, што падпісалі? Ну навошта ж хітраваць, прыкідвацца някемным дзіцём, шаноўны прэм’ер? Навошта? Калі гаворка ідзе пра лёс народаў і пра лёс нашага – гаротнага беларускага народа, які нарэшце атрымаў незалежнасць, стаў сам сабе гаспадаром, – дык навошта ж крывадушнічаць і трымацца за ўладу? Значыць, назад у Саюз, у кучу? Значыць, лепш выконваць каманды з Крамля, скакаць пад чужую дудку, чым будаваць сваё, любае сэрцу свабоднае самастойнае жыццё?

Госпадзе Божа мой! – Усё, што вырываецца з душы, прачытаўшы.

*1992, сакавік*

## Усім, у каго ёсць сумленне…

“Для навукі беларуская мова не гадзіцца!” – фанабэрыста заяўляюць (у друку!) моцна вучоныя акадэмікі.

А для чаго гадзіцца? Гадзіцца – каб рабіць хлеб, гадаваць жывёлу, ну яшчэ – каб каваць жалеза ці абпілоўваць бярвенне… Якую ж трэба мець любоў да Беларусі, каб так зневажаць яе мову! З такой любоўю самы раз выводзіць нашу краіну з беднасці, уздымаць яе да вяршынь дабрабыту.

У часы Скарыны і Буднага – гадзілася, а сёння ўжо – не!..

І што ж гэта за няшчасная доля наша, што за пракляцце на нас звалілася? Генералы ад навукі і мастацтва імгненна забываюць, хто яны, трацяць паважнасць і набываюць халуйскую міну, і пляскаюць у ладкі, глытаючы чарговую порцыю папулісцкай дэмагогіі.

Яны вераць, што можна пабудаваць беларускую дзяржаву без

нацыянальнай беларускай ідэі і без беларускай мовы. Марная задума! Гэта тое самае, калі нехта бярэцца зварыць піва без дражджэй. Але ж такога цуда людзі не бачылі. Не зварацць! Зварацць гідкае пойла, а не піва.

Што датычыць нашай мовы… Усім, у каго ёсць сумленне, раю запомніць адзін "дробязны" факт. Калі гарэлі беларускія вёскі з жывымі людзьмі – з агню-полымя далятали жудасныя (больш жудкіх не бывае) крыкі: "Ратуйце!" Не "спасите", а "ратуйце!" Калі вам і гэта нічога не гаворыць – то на высокім маральным узроўні трымаецеся панове-таварышы!

*1993*

## Здавалася б, маючы такіх мудрацоў, такіх навукоўцаў…

Акадэмік Віктар Антонавіч Каваленка апублікаваў на старонках "ЛіМа" (7.4.1995) артыкул "Заклік да маршу ў нікуды". Даўно я не чытаў такога разумнага, глыбокага слова пра нашу беларускую сітуацыю, даўно не перажываў такой радасці ад сустрэчы з талентам. Падам толькі адну цытату.

"…Справа не ў запалохванні. Прэзідэнт – па ўсім ужо відаць – не з палахлівых. Справа ў мудрасці. А мудрасць прэзідэнту патрэбна, каб апамятацца, каб не рабіць заяў і не арганізоўваць акцый, з якіх пасмяецца свет. (…) Сутнасць праблемы ў тым, што ні дзяржаўнасць мовы, ні змест нацыянальнай сімволікі не належаць да тыпу пытанняў, па якіх можна праводзіць усенароднае галасаванне. Гэта пытанні спецыфічных кампетэнтных ведаў і таму яны не вырашаюцца на ўзроўні масавай свядомасці.

Ідэя падобнага рэферэндуму магла ўзнікнуць толькі ў галовах людзей абсалютна гістарычна неадукаваных, недалёкіх палітыкаў, поўнасцю недасведчаных у галіне міжнароднай практыкі".

Як дакладна і як справядліва! Як мудра! Здавалася б, маючы такіх мысляроў, такіх навукоўцаў, Беларусь можа… Здавалася б!.. А вось жа не можа…

*1995*

## У бясстрашным "ЛіМе"

Сапраўды бясстрашны "ЛіМ" з нумара у нумар друкуе водгукі чытачоў на подлы рэферэндум. У апошнім нумары (за 18.8.95) змешчаны артыкул пісьменніка Ю. Станкевіча "Мёртвы напрамак" з падзагалоўкам "Нататкі песіміста". Гэта – адзін з самых горкіх і

балючых водгукаў. Ва ўрэзцы “Ад рэдакцыі” чытаем: “Падобных лістоў “ЛіМ” яшчэ не друкаваў. Тое, што адбылося на Беларусі 14 траўня, прымусіла многіх шчырых адраджэнцаў схамянуцца, задумацца і пачаць шукаць адказ на пытанні: як магло такое здарыцца і… куды ж мы ідзём?”

Прыйдзе час – і нашчадкі ацэняць нашу пісьменніцкую газету, – яе бясстрашнае змаганне за Беларусь.

*1995, жнівень*

## Геніі і прыліпалы

“У моих друзей нет чувства Родины”, – сказаў Сяргей Ясенін пра тых, што плоймамі ліплі да яго (“Серега, Сережа, ну давай!..”). Ліплі – бо ва ўсіх сэнсах было надта ж выгадна. У гэтых плоймах былі і вершаробы, і нават з набітай у рыфмаванні рукой. Але – без “пачуцця Радзімы”. А ён быў пранізліва-нацыянальны, само-сабой – геніяльны, рускі паэт. Такім – пранізліва рускім і геніяльным – пасля Сяргея Ясеніна быў толькі Аляксандр Твардоўскі.

*1996*

## У Вільні. За кошт аўтара

Прачытаў брашуру Ант. Навіны (А. Луцкевіча) “Янка Купала як прарок адраджэння” (У пяцідзесятыя ўгодкі народзін поэты. Лекцыя. Вільня, 1932).

На вокладцы пазначана: за кошт аўтара.

Магутная лекцыя! Дай Бог сёння беларусам паслухаць або пачытаць такую лекцыю! Якія за Прарокам ішлі Волаты нацыянальнага адраджэння!..

*1999*

## Чарговае палітычнае шоу?

У друку і па тэлерадыё абвешчана, што ў траўні адбудзецца Другі Усебеларускі з’езд. Ну што на гэта можна сказаць? Не думаю, зусім не думаю, што гэтая абвестка хоць каго-небудзь у Беларусі ўсхвалюе. А чым можа ўсхваляваць гэтае чарговае палітычнае шоу? Хіба тым, што на яго будуць выкінуты чарговыя шматмільённыя “крохі” з бюджэту краіны? Мэты яго больш чым зразумелыя: яшчэ раз “народ” адзінагалосна падтрымае адзіна правільны курс, якім вядзе нас наперад, да вышынь прагрэсу, мудрае кіраўніцтва. Можна,

зусім не баючыся памыліцца, сказаць: Другі Усебеларускі з’езд будзе як дзве кроплі вады падобны на Першы. Усё – да апошняй дробязі – будзе гэтаксама, як было на папярэднім.

Помню: я ўважліва слухаў па тэлеэкране прамовы яго дэлегатаў. І што ж пачуў? Па-першае, ніводзін з іх не выступіў на мове народа, ад імя якога гаварыў. Па-другое, ніводзін дэлегат не сказаў пра самае галоўнае, пра самае балючае, пра самае трывожнае – пра трагічны лёс Беларусі, пра тое, куды мы, беларусы, ідзем, дакладней – куды нас вядуць, куды нас гоняць? І што нас чакае ў будучым – якая доля-нядоля? Як мы будзем жыць (мы, і нашы дзеці, унукі, праўнукі), калі апынемся там, куды нас заганяюць? Ці застанемся мы беларусамі?

*1999*

## Курс на вынішчэнне…

Хітрыя людзі прыдумалі заманлівую фразеалогію: “Стратэгія развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі.” І многія на гэты кручок клюнулі. Ну а як жа не клюнуць: рупліўцы дбаюць! Не пра што іншае, а пра нашу родную мову! Хочуць, каб яна развівалася! Глядзяць уперад на цэлае стагоддзе! Ах, якія малайцы!

Дарагія сябры! Удумайцеся і адумайцеся, разважце і схамяніцеся! Гэтая *абстрактная* стратэгія *абстрактнага* развіцця ёсць не што іншае, як небяспечная лавушка, як подла-хітры спосаб адвесці ўвагу грамадскасці, перш за ўсё патрыятычнай інтэлігенцыі, ад канкрэтнай надзённай задачы – беларускую мову трэба ратаваць! На ўзроўні дзяржавы ўзяты курс на яе поўнае выцясненне з грамадскага, а значыць і з бытавога ўжытку, а значыць – на вынішчэнне, на канчатковае вынішчэнне. І гэты курс звышпаспяхова ажыццяўляецца. У мэтах яго ажыццяўлення быў праведзены рэферэндум, быў перайначаны Закон аб мовах 1990-га года, была навязана новая Канстытуцыя (1996), па якой у Беларусі сталі дзяржаўнымі дзве мовы – беларуская і руская, а фактычна – адна руская.

Ці гэта каму яшчэ не бачна і не зразумела?

*2001*

## З жахам думаю…

Да якой жа ступені трэба забіць у сабе чалавека, трэба страціць у душы сумленне, каб, ведаючы, што выдатныя грамадска-палітычныя дзеячы знішчаны, ліквідаваны як апазіцыянеры, пісаць і друкаваць такое: “Яны з’ехалі за межы Беларусі і недзе там жывуць-пажываюць…”! (Маюцца на ўвазе Ю. Захаранка, В. Ганчар і інш. – *Н. Г.*)

Што стане з нашым грамадствам, калі такі рэжым працягнецца яшчэ пяць гадоў? Да чаго дойдзе агульная маральная дэградацыя? А калі пратрымаецца пяць – то пасля яшчэ і дваццаць пяць, бо за гэтыя пяць усякая мараль, усякая чалавечая годнасць будзе дабіта, ліквідавана канчаткова і… жах падумаць, што будзе з нашым няшчасным народам.

*2001*

## Пытанне ёсць…

На пасяджэнні Рады СБП адзін паэт з пакалення 40-гадовых сказаў: "Мы ўсе пачыналі з вершаў на рускай мове". Спантанна я запярэчыў: "Ну чаму ж усе? Я, напрыклад, не пачынаў. Наколькі ведаю, некаторыя мне равеснікі таксама…"

Пасля думаў над гэтым.

Відаць жа не так сабе ён сказаў "мы ўсе". Значыць, ведаў, – з размоў з сябрамі-паэтамі ці з іншых крыніц, – што "ўсе", ці амаль усе. І канечне ж, меў на ўвазе сваё пакаленне.

Рэч не ў тым, што некаму большая пахвала (пачынаў па беларуску), а некаму меншая (пачынаў па руску). Купала пачынаў з вершаў на польскай мове, а Колас – з вершаў на рускай, – ну і што? Абодва сталі класікамі беларускай літаратуры. Рэч у іншым – у пытанні: чаму маё пакаленне пачынала з беларускіх, а пакаленне 40-гадовых – з рускіх? А вось адказ на пытанне "чаму?" павінен быць. Ён падкажа нам, на якой мове пачынаюць пісаць сёння і на якой будуць пачынаць заўтра.

*15.XII.2001*

## Творцы і падробшчыкі

Ёсць творцы, іх мала, а ёсць інтэрпрэтатары і папулярызатары, пераробшчыкі арыгінальнага ў шырпатрэб. Іх страшна многа, гэтых "пераробшчыкаў", заўсёды гатовых спрытнякоў. А. Т. Твардоўскі ўспамінае, як у час вайны паралельна з "Василием Тёркиным" друкаваліся "Новые похождения бравого солдата Швейка" М. Слабадскога. Таксама была патрэбная работа, бо працавала на ідэю Перамогі, забаўляла-цешыла байцоў. Ну дык і добра. Але было б недаравальнай памылкай не адрозніваць арыгінальную мастацкую творчасць ад інтэрпрэтатарства і падробкі.

*2002*

## Калі думаць пра лёс нацыі

“Мы (г. зн. Беларусь – *Н. Г.*) павінны мець магутную боездольную, першакласную армію, якая дасць адпор…” і г.д. Сумна слухаць і чытаць такое. Гэта – недарэчны палітычны атавізм. Гэта – астаткі нязжытай імперскай псіхалогіі – з адпаведнай бальшавіцка-генеральскай фразеалогіей, жыўцом перанесенай у сёння з часоў Сталіна – Хрушчова – Брэжнева. Іначай – як зразумець такую ваяўнічую фанабэрыю? Усе еўрапейскія дзяржавы, не большыя за Беларусь, кіруюцца ў сваёй унутранай палітыцы зусім іншымі прыярытэтамі: разлічаная на мірныя патрэбы прамысловасць, сельская гаспадарка, экалогія, навука, культура, турыстычны бізнес. Для развіцця менавіта гэтых сфер у Беларусі ёсць усе неабходныя ўмовы. Калі думаць пра перспектыву, пра заўтрашні лёс нацыі, дык за прыклад, шаноўныя дзяржаўныя мужы, трэба браць мірную, нейтральную, эканамічна расквітнелую, прыгожа-дэмакратычную Фінляндыю. Вось наш арыентыр, на які павінен нас скіроўваць элементарны здаровы сэнс. У чым жа загвоздка, чаму не кіруемся?

Наконт прыбалтаў і Украіны чуем: “Ну што ў іх? Якія поспехі? Безліч праблем – эканамічных, сацыяльных і іншых.” Так, праблем шмат, рух наперад не лёгкі, часам хапае і драматызму. Праблемы ёсць, але няма таго, што вызначае палітычнае аблічча Беларусі: няма халуйскага “пресмыкательства”, няма ганебнага курсу на ліквідацыю дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальнага суверэнітэту. Няма ў мільёнаў грамадзян цяжкага і брыдкага пачуцця: “Дык хто мы? І што ёсць наша дзяржава?” – пачуцця, якое мучыць нас, беларусаў.

*2002, чэрвень*





Georgia O' Keeffe (1887–1986), з цыкла *Naturvorbild*

Аксана ДАНІЛЬЧЫК

## Развітанне з Еўропай

Мост над Нямігай,
між адной амбасадай і другой,
на якім мінакоў амаль не бывае,
дыханне паўночнага ветру гайдае,
і то падымае, то апускае
на плечы тралейбусаў.

Магчыма некалькі стагоддзяў таму
я б апынулася сярод плыні,
і размахваючы рукамі,
маліла аб ратаванні,
а цяпер тут няма вады.
Толькі падае снег.
Толькі мост дрыжыць
па-над плынню машын
і змагаецца
з бесперапынным хістаннем.

Я імкнуся на ім утрымацца,
не зваліцца і не разбіць галаву,
бо тут і цяпер я на гэтым уздыбленым мосце
жыву.

А жоўтыя зорачкі
сплываюць у бок Раманаўскай Слабады
за немаведама які далягляд.
Сіні фон вечаровага неба ізноў пусты,
і невядома,
ці будзе нехта чакаць іх назад.

## дзень памяці

а чаму ж сёння ніхто не аплаквае вас беларусы
хіба вашыя дзеці не ўздымаліся дымам
над неўзаранымі палеткамі
хіба вашыя вочы не былі сухімі
бо не маглі болей плакаць
хіба вы не баяліся ўдзень немцаў
уночы партызанаў
раніцай венграў
увечары латышоў
і кожны сябар у любую хвіліну мог стаць ворагам

чаму ніхто не аплаквае гэты суцэльны страх
хто прыйшоў хто сышоў
хто застаўся хто згінуў
не ведаю

ведаю
што дзве знаёмыя мне жанчыны сустракалі вайну
з немаўлятамі на руках

дзеля каго ўсе гэтыя парады
хіба гэта вашыя танкі
хіба гэта вашая зброя
хіба гэта вашыя сцягі
хіба гэта вашыя перадавыя

у маіх бабуляў была іншая перамога –
немаўляты засталіся жывыя

чаму ж сёння ніхто не аплаквае вас беларусы

***

Калі Петрарка пра самотнае жыццё
пісаў, а за вакном пагоркі
вясновай дымкай, туманамі, першым лісцем
яму стваралі фон для назіранняў,
ці сапраўды ён адчуваў самотным
сваё жыццё ў такім замкнёным коле –

статычным знешне, унутрана рухомым
і адасобленым ад марных парыванняў.

Калі ў глыбінях памяці чужой
плывуць планеты, караблі ці зоркі
і па-над цэнтрабежнасцю ўяўленняў
пра ўбачаны і пра нябачны свет
адольваюць без лішніх намаганняў
шурпатую прастору навальніцы,
хто ведае ці сыдуцца іх рэкі,
ці заквітнее сад, ці дасць багацце?

Калі харызматычны красавік
страсае пыл з адноўленых галінаў,
а з вербаў сыпецца пылок жаўтлявы
пад кроплі метадычнага дажджу,
каго гукаюць чаіцы над дахам
з раскошы засяроджанай самоты
у свет насычаны святлом і ценем,
скаваны абавязкаў ланцугамі?

І ці магчыма вызначыць абсяг,
дзе адасобленасць дае збавенне,
а кожнае пражытае імгненне
каштоўным сродкам робіцца няўзнак?
Дзе пазбіраюцца прадуманыя дні
у невядомую дасюль скарбонку,
і, разрываючы сумненняў абалонку,
прымусяць выйсці па-за межы абяцанняў...

І дзе эсэнцыяй свабодных разважанняў
запоўняцца фіялы цішыні.



Анатоль БРУСЭВІЧ

***

На струнах шыферных стрэхаў
Зайграе нам лістапад.
І слухаць мы будзем рэха
Вясковых вясновых хат.

Таму не пачуем спевы
Халодных прышлых часін
Пра тое, што права – злева,
А цэнтра няма зусім.

Таму не пачуем гімну,
Якім паспаліты люд
Чужую славіць айчыну,
Сваю затаптаўшы ў бруд.

На шэрых шыферных плахах
Спачнем, каб пачаць з нуля,
Каб дух акрыяў і дахам
Стаў тым, што прыйдуць пасля…

*Беласток, 10.07. 2014 г.*



Галіна САМОЙЛА

# Адчайная надзея

***

Сон-трава цвіце, сон-трава…
Заміраю, змаўкаю, знікаю…
Галава баліць, галава.
Ты не той, я – зусім не такая.

Насланнё вакол, насланнё…
Датыкнешся, абмовішся – цені.
Дом – не мой, жыццё – не маё.
Не знаходжу дзвярэй, душаць сцены.

Не гарыць святло, не гарыць…
І туман разаслаўся паўсюдна.
Не сябры глядзяць як сябры.
Міражы адступаюць марудна.

Сон-трава цвіце, сон-трава…
Ап’яняе паветра праз меру.
Галава баліць, галава…
Не забыцца б шукаць ясны бераг.

***

У прысак дня знясілена ўпаду,
Пад прыскам дня вугольчыкі знайду.
На вугалях спалю сябе датла,
Я не адолела свой шлях, я не змагла.

І будзе боль такі, што не стрываць,
Што змоўкнуць птушкі, закрычыць трава.

І не паддамся плачу і журбе,
Згару да незваротнасці ў сябе.

Астудзіць ноч мой попел у расе.
Жывой вады крумкач мне прынясе.
Дамоў вярнуся звыклаю да зла,
Гэта не я даверлівай была…

Па прыску дня аднойчы пабрыду.
У прысак дня разгублена ўпаду.
А я цяпер зайздрошчу і маню…
Навошта я спаліла чысціню?

## Дараваць

Дараваць – і пазбавіцца болю.
Вунь ляціць, быццам пух дзьмухаўца,
Праз пабітую фортку на волю,
Агібае будынак з тарца.

З'есці крыўду, як прыгаршчы перцу,
І зміріцца, што холад ідзе
Праз пабітае шчасце да сэрца,
Тушыць сціплыя свечкі надзей.

Не змагчы дараваць – камень болю
Пахаваць у душы назаўжды
І чакаць, пакуль радасць паволі
Прарасце з неспатольнай нуды.

Зачыніць для сумненняў вароты,
Пастарэць сярод вёсен і зім.
І, стаміўшыся ад адзіноты,
Не сябе вінаваціць ва ўсім.

***

Праходзіць ноч, на вуліцы шарэе.
Звініць будзільнік моцна: "Уставай!"
Я прачынаюся, а ў сэрцы камянее
Надзейны мой адчай.

Іду на кухню, каб папіць гарбаты,
Ем бутэрброд, а з сэрца:”Выбачай!”
Дарэмна, ты ні ў чым не вінаваты,
Надзейны мой адчай.

Я шмат зраблю насуперак падзеям,
Я буду падаць, плакаць і ўставаць.
І будзе мне адчайная надзея
Праз цэлы дзень ва ўсім дапамагаць.

А прыйдзе ноч – адчую, зразумею:
Ты побач, каля левага пляча.
Ты не сумуй, адчайную надзею
Даеш мне ты, надзейны мой адчай.

## Папрок

Шкадуеце? А я дала вам права?
Забараняю жаль! Не шкадаваць!
Цікуеце: вось-вось прарвецца лава
З вачэй, з душы. Стрымаць яе! Стрымаць!

Абсудзіце: “Ах, цяжкка ёй, мы бачым:
Змарнела, невясёлая” – “Лягчэй?
А, разумею, дзень заняць няма чым.
Дык гаварыце. Ну, яшчэ, яшчэ!

Пытаеце: “А што цяпер? А потым?”
Дарэмна, падману ці прамаўчу.
Булькоча лава, толькі гэта ўпотай,
Не кожнаму напор яе адчуць.

Шкадуеце? Не вам дала я права,
А толькі тым, у кім мой боль смыліць…
Забараняю жаль дзеля забавы!
Сцвярджаю жаль, што дапаможа жыць!

***

Дзе душы тых, хто на Зямлі пакутаваў,
Быў сумны, бо ў сабе ўзрасціў святло,
А наваколле змрочнасцю гняло;
Каго паіў пякельнаю атрутаю
Ягоны лёс за кожны крок і ўздых?
Дзе душы тых?

Належыць боль ізноў цярпець пякельны ім,
Бо ў Рай бярэ тых, паспяховых, Бог,
Хто ў згодзе жыць з сабой і светам змог
І шчасце меў. А як за зло суцэльнае,
Так і за безадказную любоў –
Належыць боль…

# Не для ўсіх вада цудоўная

Дзіва дзіўнае зрабілася:
З-пад зямлі вада прабілася,
Пацякла паўз вербы ніцыя,
Стала чыстаю крыніцаю.
Паскакала па каменьчыках,
Разлілася на струменьчыкі,
Па пяску з гары скацілася
І ў аер-траве згубілася.
А вада тая гаючая…
Пі яе, калі замучаны.
А вада з настоем зёлкавым…
Пі як лекі перад золкамі.
А вада знутры падсвечана…
Пі, каб лепшым стаць, увечары.
А вада… у ёй памыешся –
Паразгладзяцца маршчынкі ўсе.
Абышла я вербы ніцыя –
Не сустрэлася з крыніцаю.
Па аеры наблукалася,
Ды з крыніцай не спаткалася.
Гора горкае бяздоннае –
Не для ўсіх вада цудоўная.

***

Здаецца мне, што з чарадой птушынай
Нясу я ў вырай тугу.
Прабач мяне, найлепшы мой мужчына,
Я ўжо кахаць не магу.

Калі б ты ажывіў каханнем  песні
Маёй сцятай душы,
Тады вярнуў бы мне маё прадвесне:
Сіняву, даль, высь, шыр.

Скажы мне “так” на ўсе мае трывогі,
Пашкадуй, як дзіця.
Аддай мне тое, што ў табе ад Бога –
З чым угору ляцяць.

Няхай я ўжо кахаць не маю сілы,
Ці не ўдзячнасць важней?
Вунь як лунае, разгарнуўшы крылы,
Да цябе – ад мяне,
Ад цябе – да мяне…

***

Я люблю бярозак святло,
А яшчэ скрыжаванні дарог
І валошкі.
Я табе даравала зло
За тваё дабро…
А навошта?

Я люблю прыцішаны снег,
А яшчэ верасовы агонь,
Веліч неба.
Я табе даравала гнеў
За далонь у далонь…
А ці трэба?

Я люблю зімовую бель,
А яшчэ цвыркуноў па начах,
Шлях па пожні.
Я табе даравала хмель
За тугу ў вачах.
А ці можна?

Я люблю кругі на вадзе,
А яшчэ палянку адну,
Сум гітары.
Я табе даравала здзек
За маю віну –
Мы не пара.

***

Кастрычнік і май – супрацьлеглыя месяцы:
Буянне пачатку, буянне канца…
Магутна, імклівa, нічога не вернецца:
Пажоўкласць ліста, жаўцізна дзьмухаўца –
У гэтым жыцці.

Кастрычнік і май – прыгажосці няўрымслівасць:
Нястомны палёт і апошні парыў…
Пялёсткамі ўсыплюць, лістотаю высцелюць
Сцяжынкі і дні, небасхіл і двары –
Да шчасця ісці.

Кастрычнік і май – разумення ніякага:
У сталасць – прыступка, у старасць – акно…
Слязьмі каляровымі вішні заплакалі
Па белых сукенках, што мелі вясной, –
Прымі, адпусці.

***

А на яблыні лісты, лісты…
Кажуць людзі: я не маю дабраты,
Кажуць людзі, я таму найбольш адна,
Што са мною ўсім нявыгадна.

Рэжа яблыню піла, піла…
А я ноччу да варожкі ў лес пайшла.
Я прасіла: звары зелле, пашапчы,
Навучы, як трэба жыць, выручы.

Пот у пільшчыка на ілбе, на ілбе…
Кажа бабка, дзе ж падзецца ад сябе.
Ты такая: раздасі абы каму,
Не падгодзішся карыснаму, патрэбнаму.

Грымне яблыня, задрыжыць, задрыжыць…
А варожка не схацела варажыць:
Адыдзі, бо не аддзячыш, як усе.
І ні ласкі, ні спагады ў яе голасе.

***

Маркота – хвароба заразная,
Ратуюцца людзі. Адна.
Каханне маё безадказнае
Гаруе са мной да відна.

Каханне маё безадказнае
На вейках слязою дрыжыць,
Здаецца мне крыўдай-абразаю.
Як жыць? Божа мой, як мне жыць?

Здаецца мне крыўдай-абразаю…
Навошта жыццё так са мной –
Лупцуе раз-пораз паразамі,
Трымае за шэрай сцяной.

Лупцуе раз-пораз паразамі…
Хоць, можа, яно не са зла?
Пацешыць пяшчотаю разавай –
Да большага недарасла.

Пацешыць пяшчотаю разавай…
Трываласць тады я знайду,
Як будзе любоў безадказная –
За шчасце мне, не за бяду,

Як будзе любоў безадказная –
Прастора ў душы, а не край,
Прастора, што ззяе алмазамі,
Адно раздавай, раздавай…





Georgia O' Keeffe, з цыкла *Naturvorbild*

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# Гурын-Маразоўскі. Забойства на Ягелонскай

Газетнае апавяданне

## Замест уступу

Міхал Гурын-Маразоўскі ў 1920-я гады – постаць палітычна вядомая, аднак жа на доўгія дзесяцігоддзі яго імя было кінута ў нябыт, а калі і згадвалася ў савецкіх падручніках ці ўспамінах, то толькі ў словазлучэнні “правакатар Гурын”.

Але ці быў правакатарам чалавек, які імкнуўся Камуністычную Партыю Заходняй Беларусі (КПЗБ) ператварыць у самастойную партыю са сваёй тактыкай і стратэгіяй; які прагнуў не згубіць нацыянальнае ў інтэрнацыянальным?!

Ці быў здраднікам дзеяч, які, фінансуючы нашы школы, ратаваў іх ад паланізацыі?

А можа, правакатарамі былі тыя, хто ператварыў жыццё М. Гурына-Маразоўскага ў трагедыю?!

## 1. Вайна пад назвай “Знішчыць правакатара!”

У фільме “Чырвонае лісце” рэжысёра У. Корша-Сабліна заходнебеларускі паўстанец Андрэй Мяцельскі страляе ў Віленскім судзе ў агента дэфензівы Ермаловіча.

У тым ужо няблізкім 1958 годзе, калі з’явіўся фільм, падрыхтаваныя кінагледачы пазналі ў Мяцельскім маладога рэвалюцыянера Сяргея Прытыцкага, а ў Ермаловічу (згодна прапагандысцкай устаноўкі) – правакатара Стральчука, які выступаў у судзе як сведка абвінавачання.

Знішчыць правакатара – палітычнае патрабаванне любой эпохі, і яно ў 1920-я – 1930-я гады зрабілася маральнай нормай і ў Заходняй Беларусі.

У тыя гады супраць канфідэнтаў, шпікоў, даносчыкаў і ўсялякіх даказчыкаў камуністы (вельмі часта самі з’яўляючыся канфідэнтамі і шпікамі!) вялі сапраўдную вайну і тлумачылі: гэта толькі самаабарона, а не асноўны спосаб нашага змагання за ўладу!

Згадаю некалькі фактаў…

Сенатар Васіль Рагуля ў кнізе “Успаміны” і Янка Брыль у нарысе “Сэрца камуніста” расказалі, як у 1926 годзе паблізу мястэчка Ярэмічы Стаўбцоўскага павета камуністы ўтапілі ў Нёмане труп нейкага Кузьмы, які, на іх думку, удаваў з сябе – “прадстаўніка падпольнага абкама”.

Трэба думаць, разабраліся з гэтым няшчасным Кузьмой без асаблівай праверкі, кіруючыся адным толькі камінтэрнаўскім чуццём!

У лістападзе 1928 года ў вёсцы Чапялёва, Шылавіцкай гміны, Слонімскага павета на парозе ўласнай хаты застрэлілі засланага ў КПЗБ К. Мароза. Загад партыі выканаў камсамолец Кірыла Рамановіч.

У Вільні на вуліцы Субач палажылі М. Адамовіча – таго самага, з дапамогай якога ў 1933 годзе ў Глыбокім паліцыя арыштавала Максіма Танка.

Тады ж паплаціўся галавой і нейкі Сералевіч, які, маючы заданне тайнай службы, стаў сакратаром Гродзенскага падпольнага акруговага камітэта камсамола.

У 1936 годзе паліцыя паведамляла, што ў Леанішках камуністы замардавалі канфідэнта Марголіса.

Пазбавілі жыцця і нейкага Чайкоўскага, які настолькі ўцёрся ў давер, што кіраваў Гродзенскім падпольным камітэтам партыі і, як успамінаў С. Прытыцкі, – “… па заданні дэфензівы ўкамплектаваў увесь акруговы камітэт… правакатарамі…”

Само па сабе, згаданы “камітэт” неўзабаве пайшоў пад нож.

Тое, што на кіраўнічых пасадах апынуліся правакатары – здзіўляць не павінна.

Дэфензіва тут вучылася ў царскай паліцыі – прынамсі, пры вярбоўцы скарыстоўвала наказ дэпартамента Лапухіна: большую карысць даюць тыя агенты, якія ачольваюць партыйную групу, а калі такіх няма, то трэба спрыяць, каб радавыя агенты пралазілі на вярхі партыйнай структуры!

І кіраўніцтва дэфензівы, канешне, спрыяла, таму і з’яўляліся “прадстаўнікі” падпольных абкамаў, “сакратары” камітэтаў камсамола і партыі; узнікалі, як паказана вышэй, акруговыя “камітэты” правакатараў – нават у поўным складзе!

Той жа Стральчук быў “інструктарам” ЦК камсамола…

Уяўляю задаволенне Сталіна, калі яму дакладвалі: КПЗБ – прыстанішча правакатараў!

Хіба не прычына для знішчэння партыі?!

Яшчэ якая!

Таму ў 1938 годзе, прыкрыўшыся рашэннем Выканкама Камінтэрна, ён разагнаў КПЗБ (структуру кампартыі Польшчы), як разагнаў і саму кампартыю Польшчы.

Знішчаючы мільёны некамуністаў, Сталін стамляўся, а знішчаючы сваіх партыйцаў – адпачываў, бо гэта было ягоным хобі!

Як вядома, Сталін зводзіў камуністаў згодна сцэнарыяў: … нямецкі шпіён… японскі шпіён… польскі шпіён… трацкіст… і г.д.

Але гэткія сцэнарыі не заўсёды складна ляпіліся і забіралі шмат часу.

Адносна ж КПЗБ – сцэнарый быў гатовы, і правадыр проста не мог не скарыстаць яго...

Грамадоўцы (ці ўсё тыя ж камуністы, але пад шыльдай “Грамады”?!) таксама ўмелі карыстацца бальшавіцкім нажом!

Скажам, як толькі ўзнікла падазрэнне, што новаспечаны чалец іхняй арганізацыі па прозвішчу Іголка – шпік, то яго тут жа замардавалі.

На знакамітым грамадоўскім “Працэсе 56-ці”, які праходзіў у Віленскім акруговым судзе ў першай палове 1928 года, сярод іншых спраў разглядалі і справу Кавалёнка, Казачонка, Кавалевіча і Карніловіча, якія ўходалі даносчыка Івашкевіча.

Часам грамадоўцы выносілі смяротныя прысуды і прадстаўнікам улады!

Праўда, хутчэй за ўсё гэта рабілі ўсё тыя ж камуністы, якія выдавалі сябе за грамадоўцаў, з мэтай выставіць “Грамаду”, як арганізацыю тэрарыстаў.

Напрыклад, такі прысуд вынеслі функцыянеру следчай службы па Дзісенскім павеце Хепелю, і таму, каб ўратаваць Хепелю жыццё, кіраўніцтва мусіла перавесці яго ў Маладзечанскі павет.

Трэба сказаць: такія акцыі (смяротныя прысуды!), калі яны зрэдку й здараліся, у аснове сваёй мелі ўсё ж такі чыста дэманстрацыйны характар, бо ў асяродку КПЗБ, не кажучы ўжо пра “Грамаду”, існаваў няпісаны закон: у польскіх службоўцаў, а тым больш у паліцыянтаў – не страляць (на партыйныя сходы, дарэчы, нельга было прыходзіць са зброяй)!

Так, Ленін заклікаў рэвалюцыянераў забіваць паліцэйскіх, аднак жа КПЗБоўцы трымаліся іншай тактыкі.

Даць у зубы (і давалі!) – гэта можна, але на той свет загнаць – о, не!

Тут варта ўспомніць, як паводзіў сябе той жа С. Прытыцкі пасля сваіх чатырох стрэлаў у зале № 2 Віленскага акруговага суда.

С. Прытыцкі меў два пісталеты і калі, выбегшы з залы пасяджэнняў, уцякаў ад паліцыянтаў, то не адстрэльваўся; у яго стралялі, а ён не адказаў ніводным стрэлам, бо нельга было…

16 сакавіка 1928 года ў Вільні ўсё на той жа вайне пад назвай “Знішчыць правакатара!” таксама прагрымелі чатыры стрэлы – камуніст Сямён Клінцэвіч забіў свайго нядаўняга таварыша, былога камуніста Міхала Ханевіча, больш вядомага, як Гурын-Маразоўскі.

Клінцэвіч забіў лідара, асобу.

Названыя вышэй ахвяры (Кузьма, К. Мароз, М. Адамовіч, Сералевіч, Марголіс, Чайкоўскі, Іголка, Івашкевіч) – людзі звычайныя, прыватныя.

Я не згадаў Стральчука, бо ён застаўся жывы, – меў пад фрэнчам браню!

Злёгку паранены ў шыю, ускінуў угару правую руку і, гупнуўшыся на дол, тэатральна рэкнуў:

– Нех жые Польска!

Нават у такі момант дагадзіў уладзе!

Калі б Стральчук загінуў, то і ягоная смерць была б з’явай прыватнай, бо і ён, як і вышэй названыя, – не асоба.

А вось палітычнае забойства М. Гурына-Маразоўскага для мяне асабіста мае маштаб нацыянальнай страты!

М. Гурын-Маразоўскі ўжо таму значная постаць, што нацыянальнае для яго не згубілася ў палітычным!

Таленавіты публіцыст, літаратар з адметнай мовай, смелы арганізатар – ён з’яўляўся беларусам па духу!

Не здолеўшы надаць камунізму беларускую сутнасць, ён выступіў супраць камунізму, у якім убачыў пагрозу Беларусі…

## 2. Фальшывы пашпарт, дваццаць пяць даляраў і падкупленыя паліцыянты

М.Гурына-Маразоўскага ў віленскім друку называлі “М. Гурын”, таму і я буду ўжываць такую форму яго наймення.

Сын Яна і Алены, праваслаўны беларус М. Гурын з’явіўся на свет у мястэчку Ярэмічы Наваградскага павета ў 1891 годзе…

У пачатку 1920-х уваходзіў у кола нацыянальнай эліты – сустракаўся з Янкам Купалам і Язэпам Лёсікам, сяброваў з У. Ігнатоўскім і

Міхасём Чаротам; у партыйнай жа іерархіі наогул займаў саліднае становішча – ён і рэдактар газеты “Савецкая Беларусь”, і чалец ІІІ-га Інтэрнацыяналу, і свой у ЦК КП(б)Б.

Словам, на бальшавіцкім алімпе М. Гурыну давяралі, таму і накіравалі ў Заходнюю Беларусь умацоўваць ЦК КПЗБ і рыхтаваць паўстанне.

Гарачым галовам здавалася: улада Варшавы ў Заходняй Беларусі – з’ява часовая, партызанскі рух на пад’ёме, новая савецка-польская вайна пачнецца калі не праз месяц, то праз два, так што самы час падымаць бунт…

Ноччу 28 лютага 1924 года М. Гурын рушыў з Менска, маючы ліпавы пашпарт на імя жыхара Лодзі Міхала Васілевіча.

У падробках ведаў толк, таму невыпадкова летам 1925 года абяцаў Антону Луцкевічу для паездкі ў Сопат здабыць любую фальшыўку.

Змоўшчык, вядомая справа, не выжыве без падробленых дакументаў, і чым іх болей, тым для падпольнай работы лепей.

Напрыклад, Мікалай Арэхва згодна сваіх левых пашпартоў быў і Арлоўскім, і Палтарацкім, і Маліноўскім, І Звежынскім, і Дварачакам, і Дэнковічам.

Згадаю і такі прыклад – у канцы 1932 года Валянцін Таўлай вярнуўся з Менска ў Вільню, дзякуючы фальшыўцы на імя Кастуся Якімчыка…

Акрамя ліпавага пашпарта М. Гурын меў яшчэ і дваццаць пяць даляраў.

Забягаючы наперад, скажу: у Польшчы ён распараджаўся тысячамі даляраў, а гэтая сціплая дваццацьпятка прызначана была на снеданне ў Ракаве, на квіток у Вільню і на першы-другі начлег у гатэлі…

На кардоне ўсё склалася, як мае быць; палякі ахоўвалі мяжу пакуль што ў адно вока (і мелі з гэтага ў кішэню!); на ўсе вочы, трэба думаць, пачалі пільнаваць са снежня 1924 года, калі стварылі свой знакаміты КОР – корпус аховы памежжа.

Падкуплены паліцыянт дапамог перайсці мяжу і даставіў высокага партыйца ў Ракаў.

Служачы беламу арлу, асобныя паліцыянты не цураліся і злачынных заробкаў, а часам дзейнічалі як заўзятыя кантрабандысты!

Скажам, начальнік стаўбцоўскай павятовай дэфензівы Дэрцэвіль і ягоны падначалены пастарунковы Саковіч праз тэрыторыю Беларусі наладзілі кантрабанду ікры з Расіі.

Пра гэта даведаўся стаўбцоўскі стараста, была выстаўлена засада,

і Саковіча паспрабавалі затрымаць, калі ён нёс ікру Дэрцэвілю.

Аднак спрытны Саковіч адразу не даўся ў крыўду – выхапіў пісталет і паспеў схавацца ў пастарунку.

Сіла ж была на баку ўзброеных мытнікаў; яны аблажылі пастарунак і, як той казаў, накрылі злачынцаў на гарачым; неўзабаве справай Дэрцэвіля і Саковіча заняўся акруговы камендант дзяржаўнай паліцыі ў Наваградку і судовы следчы.

Дарэчы, Янка Брыль у тым жа сваім творы "Сэрца камуніста" пісаў пра Дэрцэвіля, што гэта ён дапытваў ярэміцкіх падпольшчыкаў, якія знішчылі правакатара Кузьму…

У Ракаве М. Гурын памяняў даляры на польскія маркі і (зноў жа пад аховай падкупленых паліцыянтаў!) прыбыў на чыгуначную станцыю Аляхновічы, сеў у цягнік і а 12-й быў ужо ў Вільні.

Асталяваўся ў гатэлі "Італія", ягоны "пашпарт" у гэтым заездзе прынялі як сапраўдны, а вось першая сустрэча з партыйцамі расчаравала: у ЦК КПЗБ не размаўлялі па-беларуску!

Дзіўна, там жа вяліся беларусы – і Канчэўскі, і Лагіновіч, і Родзевіч, і Капуцкі!

Але М. Гурын, пэўна, адразу наладзіў сувязь не з імі, а з таварышамі з Варшавы і таварышам Аранштамам; тады, відаць, і ўзнікла яна, палкая думка, – правесці беларусізацыю партыі!

### 3. Два скруткі калючага дроту

Пасля Менска, апанаванага аднастайным чырвоным колерам, шматкаляровая Вільня закружыла галаву, але не настолькі, каб забыцца на падпольную работу.

Член ЦК КПЗБ і ЦК кампартыі Польшчы М. Гурын ці не штодня меў сустрэчы – і са сваімі партыйцамі, і беларускімі нацыянальнымі палітыкамі С. Рак-Міхайлоўскім, В. Рагулем, Б. Тарашкевічам, Р. Астроўскім, Ф. Ярэмічам, Антонам Луцкевічам.

З партыйцамі сустракаўся ў рэстаране Нішкоўскага і канспіратыўных кватэрах, а з нацыянальнымі дзеячамі ў кавярні "Чырвоны Штраль" і таксама ж на сакрэтных кватэрах, а часам і ў беларускай гімназіі.

Апошні адрас невыпадковы, М. Гурын фінансаваў гэту ўстанову, – то бок, выконваў заданне Менска.

Гісторык У. Ладысеў пісаў пра штомесячныя 500 рублёў, якія Народны камісарыят асветы БССР па просьбе Р. Астроўскага (!) асігнаваў на развіццё гімназіі.

Сувязь была двухбаковая.

Спашлюся тут на паперы з НКУС; паперам гэтым, вядома, вера малая, і тым не менш…

6 сакавіка 1938 года арыштаваны Б. Тарашкевіч “паказаў”, што Р. Астроўскі ў 1924 годзе перапраўляў у Менск выпускнікоў беларускіх гімназій і гэтыя акцыі ўзгадняў менавіта з М. Гурыным…

Як адзначаў у сваіх мемуарах В. Рагуля, М. Гурын збіраўся нават рабіць грашовыя дапамогі і нелегальным беларускім школам.

Словам, партыйную касу, якую меў пад рукой, на добрую справу не шкадаваў і, пэўна, рабіў гэта з празмернай шчодрасцю, выходзіў за дазволеныя межы.

Вядома ж, такая празмернасць цэкоўцам з Варшавы і Менска не магла падабацца; адкінуліся цэкоўцы і ад палітычнага плана, якім жыў М. Гурын – праз паўстанне далучыць Заходнюю Беларусь да БССР.

Свой апартунізм яны прыкрывалі тлумачэннем: якое там паўстанне, калі на вачах адбываецца стабілізацыя капіталізму, калі рэвалюцыя ў той жа Нямеччыне, і не толькі ў ёй, занікла; у такіх умовах брацца за зброю, каб вырашыць беларускае пытанне – вялікая авантура!

Магчыма і авантура.

Але трэба сказаць: для польскіх і расійскіх камуністаў беларуская нацыянальная ідэя наогул мала што значыла; яны выступалі супраць аб’яднання беларусаў у адзіную сваю дзяржаву, незалежную ад Варшавы і Масквы, таму пільна кантралявалі падуладную сабе КПЗБ.

У выніку кампартыя Заходняй Беларусі мела вузкую палітычную прастору; яна не выпрацоўвала стратэгію, а толькі выконвала загады з Варшавы і Менска.

Згадзіцца з такой палітыкай М. Гурын не мог, таму выступіў за стварэнне беларускай нацыянальнай кампартыі, вольнай ад знешняга дыктату.

Зноў спашлюся на паперы з НКУС…

9 ліпеня 1938 года арыштаваны Язэп Лагіновіч (Павел Корчык) “паведаміў”: М. Гурын пераконваў яго, што трэба ўсё зрабіць, каб вывесці КПЗБ з-пад палітычнага цяжару кампартыі Польшчы; гэтага патрабуюць У. Ігнатоўскі і А. Чарвякоў, якія неўзабаве ўзначаляць (!) кампартыю Беларусі, і калі так станецца, то з КПЗБ будуць лічыцца не толькі Менск і Варшава – нават Масква!

Ва ўсе часы ў галовах палітыкаў – самыя неверагодныя мары!

Аднак жа менавіта ў Вільні, што даволі сімвалічна, з М. Гурыным адбылася вялікая метамарфоза: ён адчуў сябе сапраўдным

беларусам; вядома ж, паспрыяла гэтаму знаёмства з Янкам Купалам, і дало свой плён сяброўства з тым жа У. Ігнатоўскім і Міхасём Чаротам.

І гутаркі з віленскімі беларусамі пакінулі свой след – з Б. Тарашкевічам, напрыклад, у снежні 1924 года М. Гурын завёў гаворку пра заснаванне ў Польшчы легальнай беларускай партыі і, магчыма, гэтым натхніў апошняга на арганізацыю "Грамады".

Падыходзячы да справы маштабна, М. Гурын стаў змагацца і за незалежнае (!) беларускае прадстаўніцтва ў Камінтэрне – у гэтым доме без вокнаў сусветнай рэвалюцыі.

Вядома ж, ён чытаў артыкул Антона Луцкевіча "На паўдарозе":

"… Камінтэрн, замест стацца (па мыслі Леніна) саюзам нацыянальных камуністычных арганізацый, абярнуўся ў саюз дзяржаўных камуністычных партый. І вось, беларускай секцыі ў ім няма, а, прыкладам, Камуністычная партыя Заходняй Беларусі з'яўляецца не самастойнай, а "аддадзена" пад каманду варшаўскіх камуністаў…"

Троцкі ў сваёй нясканчанай кніжцы пра Сталіна пісаў: пасля смерці Леніна бальшавікі не надавалі замежным секцыям Камінтэрна самастойнага значэння.

Аднак для М. Гурына не гэта было важным; ён хацеў, каб незалежная беларуская кампартыя заняла сваё (!) месца ў вядомай свету міжнароднай інстытуцыі.

Трэба думаць, М. Гурына натхняла і тое, што на пятым кангрэсе Камінтэрна было заяўлена: беларуская справа – гэта перш за ўсё справа аб'яднання беларускіх земляў у адной рабоча-сялянскай рэспубліцы!

30 лістапада 1924 года на Другой канферэнцыі КПЗБ ён абвясціў сэцэсію (адыход, раскол) – падпісаўшы адпаведны камунікат, заявіў пра выхад з КПЗБ; загады з Варшавы і Менска больш не выконваў.

Адным словам, да нядаўніх начальнікаў павярнуўся плячыма, а да свайго жыцця вачыма!

На яго бок перайшлі камуністы з Гродзенскага і Віленскага акруговых камітэтаў, а таксама яго падтрымалі партыйцы з самых розных райкамаў – Косаўскага, Маладзечанскага, Смаргонскага…

Антон Луцкевіч назваў сэцэсію голасам нацыянальнага сумлення, а групу М. Гурына ўплывовай; сэцэсію віталі і беларускія паслы.

Аднак горшага было больш, чым лепшага.

У студзені 1925 года сталіністы аддалі адпаведную каманду, і пачалося цкаванне: на М. Гурына накінуўся III з'езд кампартыі Польшчы (Варшава ўспрыняла сэцэсію як з'яву антыпольскую!);

Менск убачыў у дзейнасці М. Гурына замах на партыйную дысцыпліну; змянілі сваю нядаўнюю тактыку і беларускія паслы – прынамсі, сэцэсію асудзілі Б. Тарашкевіч і С. Рак-Міхайлоўскі.

Да слова сказаць, С. Рак-Міхайлоўскі меў з М. Гурыным цесную сувязь, а М. Гурын нават публічна выказваў да яго сваю прыхільнасць, аднак жа, апынуўшыся ў турме, С. Рак-Міхайлоўскі (згодна капспірацыі) усяляк даводзіў следчаму, што з М. Гурыным незнаёмы – імя ягонае ведае толькі з газет…

Дарэчы, М. Гурын разлічваў на падтрымку ЦК КП(б)Б і ў асобе яе першага сакратара А. Асаткіна…

У "паказаннях" Я. Лагіновіча можна вычытаць, што ён, Я. Лагіновіч, аднойчы вывеў М. Гурына на Антона Луцкевіча, якому партыйны раскольнік перадаў нейкую інфармацыю ад У. Ігнатоўскага і А. Чарвякова, а, значыць (трэба думаць), і ад А. Асаткіна…

М. Гурын лічыў: поспех сэцэсіі быў бы абсалютны, калі б Менск цалкам яго падтрымаў, але ў апошнюю хвіліну А. Асаткін, У. Ігнатоўскі і А. Чарвякоў адступіліся ад ранейшай сваёй пазіцыі, і гэта страшэнна абурыла раскольніка.

Калі ён адкінуў загад вярнуцца ў БССР, то Я. Лагіновіч прасіў Антона Луцкевіча пераканаць яго, каб адумаўся, але Антон Луцкевіч адмовіўся ад такой незайздроснай ролі…

М. Гурын і варшаўска-менскія цэкоўцы счапіліся як два скруткі калючага дроту!

Не расчапіць...

### 4. Заснавальнік сэцэсіі – значыць, правакатар…

У рамане "Сонца за кратамі" Міхась Машара паведаміў, што М. Гурын заснаваў Беларускую сацыялістычную народную партыю.

Мяркую, пісьменнік меў на ўвазе Беларускую радыкальную народную партыю, да вымогаў стварыць якую далучаўся М. Гурын; прынамсі, дапамагаў у яе залажэнні Францішку Умястоўскаму (заўважу: як самастойная секцыя, яна існавала ў Народнай партыі літоўска-беларускіх земляў "Адзінства").

Пра Ф. Умястоўскага, рэдактара прасанацыйнай тыднёвай віленскай газеты "Беларускі Дзень", гаворка яшчэ будзе…

У Вільні М. Гурын меў падпольную друкарню – то бок, у яго быў інструмент для ўплыву і павучанняў; ягоныя павучанні ў асноўным палягалі ў тым, што сваім паплечнікам, напрыклад, даводзіў: у БССР, як і ў Польшчы, таксама існуе зямельны голад.

А яшчэ раіў не захапляцца палітыкай беларусізацыі, бо гэта палітыка не поўная, а частковая, і яе праведзена толькі 30 адсоткаў!

М. Гурын даказваў: у Менску ў вышэйшых навуковых установах па-беларуску не вучаць, таму Менск яшчэ далёка не беларускі і невядома ці будзе такі!

Што й казаць: як у ваду глядзеў!

Наогул жа, у той час шмат хто вельмі цвяроза ацэньваў беларусізацыю.

1 жніўня 1923 года паэт Уладзімір Жылка пісаў Антону Луцкевічу: "… Камуністы ў грунце варожы беларускай сялянскай стыхіі і нашай нацыянальнай ідэі. Усё, што робіцца ў Менску (а не столькі той работы, як галасу), ёсць не ласка, уступка з бою…"

А ў новым лісце расказаў, што ў Празе прафесар Карскі заявіў: у БССР беларускага няма нічога!

Вядома, такая ацэнка беларусізацыі даходзіла да М. Гурына, таму ён вучыў: тут, у Заходняй Беларусі, трэба "… дабівацца аўтаноміі і выкарыстоўваць усе легальныя магчымасці".

Ад ідэі паўстання, як бачна, таксама адвярнуўся.

Дык вось, адкінуўшы ўказанне прыехаць у Менск, ён ператварыўся для сталіністаў у небяспечную асобу, таму – вядомы прыём! – яго абвясцілі правакатарам, мэта якога раскалоць рэвалюцыйны рух; яго паплечнікаў Клінцэвіча і Капуцкага сталіністы перацягнулі на свой бок, разбурылі друкарню і 28 верасня 1925 года навялі на след невяртанца дэфензіву.

Забягаючы наперад, скажу: у 1933 годзе (М. Гурына ўжо пяць гадоў як не было) сталіністы прыдумалі справу № 37405 пад назвай "Беларускі Нацыянальны Цэнтр".

Па гэтай справе ў ліку іншых праходзіў і нейкі Пальчэўскі, які "прызнаўся": сэцэсія – хітрая палітыка дэфензівы, якая імкнулася падбіць заходніх беларусаў на непадрыхтаванае паўстанне, каб такім чынам мець зручную магчымасць знішчыць рэвалюцыйны слой насельніцтва…

Дык вось, 28 верасня 1925 года М. Гурын трапіў у беластоцкую турму і знаходзіўся ў ёй да 8 чэрвеня 1926 года.

У лісце ад 3 лістапада 1927 года, надрукаваным у 33-м нумары "Беларускага Дня", тлумачыў: у турме апынуўся па даносе "… члена ЦК КПЗБ Богдака і іншых…"

Цікава – гэтых "іншых" цэкоўцаў чамусьці не назваў, нібыта й не ведаў пра іх нічога, а назваў нейкага Богдака!

Але ці быў наогул такі?

З блізкімі па гучанні прозвішчамі вядомы кіраўнікі КПЗБ – А.

Багданчук і С. Багданчук, але ж здаецца не іх меў на ўвазе…

У тым жа лісце паведамляў: першыя шэсць месяцаў паводзіў сябе на допытах асцярожна, таму праз яго нікога не арыштавалі!

Аднак жа, трэба думаць, ЦК КПЗБ усіх арыштаваных залічваў на рахунак “правакатара Гурына-Маразоўскага”!

У кнізе “Беларускія справы ў ІІ Рэчыпаспалітай” Аляксандра Бергман выказала здагадку, што праведзеныя ў 1926 і 1927 гадах арышты камуністаў з’явіліся вынікам правакацый М. Гурына.

Дарэчы, А. Бергман у пэўным сэнсе і сама пацярпела ад ягонай дзейнасці.

С. Чыгрын у артыкуле “Беларускі гісторык з Варшавы…” даводзіць, што А. Бергман “… у 1924 годзе была абрана ў Гродзенскі акруговы камітэт камсамола. Але за тое, што не здолела справіцца з раскольніцкімі плынямі “сэцэсіі” ў мясцовай камсамольскай арганізацыі, была знятая з пасады сакратара…”

Пра М. Гурына пайшлі нядобрыя здагадкі, яго адкрыта абвінавачвалі ў здрадзе, ён апынуўся ў суцэльным нервовым полі; захаваць спакой не ўмеў, быў нястрымны, таму страціў уладу над сабой і давсрыўся начальніку акруговага следчага ўпраўлення ў Беластоку Мар’яну Ясінскаму.

Зноў жа ў тым лісце паясняў:

“Спробу камуністаў зрабіць з мяне нейкага правакатара лічу проста смешнай, бо ніколі не быў ім і ў сваім жыцці ніводнага дня не працаваў на два бакі, хоць і перажываў здраду адносна свае асобы з боку камуністаў…”

Выказаўся і супраць “Грамады”, мяркуючы, што гэта арганізацыя “… з’ўляецца масавай правакацыяй з мэтай запакаваць нашымі сялянамі польскія турмы…”

Называйце мяне ворагам, але не правакатарам – такі сэнс яго паслання, бо “… ці ёсць правакацыяй тое, што чалавек, праціўнік арганізацыі з самага пачатку, чалавек, які сядзеў у турме, калі “Грамада” закладалася, чалавек, які не быў ні на адным пасяджэнні не толькі ЦК “Грамады”, але і самага апошняга вясковага гуртка, чалавек, які ні разу і ніколі не прыкідваўся яе прыхільнікам, а наадварот – перасцярагаў, ці мае хто права сказаць, што гэты чалавек правакатар, калі ён адкрыта, як у друку, таксама і перад судом выказвае свой пагляд…”

Але як бы не апраўдваўся, што б не пісаў, якія б доказы на сваю карысць не выстаўляў – атрутныя чуткі пашыраліся; сенатар В. Рагуля ўспамінаў:

“… Рак-Міхайлоўскі і Валошын сказалі мне, што Гурын напэўна

стаў здраднікам і служыць “przodownikiem” (сяржантам. – *Л. Д.-М.*) следчай паліцыі ў Вільні…”

**5. Псіхічнае ўзрушэнне**

31 жніўня 1927 года газета “Наша Праўда” надрукавала з’едлівую зацемку “Клуб беларускай інтэлігенцыі”.

Ананімны хранікёр звяртаў увагу на тое, што ўлада звычайна дазваляе закладваць падобныя структуры беларусам-паланафілам, а вось прадстаўнікам незалежнага беларускага грамадства ў гэтым заўсёды адмаўляе.

Высмеяўшы створаную арганізацыю, хранікёр з прысмакам ксенафобіі акцэнтаваў: што ж гэта маўляў за беларускі клуб такі, калі ў яго ўваходзіць і татарын (!) Гасан Канапацкі?!

Прыналежнасць Г. Канапацкага да татарскага народа была ў тэксце падкрэслена.

Палкоўнік Г. Канапацкі – паважаная асоба, нядаўні начальнік беларускага войска і беларускі прадстаўнік у плебісцытнай камісіі пры Літоўскім урадзе, і, вядома ж, газетчык ведаў пра гэта, як і відавочна тое, што ён меў заданне пра паланафіла Г. Канапацкага напісаць менавіта ў такой зняважлівай форме.

А М. Гурына, які таксама ўваходзіў у згаданы “Клуб”, старанны газетчык ахрысціў галоўным сведкам абвінавачання ў працэсе грамадоўскіх паслоў.

Так задоўга да знакамітага працэсу гаспадар сэцэсіі быў публічна залічаны ў памагатыя санацыі.

На жаль, не без падставы.

2 лістапада 1926 года падпракурор Віленскага апеляцыйнага суда Язэп Прылуцкі дапытаў М. Гурына, а праз месяц, упачатку снежня, М. Гурын праходзіў сведкам з пракурорскага боку ў справе 15-ці камуністаў, якая слухалася ў Віленскім акруговым судзе; на працэс, праўда, не з’явіўся, аднак жа там зачыталі яго паказанні.

Пра дзейнасць КПЗБ сведчыў і пазней – 2 красавіка 1927 года…

“Нашай Праўдзе” паслаў водпаведзь, змешчаную ў 25-м нумары “Беларускага Дня”; гэты нумар выйшаў 7 верасня 1927 года, а сваю водпаведзь памылкова датаваў на месяц пазней – 7-м кастрычніка!

Перажываў псіхічнае ўзрушэнне, таму і памыліўся!

Хутчэй за ўсё напісаў адказ 1 верасня, ці нават у сераду 31 жніўня – адразу ж, калі разгарнуў 43-ці нумар “Нашай Праўды”…

М. Гурын проста крычаў:

“… гэтак званыя былыя грамадаўцы закідваюць мне розныя

абвінавачанні чыста маральнага характару… буду дабівацца… грамадскага суда над некаторымі цэнтральнымі фігурамі “Грамады”, процiў якіх маю цяжкія закіды здрады Беларускага Народа…”

У той час, калі надрукаваў гэтыя радкі, а менавіта ў верасні 1927 года, “цэнтральныя фігуры “Грамады” (Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Валошын, П. Мятла, М. Бурсевіч, Р. Астроўскі), чакаючы судовага разбору, ужо восьмы месяц знаходзіліся ў турме; пагражаць ім яшчэ нейкім грамадскім судом – мякка кажучы, было і смешна, і неразумна.

Але М. Гурын з нейкага моманту дзейнічаў якраз неразумна; ён апынуўся ў нязвыклай адзіноце, вялікая нервовая ўзбуджанасць апанавала ім.

### 6. Клопат пра Ф. Аляхновіча і Пілсудскага

У Вільні жыў на вуліцы Панарскай, 10, а з красавіка 1927 года з жонкай пасяліўся на Маставой, 9.

Гісторык Алена Глагоўская расказала мне пра Стэфанію Шчурко -Шчуркоўскую – дачку заможнага ўласніка дому з Гародні.

Паранены М. Гурын (пра замах на яго расказ наперадзе) хаваўся і лячыўся ў спадарыні Стэфаніі, – клопат дзяўчыны скончыўся рамантычна!

Мінула колькі месяцаў, і спадарыня Стэфанія з Гародні пераехала ў Вільню і стала жонкай М. Гурына!

Аднак спакою гэта не прынесла, адзінота ціснула па-ранейшаму, нервовае напружанне паліла кроў.

На разжытак, як той казаў, меў яшчэ дзесяць тысяч даляраў – кавалак хлеба хапала, бо грошы немалыя, і на добрую чарку не бракавала.

З віленскіх рэстарацый найбольш вабіла кавярня Тамашэвіча на Ягелонскай, 5.

Ведаў бы, які лёс яго тут напаткае – ці хадзіў бы сюды?

Ды жывы не здагадваецца, што з ім будзе тут ці там, таму і ходзіць скрозь…

16 сакавіка 1928 года гаспадар кавярні расказаў паліцыі: М. Гурын звычайна бываў у яго з асобамі, з якімі размаўляў толькі па-беларуску і толькі шэптам і пры гэтым аглядваўся – баяўся чужога вуха!

Вядома ж, завітваў і з рэдактарам “Беларускага Дня” Ф. Умястоўскім; быў удзячны рэдактару за работу, якую займеў у ягонай “тыднёвай часопісі”; напэўна ж, быў удзячны і за антыграмадоўскі

напрамак “Беларускага Дня”.

Ф. Умястоўскі друкаваў матэрыялы, у якіх “Грамада” называлася “мураўёўшчынай навыварат”, бо – на думку выдання – арганізацыя Б. Тарашкевіча павінна была выступаць не толькі супраць польскага ўрада, але і маскоўскага таксама, і толькі тады гэта была б сапраўдная “Грамада”!

Выдатная думка, толькі адкуль было грамадоўцам грошы браць, калі выступаць яшчэ і супраць Масквы?!

Ф. Умястоўскі йшоў па санацыйным бруку, але ў беларускіх ботах і каванымі абцасамі высякаў іскры, якія ляцелі ў вочы цэнтральнай уладзе:

“…недаацэна польскім урадам нацыянальнай даспеласці беларускага народа, нездавальненне дагэтуль, нягледзячы на ясныя наказы польскай канстытуцыі, самых скрайніх дамаганняў беларусаў у галіне беларускай асветы, варожы да беларусаў настрой шавіністычных кругоў часткі польскага грамадзянства…”

І такія ж іскры ляцелі ў іншы бок:

“… варожы настрой у адносінах да палякаў шавіністычных кругоў часткі беларускага грамадзянства; трывалая і… вельмі хітрая работа платных агентаў маскоўскага камунізму, заманьваючы наша цёмнае беларускае сялянства ў савецкі рай – вось тыя варункі, у якіх распачынаем мы сваю працу…”

Ф. Умястоўскі не баяўся грамадскай работы: у 1920 годзе з’яўляўся старшынёй Школьнай рады Віленшчыны, а ў 1928-м спрабаваў прайсці ў сейм (быў кандыдатам у спісе № 1 па Свянцянскай акрузе), аднак поспеху не меў – заняў толькі чацвёртае месца.

Стоячы пры бел-чырвона-белым штандары, імкнуўся да аб’ектыўных высноў, хацеў выглядаць бесстароннім; пэўна ж, гэта не падабалася тым, хто фінансаваў ягоную газету, таму і праіснавала яна ўсяго паўтара года – з 7 сакавіка 1927 года па 25 кастрычніка 1928-га.

Газета пісала пра культурна-гаспадарчыя патрэбы сялянства, заклікала да польска-беларускага супрацоўніцтва, хваліла маршалка Пілсудскага і патрабавала ад Варшавы адкрываць беларускія школы; не забывала і пра лёс Ф. Аляхновіча, прасіла ўсё зрабіць дзеля вызвалення выдатнага драматурга, таму звярталася да пасла І. Дварчаніна і, вядома ж, разумела яго пасіўнасць у гэтай справе.

Арыентаваны на КПЗБ І. Дварчанін не хацеў раздражняць сталіністаў, але ў выніку (жахлівая іронія лёсу!) сам трапіў на тыя ж Салаўкі, з якіх проста цудам збавіўся Ф. Аляхновіч.

“Беларускі Дзень” друкаваў творы М. Багдановіча, не баяўся казаць уголас пра хібы сакавіцкай канстытуцыі 1921 года і, баронячы ад эндэкаў Пілсудскага, даў ім хвацкую мянушку – польская чорная сотня!

Ад клопату пра Ф. Аляхновіча да клопату пра Пілсудскага – такі размах дзейнасці “тыднёвай часопісі” Ф. Умястоўскага.

“Наша Праўда” называла яе польскай газетай на беларускай мове!

Яшчэ не ўбачыўшы яе, адно даведаўшыся, што галоўным рэдактарам з’яўляецца Ф. Умястоўскі, С. Рак-Міхайлоўскі ў сваім турэмным дзённіку атэставаў газету, як новы паланафільскі орган і выказаў здагадку, што цісну́ць яе на лацінцы.

“Беларускі Дзень” прылічвалі да тых паланафільскіх выданняў, пра якія пасол Янка Станкевіч казаў: “Друкуюцца па-беларуску, але не служаць беларускім інтарэсам!”

Мяркую, да самога “Беларускага Дня” гэтыя свае словы Я. Станкевіч не адносіў…

Газета Ф. Умястоўскага служыла і беларускім інтарэсам, і выходзіла яна кірыліцай, і на некалькі месяцаў стала трыбунай для М. Гурына.

### 7. “Не ў палена, а ў калена”

Самы цікавы ягоны твор, змешчаны ў “Беларускім Дні” – нарыс “З недалёкага мінулага”, у якім бачым трапныя партрэты А. Луцкевіча, Б. Тарашкевіча, В. Рагулі, С. Барана, а таксама паказана дно камуністычнай ідэалогіі.

На змест гэтага нарыса, акрамя іншага, відавочна паўплывалі і гутаркі з афіцэрам палітычнай паліцыі М. Ясінскім.

М. Гурын у сваім творы палымяна сцвярджаў: можна крытыкаваць палітыку польскіх партый і ўрадаў, якія знарок не заўважаюць беларускага пытання, аднак нельга змагацца супраць польскай дзяржаўнасці, бо – “… ідэя адраджэння Польшчы і Беларусі – адна ідэя. Як без Польшчы няма Беларусі, таксама і без Беларусі няма абароненай Польшчы… Канец незалежнасці Польшчы азначае для беларусаў смерць беларускага пытання, якое сёння з’яўляецца актуальным у значнай меры, дзякуючы таму, што існуе незалежная Польшча. Чым Польшча ў будучыні будзе мацнейшаю палітычна, эканамічна і культурна, тым больш надзей будзе мець беларускі народ вызваліцца з векавое няволі…”

М. Гурын прыбыў у Вільню падымаць паўстанне, адваёўваць у

Варшавы Заходнюю Беларусь, і вось за нейкія два гады яго палітычны ветразь напоўніўся іншым ветрам.

Давялося займаць хісткую, ліслівую пазіцыю – пазіцыю слабога, які мусіць дагаджаць дужаму!

М. Гурын (чалавек маштабны!) трапіў у пастку, з якой не было ратунку, і ён павінен быў трымаць рукі па швах, удаваць з сябе апалагета Польшчы, пакрыёма ўводзячы ў вушы новым гаспадарам, каб усё ж такі не забыліся, што ёсць і яны – беларускія надзеі на свой нацыянальны росквіт.

Разам з тым немагчыма не згадзіцца з М. Гурыным, калі ён гаворыць пра імперыялізм (і нядаўні – царскі, і новы – сталінскі!), які імгненна паглыне разам з незалежнай Польшчай і беларускі рух, як толькі Польшча страціць сваю дзяржаўную ўстойлівасць.

М. Гурын даводзіў:

“Паўстанне (адраджэнне. – *Л. Д.-М.*) Польшчы – факт, які трэба не толькі прызнаць, але і прывітаць, як факт паступовы (прагрэсіўны. – *Л.Д.-М.*). Падрываць яе існаванне – гэта значыць, ісці назад, служыць заборчаму (захопніцкаму. – *Л. Д.-М.*) імперыялізму, служыць рэакцыі. Вось чаму ніводзін беларускі барацьбіт не можа быць ворагам ідэі польскай дзяржаўнасці… Замахнуўшыся на святое святых польскай дзяржаўнасці, на ідэю адраджэння польскага народа, гэтым самым кожны беларус б’е “не ў палена, а ў калена”, б’е па беларускім руху, накіроўваючы яго на дарогу смерці, бо… без… Польшчы… немагчыма аніякая Беларусь…”

Ці ведала галава, пра што пісала рука?

Ведала і думала абхітрыць саму хітрасць, аднак апынуўшыся ў цеснай глыбокай яме – не пабяжыш, як бы не хацеў, а толькі з роспачы трохі падскокнеш…

Спустошаны М. Гурын схіляўся да празмерных высноў, плаціў неабходную даніну і тагачасным палітычным абставінам, і прапольскаму выданню Ф. Умястоўскага.

## 8. Пройгрыш Усходу схіляе да Захаду – і наадварот…

26 кастрычніка 1927 года газета “Наша Праца” (пераемніца “Нашай Праўды”) ў рубрыцы “Хроніка” змясціла адпаведнага тону зацемку: “… На аўторак, 25 кастрычніка, вызначана нарада прыхільнікаў “Беларускага Дня”. Як ходзяць чуткі, гэта не ёсць нарада, а з’езд для залажэння новай перадвыбарчай партыі паланафілаў. Ай-ёй -ёй! І яны таксама…”

Праз тры дні, 29 кастрычніка, “Наша Праца” высмеяла дзеячаў,

якія па камандзе з Варшавы з’ехаліся ў Вільню стварыць Беларускую радыкальную народную партыю.

План улады быў такі: на месца знішчанай “Грамады” паставіць згодніцкую арганізацыю, праўрадавы характар якой прыкрываўся б тэрмінам “радыкальная”.

Сапраўды, 25 кастрычніка 1927 года адбыўся з’езд, удзельнікі якога – у асноўным сябры Ф. Умястоўскага, чытачы “Беларускага Дня”; ім аплацілі дарогу, пасяліі ў гатэлі “Венецыя”, выдалі на суткі па пяць злотых.

Ананімны рэпарцёр “Нашай Працы” спасылаўся на дасведчанага інфарматара, калі пісаў, што гэта быў не беларускі з’езд, бо ўсё выглядала надта афіцыёзна, а “… над усімі зорка блішчэлі вочы вядомага правакатара Гурына…”

Слова “правакатар” мае забойную сілу.

Рэпарцёр ведаў, што рабіў, калі ўжываў яго; мэта зразумелая: яшчэ раз публічна зганіць і канчаткова прыбіць галоўнага натхніцеля сэцэсіі, а таксама ж кінуць цень на партыю Ф. Умястоўскага.

М. Гурын адказаў лістом – тым самым, ад 3 лістапада 1927 года, змешчаным у 33 нумары “Беларускага Дня”:

“… Пэўныя палітычныя колы, моцна звязаныя і запрадаўшыя сваё сумленне і свае перакананні за чырвонцы, ніяк не могуць дараваць мне таго, што ў свой час, яшчэ ў канцы 1924 года, я адмовіўся выконваць іх загады, кінуў ім у твар гэтыя чырвонцы і парваў з імі, лічачы іх найбольш шкоднымі ворагамі беларускага народа. Не звяртаючы ўвагі на “прыказы” пакінуць край, пагарджаючы іх пагрозамі, я застаўся ў Вільні, каб распачаць барацьбу з магіль-шчыкамі беларускай незалежнай ідэі. Я змагаўся з імі, як умеў і як мог, бо бачыў, што маскоўская агентура з’яўляецца галоўным дэмаралізатарам беларускага нацыянальнага руху, які яна хоча раскалоць і разбіць на нічога нязначныя групкі.

На жаль, чырвонцы і даляры аказаліся мацнейшымі – і свой першы бой з падпольнымі маскоўскімі агентамі я прайграў…”

М. Гурын прайграў Усходу, а пройгрыш Усходу міжвольна схіляе да Захаду і наадварот – закон, які, на жаль, дзейнічае для нас і па сённяшні дзень!

У гэтым якраз і крыецца трагедыя кожнай беларускай асобы і наогул беларускай дзяржавы.

Прычыну расчаравання бальшавіцкай уладай М. Гурын убачыў не ў сваіх кантактах з М. Ясінскім, а ў тым – зноў цытую нарыс “З недалёкага мінулага”! – што “… маскоўскія акупанты ў чырвоных вопратках на кожным кроку плявалі ў душу беларускага народа…”

Ну вядома ж, польскія акупанты ў беларускую душу ніколі не плявалі і ніколі не махалі бізунамі, а толькі частавалі марцыпанамі!

Я не хачу сказаць, што М. Гурын хлусіў, але часта яму не ставала аб’ектыўнасці, іншы раз ён саслізгваў у палітычную манернасць, любіў (дарэчы, як і кожны палітык!) прыхарашыць сябе:

“… Вытрыманасць характару ратавала мяне ад неабдуманых чынаў, а жорсткасць душы і абудзіўшыйся беларускі інтэлект ратаваў мяне ад таго, каб не апусціцца на дно савецкага правінцыйнага жыцця…”

Вытрыманасць характару, жорсткасць душы і беларускі інтэлект…

Хоць і не без какецтва, але няблага сказана!

М. Гурын таленавіта стварыў свой псіхалагічны партрэт.

Застаецца дадаць – на ўладальніка жорсткай душы і беларускага інтэлекту поўным ходам ішло паляванне.

### 9. Першая спроба забіць М. Гурына

На “Працэсе 56-ці”, пра які гаворка была ў першым раздзеле, вельмі часта згадвалі М. Гурына.

На пяты дзень слуханняў, у аўторак 28 лютага 1928 года, сведка Ст. Васілеўскі сказаў, што М. Гурын з’яўляўся адным з цэнзараў ад КПЗБ над грамадоўскімі выданнямі.

Ст. Васілеўскі быў аспірантам паліцыі, намеснікам следчага ўпраўлення ў Вільні, таму інфармацыю, вядома ж, меў пэўную.

Праз месяц, у аўторак 27 сакавіка (на дзевятнаццаты дзень працэсу) сведчыў функцыянер палітычнай паліцыі з Гродна Страшынскі.

Ён заявіў, што падсудны Шушкевіч загадаў падсуднаму Паддубяку забіць М. Гурына, і Паддубяк страляў у М. Гурына падчас яго побыту ў Гродна, але толькі параніў апошняга.

– Наглая ложь! – з лавы падсудных крыкнуў па-расійску Паддубяк і не мог стрымацца, выгукнуў, што гэта чарговая правакацыя паліцыі.

Выконваючы загад старшыні Аўсянкі, ахова тут жа вывела Паддубяка з залы.

Тады падняўся адвакат Я. Смяроўскі:

– Прашу суд адхіліць заяву сведкі, бо абарона не мае магчымасці падрыхтаваць довады, каб зараз жа абвергнуць гэту заяву!

Зладзіўшы кароткую раду з суддзямі Барэйкам і Ядзевічам, Аўсянка туманна прапанаваў Страшынскаму даваць паказанні згодна

акта абвінавачання.

Тады ўзяў слова адвакат К. Петрусевіч:

– У такіх варунках абарона не можа працаваць!

Гэтым разам пярэчанне пачулі і пастанавілі: сведка не павінен гаварыць пра замах у Гродна!

І Страшынскі памяняў тэму, паведаміў, што “Грамада” разам з камуністамі ўдзельнічала ў выбарах у Меставую Раду і Касу Хворых, і г.д.

Але для грамадоўцаў Шушкевіча і Паддубяка нечаканая заява функцыянера займела ўсё ж такі цяжкі вынік – іх засудзілі на шэсць гадоў…

Дык што ж адбылося ў Гродна летам 1927 года?

В. Рагуля ўспамінаў:

“… пасля гутаркі са мною ў гатэлі “Гандлёвы”, ён (М. Гурын. – *Л. Д.-М.*) выйшаў ад мяне каля 11 г. увечары. Я не паспеў распрануцца, калі пачуў стук у дзверы і голас Гурына: “Адчыні!” Ён увайшоў бледны і сказаў: “Я ранены. На вуліцы Пілсудскага нейкі тып восем разоў выстраліў у мяне!” Я паклаў яго на сваім ложку і выклікаў паліцыйнага лекара. Быў напісаны паліцыйны пратакол. Мяне дапыталі ў якасці сведкі, а Гурына забралі ў шпіталь. Судовы следчы стараўся ўмяшаць у гэтую справу паслоў Тарашкевіча і Валошына, якія былі ў гэты дзень у Горадні /…/ Я сказаў, што не дапушчаю думкі аб іх удзеле ў гэтай справе, хоць у душы я і меркаваў, што без іх ведама (прынамсі, Валошына) гэта не абышлося…”

Правільна меркаваў сенатар і не толькі ён – газеты пісалі, што сведчанні М. Гурына вельмі страшылі грамадоўцаў, і яны хацелі, каб ён не з’явіўся ў судзе.

Клаўдзя Гоцка (іншае напісанне прозвішча – Ходзька), якую на “Працэсе 56-ці” засудзілі на чатыры гады турэмнага зняволення, пазней прызналася: “… з вялікай трывогай мы чакалі паказанняў… М. Гурына…”

Аднак жа, калі М. Гурына не стала, з’явіліся іншыя думкі.

У пятніцу, 23 сакавіка 1928 года, “Кур’ер Віленскі” на першай старонцы змясціў артыкул “Справа Грамады”, у якім журналіст Bor (пэўна ж, гэта псеўданім!) сцвярджаў: атмасфера, што ўтварылася пасля пагібелі М. Гурына можа адбіцца на лёсе кіраўнікоў “Грамады” яшчэ горш, чым ягоныя паказанні!

## 10. Дапамога і знявага Антону Луцкевічу

Навукоўцы У. Грамовіч і Т. Процька ў 3-м томе "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" паведамілі: М. Гурын на грамадоўскім працэсе "… у якасці сведкі даў паказанні супраць Б.А. Тарашкевіча і С.А. Рак-Міхайлоўскага…"

Гэта не зусім так.

Выступленне М. Гурына Аўсянка прызначыў на красавік (М. Машара ў рамане "Лукішкі" ўдакладніў: на 14 красавіка), але выступіць М. Гурын не паспеў – паехаў да Абрама на піва…

На трыццаць трэці дзень разбору, у панядзелак, 16 красавіка 1928 года ўвечары, пры зачыненых дзвярах (без публікі!) зачыталі яго паказанні – вось такая ягоная "прысутнасць" на працэсе!

І ў той жа дзень, 16 красавіка, адвакат К. Петрусевіч (у ліку іншых падсудных ён абараняў і Антона Луцкевіча) прасіў далучыць да справы 31-шы нумар "Беларускага Дня", у якім М. Гурын змясціў чарговы раздзел "З недалёкага мінулага" – раздзел меў назву "Антон Луцкевіч".

М. Гурын сантыментамі не займаўся, аднак жа, мяркую, адчуваў да А. Луцкевіча сімпатыю.

Скажам, калі надумаў прымірыцца з бальшавікамі (быў і такі манеўр!), то прасіў менавіта А. Луцкевіча паехаць у Сопат на сустрэчу з камуністамі і выступіць там у якасці пасрэдніка-прымірыцеля сэцэсіі з КПЗБ.

Давяраўся палітыку, які назваў сэцэсію (нагадаю) голасам нацыянальнага сумлення, – такая ацэнка М. Гурыну не магла не спадабацца…

У 31-м нумары ён пісаў: камуністы ніколі не лічылі А. Луцкевіча сваім; А. Луцкевіч замінаў ім, раздражняў сваёй прысутнасцю ў Вільні, блытаў камуністам планы і наогул – з'яўляўся іхнім недругам.

М. Гурын даводзіў сваю пазіцыю да зусім яснага выніку, калі цытаваў старшыню ЦВК БССР А. Чарвякова, які атэставаў А. Луцкевіча "… як спрытнага і разумнага праціўніка камуністаў, з якім трэба лічыцца і сцерагчыся…"

І тут вельмі цікавая наступная акалічнасць!

31-шы нумар "Беларускага Дня" выйшаў 22 кастрычніка 1927 года, а дзесяць дзён таму, 12 кастрычніка, А. Луцкевіч быў арыштаваны і справаджаны ў Лукішкі як адзін з правадыроў пракамуністычнай (!) "Грамады".

Уражаны гэтай падзеяй, М. Гурын ці не свядома ў сваёй публікацыі зрабіў акцэнт на антыкамунізме арыштаванага!

Санацыя змагалася з камунізмам, таму гэта публікацыя, упэўнены, дапамагла А. Луцкевічу; дзякуючы і ёй (і не ў малой ступені!) яго апраўдалі.

– Замест выступлення я магу прачытаць артыкул М. Гурына! – невыпадкова гэта падкрэсліў у сваім заключным слове ў пятніцу 11 траўня 1928 года адвакат К. Петрусевіч. – М. Гурын напісаў, што камуністы заўсёды варожа ставіліся да А. Луцкевіча і хацелі яго ліквідаваць, запрашаючы на лячэнне ў Крым! Але здагадваючыся чым можа скончыцца гэта лячэнне, А. Луцкевіч адмовіўся ехаць! Ён паралізаваў дзейнасць камуністаў, таму павінен быць апраўданы!

Словам, адвакат ведаў, што рабіў, калі на трыццаць трэці дзень разбору звяртаў увагу суддзяў на публікацыю М. Гурына; вопытны абаронца разлічыў дакладна: М. Гурын быў у фаворы ва ўлады, любое яго паказанне, нават не з яго вуснаў, а зачытанае судовым пісарам, прымаецца адразу, як слушнае, тады і слова, надрукаванае панам Ф. Умястоўскім, таксама павінна станоўча паўплываць на суддзяў!

А яшчэ адвакат прасіў запрасіць на разбор у якасці сведкі і самога Ф. Умястоўскага, які мог бы пацвердзіць, што аўтарам згаданай публікацыі сапраўды з’яўляецца М. Гурын.

Суд вырашыў прыняць рашэнне толькі пасля таго, як з гэтым матэрыялам пазнаёмяцца пракуроры.

Само па сабе, пракуроры Калапскі і Раўзэ прачыталі матэрыял і сярод іншага, думаю, не прамінулі і тое, што сакратар польскай секцыі Камінтэрна Багуцкі даваў заданні сваім паслухмяным падначаленым пісаць супраць А. Луцкевіча брудныя фельетоны…

Трэба думаць, не толькі М. Гурын, Ф. Умястоўскі таксама меў да А. Луцкевіча прыхільнасць, і зразумела чаму – разам жа пачыналі беларускі рух і разам закладалі БСГ, першую нацыянальную партыю.

Пра арышт былога паплечніка Ф. Умястоўскі змясціў у 30-м нумары сваёй “беспартыйнай часопісі” даволі спагадны водгук і, мусіць жа, сам яго і напісаў, зрабіўшы акцэнт: беларуская інтэлігенцыя, да якога б не належала палітычнага лагера, заўсёды “… шануе Луцкевіча, як выдатную беларускую інтэлектуальную сілу…”, а таксама ж Ф. Умястоўскі назваў няпраўдай сцвярджэнне польскіх газет, што А. Луцкевіч кіраваў “Грамадой”.

Так, сцвярджэнні такія з’яўляліся – скажам, у чацвер 13 кастрычніка 1927 года ў “Дзенніку Віленскім” можна было прачытаць

артыкул пад кідкай назвай “Арышт правадыра (!) “Грамады” А. Луцкевіча”…

Аднак жа не думаю, што ўсе такія назвы-загалоўкі мелі заўсёды свядома правакацыйны характар.

Для ўсіх А. Луцкевіч з’яўляўся агульнапрызнаным лідарам беларускага руху, таму польскія журналісты іншы раз машынальна ставілі яго імя на чале “Грамады” – самай вядомай на той час легальнай нашай арганізацыі.

У сваім водгуку Ф. Умястоўскі нагадаў таксама, што А. Луцкевіч выступаў супраць падзелу Беларускага Пасольскага Клуба на “Грамаду” і ўласна “Клуб”.

Дарэчы, супраць гэтага падзелу-расколу, які быў выгадны сталіністам, выступаў і М. Гурын; ён лічыў – раскол аслабіць нацыянальнае палітычнае поле і давядзе да бойкі беларусаў з беларусамі.

Так яно, зрэшты, і сталася…

Ф. Умястоўскі пісаў, што, стоячы за дзяржаўнасць Беларусі, А. Луцкевіч не прыняў “Грамаду” ў яе існым варыянце (намёк на “чырвоны” кірунак арганізацыі!); працуючы ў грамадоўскіх выданнях, не вызначаў іхнюю палітыку, бо не з’яўляўся не тое што кіраўніком – нават чальцом партыі, аб чым аднойчы і заявіў у тыднёвіку “Пшэглёнд Віленскі”.

Сапраўды, 14 чэрвеня 1926 года склаў такую заяву, і прычына яе з’яўлення наступная…

Днём раней, у 11-м нумары “Пшэглёнду Віленскага”, нейкі ананім “ех” паведаміў, што на пахаванні паэта Казіміра Сваяка, на службе ў Віленскім касцёле Святога Мікалая ад “Грамады” прысутнічаў  А. Луцкевіч.

І вось у бліжэйшым, 12-м нумары выдання (яно з’явілася 27 чэрвеня 1926 года) А. Луцкевіч заявіў, што на пахаванні Казіміра Сваяка ад “Грамады” былі паслы С. Рак-Міхайлоўскі і Ю. Сабалеўскі, а ён быў толькі ад… самога сябе.

Дарэчы, фраза пра беларускую інтэлігенцыю, якая шануе А. Луцкевіча, абурыла яшчэ аднаго ананіма, які накіраваў у рэдакцыю “Беларускага Дня” ліст за подпісам “Інтэлігент”.

Гэты ананім прызнаваў заслугі А. Луцкевіча ў беларускай культуры, аднак жа не ў палітыцы, бо ў палітыцы ён “… прывык заўсёды хавацца за чужыя плечы…”; у палітыцы, даказваў новы ананім, ён толькі тым і займаецца, што зневажае іншых беларускіх дзеячаў.

Ф. Умястоўскі надрукаваў пісьмо “Інтэлігента” ў тым жа 31-м

нумары – толькі калі слова М. Гурына даў у самым пачатку, на старонках – другой, трэцяй і чацвёртай, то згаданае пісьмо змясціў на апошняй, дванаццатай паласе.

Надрукаваў і прыпіску, згодна якой рэдакцыя ацэньвала А. Луцкевіча толькі як дзеяча культуры.

І ні слова, што ў зацемцы пра арышт ішла гаворка і пра А. Луцкевіча-палітыка!

Больш таго, прыпіска завяршалася гэтак:

"… а ў галіне яго (А. Луцкевіча. – Л. Д.-М.) палітычнай працы /рэдакцыя/ зусім падзяляе закіды, зробленыя ў пісьме…"

Ф. Умястоўскі здыпламатнічаў, не захацеў сварыцца з "Інтэлігентам", адным са старэйшых, як сам заявіў у гэтай жа прыпісцы, нашых адраджэнцаў, імя якога раскрыць не мог.

Так, Ф. Умястоўскі меў да былога паплечніка прыхільнасць, аднак жа, здаецца, і не заўважыў, як абразіў яго!

Падзяліўшы закіды "Інтэлігента", не адкінуўшы іх, ён, як бачым, згадзіўся з тым, што былы ягоны сябар у палітычнай дзейнасці "…прывык заўсёды хавацца за чужыя плечы…"

Сваім ворагам А. Луцкевіч не шкадаваў моцных слоў, гэта праўда, і тут можна прыняць закід "Інтэлігента", што ён зневажае беларускіх дзеячаў.

Але каб хаваўся за чужыя плечы!

Гэта ўжо занадта…

Заснавальнік дзяржаўнага нашага жыцця так хаваўся за чужыя плечы, што ў кастрычніку 1927 года зноў, у чарговы раз, трапіў за краты!

## 11. У судзе і ў турме

Паводле гісторыка Анатоля Сідарэвіча, Антон Луцкевіч даволі насцярожана ставіўся да М. Гурына – усё-ткі былы бальшавік!

Цікава: ці згадваў "былога бальшавіка" пасля 16 сакавіка 1928 года?

Згадваў – аднойчы ў судзе (вусна) і аднаго разу ў турме (пісьмова)…

7 жніўня 1933 года ў Віленскім акруговым судзе слухалі справу рэдактара газеты "Беларускі Звон" М. Сіняўскага, які надрукаваў навіну: Ф. Ярэміч браў у Варшавы грошы для змагання з "Грамадой"!

Ф. Ярэміч, само па сабе, заявіў, што гэта паклёп.

Як сведка абароны, Антон Луцкевіч давёў да ведама: у сваёй

газеце “Сялянская Ніва” Ф. Ярэміч змяшчаў правакацыйныя артыкулы, з якіх можна было даведацца, напрыклад, што ён, Антон Луцкевіч, меў “сувязь” з бальшавіком Мясніковым; пракуроры і пракурорскія сведкі, абвінавачваючы “Грамаду”, зазвычай спасылаліся на антыграмадоўскую “Сялянскую Ніву”.

Антон Луцкевіч пераконваў суд: усе віленскія беларусы (М. Сіняўскі таксама!) ведалі, што Ф. Ярэміч быў сваім для віцэ-ваяводы Кірцікліса, сябраваў з Гурыным і агентам дэфензівы Валэйшам (намёк: перад Ф. Ярэмічам лёгка расчыняліся любыя дзверы!), таму інфармацыя, змешчаная ў “Беларускім Звоне”, праўдзівая…

А 17 лістапада 1939 года ў турме НКУС у сваіх “собственноручных показаниях…” Антон Луцкевіч назваў М. Гурына “известным коммунистическим деятелем”; не збаяўся даць такую атэстацыю, хаця й ведаў: М. Гурын для сталіністаў – вораг, правакатар.

### 12. Забойства, канфіскаваныя газеты і Вера Тарашкевіч

У сваёй заключнай прамове 8 траўня 1928 года Раўзэ пашкадаваў, што М. Гурын не паспеў выступіць – толькі злажыў прысягу; шкадаванне зразумелае – непасрэдныя паказанні былога чальца ЦК КПЗБ павінны былі стаць кульмінацыяй працэсу.

Як вядома, разбор пачаўся ў чацвер, 23 лютага 1928 года, а праз тры тыдні, на адзінаццаты дзень слуханняў, “галоўнага сведкі” не стала…

Чытаю газету “Слова”:

“… У 10 г. 30 хв. вечарам, у пятніцу, 16 сакавіка 1928 года, у Вільні, паблізу кавярні Тамашэвіча, якая знаходзіцца на вуліцы Ягелонскай, 5 – пачуўся стрэл…”

Так пачынаецца нататка пра забойства М. Гурына; нататка вельмі запозненая – трагедыя сталася, як сказана, у пятніцу 16 сакавіка, а штодзённая газета (толькі ў панядзелак не выходзіла) паведаміла пра падзею, можна сказаць, праз тыдзень – ажно ў чацвер 22 сакавіка!

Чаму?

З такой крыклівай навіной і так спазніцца?!

Мяркую, напісаць пра здарэнне ў суботнім нумары за 17 число было не зусім рэальна – забойства адбылося ж позна ўвечары ў пятніцу.

А вось у нядзелю…

Хутчэй за ўсё “Слова” і змясціла сваю спешную нататку ў нядзелю 18 сакавіка, аднак жа нумар быў канфіскаваны, як і нумары

іншых віленскіх газет з гэтай неверагоднай навінай.

Чамусьці першая рэакцыя ўлады на аператыўную работу журналістаў была менавіта такая – не зусім зразумелая.

Няўжо дэфензіва спрабавала (ну, хоць на некалькі дзён!) утаіць факт смерці М. Гурына?

Не хацела, ці што, каб пра гэта адразу даведаліся і, само па сабе, узрадаваліся падсудныя грамадоўцы?!

Словам, пытанне застаецца адкрытым…

Адносна згаданых канфіскацый і пратэстаў у сувязі з імі гаворка будзе ніжэй, а пакуль што вярнуся да “Слова”:

“… Праз хвіліну ў кавярню ўваліўся паранены і ўпаў у праходзе паміж пакоямі. За параненым убег забойца і з пісталета стрэліў тры разы і са сваім памочнікам знік…”

Сапраўды, забойца Клінцэвіч быў не адзін, яго кантраляваў Капуцкі, якога прызначылі кіраваць замахам, аднак з ласкі рэпарцёра ён фігуруе тут як сціплы “памочнік”.

А Клінцэвіч у сваіх кананічных успамінах “Як я расправіўся з правакатарам Гурыным” наогул не згадаў Капуцкага…

“Слова” апавядала:

“… Тамашэвіч у забітым пазнаў Гурына, які часта бываў у яго кавярні. Вартаўнікі (!) з таварыства Klucze затрымалі забойцу. Яго напарнік уцёк…”

“Слова” гаворыць пра вартаўнікоў (двух? трох?), але іншыя газеты называлі толькі аднаго вартаўніка, які ўдзельнічаў у затрыманні.

І сам Клінцэвіч пісаў пра аднаго нечаканца, што перакрыў яму шлях…

У сваім ранейшым выпуску “Слова” заўважыла:

“… жонкі абвінавачаных (лідараў “Грамады”. – Л. Д.-М.) у дзень забойства Гурына не прыйшлі ў суд…”

І тут ёсць над чым задумацца!

Усе дні хадзілі, – і раптам не прыйшлі!

І менавіта ў гэты дзень!

І менавіта ўсе (!) не прыйшлі.

Занятыя былі?

Захварэлі?

Ці проста дзіўнае супадзенне такое?

А можа ўсё ж такі існавала нейкая сувязь паміж стрэламі Клінцэвіча і адсутнасцю гэтых жанчын у судзе?!

І “Слова” намякала на гэту сувязь і сваім чытачам, і, магчыма, палітычнай паліцыі?

Уважлівая была газета; пасля скону М. Гурына тут жа адзначыла, што жонкі галоўных грамадоўцаў вярнуліся ў суд:

“… Сёння ж усе яны ў судзе. Ёсць і Вера Тарашкевіч, якую затрымалі на Ягелонскай у хвіліну забойства…”

Зноў дзіва дзіўнае!

У такі позні час (палова адзінаццатай вечара!) і менавіта ў хвіліну забойства жонка Б. Тарашкевіча спадарыня Вера знаходзілася паблізу кавярні Тамашэвіча!

Што яна там рабіла?

Можна падумаць, – таксама сачыла за ворагам свайго мужа М. Гурыным, які, дарэчы, пісаў пра Б. Тарашкевіча, што ў таго, як у палітыка, бывае сем пятніц на тыдні!

Што й казаць, адмоўны водгук, і ў жаночае сэрца ён мог апусціцца пякучай крыўдай!

А яшчэ можна падумаць і пра вядомую чырвоную руку, якая магла кіраваць жонкамі лідараў “Грамады”!

І гэта ніякая не метафара.

Невыпадкова ж сакратар МОПРа У. Вольскі ў гэты час быў у Вільні, нават жыў у Веры Тарашкевіч!

Само па сабе, знаны камуніст прыбыў не толькі дапамагаць падсудным грамадоўцам; відавочна ж меў і яшчэ нейкую місію…

І, безумоўна, цікавы й гэты факт: пракурор Віленскага акруговага суда загадаў канфіскаваць газеты, якія паведамілі пра пагібель М. Гурына.

Акрамя “Слова”, канфіскацыі падлягалі “Кур’ер Віленскі” і “Дзеннік Віленскі” – паводле Якуба Міско “так званая апазіцыйная прэса”, а паводле “Пшэглёнду Віленскага” – прэса паслухмяная і пакорлівая!

Ды не (не магу не адзначыць!) – не так званая і не такая ўжо і пакорлівая; і цікавая была, і бараніцца ўмела…

Сіндыкат журналістаў заявіў пратэст супраць пастановы пракурора, а выдаўцы прыпынілі выпуск газет на тры дні (“Дзеннік Віленскі”, праўда, на трэці дзень выйшаў).

Пратэст заўважылі і ў краі, і за мяжой; у краі ўздыхалі: калі пад такім дзяржаўным ціскам знаходзяцца польскія выданні, то што ўжо казаць пра існаванне беларускіх, габрэйскіх і літоўскіх газет…

Ва ўсе часы канфіскацыя – любімая гульня чыноўнікаў, і камбінацыі яны праводзілі (і праводзяць!) самыя розныя.

Скажу пра тую, якая па тэме…

Калі ў сераду 12 кастрычніка 1927 года А. Луцкевіч апынуўся ў турме, Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) заявіў: гэты арышт –

яшчэ адзін удар па беларускім руху, таму неабходна і далей змагацца за свае правы.

Пратэст БНК з'явіўся ў 5-м нумары "Нашай Працы" 15 кастрычніка 1927 года.

А якраз быў прыняты новы закон аб друку, пяцідзесяты артыкул якога забараняў праслаўляць злачынцаў.

І вось калі камісар урада канфіскаваў 5 нумар "Нашай Працы", то Віленскі акруговы суд тут жа зацвердзіў гэту канфіскацыю, бо расцаніў пратэст БНК менавіта як праслаўленне злачынцы!

**13. Езуіт Ясінскі і вера – душа ляноты**

Адгукнуўся на трагедыю і "Беларускі Дзень"; 25 сакавіка (на 10-я ўгодкі абвяшчэння БНР!) тыднёвік пісаў:

"… ад кулі забойцы згінуў беларус… Мы не ведаем, ці забойца ёсць беларусам, калі ж так, то вывад з трагічнага морду (забойства. – Л. Д.-М.) яшчэ цяжэй, яшчэ сільней кладзе жах і сум на душу кожнага беларуса…"

Чулае слова, адметнае нацыянальным смуткам, і смутак гэты робіць уражанне, што непазбыўнае наша самазнішчэнне – працэс бясконцы, бо – … згінуў беларус… ці забойца ёсць беларусам…

Тыднёвік не схаваў расчаравання і з той прычыны, што сведка абвінавачання (начальнік ваяводскага камісарыята палітычнай паліцыі ў Беластоку!) Ясінскі выставіў М. Гурына ў ролі інфарматара аб дзейнасці "Грамады" яшчэ задоўга да яе ліквідацыі, у выніку чаго ў стваральніка сэцэсіі паляцелі камяні з усіх бакоў!

Вывядоўца дэфензівы Ясінскі зрабіў сваю работу прафесійна – надзейна падчапіў ахвяру на крук!

Загнаны ў кут М. Гурын адчуў гэта адразу і таму свой ліст ад 3 лістапада 1927 года адрасаваў не толькі грамадоўцам і камуністам – Ясінскаму таксама; хіба ж не да "адрасата" Ясінскага звернута заўвага, што ў дні стварэння "Грамады" ён, М. Гурын, сядзеў у турме і ніколі не прысутнічаў на пасяджэннях яе цэнтральнай управы, і ніколі не бываў на сходах вясковых гурткоў "Грамады"!

І ў такім разе ці не ўзнікала пытанне: як гэткі сведка мог на судзе выступаць у ролі дасведчанага (!) інфарматара аб дзейнасці менавіта "Грамады"?

Пытанне лагічнае, але езуіту Ясінскаму логіка не патрэбна была.

Ён разважаў:

"Так, М. Гурын знаходзіўся ў вязніцы, калі закладалася "Грамада"; так, пра дзейнасць яе цэнтральнага сакратарыята і нізавых

структур ён не меў дакладнага ўяўлення!

Ну, дык і што?

Хіба не дастаткова таго, што ён яшчэ да нараджэння “Грамады” быў добра знаёмы з яе заснавальнікамі – Б. Тарашкевічам, С. Рак-Міхайлоўскім, П. Мятлой, Р. Астроўскім?!

Меў з імі шчыльную сувязь!

І сустрэчы з А. Луцкевічам шмат пра што гавораць!

А галоўнае – на допытах сам разгаварыўся!

Сам!

Хай не адразу, але ўсё ж такі…”

На жаль, гэта была праўда…

Надарваўшы сэрца ў смяротнай грызні з палітычнымі ворагамі, М. Гурын страціў разважлівасць і заключыў пагадненне з езуітам.

А самае страшнае нават не гэта.

Натомлены псіхолаг, ён (не маючы сілы і ўлады!) думаў – гарачым словам, артыкуламі, пераканаць грамадства ў сваёй правасце.

Нібыта й не ведаў, што людзей – і простых, і няпростых (за выключэннем хіба што адзінак, нейкіх абсалютна выдатных асоб!) – можна пераканаць толькі пры дапамозе страху і грошай.

А як жа моладзь? – спытаеце.

Здаецца, без уздзеяння страху і грошай яны (тыя ж камсамольцы!) йшлі на смерць у імя ідэалаў камунізму…

Сапраўды, ішлі, бо не мелі выбару…

На смерць іх пасылаў Ленін, ці найбольш Сталін – увасабленне абсалютнага страху!

І моладзь, якая верыла ў голыя лозунгі, таксама была паралізаваная страхам…

Адстойваючы сваю правату, даказваючы ідэйнае разыходжанне з камуністамі і грамадоўцамі, М. Гурын яшчэ забыўся і пра сутнасць чалавечай натуры – людзі ў пераважнай большасці сваёй часцей *вераць*, чым *думаюць*, бо думаць значна цяжэй, чым верыць.

Каб думаць – трэба ўмець думаць; трэба вучыцца гэтаму; трэба намагацца, трымаць розум у дысцыпліне, выдаткоўваць час, а веры – ні час, ні дысцыпліна, ні намаганне, ні вучоба, ні ўменне не патрэбны!

Вера – душа ляноты!

Сваё думанне (інтэлект!) пры жаданні можна ўзбагаціць, паглыбіць, пабольшыць, а вера найменш паддаецца такім зменам, таму яе прастора ў чалавеку ад нараджэння да смерці амаль аднолькавая.

Вера (як у вялікае, так і ў дробнае) намаганняў не патрабуе,

асабліва калі яна накіроўваецца ўладай!

Вось чаму ў Заходняй Беларусі і БССР адразу ж паверылі: М. Гурын – правакатар!

Не паверыў хіба што адзін Янка Купала, аб чым згадка яшчэ будзе…

Ясінскі выканаў сваю місію – падрыхтаваў грамадскую думку…

На пяты дзень працэсу, у аўторак, 28 лютага 1928 года, спасылаючыся на паказанні яшчэ жывога М. Гурына, афіцэр далажыў: “Грамада” паўстала па загадзе Камінтэрна…

А нейкія тры гады назад М. Гурын марыў, каб яго новая партыя мела сваё прадстаўніцтва менавіта ў Камінтэрне.

Як усё раптоўна змянілася!

Былыя сябры саштурхнулі яго ў яму, аднак жа і сам ён шмат нарабіў, каб страціць раўнавагу.

Што было станоўчым, стала адмоўным, і вось пайшло-паехала: “Грамада” – дзіця Камінтэрна; грамадоўскія газеты друкаваліся за грошы ўсё таго ж Камінтэрна, а сама гэта арганізацыя створана дзеля таго, каб падбухторваць просты народ да бунту.

Зрэшты, і без гурынскіх несамавітых паказанняў нават самы апошні паліцыянт з самага апошняга пастарунка добра ведаў пра мэты Камінтэрна.

А камендант якой-небудзь павятовай паліцыі за шклянкай гарбаты з выглядам знаўцы апавядаў, скажам, каменданту гміннай паліцыі, з якой крыніцы фінансуюцца грамадоўскія газеты.

А што ўжо казаць пра вышэйшых чыноў дэфензівы!

Яны ведалі амаль усё, і не таму, што былі нейкімі рэдкімі майстрамі вышуку, а ў вялікай ступені таму, што лідары “Грамады” мала пільнаваліся канспірацыі.

Пэўна ж, моцна верылі ў сваю пасольскую (дэпутацкую) недатыкальнасць і таму адчувалі сябе ў адноснай бяспецы!

Напрыклад, без асаблівай засцярогі прынялі прапанову заснаваць Беларускі Банк і першыя камінтэрнаўскія паступленні (15000 даляраў) распісалі часткова на сябе, часткова на сваіх родных.

Новыя валютныя паступленні не забавіліся; словам, палітыкі адразу разбагацелі – прынамсі, кіраўнікі банка (дырэктар Р. Астроўскі набыў сабе асабняк, а галоўны бухгалтар А. Коўш купіў дом).

Разумныя людзі, аднак жа ніхто нават і не падумаў, як адказаць на пытанне, якое можа ўзнікнуць (і ўзнікла!):

– Адкуль жа паходзяць грошы, на якія купляецца ў Вільні багатая нерухомасць і наогул на якія зберажэнні так нечакана і хутка паўстаў Беларускі Банк?

Галовы кружыліся ад палітычнага дыму:

“А што думаць, калі трэба дзейнічаць! А што пільнавацца, калі неўзабаве паўстанне і на дапамогу прыйдзе Чырвоная Армія! А што асцерагацца, калі польскай дзяржавы заўтра не будзе!”

А калі так, то можна, не гуляючыся ў вялікае падполле, адкрываць банкаўскія філіі ў Пінску і ў Глыбокім, а таксама ж на свае акцыі ў паветы можна ў звычайных паштовых канвертах (!) перасылаць чэкі на самыя розныя сумы…

Я не апраўдваю з ног да галавы М. Гурына, бо зноў жа, спасылаючыся на яго паказанні, Ясінскі рапартаваў суду, што Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Валошын, П. Мятла І Р. Астроўскі знаходзіліся ў кантакце з камуністамі; кампартыя Польшчы праз КПЗБ пры дапамозе сувязнога Р. Астроўскага давала кіраўнікам “Грамады” неабходныя інструкцыі…

Так, я не апраўдваю М. Гурына, але зазначу: віна яго адразу робіцца меншай, калі толькі падумаеш: “А не варта было і лідарам “Грамады” губляць галаву, страчваць пільнасць і зусім падпадаць пад уладу камуністаў!”

## 14. Свой знішчыў свайго

Тыднёвік Ф. Умястоўскага ў роспачы пытаўся: няўжо забойца з’яўляецца беларусам?

Так, Сямён Клінцэвіч быў беларусам, і заміж таго, каб, скажам, паехаць у Маскву і ліквідаваць Сталіна (сапраўднага правакатара!), прыехаў у Вільню і ліквідаваў М. Гурына.

Свой знішчыў свайго – формула нашага існавання!

Спрадвеку на чужую карысць беларусы нішчылі беларусаў і не разумелі, што гэта іхняя асноўная бяда, а чужынцы ім, сваім адданым слугам, выносілі падзяку – зазвычай кулю ў патыліцу!

Гэтак жа аддзячылі і Клінцэвічу з Капуцкім, які таксама ж беларус…

Нагадаю: сэцэсію М. Гурын рабіў не адзін, меў памочнікаў, з якіх спрытнейшыя былі якраз Клінцэвіч і Капуцкі, але спрытнейшыя звычайна спрытныя ва ўсім (а ў здрадзе дык пагатоў!) і менавіта яны першыя здрадзілі свайму старэйшаму таварышу, пакаянна вярнуліся да бальшавікоў і, каб замаліць раскольніцкія грахі, пакляліся звесці свайго кіраўніка са свету.

Расправу прымеркавалі на сакавік 1928 года і адвялі на выкананне месяц-паўтара.

Чаму не спяшаліся?

Бо час быў, бо толькі 17 красавіка ў Беластоку пачынаўся “Працэс 133-х” – судзілі камуністаў і ў ліку іншых такіх вядомых, як В. Харужая і М. Арэхва.

М. Гурын у якасці сведкі абвінавачання меўся выступіць і на гэтым судзе.

І тут яму было што канкрэтна сказаць і значна больш, чым на грамадоўскім разборы – тут ён ведаў саму кухню!

Сапраўды, правільна пісала К. Гоцка – грамадоўцы баяліся паказанняў М. Гурына на “Працэсе 56-ці”, аднак жа камуністы на сваім “Працэсе 133-х” выступлення М. Гурына баяліся ўдвая больш.

Выносячы яму смяротную пастанову, яны, вядома ж, дбалі пра сябе, а не пра грамадоўцаў.

А хто б сумняваўся!

О, каб іх непакоіў лёс Б. Тарашкевіча і С. Рак-Міхайлоўскага, то яны ўсё б зрабілі, каб М. Гурына загнаць у магілу яшчэ да 23 лютага 1928 года – то бок, да пачатку “Працэсу 56-ці”.

Аднак жа галоўны выканаўца Клінцэвіч асабліва не рупіўся, у сваіх успамінах ён паведамляе: “У сакавіку 1928 года я прыехаў у Вільню…” – гэта значыць, тады, калі суд над грамадоўцамі не проста пачаўся, а ўжо набраў поўны ход…

Клінцэвіч прыбыў у Вільню падчас выбарчай кампаніі – 4 сакавіка прайшлі выбары ў сейм, 11 сакавіка – у сенат, і з гэтай прычыны на грамадоўскім працэсе суддзя Аўсянка абвясціў перапынак.

Не называючы праўдзівага прозвішча забойцы, В. Рагуля сцвярджаў: “… Гурын быў застрэлены… нейкім маладым чалавекам з-пад Траб, Усціновічам…”

Трэба думаць, Клінцэвіч меў фальшывы польскі пашпарт на імя гэтага Усціновіча.

“Кур’ер Віленскі” ў разгорнутым (таксама спозненым з улікам канфіскацыі і дзён пратэсту!) паведамленні за 21 сакавіка 1928 года таксама не назваў імя Клінцэвіча.

Дарэчы, рэдакцыя “Кур’ера” знаходзілася там жа, на Ягелонскай, побач з кавярняй Тамашэвіча – у доме № 3.

Магчыма, нехта з супрацоўнікаў газеты ў той позні час быў у рэдакцыі, ці нават праходзіў міма месца злачынства, і такая істотная акалічнасць, вядома ж, паспрыяла таму, што матэрыял атрымаўся даволі падрабязны – прынамсі, значна цікавейшы, чым у таго ж “Слова”, і нават надрукаваны быў на дзень раней.

**15. Падрабязнасці “Кур’ера Віленскага” і ці можна страляць у паліцыянтаў…**

“Кур’ер” паведамляў:

“У пятніцу а 22-й з мінутамі ў кавярні Тамашэвіча – Ягелонская, 5 – учынена агіднае забойства… Міхала Гурына.

У кавярню Тамашэвіча тут жа (!) прыбылі меставы стараста Вацлаў Ішора, а крыху пазней пракурор Раўзэ, судовы следчы, функцыянеры палітычнай паліцыі, паліцыйны фатограф…”

Тое, што на месца злачынства хутка з’явіліся вышэйназваныя асобы (хоць і было ўжо даволі позна!) толькі сведчыць: М. Гурын для ўлады меў немалую вагу.

“Кур’ер” вёў далей:

“… Забойцу арыштавалі і пасадзілі ў турму. Сведкі злачынства пан Тамашэвіч і пан N, дазорац таварыства Klucze, які затрымаў забойцу на рагу вуліц Гданьскай і Віленскай, расказалі…”

Удакладню.

Дазорац N не быў сведкам злачынства, і ён затрымліваў Клінцэвіча не адзін, а разам з паліцыянтам.

Прозвішча дазорца, як бачна, схавана пад літарай N – мусіць жа, баяліся называць яго праўдзівае імя, каб камінтэрнаўцы не адпомсцілі чалавеку!

А вось імя гаспадара кавярні назвалі – трэба думаць, лічылі: Тамашэвічу нічога не пагражае.

Сведкамі злачынства былі яшчэ жонка Тамашэвіча, яго дачка і заўсёднікі.

Клінцэвіч жа дабіваў М. Гурына на іх вачах; дабіваў і… нават не думаў, што можа да смерці ўсіх напалохаць!

І, відаць па ўсім, напалохаў – увагнаў у такі страх, што яны, бедныя, і слова сказаць не маглі, таму следства адступілася ад іх, і ў выніку газета не згадала ў якасці сведкаў ні жонку Тамашэвіча, ні яго дачку, ні кліентаў…

Спалох родных, мяркую, пазней скруціў і Тамашэвіча, стала цяжка працаваць у памяшканні, – падлога, сцены і мэбля якога былі заплямлены крывёй.

Як не мый, кроў чалавечую не адмыеш.

І добрая палова кліентаў, можна лёгка ўявіць, адкінулася – страшна піць там, дзе забіваюць.

У 1932 годзе па адрасе Ягелонская, 5 ужо знаходзілася не кавярня, а Жаночы саюз грамадзянскай працы – трэба думаць, Тамашэ-

віч перавёў сваё прадпрыемства ў іншае месца ці наогул закрыў яго.

Словам, стрэлы Клінцэвіча трапна пацэлілі, кажучы сённяшняй мовай, і ў чужы бізнес!

Быў і яшчэ адзін сведка забойства – спадарожнік М. Гурына, самім Клінцэвічам названы галоўным агентам палітычнай паліцыі Віленскага ваяводства, аднак жа і ён у газетным паведамленні не абазначаны.

Мусіць жа, з той прычыны, што агентаў нельга раскрываць.

“Кур’ер” працягваў:

“… Гурына арыштавалі ў Польшчы і засудзілі на два гады цяжкой турмы.

Адседзеўшы ў гродзенскай вязніцы, не пакінуў канспіратыўнай работы, але неўзабаве расчараваўся ў камунізме, бо зразумеў: бальшавікі з’яўляюцца найбольшымі ворагамі беларускага народа!

З таго часу варожа стаў успрымаць савецкую палітыку да беларусаў…”

Гэтыя радкі – нібыта сціслы пераказ асобных абзацаў усё таго ж ліста ад 3 лістапада; магчыма, рэпарцёр “Кур’ера” атрымаў кансультацыю Ф. Умястоўскага.

Далей ішло сцвярджэнне: М. Гурын “… узненавідзеў “Грамаду”, чальцом якой быў…”

Не, грамадоўцам М. Гурын не з’яўляўся (тут ліберальная газета перабрала меру і ці не свядома зрабіла гэта!), а што да нянавісці…

Вышэй была гаворка: М. Гурын узненавідзеў “Грамаду”, бо лічыў яе масавай правакацыяй, аднак жа галоўная прычына ягонай нянавісці, думаю, крылася ў зайздрасці!

Амбітны дзеяч марыў пра сваю беларускую партыю, але такую партыю, і вельмі шматлікую, стварыў не ён, а Б. Тарашкевіч!

І як тут не ўзненавідзець і таго ж Б. Тарашкевіча, і ягоную “Грамаду”!

Газетнае апавяданне ўсё больш рабілася акрэсленым:

“… Тамашэвіч убачыў трох мужчын, якія гутарылі перад яго кавярняй, – сярод іх знаходзіўся Гурын; ён заўсёды прыходзіў у таварыстве двух спадарожнікаў…”

Сапраўды, М. Гурын да Тамашэвіча ніколі адзін не завітваў і заўсёды – памятаем – вёў перамовы па-беларуску і шэптам; баяўся, каб не падслухалі…

Тут жа ён размаўляў на вуліцы, ля кавярні, але з кім?

У прысутнасці агента паліцыі (ці разумеў агент беларускую мову?!) гаварыў з… Клінцэвічам!

Апошні ж у сваіх успамінах пра гэту гаворку ні слова не вы-

ціснуў!

Баяўся АДПУ!

Вярнуўшыся ў Менск, небяспечна было згадваць гэту гаворку, бо як ні круці, а падпадае пад абвінавачанне – кантакт з ворагам!

І няхай гэты вораг ім жа, Клінцэвічам, тут жа і пушчаны ў царства нябеснае, а ўсё адно – кантакт…

Але пра што, не зважаючы на дэфензіўшчыка, маглі гутарыць былыя сябры, нядаўнія паплечнікі, калі адзін з іх ужо трымаў напагатове зброю?

Хутчэй за ўсё М. Гурын угаворваў Клінцэвіча не страляць, не забіваць яго, падумаць і застацца з ім у Вільні.

Для чаго?

Ну, мусіць жа, для ўсё той жа сэцэсійнай работы.

Не ўгаварыў…

Не знайшоў патрэбных слоў…

Пад руляй пісталета паспрабуй, знайдзі іх…

“Кур’ер” з бачным рэпарцёрскім азартам падаваў:

“… Раптам пачуўся дзіўны трэск; Тамашэвіч і не падумаў, што гэта рэвальверныя стрэлы…”

Стрэлы?

Уражліваму Тамашэвічу здалося, што прагучала некалькі стрэлаў, аднак жа на вуліцы, на парозе кавярні, Клінцэвіч страляў толькі адзін раз.

“… Адчыніліся дзверы, і ў кавярню хісткай хадой ступіў Гурын; абапёрся аб столік, які стаяў пры дзвярах, крыху прайшоў наперад, аблёгся на печ і моўчкі асунуўся на падлогу.

У кавярню ўбег адзін з тых, хто размаўляў на вуліцы, і тры разы стрэліў у Гурына…”

Відаць па ўсім, Клінцэвіч валодаць зброяй умеў; у менскай школе КПЗБ (як у Лошыцы, так і ў Грушаўцы) не толькі марксізму-ленінізму навучалі, аднак жа вадзілі і ў цір…

Рэпарцёр “Кур’ера” прадчуваў свой журналісцкі поспех, і каб гэты поспех быў паўнейшы, крыху падбаўляў непрыдуманаму сюжэту вастрыні; напрыклад, прыдумаў, што Клінцэвіч двойчы стрэліў і ў пастарунковага!

“… На стрэлы прыбег пастарунковы, які нёс ахову на рагу вуліц Віленскай і Міцкевіча.

Забойца ж стрэліў у яго два разы і кінуўся наўцёкі…”

Няўжо Клінцэвіч забыў правіла: у паліцыянтаў не страляць!

Не, не забыў, таму і не страляў; гурынскага спадарожніка ( агента палітычнай паліцыі) таксама ж не зачапіў – пакінуў жывым!

Гэтыя стрэлы спатрэбіліся рэпарцёру для таго, каб чыталася яшчэ больш цікавей і каб лішні раз пужнуць віленскі люд: бачыце, якія яны, камуністы – нават у паліцыянтаў шмаляюць!

У 1936 годзе “Кур’ер” гэтак жа “па-мастацку” абмалёўваў уцёкі з суда С. Прытыцкага: пасля замаху на Стральчука С. Прытыцкі, маўляў, адстрэльваўся і параніў аднаго чалавека!

У першым раздзеле свайго апавядання я гаварыў: паліцыя біла ў С. Прытыцкага з усіх ствалоў, а ён, маючы два пісталеты, маўчаў, не адказваў; ушчэнт зранены, трымаўся няпісанага закону: у паліцыянтаў страляць нельга!

### 16. Дык што пісаў “Кур’ер” пра Сяргея Прытыцкага?

“Кур’ер” ведаў: жыццё прымусіла гэтага юнака, які мадзеў у віру на калу, піць з меднай кварты і есці з драўлянай лыжкі, а яшчэ “Кур’ер” здагадваўся: чад сталінізму затуманіў розум рызыкоўнаму беларускаму хлопцу з беластоцкай вёскі Гаркавічы.

“Аркадзь” (ягонае падпольнае імя) быў настроены змяніць і свет, і кожнага асобнага чалавека, і ў сваёй апантанай практыцы добра засвоіў галоўную камінтэрнаўскую навуку: калі свет і чалавек не паддаюцца зменам, то іх трэба знішчыць!

І метода тут была вельмі простая: ліквідацыя ненавіснага свету пачыналася з ліквідацыі ненавіснай асобы.

Такі момант надышоў 27 студзеня 1936 года…

Замах адбыўся а 13-й; С. Прытыцкі ў сваіх мемуарах аднёс акцыю на дзве гадзіны пазней; зрэшты, раней ці пазней – усё сталася недзе апоўдні, а ўжо ўвечары з’явіўся надзвычайны дадатак газеты з маланкай Польскага тэлеграфнага агенцтва (ПАТ).

Як бачым, “Кур’ер” не спаў у шапку!

У віленскай “Бібліятэцы Ўрублеўскіх” я не знайшоў гэты выпуск, таму звяртаюся да “Лісткоў календара” Максіма Танка (запіс ад 27 студзеня 1936 г.):

“… мяне спыніў крык газетчыкаў:

… – Стрэлы ў судзе!..

За пяць грошаў я купіў газету…: “Дня 27/1 г.г. у акружным судзе ў Вільні разглядалася справа Раісы Колен…”

Спыню цытату: даследчык Арсень Ліс удакладніў прозвішча падсуднай – не Колен, а Каплан; журналісты ж пісалі – Кабленцуўна…

Далей у маланцы гаварылася:

“… падчас паказанняў… Стральчука… падышоў… малады чала-

век і, схапіўшы яго левай рукой за каўнер…”

Зноў спынюся: хапанне за каўнер – малаверагодны жэст!

Навошта хапаць ахвяру (за каўнер ці за рукаў), усутыч падступіўшы да яе з пісталетамі?!

І нязручна гэта рабіць – рукі ж заняты зброяй!

Цісні на куркі – і ўсё…

Але калі было так, як сказана ў маланцы, то тады С. Прытыцкі мог адстрэліць сабе на левай руцэ палец, а то й два!

Адна куля (аб чым гаворка была ўжо) трапіла Стральчуку ў шыю, прайшоўшы праз каўнер ці над каўнерам – прыкладна там, дзе і была (паводле паведамлення) левая рука стралка.

Зрэшты, усё магло і абысціся, калі пальцы знаходзіліся збоку ад траекторыіі кулі – хай сабе нават і на нейкі дробны сантыметр…

А можа С. Прытыцкаму, які падыходзіў да Стральчука ззаду, захацелася павярнуць правакатара да сябе і з пагардай паглядзець у яго прадажныя вочы?!

Такі ўчынак (кіношна-камсамольскі!) магчымы, толькі чаму пра яго больш ніхто не згадаў?

Хапанне за каўнер (ці ў судзе, ці на базары) – запамінальная з’ява, аднак жа яе не заўважылі!

Ды і сам С. Прытыцкі ў мемуарах – ні слова пра гэта…

Перапісваючы паведамленне ПАТ, Максім Танк, дарэчы, не ўсумніўся ў праўдзівасці хапання.

Не ведаю, ці чытаў “патаўскае” паведамленне С. Прытыцкі, “Лісткі ж календара”, вядома, чытаў, але ці абмяркоўваў з паэтам гэту недакладнасць?

Думаю: не, але (дапускаю) – недзе ўпотайкі здзівіўся такой выгоднай для сябе рэпарцёрскай прыдумцы, дзякуючы якой, выглядаў не проста нейкім тэрарыстам, а смелым рэвалюцыянерам!

Смелым, сапраўды, быў…

Счакаўшы ў сёмым радзе роўна столькі, колькі трэ было счакаць, – спакойна, без лішніх рухаў, пакінуў сваё другое месца ад праходу; яму пашанцавала – на вузкім праходзе яго не затрымалі, і ён паспеў дайсці да Стральчука…

Успаміны С. Прытыцкага, як і любыя ўспаміны, прыблізныя; ён, скажам, напісаў: пасля таго, як прагучалі першыя яго выстралы, суддзі і пракурор ад страху палезлі пад стол.

Ну, вядома, буржуйскія služкі Феміды заўсёды вельмі палахлівыя.

На самай жа справе яны не палезлі пад стол, а зусім наадварот – падняліся над сталом; то бок, не кінуліся хавацца, а – можна сказаць

– самохаць падставіліся пад кулі!

Пасяджэнне вёў віцэ-старшыня акруговага суда Бжазоўскі – дарэчы, на "Працэсе 56-ці" ён быў запасным суддзёй…

Здаецца, С. Прытыцкі і не напалохаў яго, бо пан Бжазоўскі не кінуў работу, не адмовіўся ад судзейства і праз нейкія няпоўныя два месяцы (у панядзелак, 23 сакавіка) ужо разбіраў справу 16-ці з "Цэнтра народна-незалежнага руху Заходняй Беларусі", па якой, заўважу, у ліку іншых праходзілі Піліп Пестрак, Якуб Міско і Валянцін Таўлай…

Пазней віцэ-старшыня Бжазоўскі выступаў сведкам ужо на разглядзе справы самога С. Прытыцкага…

Хочаш не хочаш, а прыблізныя ўспаміны – схіляюць да пытанняў…

Вось С. Прытыцкі паведамляе, што адначасова націснуў на куркі, але куды пацэліў – не ўдакладніў; пра наступныя два стрэлы сказаў больш акрэслена: трапіў Стральчуку ў спіну.

Аднак праз некалькі абзацаў зазначыў: Стральчук быў паранены ў руку (трэба думаць – адной куляй) і дзвюма кулямі ў галаву.

Пра спіну, у якую пацэліў двойчы, ужо ні слова!

Няўжо ад бронекашулі, якой была закрыта спіна, кулі зрыкашэцілі проста ў галаву?

Можа таксама паўстаць і такое пытанне: калі адна куля трапіла ў руку, дзве – у спіну ці ў галаву, то куды дзелася чацвёртая – тая, якою Стральчук, паводле газетчыкаў, быў злёгку паранены ў шыю?

Пра яе мемуарыст, выходзіць, забыўся…

Але дачытаем "Лісткі": С. Прытыцкі "… 4 разы выстраліў… потым кінуўся ўцякаць да дзявярэй, якія ў гэты час былі адкрыты, бо перад гэтым толькі што выйшаў служачы суда Голанд…"

Тут адзначу: згаданае імя мела і такое напісанне – Галэмб.

"…За "замахоўцам" кінуліся паліцыя і работнікі следчай службы, ад якіх ён адстрэльваўся (!), раніўшы ў нагу адну асобу…"

Маланка ПАТ выразна акрэсліла: С. Прытыцкі падняў зброю на паліцыянтаў, і гэта небяспечнае для яго акрэсленне мела працяг.

Нагадаю: маланка ПАТ з'явілася ўвечары 27 студзеня, а ўжо назаўтра (аўторак, 28 чысла) "Кур'ер" у 27-м нумары, на 5-й старонцы, пад назвай "Стрэлы ў зале Віленскага акруговага суда" паведаміў:

"… слухалася справа Раісы Кабленцуўны ды іншых 17 асоб… з КПЗБ (16 жыдоў і 1 расіянін)… паказанні даваў… Стральчук… Юнак чатыры разы стрэліў у яго… Уцякаючы, яшчэ два разы націснуў на курок і параніў у нагу прыватную асобу…"

Пад гэтай (афіцыйнай!) інфармацыяй змешчаны і рэпартаж, падпісаны літарай (С):

"… З лавы… падняўся бялявы (!) хлопец у шэрым касцюме і гетрах. Ніхто не паспеў перашкодзіць яму чатыры разы выстраліць… Паліцыянты… кінуліся лавіць Прытыцкага… Ён двойчы стрэліў у іх…"

Двойчы?!

Успомнім: Клінцэвіч, паводле "Кур'ера", таксама двойчы стрэліў у пастарунковага, калі выбег з кавярні на Ягелонскую…

Мусіць, такую колькасць выстралаў "Кур'ер" зазвычай адводзіў камуністам, апісваючы іхнія ўцёкі ад паліцыі…

Дык вось, "хлопец у шэрым касцюме" чатыры разы бахнуў у Стральчука, два разы ў даганятых, але гэтага рэпарцёру здалося мала, таму "… Прытыцкі яшчэ некалькі разоў стрэліў…"

Рэпарцёр таксама паведаміў пра параненага з публікі, аднак жа звесткі меў з чужых вуснаў – у суд з'явіўся пасля замаху! – таму ў ягоным допісе "хлопец у шэрым касцюме" нарабіў стрэлаў больш, чым нават у афіцыйным камунікаце…

С. Прытыцкага арыштавалі, як прынята ў такім выпадку казаць, на месцы злачынства, за доўгія тыдні правялі неабходнае следства і ўчынілі суд.

Праз пяць месяцаў "Кур'ер" у 169-м нумары (нядзеля, 21 чэрвеня), на старонках 5 і 8 (а ўсіх было 12 палос) даў матэрыял усё таго ж рэпарцёра (С) "Сяргей Прытыцкі засуджаны на смерць".

Рэпарцёр звярнуў увагу: С. Прытыцкі ўвайшоў у залу, кульгаючы на правую нагу, а сярод публікі знаходзіўся ягоны бацька.

(С) пісаў: "… Выгляд у падсуднага ўпэўнены, твар загарэлы, вочы глыбокія, шэрыя; валасы цёмныя…"

Цёмныя?

А ў студзені (памятаем!): "… з лавы… падняўся бялявы хлопец…"

Але ў студзені (зноў жа памятаем!) рэпарцёр меў інфармацыю з чужых вуснаў, так што мог і памыліцца – зрэшты, за пяць месяцаў страшнай турмы валасы маглі й пацямнець…

С. Прытыцкага трафарэтна, аднак жа небеспадстаўна, абвінавацілі ў прыналежнасці да кампартыі; улада мела доказную зачэпку – падчасператрусу ў тэхніка КПЗБ Суцкевета былі знойдзены два фотаздымкі С. Прытыцкага, зробленыя на пашпарт.

Следчая служба спраўдзіла: за колькі дзён да сваёй акцыі арыштаваны зняўся на Вялікай Пагулянцы ў атэлье Бруднэра, і гэта, на думку следства, значыла – партыйцы збіраліся справіць свайму

таварышу (пры ягоным удалым знікненні з суда!) ліпавы дакумент.

На Вялікай Пагулянцы (цяперашняя віленская вуліца імя доктара Яна Басановіча) у доме 7 працаваў і фатограф Вайсборд, у якога, да слова сказаць, у годзе 1939-м здымаўся Юрка, старэйшы сын Антона Луцкевіча (фота Юркі знаходзіцца ў назіральнай справе бацькі ў Асобым архіве ў Вільні – фонд К-1, вопіс 58, справа Р-11794 – Ліст, старонка 34 – 14).

Цікава, С. Прытыцкі зняўся ў Бруднэра, як у "свайго", набліжанага да КПЗБ, майстра, ці зайшоў проста выпадкова – то бок, гэтак жа выпадкова мог зайсці і да Вайсборда?!

Праўда, калі Вайсборд у студзені 1936-га яшчэ не асталяваўся на Вялікай Пагулянцы, то маё пытанне траціць сэнс…

Дык вось, суд ведаў да якой партыі належыць С. Прытыцкі; суд меў таксама і сведчанне жыхара Гаркавічаў нейкага Белагоза: яшчэ ў 1929 годзе (так заявіў Белагоз) С. Прытыцкі намаўляў яго, як земляка, запісацца ў кампартыю.

І што на гэта падсудны?

Само па сабе, стаяў на тым, што ніякі не камуніст, а беспартыйны абаронца пакрыўджанага народа, і стаяў таксама на тым, што сведка Белагоз хлусіць.

Падсудны апавядаў: рэвальверы прыдбаў за пяць злотых у вёсцы, назвы якой не памятае.

– У якім павеце гэта вёска ляжыць? – дапытваўся віцэ-пракурор Вольскі.

– Забыўся…

– А ў каго пан купляў зброю?

– У нейкага невядомага бадзягі…

Удаваў з сябе не вельмі памятлівага (а што яшчэ заставалася рабіць!); ведаў: слабая памяць (ці з прыроды, ці з падману) у прыкрую хвіліну – неблагая памочніца.

Асабліва ж прагнуў, каб старшыня трыбунала Арліцкі паверыў яму, што, пускаючы ў ход зброю, ён быў гранічна ўважлівы, думаў пра навакольных, стараўся не скалечыць, не забіць іншых.

Аднак жа, нягледзячы на сваю "кволую" памяць, арыфметычна (!) удакладніў: тройчы ўжыў рэвальвер правай рукой, і адзін раз той рэвальвер, які знаходзіўся ў левай…

Акрамя прыналежнасці да КПЗБ, С. Прытыцкага абвінавачвалі яшчэ ў спробе забіць сведку Стральчука, а таксама паліцыянта Дайноўскага.

І тут на паверхню выйшла казуістычная тонкасць – замах на паліцыянта разглядаўся як з'ява крымінальная, а замах на сведку

віцэ-пракурор трактаваў як палітычнае злачынства.

Больш таго – абвінаваўца выснаваў: акцыя падсуднага пагражала не толькі здароўю і жыццю Стральчука, а наогул пагражала ўсёй Польшчы і яе грамадзянам.

Здаецца, пракурор хапіў цераз край…

С. Прытыцкі ж даваў цвёрдыя адказы: руку на канфідэнта падняў сам па сабе, ніхто яго на гэта не падбіваў, а ў паліцыянта не страляў!

Бо і не страляў…

Арліцкі пачаў апытваць сведкаў, і тут выйшла блытаніна – судовы пасыльны Галэмб (у “Лістках” ён фігуруе як Голанд) прызнаўся:

– Я не бачыў, што Прытыцкі страляў на сходах!

У час пагоні Галэмб знаходзіўся ў вестыбюлі паблізу сходаў, ці нават на саміх сходах, усё адбывалася ў яго на вачах, аднак жа ён не бачыў (!), што ўцякач ужываў зброю.

Спрыяльнае для абароны сведчанне…

Калі слова далі Дайноўскаму, той тут жа бумкнуў: падсудны ледзьве яго не забіў…

Але от жа дзіва – работнік следчай службы Ігнацы Бучкоўскі, а ён разам з Дайноўскім гнаўся за нашым героем, падаў такую навіну:

– Прытыцкі толькі пагражаў нам пісталетамі, але не страляў у нас!

Лепшага паказання і не прыдумаць!

Уяўляю радасць адваката Дурача; бачу радасць самога С. Прытыцкага і ягонага бацькі!

Але чаму Бучкоўскі выступіў з такой заявай?

Чаму не падтрымаў Дайноўскага?

Да лета паспелі паліцыянты пасварыцца ці што?!

А тады, 27 студзеня, дзейнічалі зладжана – здзіравілі маладога камуніста кулямі ўшчэнт!

Пэўна, у Бучкоўскага сумленне загаварыла, з душой аказаўся служака…

С. Прытыцкі мог яго застрэліць (Дайноўскага таксама!), меў такую магчымасць, аднак не зрабіў гэтага, што вельмі, дапускаю, уразіла, нават расчуліла Бучкоўскага.

Рады, што застаўся жывы і што С. Прытыцкі выжыў (каталік Бучкоўскі не так сабе хадзіў у касцёл, хрысціянская навука нешта ўсё-ткі для яго значыла!) – ён і выступіў з такой заявай.

Скажу і пра сведку Бжазоўскага – яго паказанні Дурач таксама мог ацаніць як спрыяльныя, бо паводле іх – С. Прытыцкі, страляючы ў канфідэнта, дбаў аб тым, каб не параніць іншых, а калі выбег на

сходы, то ён, Бжазоўскі, ужо не бачыў, хто ў каго там, на сходах, пускаў кулі…

Яшчэ ў будынку суда С. Прытыцкага (ён заставаўся пры памяці!) дапытаў следчы Селкінд; С. Прытыцкі адказваў не па-польску і не па-беларуску, а па-расійску.

Гэта здзівіла ўважлівага следчага; здзівілі таксама і далоні сялянскага сына – гладкія, як у пісара!

Зрэшты, дзіўнага тут не было нічога – хлопец не за плугам хадзіў, а ў асноўным сакратарыў у камсамоле, ладзіў забастоўкі ды вучыўся ў менскай партыйнай школе; крывавыя мазалі нараслі пазней, на польскай катарзе…

Пасля кароткага допыту яго прывезлі ў шпіталь "Святога Якуба", і там зноў жа па-расійску ён спытаўся ў хірурга Ахматовіча: ці патрэбна яму аперацыя?

Разумеў, што апынуўся на краі магілы і, магчыма, ужо ставіў на сабе крыж: доктар, можа нічога не трэба й рабіць, калі ўсё адно памру?!

З характарам быў!

І тут магчымы такі ход: хірургу Ахматовічу спадабалася, што юнак размаўляе па-расійску; Ахматовіча цешыла руская мова, ён любіў рускую літаратуру – асабліва раманы Аляксея Талстога "Сёстры" і "Пятро І".

Лекар адчуў да юнака сімпатыю і адказаў: аперацыя патрэбна, і ён аперыраваць будзе, хаця і не верыць у добры вынік, бо вельмі цяжкія раны…

Русафіл Ахматовіч быў яшчэ і філосафам; ён лічыў: здаровы чалавек павінен быць радасны ўжо таму, што здаровы, што мае гнуткае дужае цела, аднак жа (хірург вельмі шкадаваў) чалавек зазвычай імкнецца знайсці радасць не ў сваім здароўі, а ў гарэлцы, курэнні, шкодных бавах.

На стале Ахматовіча стаяў партрэт Аляксея Талстога і на пытанне, чаму якраз гэты партрэт упрыгожвае стол, хірург адказваў:

– Мне падабаецца, як пісьменнік выглядае!

Сапраўды, выгляд Аляксея Талстога – незалежны, здаровы, радавіты – шмат каму падабаўся.

Было ясна – пра хваравітых дэкадэнтаў-упаднікаў з панам Ахматовічам лепей не пачынаць гаворку…

Майстэрства хірурга, вытрымка пацыента, як і тое, што яго даставілі вельмі хутка (бальніца "Святога Якуба" знаходзілася зусім побач, за нейкіх метраў трыста ад суда, адно Лукішскі пляц праскочыць!) – словам, усё гэта разам і дало плён: С. Прытыцкі

выжыў…

Але вернемся ў судовую залу – так, сведкі Галэмб, Бучкоўскі і Бжазоўскі хацелі ці не хацелі, аднак жа паспрыялі падсуднаму.

І Дурач умела сцвердзіў: факт, нібыта падсудны спрабаваў забіць Дайноўскага, зусім не даказаны, як і не даказана, што падсудны належыць да КПЗБ.

А што да замаху на Стральчука, то тут адвакат згадаў вядомую этычную норму, паводле якой у дэмакратычным грамадстве расправа над правакатарамі і канфідэнтамі не лічыцца заганным учынкам.

Аднак нічога не памагло, суд падвёў С. Прытыцкага пад шыбеніцу; яму было толькі дваццаць тры, а выглядаў гладыятарам – пачуўшы, што яго павесяць, і не здрыгануўся, адно пачырванеў!

Абарона тут жа, у судовай зале, заявіла, што будзе апеляваць…

Перагляд справы адбыўся праз тры месяцы і сямнаццаць дзён – у сераду, 7 кастрычніка.

Назаўтра “Кур’ер” у сваім 276-м нумары на 7-й старонцы змясціў допіс за подпісам (W) “Смяротны прысуд зацверджаны”; у допісе вылучана цікавая падрабязнасць: ідучы забіваць, С. Прытыцкі не снедаў (!), бо прадчуваў, што можа трапіць пад агонь, таму баяўся кулявой раны ў жывот…

Зноў стаяў на сваім: 1). у Дайноўскага не страляў; 2). да КПЗБ не належыць; 3). замах на Стральчука спланаваў сам.

Тады апеляцыйны суд паклікаў сведку, камісара Пухальскага, і той расказаў пра акцыі КПЗБ у абарону С. Прытыцкага.

Тут не магу не дадаць: спачатку партыйцы спрабавалі прыкрыць С. Прытыцкага; пра тое, што рыхтавалі яму фальшывы пашпарт, было ўжо сказана; перад тым жа, як адправіць узброенага юнака ў суд, далі яму адрас кватэры, дзе ён мог бы схавацца на нейкі час, калі б здолеў вырвацца з суда.

Аднак жа не вырваўся, і тады (мяркую!) пачалі тапіць юнака, бо ён ужо патрэбны быў як яшчэ адна ахвяра пілсудчыкаў!

Знарок, ці незнарок, але сваімі адкрытымі акцыямі камуністы паказвалі ўладзе, што С. Прытыцкі – іхняя крэатура!

Мала таго, – за дзень да апеляцыйнага разгляду, у аўторак 6 кастрычніка, у Вільні зладзілі свой пратэст і камсамольцы!

Упэўнены: усё гэта было на шкоду беларускаму хлопцу…

Пракурор прасіў зацвердзіць вырак першай інстанцыі; адвакаты Берансан і Дурач настойвалі на змякчэнні кары (малілі дараваць іхняму кліенту жыццё), і сам асуджаны на смерць звярнуўся з просьбай памілаваць яго.

Аднак жа не памілавалі, улічылі просьбу пракурора – зацвердзілі вырак акруговага суда…

С. Прытыцкі й гэтым разам быў спакойны – шыбеніца дык шыбеніца…

І ў беларусаў бывалі такія, алімпійскія, адносіны да страты свайго маладога жыцця.

Безумоўна, уражаны неверагодным спакоем кліента, адвакат Берансан абвясціў, што накіруе ў Найвышэйшы Суд касацыйную скаргу.

С. Прытыцкага другі раз наблізілі да шыбеніцы, аднак на эшафот не ўзвялі, пакінулі навек, як прынята было раней казаць, у панскім астрозе.

Навек, назаўсёды…

“Удзячны будзь і за такі ратунак!” – пэўна, сказала доля.

Магчыма, дапамог тут адвакацкі зварот у Варшаву, як і шматлікія пратэсты супраць смяротнага прысуду, а, магчыма, С. Прытыцкаму ўсміхнулася сама Беларуская гісторыя: яна захацела, каб менавіта з яго вуснаў прагучала ў кастрычніку 1939-га просьба да Сталіна замацаваць Заходнюю Беларусь пад сцягам чырвонай дзяржавы.

Правадыры заўсёды любяць, калі іх просяць: прыміце нас…

Відавочная паралель паміж С. Прытыцкім і Клінцэвічам мае прынцыповую розніцу – С. Прытыцкі йшоў забіваць сапраўднага (!) правакатара; Клінцэвіч жа знішчыў дзеяча, якога прызначылі (!) правакатарам.

Бальшавікі выбавілі Клінцэвіча з польскай няволі, каб завесці ў Курапаты.

Такі ж лёс чакаў бы й С. Прытыцкага, і яму хапіла б месца на шырокай курапацкай дарозе, каб не турэмны белы арол, што пільнаваў яго да верасня 1939-га.

## 17. Начны вартаўнік, дваццаць два патроны да браўнінга і зноў жонка Б. Тарашкевіча…

Гэтак пісаў “Кур’ер” у 1936-м пра С. Прытыцкага, а што да Клінцэвіча ў 1928-м, то фінал яго рызыканцтва “Кур’ер” завяршаў такой карцінай:

“… Начны вартаўнік таварыства Klucze затрымаў злачынцу на стыку Гданьскай і Віленскай; той зноў хацеў ужыць зброю, але падаспеў пастарунковы і вывернуў яму рукі.

У арыштаванага знайшлі браўнінг і запасную абойму на дваццаць два патроны…”

Вось так, падрыхтаваны школай КПЗБ маладзён (і трыццаці гадоў не меў!), і быў, можна сказаць, пры поўнай амуніцыі, а ў рукі даўся даволі лёгка!

Нават дзіўна…

“Кур’ер” удакладніў:

“… Следства праводзіць судовы следчы III-га ўчастка Хэлстоўскі; пракурорскі нагляд ажыццяўляе Штэйнман…”

Маладая Польшча, няхай сабе й з царскімі законамі, – якаяніякая, а ўсё-ткі Еўропа, таму для яе захаваць законнасць (“Кур’ер” паказвае гэта) – усё адно, як перахрысціцца перад абедам.

А што да пракурора Штэйнмана, то яго згадваў у турэмных нататках С. Рак-Міхайлоўскі – у чацвер, 10 лютага 1927 года Штэйнман зайшоў у камеру, не зняўшы шапку, і лукішскага вязня С. Рак-Міхайлоўскага гэта абурыла.

Аднак дачытваю:

“… Учора выпусцілі з турмы нейкага Сегаля; яму шаснаццаць гадоў і ён чалец жыдоўскай арганізацыі Tinperes Bachurin…”

Паэт Фелікс Баторын растлумачыў: мяркуючы па назоўніку множнага ліку Bachurin (падлеткі), Сегаль належаў да нейкай падлеткавай арганізацыі, поўная назва якой пакуль, на жаль, застаецца не расшыфраванай.

Дык вось, яго, Сегаля “… ўзялі выпадкова, бо ў хвіліну злачынства праходзіў па Ягелонскай, і паліцыя падумала, што ён памочнік забойцы.

Учора выпусцілі й жонку Тарашкевіча, яе таксама выпадкова арыштавалі на вуліцы Ягелонскай…”

Зусім не здзіўляе арышт Сегаля – у спешцы заўсёды можна каго заўгодна, не разабраўшыся, узяць; тым больш юнака (мусіць жа, высокага і на выгляд у цемры сталага!), які, пэўна ж, праз недагляд бацькоў амаль ноччу боўтаўся ў цэнтры Вільні.

Аднак жа вельмі інтрыгуе тое (яшчэ раз кажу пра гэта!), што на Ягелонскай апынулася й Вера Тарашкевіч!

А можа і сапраўды (льга й такое дапусціць!) сачыла за М. Гурыным і, магчыма, летуценна, чыста па-жаночы абдумвала спосабы лакалізацыі небяспечнага “камунікатчыка”!

Пастарунковаму, у якога нібыта двойчы страляў Клінцэвіч, бегчы ад вугла Віленскай і Міцкевіча да кавярні Тамашэвіча было метраў 140 – 150.

Аднак ці мог ён на такой адлегласці, стоячы на даволі бойкай вуліцы Міцкевіча, пачуць рэвальверныя стрэлы?!

А зусім побач, на плошчы Ажэшкі, была яшчэ й аўтобусная

станцыя, якая, трэба думаць, не адбаўляла, а толькі падбаўляла меставога шуму і стукату.

Зрэшты, прыму версію газеты – смелы паліцыянт стрэлы пачуў і не збаяўся пагнацца за ўзброеным тэрарыстам!

Праўда, цікава, чаму не пагнаўся за ім спадарожнік М. Гурына – галоўны агент палітычнай паліцыі Віленскага ваяводства?

Ён жа застаўся жывы!

Пэўна, на парозе кавярні ўмлеў ад страху…

Паліцыянт бег метраў 400 – 450, спачатку па Ягелонскай, а тады ўжо, не дапіраючы да Завальнай, улёг налева па Гданьскай.

Я сказаў, што ён смелы, і гэта праўда, аднак жа смеласць начнога вартаўніка з таварыства Klucze ўражвае больш!

Паліцыянт хоць меў зброю, а вартаўнік, пэўна ж, не, аднак жа заступіў Клінцэвічу дарогу.

Газета ўдакладняе: затрыманне адбылося на стыку Гданьскай і Віленскай – значыць, побач з домам, дзе жыў Б. Тарашкевіч (Віленская, 12) і, можна сказаць, пад вокнамі кватэры Яна Пазняка, на зусім блізкай ад Гданьскай вуліцы Людвісарскай…

### 18. Пра тое ж і Міхась Машара

У рамане “Лукішкі” М. Машара стварыў мастацкую карціну знішчэння М. Гурына, аднак па сутнасці яна з’яўляецца толькі старанным пераказам успамінаў Клінцэвіча.

Дарэчы, і М. Арэхва, і Я. Міско таксама ж ні на крок не адступілі ад гэтых правільна складзеных успамінаў, калі пісалі пра апошнюю гадзіну інспіратара сэцэсіі.

Паважаныя аўтары дзейнічалі паводле прынцыпу: як сказана ў Клінцэвіча, так будзе сказана і ў нас; напрыклад, не ўспомніў Клінцэвіч пра Капуцкага, то і яны не ўспомнілі…

Аднак жа ёсць і дробныя адхіленні.

Спісваючы ўспаміны, М. Машара паведамляў: Клінцэвіч даведаўся, што М. Гурын працуе ў газеце “Беларускі Дзень”, а жыве на Гарохавай.

Знарок ці незнарок, але раманіст памыліўся, бо ў Клінцэвіча ясна сказана: М. Гурын жыў на Гарбарнай.

Зрэшты, ён часта мяняў кватэры, таму мог жыць і на Гарохавай, а што да дома, у якім асталяваўся на Гарбарнай, то Клінцэвіч, а ўслед, само па сабе, і М. Машара даводзяць: М. Гурын жыў у доме галоўнага кіраўніка віленскай гарадской паліцыі!

Мусіць жа, Клінцэвіч дапусціў, скажам так, мастацкае пераболь-

шанне, пахваліў самога сябе, намякаючы менскім заказчыкам: “Бачыце, у якім доме хаваўся правакатар! Да яго было не даступіцца, і тым не менш я выканаў заданне!”

Клінцэвіч заўважыў М. Гурына ў дзевяць вечара на вуліцы Міцкевіча, але не аднаго – з галоўным (!) агентам палітычнай паліцыі Віленскага ваяводства.

Там галоўны кіраўнік паліцыі, а тут галоўны агент паліцыі, – па гучанні ж нібыта адна асоба!

Агент гэты, вядома, у раман перайшоў з мемуарнай прозы Клінцэвіча...

Недзе з паўтары гадзіны Клінцэвіч сачыў за М. Гурыным – спачатку на Міцкевіча, а тады ў рэстаране “Джорж”, а пазней і на вуліцы Ягелонскай.

І вось калі М. Гурын захацеў увайсці ў кавярню Тамашэвіча (прозвішча гаспадара кавярні М. Машара не называе, бо не называе яго і аўтар успамінаў), – Клінцэвіч стрэліў.

Па сходах, якія вялі ўніз, М. Гурын, відаць, ужо смяротна паранены, уляцеў у памяшканне.

А што галоўны агент?

Хіба не кінуўся на Клінцэвіча?!

Не, не кінуўся, бо – аб чым гаворка была ўжо – умлеў ад страху!

Ён жа не смелы чэкіст, а баязлівы дэфензіўшчык!

Тым часам Клінцэвіч увайшоў у кавярню і спачатку… заспакоіў гаспадара, яго жонку і дачку, а таксама ўсіх наведвальнікаў: маўляў, панове, заставайцеся на месцах, вам нічога не пагражае! – усё-такі шляхетны ён быў! – і толькі пасля ўжо павярнуўся да М. Гурына, які ляжаў на падлозе, і тройчы націснуў на курок.

І газеты пісалі менавіта пра тры стрэлы ў кавярні, аднак жа (буржуазныя!) ні слова не сказалі аб тым, што Клінцэвіч гэтак высакародна абышоўся з гаспадарамі і публікай!

У рамане “Лукішкі” Клінцэвіч – герой, а героі, як вядома, не ўцякаюць!

Калі выйшаў з кавярні, ён скіраваў на вуліцу Міцкевіча, але адтуль ужо беглі паліцэйскія (успомнім: “Кур’ер” паведамляў толькі пра аднаго пастарунковага!).

Тады Клінцэвіч “… павярнуў назад і пайшоў угору па Ягелонскай вуліцы. Адышоў… толькі крокаў трыста…”

Гэтыя вельмі рахманыя машараўскія дзеясловы – “пайшоў”, “адышоў” – ствараюць ідылічны малюнак адступлення, а да стыку Гданьскай і Віленскай, дзе Клінцэвіча затрымалі, адлегласць большая – не “крокаў трыста”, а добрыя пяцьсот метраў.

Кажу так, бо змераў гэты маршрут!

Зрэшты, далей ідзе больш істотная недакладнасць – псіхалагічная, бо на Клінцэвіча, які паціху (!) рухаўся, раптам ні з таго, ні з сяго "… наскочыў нейкі малады чалавек і схапіў за пояс, жадаючы затрымаць…"

Чаму ён так зрабіў?

Чаму схапіў за пояс невядомага самавітага пана, які проста йшоў па вуліцы?

Хацеў абрабаваць?!

Ды не – прычына ў іншым…

Клінцэвіч не йшоў, бо каб спакойна йшоў – ніхто б на яго не наскочыў!

Клінцэвіч, як шалёны, бег і не па ходніку (па віленскіх вузенькіх тратуарах бегаць вельмі нязручна!) – ляцеў проста сярэдзінай вуліцы!

Аднак жа самае падазронае і не ў тым, што сярэдзінай вуліцы…

Ці мала які дурань можа перці на злом галавы па бруку, і што, кожнага такога трэба хапаць за пояс?!

А прычына вось у чым – ад неверагоднай радасці (а як жа: выканаў заданне!) Клінцэвіч страціў пільнасць, згубіў кантроль над сабой, забыў схаваць зброю і па-вар'яцку сігаў з браўнінгам у руцэ!

Гэта акалічнасць і змусіла неабыякавага вартаўніка дзейнічаць!

І няхай М. Машара пераконвае, што як толькі Клінцэвічу загарадзілі дарогу, ён "… выхапіў з кішэні пісталет і стрэліў у паветра. Чалавек спалохаўся і адскочыў убок…"

Такая яна, пісьменніцкая фантазія…

Не, Клінцэвіч з кішэні пісталет не выхопліваў і ў паветра не страляў, і "нейкі малады чалавек" (начны вартаўнік таварыства Klucze) убок не адскокваў, ды й пастарунковы (скажу яшчэ раз: адзін пастарунковы!) не забавіўся.

Але каб героя затрымаў нейкі там вартаўнік, няхай сабе і на пару з паліцыянтам?!

Не!

У савецкім рамане ворагаў, якія акружылі героя, павінна быць, як сабак!

А раз так, то тут ужо й пабегчы можна:

"… Клінцэвіч кінуўся ўцякаць, аднак у спешцы згубіў шапку. Паліцэйскія, што беглі за ім, падабралі яе. Клінцэвіч зразумеў, што бегчы па горадзе без шапкі – значыць звяртаць усіх увагу на сябе. Але ён не спыніўся і бег далей, з вуліцы на вуліцу, пакуль не трапіў у акружэнне больш дзесяці паліцэйскіх…"

Во колькі было даганятых паводле партыйнай арыфметыкі, а на справе – толькі дзве душы!

Хапанне за пояс, згубленая шапка, уцёкі без шапкі і страх, што без яе ты для ўсіх заўважны; урэшце, дзесятак з гакам паліцыянтаў – усё ўзята з мемуараў; прыведзеную сцэну М. Машара спісаў амаль слова ў слова!

### 19. Няспраўджаны лідар

На схіле грамадоўскага працэсу пасля пракурораў Раўзэ і Калапскага выступілі адвакаты; абаронца з Вільні Абрамовіч далікатна акрэсліў сітуацыю з Гурыным: маўляў, ягоная смерць – дзейнасць той знешняй сілы, якая знарок імкнулася ўскладніць падсудным іхняе становішча.

Абаронца з Варшавы Смяроўскі сказаў, што М. Гурыну, як сведку, нельга верыць, бо з 19 студзеня 1925 года М. Гурын страціў з камуністамі ўсялякую сувязь.

Называючы акрэсленую дату, Смяроўскі меў на ўвазе наступнае: у студзені 1925 года пад Масквой пачаў работу III-ці з’езд кампартыі Польшчы, М. Гурын быў запрошаны на гэты з’езд, аднак жа прыехаць у СССР па вядомай прычыне адмовіўся.

Адвакат пераконваў суд: М. Гурына, яшчэ задоўга да яго забойства, выкінулі з партыі і таму з пэўнага часу, а менавіта са студзеня 1925 года, ён быў начыста адлучаны ад інфармацыі пра ўнутранае жыццё як КПЗБ, так і “Грамады”.

Словам, само сабой напрошвалася рашэнне – пракурорскі сведка праўдзівых звестак не меў!

Смяроўскі даводзіў: М. Гурын – здраднік і рэнегат, а ягоныя паказанні – звычайная хлестакоўшчына.

У гэтым месцы адвакат не без падставы разлічваў на тое, што старшыня разбору Аўсянка, суддзі Ядзевіч, Барэйка ды іхні запасны калега Бжазоўскі Гогаля чыталі і ведалі, што паняцце хлестакоўшчына з’яўляецца сінонімам хлусні!

“Гурын заяўляў, што ўся ягоная інфармацыя ад асобы, імя якой раскрыць не можа! Гэта тыповая хітрасць канфідэнта!.. Каб жыў, то быў бы варты кары на доўгія гады турмы, бо ён паклёпнік!” – заключыў абаронца.

Цяжкое, можна сказаць, каменнае заключэнне, і яно добра ўмацоўвае версію “М. Гурын – правакатар”.

У сваім энцыклапедычным артыкуле гісторыкі У. Грамовіч і Т. Процька адзначылі: гэта версія лічылася афіцыйнай праз увесь час

існавання БССР.

Аднак жа былі і словы Янкі Купалы:

“Мусіць, Гурын не такі й вінаваты, і суд гісторыі яго апраўдае!”

Ацэнка вялікага паэта, вядома, не архіўны дакумент, але яна мае вагу золата.

Так, суд гісторыі павінен апраўдаць М. Гурына, ці хоць бы зразумець, што ён, робячы страшэнныя памылкі, усё ж такі імкнуўся даказаць сваё: у палітыцы трэба змагацца за беларускія ідэалы!

Заўсёды (і па сённяшні дзень!) у афіцыйнай палітыцы якраз і не хапала беларускіх ідэалаў.

А каму іх было ажыццяўляць?

Яркія ж носьбіты гэтых ідэалаў зніклі без следу, і Беларуссю доўгія дзесяцігоддзі кіравалі слугі…

Лідар выхоўвае лідара, раб выхоўвае раба – і от замест сваіх кіраўнікоў мы займелі плойму панамарэнкаў!

Сталіністы знішчылі М. Гурына, бо ўбачылі ў ім магчымага нацыянальнага лідара.

Яго палітычная зорка не паспела ўзысці, але імя яго першае ў жахлівым спісе замардаваных сталіністамі нацыянальных правадыроў.

А ў гэтым спісе і Цішка Гартны, і А. Чарвякоў, і Б. Тарашкевіч, і В. Ластоўскі, і Антон Луцкевіч...

Дзе магілы вялікіх беларускіх палітыкаў?

Па сённяшні дзень народ носіць кветкі на чужыя магілы!

13 траўня 2013 г., панядзелак, 16 г. 41 хв.; Менск.



# Не знаць перад карай страху

Апавяданне

**Уступ**

29 студзеня 2014 года споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння Антона Луцкевіча (1884 – 1942), вялікага беларуса, дзякуючы ідэям і працы якога (як і дзякуючы яго аднадумцам!), наша краіна з Паўночна-Заходняга краю і Крэсаў Усходніх ператварылася ў самастойную дзяржаву.

Жыццё і дзейнасць Антона Луцкевіча неверагодна багатыя на падзеі, факты, супярэчнасці, прыгоды, сустрэчы, каханне, вандроўкі, творчасць, бяду…

Гэта жыццё – раман…

Пакуль жа я напісаў апавяданне – твор аб тым, як у верасні 1939-га Антон Луцкевіч зірнуў у вочы святу і асабістай трагедыі…

**1. Трэба ўцякаць?**

У жніўні згаданага года, пасля змовы Гітлера і Сталіна, Еўропу чакаў новы палітычны падзел, і няцяжка было здагадацца: першай ахвярай гэтага падзелу стане жаданае дзіця Версаля – Польская Рэспубліка.

Праз нейкі тыдзень пасля змовы, 1 верасня, пачалася вайна, і неўзабаве яна дыхнула і ў віленскія дзверы, канчаткова акрэсліўшы акрэсленае – Вільню забярэ Сталін, нацыянальных дзеячаў чакае пагібель, і таму, каб выжыць, трэба ўцякаць і не толькі з Вільні, а наогул з Заходняй Беларусі.

Нехта так і зрабіў, – напрыклад, ксёндз Адам Станкевіч, а некаму, яшчэ задоўга да прыходу бальшавікоў, паспрыялі абставіны.

Скажам, у кастрычніку 1936 года загадам міністэрства асветы дырэктар беларускай філіі дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Славацкага

Радаслаў Астроўскі быў накіраваны выкладаць матэматыку ў Лодзь у польскую гімназію імя М. Каперніка.

Гэтак будучы прэзідэнт БЦР перажыў 1939 год, захаваў уласную свабоду, а вось Антон Луцкевіч свабоду страціў, бо застаўся ў Вільні…

Але чаму застаўся?

Чаму не ратаваўся, нават не паспрабаваў пераехаць у тую ж блізкую Літву, як гэта зрабіў яго вечны недруг ксёндз Адам Станкевіч?

У Коўне жыў даўні прыяцель Антона Луцкевіча, былы дзяржаўны сакратар БНР, архітэктар К. Дуж-Душэўскі – чалавек заможны і дастаткова ўплывовы ў літоўскім грамадстве; вядома, ён дапамог бы і жытлом, і грашыма, і дакументамі…

Пазней К. Дуж-Душэўскі даў прытулак сынам Антона Луцкевіча – Юрку і Лявону…

## 2. Дзве прычыны

Звычайна даследчыкі называюць дзве прычыны, якія прымусілі Антона Луцкевіча застацца дома.

Першая прычына сямейная – старэйшы сын Юрка служыў якраз у польскай арміі, якую вельмі хутка разбілі, і што сталася з жаўнерам Юркам Луцкевічам было невядома.

“Ці жывы, ці паранены, ці ў палоне, ці вяртаецца дадому?!” – так, або прыкладна так, думаў бацька і, не маючы ніякай рады са сваімі думкамі, пастанавіў: сына трэба чакаць у Вільні!

А другая прычына – музей…

Антон Луцкевіч з’яўляўся дырэктарам Беларускага музея і не мог без нагляду пакінуць скарбніцу, якая ўзнікла, дзякуючы клопату ягонага старэйшага брата Івана.

Ці мог схаваць экспанаты?

Зрабілі ж так з Іванам у 1915 годзе перад тым, як Вільню заняла кайзераўская армія – склалі ўсе каштоўнасці ў адзін глухі пакой, а дзверы залажылі цэглай!

Але не трэба забываць – тады яшчэ музея не было, існавалі толькі археалагічная і этнаграфічная калекцыі.

За чвэрць стагоддзя збор Івана Луцкевіча (сэрца Беларускага навуковага таварыства!) ператварыўся ў салідную з урадавай дапамогай і міжнародным статусам установу, прынятую ў польскі саюз музеяў; фонды настолькі павялічыліся, што марна было й думаць, каб зноў іх змясціць у нейкі адзін глухі пакой!

Словам, у тыя неспакойныя жнівеньска-вераснёвыя дні было немагчыма знайсці надзейнае, патаемнае і прасторнае сховішча!

Падзеі не паўзлі – шалёна ляцелі; не мелася ні часу, ні зручнага памяшкання, ні адданых памочнікаў, таму Антон Луцкевіч і застаўся пры музеі.

### 3. Масонскі цыркуль

Трэба згадзіцца: і першая прычына істотная, і другая таксама!

Аднак жа, думаю, існавала і філасофская акалічнасць, якая закрывала дарогу да ўцёкаў, – жыла ў душы мацнейшая, чым страх за ўласнае жыццё, фатальная ўпэўненасць: Вільню пакідаць нельга!

Тут нарадзіліся сыны і пахавана жонка; тут канчаткова выспела думка пра незалежную Беларусь і накрэсліўся (ці не масонскім цыркулем!) містычны круг, у сярэдзіне якога наканавана застацца…

У маладосці Антон Луцкевіч уваходзіў у віленскую ложу “Еднасць” і на ўсё жыццё засвоіў ці не галоўнае правіла інтэлектуалаў: у момант небяспекі трэба абмежаваць мітуслівыя імкненні!

### 4. “Цень Азэфа”

Ці спадзяваўся на літасць?

З года 1929-га, з ласкі чырвонага Мінска, хадзіў у сацыял-фашыстах і “з’яўляўся” правадыром усіх чыста нацдэмаў і нацфашыстаў, так што на літасць разлічваць не даводзілася!

Для яго, марксіста і сацыял-дэмакрата, Сталін быў рэнегат рэвалюцыі, сучасны Юда, шаленец, адмоўны гістарычны персанаж.

У сваім знакамітым артыкуле “Цень Азэфа” Антон Луцкевіч назваў калгасы згубай для народа, а Сталіна – чырвоным Мусаліні; мала таго – параўнаў яго з правакатарам Азэфам!

Сталіністы і за меншае (зусім дробнае!) не даравалі, а за такое!

Артыкул, праўда, прайшоў у друку без подпісу, але хіба вялікая праблема для пільнай службы вызначыць аўтарства?!

### 5. Адмаліць “грахі”!

Аднак і без “Ценю Азэфа” абвінаваўчага матэрыялу было хоць гаць гаці!

Людзей наогул бралі без ніякага “матэрыялу” (толькі за тое, што яны людзі!), а тут – і абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, і прэм’ерства ў БНР, і ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі…

Паспрабуй адмаліць такія “грахі”!

І ўсё праўда, бо і абвяшчаў незалежнасць, і ўзначальваў урад, і ездзіў у Парыж…

А ёсць яшчэ і тое, што не рабіў, а прыпісалі – рабіў і ўсё тут, і ніяк не адкруцішся!

А для сталіністаў зазвычай прыпісанае з’яўлялася большай праўдай, чым сама праўда!

### 6. Грошы атамана Пятлюры

13 кастрычніка 1927 года газета “Дзеннік Віленскі” пісала, што Антон Луцкевіч знаходзіўся ў Парыжы за грошы, якія атрымаў ад атамана Пятлюры, залажыўшы яму лясы Беларускай Рэспублікі.

Вось так, не больш і не менш, усе неабдымныя лясы ад Беластока і да Смаленска, ад Вільні і да Чарнігава ўзяў і адным махам залажыў у самым пачатку 1919 года Сымону Пятлюры!

Проста царскую ўладу меў лідар БНР!

Уяўляю радасць ягоных ворагаў, якія чыталі гэта паведамленне, баязліва падпісанае літарай Z.

Ніякіх доказаў рэпарцёр Z не прывёў, ніякіх актаў аб закладзе лясоў не надрукаваў, а таго адпаведнай публіцы і не трэ было!

Галоўнае – гостры, як цвік, данос, у якім – і цесная сувязь з ворагам працоўнага народа Пятлюрай, і неверагоднага маштабу раскраданне прыродных багаццяў!

Лепшага “матэрыялу” дзеля дыскрэдытацыі нацыянальнага кіраўніка і не прыдумаць!

### 7. Тэлеграма кайзеру Вільгельму

Так пісалі ў “Дзенніку Віленскім” чужыя, аднак жа і свае не маўчалі.

У 1933 годзе Кастусь Езавітаў даводзіў у часопісе “Беларуская Школа ў Латвіі”, што ў ліку іншых палітыкаў і Антон Луцкевіч горача настойваў на тым, каб ад імя Рады Рэспублікі ў 1918 годзе адбіць у Берлін вітальную тэлеграму кайзеру Вільгельму.

Усім вядома было, а ў першую чаргу самому К. Езавітаву, што Антон Луцкевіч і блізка не стаяў каля той тэлеграмы, аднак…

У Менску якраз раскручвалася гучная справа “Беларускага нацыянальнага цэнтра” (БНЦ), які, з чарговай прыдумкі АДПУ, быў створаны вядома ж ім, Антонам Луцкевічам!

І тут пры ўсёй павазе да К. Езавітава, – значнага нашага

нацыянальнага дзеяча, – хочаш не хочаш, а падумаеш: надта ж “своечасова” падкінуў ён сваю мемуарную інфармацыю пра “стваральніка” БНЦ: “Паны-таварышы, звяртаю ўвагу, ён яшчэ і кайзера вітаў!”

## 8. Тайная служба

Машына гісторыі рухаецца не па дарогах – па чалавечых душах…

17 верасня 1939 года Чырвоная армія зрабіла рашучы крок, перайшла ўсходнюю польскую мяжу і праз два дні без бою ступіла на віленскі брук.

За войскам, як гэта заўсёды бывае, рухалася тайная служба, і трэба заўважыць: сталінская тайная служба, бадай, адзіная структура ў СССР, якая дзейнічала без збою.

Апынуўшыся ў Вільні, чырваназорныя апрычнікі не марудзілі – не мінула і два тыдні, як разабраліся ў абстаноўцы.

## 9. “Агент “Двуйкі”…”

Ужо 30 верасня начальнік адміністрацыйнага аддзела часовага кіравання Віленскай акругі палкоўнік Пятроў (прозвішча, дарэчы, як на заказ!) падпісаў ордар № 82 – малодшаму лейтэнанту А. Гаўрыленку даручалася арыштаваць Антона Луцкевіча і зрабіць у ягонай кватэры (вуліца Піўная 2, кв. 8) вобыск.

Тады ж, 30 верасня, палітрук Раброў склаў пастанову; гострым алоўкам на ўвесь шырокалінейны аркуш палітрук махануў, што Антон Луцкевіч – агент “Двуйкі” (2-га аддзела генштаба Войска Польскага) і кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі “Беларуская сялянская дэмакратыя”, а раз так, выснаваў служака, то згаданага грамадзяніна ў якасці абвінавачанага трэба ўзяць пад варту…

Лепячы сваю паперыну, палітрук Раброў доўга не думаў, бо навошта думаць, калі ўжо зверху прыдумана: усе беларускія дзеячы – агенты “Двуйкі”, польскай выведкі!

Аднак для разнастайнасці Раброў дадаў, што Антон Луцкевіч яшчэ і кіраўнік “Беларускай сялянскай дэмакратыі”, і такім макарам палітрук зляпіў новую з прыдатнай назвай антысавецкую арганізацыю.

Творчы падыход!

Я ўпэўнены: у наркамаце ўнутраных спраў існаваў конкурс на падобную творчасць, і палітрук Раброў на такім конкурсе заўсёды

перамагаў.

### 10. Таксама п’еса

Атрымаўшы ад Пятрова і Раброва “юрыдычнае” забеспячэнне, малодшы лейтэнант А. Гаўрыленка 30 верасня на чале адпаведнага эскорту і заявіўся на вуліцу Піўную…

Ператрус прайшоў, як мае быць; гаспадар кватэры ніякіх скаргаў не выказаў, што было і адзначана ў пратаколе вобыску.

Дарэчы, пры гэтай працэдуры прысутнічалі персанажы, камічныя прозвішчы якіх прымусілі мяне ўспомніць герояў Гогаля і Францішка Аляхновіча – у Гогаля былі Добчынскі і Бобчынскі, у Францішка Аляхновіча – Пышка і Шышка, а ў сталінскага А. Гаўрыленкі дзейнічалі Ластушкін і Пластушкін!

Што зробіш, таксама п’еса, толькі зусім невясёлая…

Дык вось, у прысутнасці Ластушкіна і Пластушкіна А. Гаўрыленка ўпісаў у пратакол вобыску пункты: 1. Розная перапіска; 2. Вайсковы білет № 116; 3. Пашпарт № 517139;  4. 24 злотыя; 5. Два фотаздымкі Антона Луцкевіча і ягонага сына; 6. Бумажнік.

### 11. Ліст прафесара Антонія Флароўскага

Што да першага пункта, то трэба думаць, гэту “розную перапіску” пазней чэкісты знішчылі, палічыўшы яе неістотнай для сваіх фабрыкацый.

У следчай справе Антона Луцкевіча, якая знаходзіцца ў Асобым архіве ў Вільні (фонд К-1, вопіс 58, справа Р-11794), захавалася, калі не памыляюся, толькі некалькі пісьмаў, сярод якіх – і ліст прафесара Антонія Флароўскага з Прагі.

Відаць жа, калі з Прагі, то й пакінулі як сведчанне кантактаў з асяродкам беларускай эміграцыі!

Прафесар А. Фларoўскі вывучаў спадчыну Ф. Скарыны і ў 1936 годзе зрабіў адкрыццё, што Ф. Скарына з 1534-га па свой апошні 1551 год працаваў у Празе каралеўскім садоўнікам.

Таксама ж прафесар вывучаў дзейнасць кнігавыдаўцоў Мамонічаў, і Антон Луцкевіч 22 ліпеня 1938 года даслаў прафесару новыя звесткі пра Мамонічаў.

А. Фларoўскі запазніўся з адказам – адпісаў толькі 8 кастрычніка (гэты ліст і ёсць у справе); прафесар дзякаваў за звесткі і прасіў перадаць паэту і гісторыку Хведару Ільяшэвічу, які збіраў матэрыялы аб друкарні Мамонічаў, свае выпіскі пра гандлёвыя сувязі Мамонічаў з Прагай…

## 12. Фігурная крэска

У другім пункце сказана пра вайсковы білет – дакумент атрыманы 1 кастрычніка 1923 года, і ў ім адзначана: родная мова Антона Луцкевіча – польская, а наогул жа ён валодае расійскай, нямецкай і французскай (заўважу: ведаў латынь і старажытнагрэчаскую).

Упэўнены: Антон Луцкевіч заявіў пісару, што яго родная мова – беларуская, але ў эндэцкую пару маладой Польшчы такія заявы ў дзяржаўных установах звычайна ігнараваліся.

А вось у пашпарце, выданым 26 лютага 1929 года, падкрэслена: акрамя польскай, французскай, расійскай і нямецкай, уладальнік дакумента валодае таксама і беларускай мовай!

Праўда, у графе "нацыянальнасць" не пазначана – "беларус", аднак жа і не напісана – "паляк"; проста стаіць фігурная крэска – мусіць, як знак пагаднення: калі нельга паставіць "беларус", то не трэба ставіць і "паляк"!

Як бачна, даводзілася і гэтак бараніць сваё нацыянальнае права!

## 13. 24 злотыя

Здзіўляе чацвёрты пункт – падчас арышту ў Антона Луцкевіча было толькі 24 злотыя!

Дырэктар Беларускага музея жыў небагата, гэта вядомы факт; у адрозненне ад таго ж Р. Астроўскага, вялікіх фінансаў ніколі не меў; згаданая ж сума – сведчанне проста галечы!

А. Гаўрыленка ўпісаў у пратакол і бумажнік – пэўна ж, пусты, бо канфіскаваныя злотыя хутчэй за ўсё з гэтага бумажніка.

Відаць жа, і нястача капіталу прымусіла застацца ў Вільні; хіба з такой гатоўкай рушыш у далёкую дарогу!

Адсутнасць грошай і прымушае часцей за ўсё прыстасоўвацца да абставін, і перш за ўсё мізэрныя грошы – бяда руху, які, не стаўшы дзяржаўным, застаецца толькі нацыянальным!

Гэта для *некага* прычынай усяго з'яўляецца жанчына; для нас прычынай усяго – пераважна з'яўляюцца малыя грошы; без розніцы – і тыя, якія сумленна зароблены, і тыя, якія ўкрадзены!

І зазвычай не ворагі (каб жа толькі яны, то лягчэй на душы было б!), а часцей былыя аднадумцы, нядаўнія таварышы па руху робяцца нашымі хцівымі кантралёрамі.

## 14. Прапанова Р. Астроўскага

У снежні 1933 года Р. Астроўскі раптам прапанаваў зменшыць месячны заробак дырэктару Беларускага музея з 420-ці да 360-ці злотых.

Матэматык Р. Астроўскі ўсё рабіў з намерам і, каб ён быў рыцарам, то на сваім шчыце абавязкова накрэсліў бы: "Лічбы не прызнаюць паэзіі!"

Але што такое 420 злотых у 1930-я гады?

Добрыя грошы, за іх можна было ці не пяць коней купіць!

Праўда, Антон Луцкевіч такога заробку не меў і, каб паказаць, што Р. Астроўскі хлусіць, падрыхтаваў даведку, паводле якой за працу ў музеі на працягу 1933 года штомесяц атрымліваў 150 злотых, а ў снежні наогул займеў адно 60 злотых (недаплачаныя 90 яму вярнулі толькі 13 траўня 1934 года).

Выходзіла, што зарплата дырэктара Беларускага музея была ніжэйшаю, чым нават сярэдні ў Польскай Рэспубліцы месячны заробак, які складаў на той час прыкладна 230 – 250 злотых!

Р. Астроўскі разумеў – на гэта ніхто асаблівай увагі не зверне, нават сябры спачуваць не будуць; мэта ў Р. Астроўскага была іншая: паказаць, што лідар нацыянальнага адраджэння (не сакрэт – Р. Астроўскі прагнуў быць лідарам сам!) працуе толькі за плату; тое, што гэта плата маленькая, толькі на пражыццё, разбірацца не будуць, аднак запомняць – без грошай Антон Луцкевіч за справу не бярэцца!

У пачатку 1930-х кампанія па дыскрэдытацыі Антона Луцкевіча набірала абароты, у ёй удзельнічала АДПУ, дэфензіва і… вядомыя беларускія дзеячы.

Пра К. Езавітава гаворка была ўжо; вось і матэматык Р. Астроўскі (нібыта заданне чыё выконваў!) павялічыў у вачах жыхароў Заходняй Беларусі заробак Антона Луцкевіча амаль у тры разы.

## 15. Фота аднаго з сыноў

У пятым пункце пратакола вобыску адзначана канфіскацыя дзвюх фатаграфій – фота гаспадара кватэры і фота аднаго з сыноў, але не сказана якога – старэйшага Юркі, які (памятаем!) служыў у арміі, ці малодшага Лявона?

Гісторык Анатоль Сідарэвіч параіў электронную копію фотаздымка невядомага мне юнака паслаць у Вільню ўнучцы Антона

Луцкевіча Алесі, што я і зрабіў.

Спадарыня Алеся адказала імгненна: “Гэта мой тата – Юрка Луцкевіч!”

Але вось пытанне: чаму А. Гаўрыленка, далучыўшы да справы фатаграфію Юркі, не далучыў туды і фота Лявона?

Толькі таму, што Юрка знаходзіўся ў арміі, а Лявон быў дома?

Ці проста Лявонавай картачкі не знайшлося?

Магчыма неістотная, аднак жа загадка…

### 16. Спакой інтэлектуала

У той жа дзень, 30 верасня, А. Гаўрыленка напісаў рапарт начальніку аператыўнага аддзялення старшаму лейтэнанту Яроміну; у рапарце падкрэслена: Антон Луцкевіч дастаўлены ў турму (удакладню – у Лукішкі), яго дакументы канфіскаваны, у кватэры ёсць дзве шафы рускай і беларускай літаратуры – пра кнігі на іншых мовах у дакуменце ні слова, нібыта іх і не было!

А. Гаўрыленка адзначыў (магчыма, з ноткай захаплення): пры арышце Антон Луцкевіч паводзіў сябе спакойна!

Чэкіста ўразіў спакой арыштаванага – не знаў служака, што гэта спакой інтэлектуала, вольнага муляра, беларускага патрыцыя, які пастанавіў: ягонай плахай павінен стаць віленскі парог!

У рапарце адзначана, што і сям’я паводзіла сябе стрымана.

Антон Луцкевіч жыў удаўцом, жонка спачыла яшчэ ў 1929 годзе, значыць, пад сям’ёй А. Гаўрыленка разумеў толькі малодшага сына Лявона.

А можа яшчэ нехта знаходзіўся ў кватэры № 8, і таго чалавека таксама прылічылі да сям’і?!

### 17. Заява следчаму Панову

Па арышце мінула дзесяць дзён, і, вядома ж, да лукішскага вязня Антона Луцкевіча дайшла навіна, што “чырвоны Мусаліні” перадаў Вільню Літве, таму ўсе бальшавіцкія ўстановы (перш за ўсё – турмы!) павінны быць вывезены ў БССР.

Так ён апынуўся ў Вілейцы, а тады ўжо і ў Мінску – віленскі парог плахай не стаў, а толькі першай прыступкай галгофы.

Надзея назаўсёды застацца ў Вільні – спачыць у ёй! – не спраўдзілася…

У “Анкеце арыштаванага” за 9 лістапада 1939-га сказана, што ён – беспартыйны і не мае падданства, а ў такой жа анкеце за 14

студзеня 1941-га з’явілася ўдакладненне – тут ужо названы былым сацыял-дэмакратам і былым грамадзянінам Польшчы.

Аднак у выпісцы з пратакола “Особого Совещания”, датаванай 14 чэрвеня 1941 года, ён, стваральнік першай беларускай партыі і першый беларускай дзяржавы, зноў і беспартыйны, і без падданства; дарэчы “Совещание” прызначыла яму восем гадоў лагера, з якіх вытрымаў толькі два з паловай…

9 лістапада 1939-га абвясцілі пастанову, змест якой сведчыў, што ён, Антон Луцкевіч, арганізоўваў узброеную барацьбу супраць Кастрычніцкай рэвалюцыі і супрацоўнічаў (як тут не ўспомніць палітрука Раброва!) з “Двуйкай”.

Праз дзесяць дзён, 19 лістапада, на сваім першым допыце Антон Луцкевіч заявіў следчаму Панову: так, спрабаваў арганізаваць супраць савецкай улады ўзброенае змаганне, але агентам польскай выведкі не быў!

Заява празрыстая: я – змагар, а не шпік, таварышы сталіноўцы!

### 18. Зладзейства

Следчыя запісы грузнелі, складаліся ў тамы, а заместа “віленскіх” пятровых, рабровых, яроміных і гаўрыленкаў з’явіліся “мінскія” пановы і ліфшыцы.

І – што цікава! – “мінскія” падлавілі “віленскіх” на зладзействе:

“АКТ

Мы, нижеподписавшиеся ст. следователь 3 отд. УГБ НКВД БССР Панов и нач. следчасти 3 отд. УГБ НКВД БССР Лифшиц, составили настоящий акт о том, что при поступлении в 3 отдел УГБ следдела на обв. Луцкевича А. И. не обнаружены польские деньги в сумме 24 злота, изъятые при обыске у Луцкевича А. И. согласно протокола обыска, о чем и составлен настоящий акт.

Подписи: ст. следователь 3 отд. УГБ Панов.

Нач. следчасти 3 отд. УГБ Лифшиц.

17 ноября 1939 года, г. Минск”.

(Асобы архіў у Вільні, фонд К-1, вопіс 58, справа Р-11794, том 1, старонка 11).

Аказваецца, тыя няшчасныя 24 злотыя, зафіксаваныя ў чацвёртым пункце пратакола вобыску, так і не “даехалі” да Мінска!

“Даехалі” забраныя лісты, вайсковы білет, пашпарт, фотаздымкі, пусты бумажнік, а злотыя – не!

Яны зніклі; на іх нехта паквапіўся з тайнай сталінскай службы…

Перад тым, як Антона Луцкевіча замардаваць, яго абакралі…

Але праз пяцьдзесят гадоў, у гарбачоўскі час, з'явілася магчымасць вярнуць украдзенае!

## 19. Літоўскія пракуроры

31 сакавіка 1989 года пракурор аддзела пракуратуры Літоўскай ССР, саветнік юстыцыі П. Новікаў падрыхтаваў заключэнне, згодна з якім Антон Луцкевіч падпадаў пад дзеянне артыкула 1 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 16 студзеня 1989 года "Пра дадатковыя меры па аднаўленні справядлівасці ў адносінах да ахвяр рэпрэсій у 30-я – 40-я і ў пачатку 50-х гадоў".

У той жа дзень, 31 сакавіка, гэта заключэнне зацвердзіў пракурор Літоўскай ССР, дзяржаўны саветнік юстыцыі 3-га класа В. Бараўскас і падпісаў пасведчанне аб рэабілітацыі.

У пасведчанні гаворыцца: паводле пастановы Савета Міністраў Літоўскай ССР № 446 ад 26 верасня 1955 года рэабілітаванаму выплачваецца заробак за два месяцы па месцы работы да арышту (у выпадку ягонай смерці, выплату можа атрымаць сям'я).

Значыць, каб Антон Луцкевіч дажыў да рэабілітацыі 1955 года, то за доўгія гады пакуты атрымаў бы ажно два месячныя заробкі!

Але дзе атрымаў?

Па месцы работы – то бок, у Беларускім музеі, якога даўно ўжо не існавала!

А яшчэ ў паперы Бараўскаса гаворыцца: паводле рэспубліканскай пастановы № 197 ад 9 чэрвеня 1984 года рэабілітаваны (ці яго нашчадкі!) мае права на вяртанне канфіскаванай (чытай: украдзенай!) маёмасці.

Словам, тады, у 1989 годзе, Юрка і Лявон Луцкевічы мелі юрыдычную падставу атрымаць не толькі пусты бумажнік, але і 24 злотыя.

Без працэнтаў, вядома!

Аднак ці звярталіся яны ў адпаведную фінансавую ўстанову, ці раіліся з таварышамі Новікавым і Бараўскасам?

## 20. Польскія і рускія начальнікі

"… Слава табе, Армія, Армія Чырвоная!" – шчыра прамаўляў Янка Купала і не памыляўся ў сваім пафасе – без Чырвонай арміі Заходняя Беларусь не ўз'ядналася б з БССР.

Аднак жа трэба ведаць – гэта была галодная армія; у ёй служылі воіны, якія дасыта наеліся толькі ў Заходняй Беларусі!

Траплялiся й такія небаракі-ваякі, якія, напрыклад, ніколі не елі смятану, нават не бачылі яе (у калгаснай старане такога прадукту проста не было!), але 17 верасня, дзякаваць Богу, упершыню разгавеліся і гэтым далікатным харчам.

Маю ўспамін гаспадара, які жыў на хутары ў Мерліне, што паблізу Давыд-Гарадка…

– Што гэта ў вядры? – спытаў баец, забегшы з трохлінейкай на хутар.

– Смятана!

– І што, яе можна есці?

– Можна… Паеш, сынок!

“Сынок” паеў, падзякаваў і прызнаўся, што ніколі такога не еў…

Сталінская кавалерыя ехала па польскім бруку на такіх худых конях, што тыя ледзьве варушылі капытамі і, здаралася, падалі і здыхалі проста пры дарозе…

Майму бацьку ў 1939-м было восем, і ён добра памятае, як чырвонаармейцы частавалі дзяцей махоркай – скручвалі хлопчыкам цыгаркі і давалі закурыць.

Але найбольш уражваў неахайны выгляд чырвоных салдат.

– На гімнасцёрках іхніх наліпла на два пальцы сажы! А за адным байцом па гразкай вуліцы цягнулася разматаная абмотка! – успамінаў бацька.

– Якія былі польскія начальнікі? – пытаўся я ў свайго дзеда Мікалая.

– А так сабе былі, – адказваў дзед.

– А якія былі рускія, што прыйшлі?

– І рускія а так сабе былі…

– Дык што яны падобныя былі?! – здзіўляўся я.

– Не, не зусім падобныя! – ажываў дзед. – Рускія яшчэ кралі!

Вось такая карціна – галодныя салдаты і злодзеі начальнікі!

І яны (дзякуй ім!) і ўз’ядналі нашу Беларусь, таму 17 верасня – свята, той вялікі дзень, пра які марылі і малады камуніст Максім Танк і сталы антысталініст Антон Луцкевіч.

**Пасляслоўе**

Мара ажыццявілася, але за гэта Антону Луцкевічу і яго паплечнікам давялося заплаціць уласным жыццём…

У маладосці ён пакінуў губернскі Мінск, а ў 1939-м яго прывезлі

ў савецкі Мінск – сталіцу якой-ніякой, але беларускай дзяржавы – БССР.

І тады, пэўна, сам д’ябал усміхнуўся: “Ты ж хацеў беларускую дзяржаву – вось і яна!”

Яго дапытвалі фармальныя прадстаўнікі гэтай дзяржавы – супрацоўнікі НКУС БССР; яго абвінавачвалі паводле артыкулаў крымінальнага кодэкса БССР!

І зноў д’ябал мог усміхнуцца: “А раней, калі цябе дапытвалі-судзілі, то спасылаліся на ненавісныя табе царскія законы!”

Так, раней і дапытвалі, і судзілі, і спасылаліся на царскія законы, і першы допыт у 1904 годзе прайшоў у мінскім пішчалаўскім замку-турме, – і вось зноў мінскі казамат!

Жыццё зрабіла круг…

Некалі ў лукішскім астрозе, падчас працэсу над “Грамадой”, ён пераклаў радкі рымскага паэта Публія Авідзія Назона:

*Першы быў век залаты, калі без ніякай прынукі*
*З добрае волі сваей шанавалі і вернасць, і праўду,*
*Страху прад карай не знали, не чулі слоў грозных законаў,*
*Дый без апекі суддзі былі тады людзі бяспечны.*

Калі што і згадваў з паэзіі ў сталінскай катоўні, то, мяркую, згадваў гэтыя радкі, бо яны настройвалі на патрэбны філасофскі лад – не знаць перад карай страху!

Ён ведаў, што бальшавіцкі суд – “Особое Совещание” – гэта адсутнасць суда; ведаў, што застанецца “… без апекі суддзі…”

У такія хвіліны патрыцыі чытаюць рымскіх паэтаў.

23 студзеня 2014 г., чацвер, 12 г. 52 хв.; Менск



Алесь БАРСКІ



# ЛІРЫЧНАЯ УТОПІЯ

***

Вясковы хлеб,
Як сонца на абрусе,
Маё дзяцінства абагрэў
Дабрэчай.
Я на цябе,
Так як на сябра
Абапруся,
Бо ты з нядолі
Беларуса лечыў.
Твой пах нясу,
І данясу аж да магілы,
І толькі там скажу:
Бывай, мой дружа!
Вярніся да жывых
І дадавай ім сілы,
Так як і мне
Даваў ты дужасць.

*17.03.1994*

***

Нявіннага цела няма,
Нявінныя, можа, ідэі.
Цялесны інстынкт –
Гэта цьма,
Якая грэх песціць і грэе.
А грэх – гэта часта не грэх,
А проста натура, і годзе.
Бязгрэшнае цела – смех,
Ідэі ў ману нас заводзяць.

*17.03.1994*

***

Колькі ж забыта здарэнняў,
Праўдзівых і надзвычайных.
Мінаюць мяне пакаленні
З трыумфам або з адчаем.
Дарогі, шляхі, скрыжаванні,
Роздумы, боль і сумненні.
Найчасцей мы катуемся самі,
Кідаем сябе на калені.
Імкнемся наперад нястрымна –
Як многа здарэнняў забыта.
Глядзім на сусвет паўнаіўна
Праз разбітую шыбу нібыта.

*18.03.1994*

***

Дай Божа мне не быць
Ніколі бедным,
Дай Божа мне не быць
Ніколі багацеем.
Ці прападу з зямлі бясследна?
Ці стануся я Праметэем?
Агню я, брацці, не прыдумаў,
Не расчапіў ядра на часткі,
Дык культавых
Не трэба шумаў
І арэолаў з божай ласкі.
Сярод звычайных
Быў звычайны,
І хай яно ўжо

Гэтак будзе.
Не калыхала мяне крайнасць,
І простае люблю я ў людзях.
*20.03.1994*

***

Калі хочаш,
Любі камунізм,
Калі хочаш,
Любі нешта анты –
Але ведай,
Што кожны –ізм
Ёсць пятлёю,
Прыкрытаю бантам.
Не схаці
Закладаць той пятлі
На сваю,
На ўласную шыю.
Лепш без –ізмаў
На свеце жыві,
Можа бедны,
Ды болей шчаслівы.
*20.03.1994*

***

Ці сяк, ці так,
А да магілы дабяжым
І ў ёй схаваемся навек
Бясследна.
Памерці трэба кожнаму,
Хто толькі жыў –
Усім багатым
І таксама бедным.
Таму прыглядзься ты ўважна
Да сябе,
Забудзь пра зло,
Якое зрабіў вораг,
І зразумей, што прыплыве
Твой карабель
У цёмны порт,
Без выхаду ў мора.
*23.03.1994*

***

Мне часта буйны чэрвень
Сніцца,
Узнёслы ў палавым гарэнні.
Айчынны край – мая крыніца!
Я прад табой зноў
На каленях.
Я – у палоне дабравольным
Спеваў тваіх
Іканастасных.
Не прагну болей
Быць я вольны:
Усё тваё – мая ўласнасць!
Малюся да Дарогі Млечнай
З душой бандарскага халопа.
Язычнік я,
Паганін вечны,
Як антытэза ўсёй Еўропы.
*24.03.1994*

***

Калі б не стрымгаловасць
Прамінання,
Дык не было б
І вечнага на свеце.
Хаця пярэчыць смерць
Каханню,
У смерць нясе планету
Вецер.
Усе мы верым,
Што не згінем,
Што смерць нас
Не датычыць асабіста.
Купаемся ў ваннах
Мрояў сініх,
Каб выглядаць на добрых
І на чыстых.
Бывае свет
У абдымках вёснаў,
Бывае свет
У абдымках зімаў.
Спяваюць шумна
Мае сосны,

Каб весялей было
Радзіме.
А прамінанне?
Што ж, хай будзе.
Прыйшлі мы, мы й адыдзем,
Адродзімся ў наступных людзях.
Жыццё – не смерць,
Жыццё – Вялікдзень.
*25.03.1994*

***

Не выясняй ты таямніцаў
Да канца.
Намер такі
Трактуй як безразумны,
Бо таямнічасць ёсць
Істотаю жыцця
У свеце суматошлівым
І тлумным.
Нам нельга існаваць
Без таямніц,
І трэба крыху ведаць
І не ведаць.
Заслону тайнаў
Толькі крыху адгарні,
Бо ў поўнай яўнасці
Бываюць беды.
Цікаўнасць неадкрытым –
Гэта сэнс быцця,
І аб адкрыццях
Чалавецтва марыць,
Але бестаямнічасць –
Гэта смерць жыцця,
Быць можа, на ўсім
Зямным вялікім шары.
*25.03.1994*

***

Паэзія –
Птушка, што ў клетцы няволім.
То молімся ёй,
То яе праклінаем,
І часта яна нам
Даперчыць, дасоліць,
Ды часам у неба
Яна ўзнімае.
Чаго ў ёй болей,
Ці мёду, ці перцу?
Які ж тут альхімік
Адкажа на гэта?
Калі ў ёй трапеча
Шляхетнае сэрца,
Тады памагае
Балючаму свету.
Дык можна пры ёй
Праклінаць і маліцца,
То смутку аддацца,
То стацца пажарам,
Стацца праменьчыкам
Або крыніцай,
Ды нельга стаяць
З абыякавым тварам.
*25.03.1994*

***

Айчына – гэта місія,
А не прытулак.
Таму ты з ёю мусіш дзейнічаць
Да скону.
Хай яна ў сэрцы нашым
Выклікае чуласць
І хай жыве ў нашых душах
Яе гоман.
Айчына – вечная арэна
Для адважных.
Для скептыкаў і трусаў –
Месца ў запечках.
Яна важнейшая
З усіх найболей важных,
Як лек цудоўны нашы сэрцы
Яна лечыць.
Таму ты верш пішы,
Або пасей ты збожжа,
Чакай з народам восені
І ўраджаю.
Гнюсавіць, наракаць
Мы сёння больш не можам,

Калі мы спадары,
А не рабы ў краі.
*4.04.1994*

***

Мая Беларусь –
Катастрофа!
І шаленцу, мне,
Даспадобы.!
Таму ёй пачуцці і строфы!
Беларусь – маё горкае хобі.
Таму не хачу
Я заможнай,
Аўтарытэтнай і слыннай.
І тут многім
Цешыцца можна
У падвячорках палынных.
Я веру, што мы зноў
Паўстанем,
Я веру, што мы
Уваскрэснем,
Залечым і болі, і раны
Роднай матчынай песняй.
*4.04.1994*

***

Дагэтуль Бог мяне не слухаў,
Бо меў дарадчыкаў ён лепшых,
Дый светам кіраваў засуха,
Без паэтычных дыялектык.
А я?
Хто – я?
Стаю самотна
На паэтычных
Скрыжаваннях.
Пытаю птахаў пералётных,
Які шлях завядзе ў каханне?
Бо хто ж, як птахі,
Вывучае, куды ляцець,
Калі ўжо восень?
А я ўсё светы адкрываю
Сярод палёў
І сярод сосен.
І да канца не разбяруся
У тым, што па-за панадворкам,
І як парадзіць з Беларуссю,
І з таямніцай яе горкай.
*4.04.1994*

***

Паэзія – цяжкія жорны:
Доўга мелеш – мукі нямнога,
І хлеб з яе бывае чорны,
Быццам бы з пылу зямнога.
І ў словах
Мала прароцтваў,
Многа роздумаў
Горкіх, палынных.
Паэзія, ты як дзявоцтва,
Якое так цяжка затрымаць.
Скажаш слова – здаецца, нядрэнна,
Пасля глянеш – зусім па-другому:
Тое лішняе,
Тое дарэмна,
Непатрэбнае, мабыць, нікому.
І тое, што цешыла ўчорай,
Сёння ўжо сэрца не грэе.
І сам ты сабе быццам вораг,
І ў надзеі тваёй – безнадзея.
*4.04.1994*

***

Ты не саромся, палажы
Руку на грудзі.
Няхай рукой тваёй
Кіруе смеласць.
Так, гэта праўда –
Грэшныя мы людзі,
І грэшнае таксама маё цела.
Ды з святасцю ў сваяцтве
Грэшнасць гэта.
І сэкс, і плоць –
Свяшчэнныя істоты.
Ці ж не яны калышуць
Цэлым светам?
Маліся эратычнаю пяшчотай.

Цела маё заваражыла прага,
Дык прыкладай ты крэсіва
Да крэмня.
Адвагі, любая,
Крыху адвагі.
Хай не чакае плоць мая дарэмна.
*22.04.1994*

***

Вось ты ізноў пры мне,
Як сонца пры аблоку.
Я абніму цябе далоняй
Цёпласоннай.
Да Бога блізка,
А да людзей далёка,
А вокал нас
Салодкая бяздоннасць.
Ты ні аб чым не думай болей,
Дарагая,
Бо я ўжо ўсё дакладна
Перадумаў.
Няхай гарыць каханне
І ніколі не згарае
У радасці, якая
Развялася з сумам.
Дык паглядзі –
Блакітныя пасцелі
Каханне наша
Прагне, цеснае прасторы.
Як сонца,
Ты змяшчаешся
Ў маім аблоку.
Абое патанаем
У шчаслівым моры.
*22.04.1994*

***

Вось і ўсё
Зноў сталася святое,
Бо целы нашы
Пабывалі ў небе.
Як добра, калі споўняцца
Дзве мроі,
Калі ўзарвецца
Плоцевы малебен.
Але ў сэрцах шчэ
Гудуць авацыі,
Хаця мы крышачку ўжо
Астылі.
Як два анёлы стомленыя
Працай,
Раскінулі бездапаможна
Крыллі.
І так ляжым.
Салодкая пустэча
І зоркі пахіліліся
Над нашым ложам.
Хто ж пракляне
Такі сэкс чалавечы,
Што праяўляецца
У вечным і прыгожым?
*22.04.1994*

***

Як вішні белыя
У веснавым квітненні,
Павалены на долы
Бурай нечаканай,
Так мы ляжым тут
З вырваным карэннем,
Усё яшчэ ў душы і целе
Моцна п’яны.
Мы пабылі дзесь там,
А дзе – дык невядома.
Напэўна ў месцы тым,
Дзе пражываюць богі,
І ўзляцелі мы як два анёлы –
Строма,
Але вярнуліся спакойнаю
Дарогай.
Як вішні дзве,
Якія бура безлітосна
З карэннем вырвала
І кінула на долы,
Ляжым у змроку,
У блізкасці мілоснай,
І не мяшае нам

Ні стомленасць, ні голасць.
*23.04.1994*

***

Скранулі з месца
Абыякавыя глыбы,
Канструкцыю стварылі
З дзікіх дзвюх паходняў.
Пра нас не скажаш,
Што ні мяса і ні рыба,
Калі ў зыркім полымі
Мы пабылі сягоння.
І сапраўды –
Людзі спакойныя, здаецца,
Прайшлі праз каляровыя
Гарачыя заслоны
І на алтар кахання
Палажылі сэрцы.
Алтар, трэба сказаць,
Натхнёны і шалёны.
Цяпер ляжым,
У нашых целах дрэмле вечнасць,
Агорнуты яшчэ
Незразумелай мрояй.
Прарваліся праз палкі акт,
Звышчалавечны,
І ўвайшы ў стан
Анельскага спакою.
*23.04.1994*



Серафім АНДРАЮК

# Новыя старонкі

22.11.1962 года быў вызвалены ад працы настаўніка ў сувязі з паступленнем ў аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР па спецыяльнасці "Гісторыя беларускай літаратуры". Так пазначана пад №№ 2 і 3 у маёй "Працоўнай кніжцы". Як паглядзіш сёння: позна ўсё гэта пачалося. Але што зробіш: такі быў час, такое жыццё. Гады вайны як бы дзесьці запаволілі рух і развіццё пакалення. Хаця, з другога боку, духоўнае і жыццёвае пасталенне было паскорана. Так сёння здаецца.

Пачалося новае жыццё. Новыя абставіны, новыя людзі, новыя мэты. Быццам студэнтцкае, але больш самастойнае, мэтанакіраванае. Гэта – з аднаго боку. З другога – унутрана нейкае няўстойлівае, журботнае. Была праца, асноўны занятак. Але ж была ўжо сям'я – жонка, дачушка. Яны жылі ва мне, са мною. Ды яны былі фізічна далёка ад мяне – у нашых Палажэвічах. На Старадарожчыне.

Жыў пэўны час у аспіранцкім інтэрнаце. Адначасова шукаў у прыватных драўляных дамах пакойчык для сям'і. Было не дужа проста: дзіця яшчэ малое. Аднак праз нейкі час такі пакойчык знайшоўся па вуліцы Арлоўскай. У хуткім часе пераехала ў Мінск і жонка з дзіцем. Дачушку ўладкавалі ў дзіцячы садок. Жонка таксама там пачала працаваць. Зразумела ж, я з інтэрната пайшоў. Сямейна-дамашняе (хоць і ў чужым доме) жыццё пачало паціху быццам усталёўвацца, прымала як бы нейкі рытм.

Аспіранцкае жыццё, вучоба ўсё больш набывалі свой акрэслены характар. Была вызначана тэма дысертацыі – "Сучасны беларускі раман". Кіраўніком стаў, вядома ж, Ю.С. Пшыркоў. Ужо адразу ні пра якую творчую работу над дысертацыяй і размовы не магло быць. Спачатку трэба было здаць аспіранцкія экзамены – па спецыяльнасці, г.зн. па беларускай літаратуры, па марксісцка-ленінскай філасофіі і па замежнай мове. Звычайна ўсё гэта рабілася за год, рэдка калі за два: найчасцей гэта было звязана з замежнай

мовай. Так здарылася ў мяне. Першыя два экзамены здаў я паспяхова. А вось з замежнай мовай атрымалася ўсё неяк вельмі недарэчна. У школе вывучаў нямецкую мову, ва ўніверсітэце – французскую. Вядома ж, веды былі даволі слабенькія і па адной, і па другой. У аспірантуры вырашыў займацца французскай. Спачатку усё ішло быццам як трэба: заняткі, пераклады, здача знакаў. Усё – як і ў іншых з нашай групы. Праз нейкі час ўсё сапсавалася. І тут, напэўна, не толькі была віна асабістая. Бо ўся група выглядала не лепшым чынам. Ва ўсякім разе так нас падавала наша выкладчыца. Абыходзілася яна з намі як са шкадлівымі сямі-васьмікласнікамі. У мяне дайшло да таго, што я ўжо хацеў кідаць аспірантуру. Але куды ты дзенешся?..

Дапамог Юльян Сяргеевіч, мой настаўнік і кіраўнік. Ён меў гаворку з загадчыкам кафедры замежных моў. Пасля гэтага ўсё пайшло больш-менш нармальна і закончылася паспяховай здачай экзамена.

Можа і не варта было б пра гэта гаварыць. Але ўнутрана для мяне гэта быў выпадак, які ў душы пакінуў гаркату пэўнай прыніжанасці, знявагі, нейкай як бы разгубленасці. Згадваць пра гэта заўсёды непрыемна. Але ж згадваецца. І не толькі мною, але і некаторымі з тых, хто разам быў у групе. Разам з тым, гэта быў урок – урок адмоўны – адносін да іншых, да чалавека.

Усе гэтыя экзамены, найперш па замежнай мове, забралі у мяне, па сутнасці, два гады з трох аспіранцкага часу. Заставаўся адзін год. За гэты год трэба было зрабіць дысертацыю. Нельга сказаць, што дагэтуль я не займаўся дысертацыяй. Чытаў мастацкую літаратуру, тэарэтычную, кнігі па гісторыі літаратуры нацыянальнай, рускай, замежнай. З апошніх, што тады можна было. Былі пэўныя накіды, занатоўкі, блукалі думкі, не заўсёды яшчэ, праўда, дастаткова выразныя, лагічна ўзаемазвязаныя. Аснова фактычная была. І не бедная. Як на факты, ідэі гісторыка-тэарэтычнага зместу, так і на факты непасрэдна літаратурна-мастакія – творчасць пісьменнікаў, творы. Зараз трэба было выпрацаваць нейкую сістэму, якая б гэты багаты, складаны матэрыял аб'ядноўвала, узаемазвязвала, падпарадкавала галоўнай думцы – ідэі, садзейнічала яе абгрунтаванню і выказванню. Матэрыял літаратурны, багаты, даваў шырокую магчымасць для абагульненняў, для больш-менш значных высноў тэарэтычнага характару. Упарта, настойліва я і займаўся гэтым апошні аспіранцкі год. Усе дні (ды і вечары) праседжваў у Ленінскай (як тады яе называлі) бібліятэцы, у беларускай зале.

Жонка ўсё гэта мужна цярпела. Ды не проста цярпела, а ўсяляк

спрыяла, дапамагала, падбадзёрвала, сілкавала сваёй энэргіяй. А энэргіі ў яе казацкай натуры хапала. Усе хатнія і сямейныя клопаты ўзяла на свае плечы. І мужна, цярпліва, проста выдатна з імі спраўлялася. Пры такіх адносінах, пры такім стаўленні да маёй працы, майго занятку я проста не мог не працаваць упарта, самааддана.

Праца дала вынік. Дысертацыю я зрабіў. Дарэчы, як і іншыя мае калегі. Аспіранцкі тэрмін закончыўся. Тры гады як праляцелі.

Здавалася б, усё выдатна. Трэба было б толькі радавацца. Але ў жыцці так бывае рэдка. Ва ўсякім разе ў маім. Заўсёды падсцерагаюць нейкія непрыемнасці – калі не ў галоўным, дык абавязкова ў чымсьці другарадным. Праўда, на гэты раз усё было якраз не другараднага зместу.

Закончыць аспірантуру то я закончыў. Дысертацыю зрабіў. А што далей?.. Кіраўніцтва Інстытута быццам і не супраць пакінуць на працу, ды няма вакантнага месца. Трэба пачакаць. Колькі?.. Ніхто не можа нічога сказаць. Ды і прапаноў ніякіх ніадкуль не было. Амаль два месяцы я не меў ніякай працы. У сярэдзіне студзеня быў залічаны на пасаду бібліятэкара інстытуцкай бібліятэкі. Працаваў на гэтай пасадзе каля чатырох месяцаў. Хаця якое там “працаваў”! Займаўся сваімі справамі – рыхтаваўся да абароны дысертацыі: пісаў аўтарэферат, артыкулы дысертацыйнай тэматыкі.

І якраз у гэтыя часы працоўнай неўладкаванасці, няўстойлівасці і няпэўнасці па-сапраўднаму бацькоўскую падтрымку адчуваў я з боку майго кіраўніка Юльяна Сяргеевіча Пшыркова. Як кіраўнік ён быў выдатны, адметны. Адметны, можа, не так сваімі якасцямі вучонага, як чалавека. Ён, як кіраўнік, не навязваў сваіх ідэй, сваіх ацэнак творчасці ці твораў асобнага пісьменніка, не імкнуўся спяшацца за асвятленнем якіхсьці на той час актуальных грамадска-літаратурных пытанняў. Юльян Сяргеевіч заўсёды імкнуўся найперш зразумець свайго вучня-суразмоўцу, штосьці ўдакладніць, праясніць, часам засцерагчы. І ўсё гэта тактоўна, спакойна, добразычліва. Яго аспіранты заўсёды былі ў полі яго зроку. Не заставаліся па-за яго ўвагай і тады, калі ўжо выходзілі і на самастойную творчую дарогу. Было ў гэтым штосьці па-бацькоўску прыгожае і добрае.

Дык вось, што датычыцца майго тагачаснага падвешанага жыццёвага і навуковага становішча, то менавіта Юльян Сяргеевіч, мой настаўнік, найбольш прымушаў мяне працаваць, не паддавацца часовым нягодам: усё праходзіць. Так і здарылася. У маі месяцы 1966 года я быў нарэшце залічаны на пасаду малодшага супрацоўніка ў сектары беларускай савецкай літаратуры. Загадваў

сектарам доктар філалагічных навук Івашын Васіль Уладзіміравіч. Вылучала яго моцная партыйная загартоўка, уважлівыя адносіны да напісанага яго супрацоўнікам, спакойнае стаўленне да дысцыпліны. Увогуле працаваць у сектары было нядрэнна.

Ужо да гэтага, у час майго бібліятэкарства, я ўвайшоў у творчы калектыў; ён прыняў мяне. Ва ўсякім разе так мне здавалася тады, так уяўляецца і сёння. Пасады малодшага навуковага супрацоўніка фармальна, па сутнасці ўсё гэта замацоўвала. Жыццёва і творча я адчуў сябе больш пэўна, устойліва, дзесьці такім, як і іншыя.

У хуткім часе пасля залічэння на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка, а менавіта 2 ліпеня 1966 года, на аб'яднаным савеце Інстытута літаратуры ім. Я. Коласа АН БССР адбылася абарона маёй кандыдацкай дысертацыі "Сучасны беларускі раман (1954–1965)". Дыплом быў зацверджаны Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй у Маскве толькі ў студзені наступнага года. Такая тады была практыка.

Чалавек я ўнутрана ўвесь час у сумненнях, дзесьці няўпэўнены ў сваіх сілах і магчымасцях. Таму і паспяховая абарона, і атрыманне дыплома нямала пасадзейнічалі маёй жыццёвай устойлівасці, большай творчай смеласці і пэўнасці. Тым больш, што ў гэты час я ўжо друкаваўся ў галоўных перыядычных літаратурных выданнях – "Полымя", "Маладосць", "Літаратура і мастацтва".

Якраз у гэты час (канец 60-ых – пачатак 70-ых) пісаў я шмат – пра самых розных аўтараў, на самыя розныя тэмы. Пісаў так, як я разумеў, як я адчуваў. Імкнуўся пісаць сумленна. Увогуле жыццё той вёскі, у якой я рос, гадаваўся, мела, як глядзіш сёння, моцныя маральныя асновы. Чалавек, хоць сацыяльна-эканамічна лічыўся аднаасобнікам, жыў усё ж сярод людзей, адкрыта. Пра якісьці жалезны ці то бетонны глухі плот і думаць ніхто не мог. І не таму, што ў тыя часы каштавала страшэнна дорага. Гэта было непрыгожа, не па-людску. Жыццё чалавека, ён сам былі адкрытыя для іншых, як і іншыя для яго. Усё дрэннае, няшчырае, хлуслівае, жорсткае ў характары чалавека, у яго паводзінах заўважалася хутка. Зразумела, атрымлівала належную ацэнку. Нічога нельга было надоўга схаваць, затаіць. Правілы ўзаемаадносін паміж людзьмі, правілы паводзін асобнага чалавека дыктаваліся гісторыяй, мелі аснову больш духоўную, чым юрыдычную. Не толькі страх пакарання, але і чалавечая сумленнасць мелі тут першаступеннае значэнне.

І вось гэтая "вясковасць" – і ў станоўчымм сэнсе, і ў адмоўным (лішняе нясмеласць, асцярожлівасць, няўпэўненасць) – захавалася ва мне і да сённяшніх дзён. А прысутнічала ўсё маё свядомае жыццё.

Ды, мабыць, і несвядомае. Натуральна, усё гэта ў той ці іншай ступені не магло не адчувацца і ў тым, што я пісаў. Так я лічыў – так і пісаў. Гэта нікольki не значыць, што ўжо занадта крытычна я ставіўся да торчасці або твора таго ці іншага пісьменніка. Зусім не. Пісаў так, як я разумеў, як адчуваў. Ды што зробіш, мала калі, здавалася б, не такія ўжо істотныя крытычныя заўвагі ўспрымаюцца, як сёння кажуць, адэкватна. Праўда, не адразу мне давялося гэта адчуць і зразумець.

Ды на ўсё свой час.

Звычайна усе дысертацыйныя работы – што да абароны, што пасля – выдавалі, асобнымі кніжкамі. Дысертацыі акадэмічных супрацоўнікаў друкаваліся ў выдавецтве “Навука і тэхніка”. Я ж, паколькі ўжо пачаў пастаянна друкавацца ў літаратурных часопісах, кнігу вырашыў выдаць у адпаведным выдавецтве – “Беларусь”. Па рэдакцыі мастацкай літаратуры. Чаму, адкуль такое жаданне з’явілася і прыйшло рашэнне, сёння не магу сказаць. Напэўна, параіў нехта са знаёмых пісьменнікаў.

Падрыхтаваў рукапіс, аднёс у выдавецтва. Рукапіс прынялі, уключылі ў план выданняў. Праз пэўны час паведамілі: прыйшла першая карэктура, трэба вычытаць. Пайшоў у рэдакцыю. Загадчык рэдакцыі Хведар Жычка аддаў карэктуру, пахваліў кнігу. Акрылены, я хутка вычытаў карэктуру, аднёс у выдавецтва. Чакаю…

Далей – “Гісторыя”, пра якую ў тыя часы даволі поўна і дакладна расказаў Іван Мележ, тады адзін з сакратароў Саюза пісьменнікаў. На Пленуме СП БССР, які адбыўся 16.02.1972 года, у сваім дакладзе “Развагі пра нашу крытыку” Мележ гаварыў так:

“За час маёй працы ў Саюзе пісьменнікаў, можа, не было больш недарэчнай гісторыі, чым тая, што адбылася з Серафімам Андраюком.

Серафім Андраюк – малады крытык – падрыхтаваў першую сціплую памерам кніжку крытыкі. Там былі і горшыя, і лепшыя старонкі, былі там выразы, думкі, якія належала ўдакладніць, паправіць. Пры падрыхтоўцы малады крытык многае і паправіў.

Кніга пайшла ў набор, набралі, аўтар прачытаў, падпісаў. І тут загарэлася. Пры чытанні набранага тэксту раптам убачылі “нявідныя раней” у рукапісе заганы. Кнігу затрымалі. Паставілі перад аўтарам новыя патрабаванні, узніклі спрэчкі паміж аўтарам і выдавецтвам. Узнік канфлікт. Аўтар звярнуўся ў наш Саюз пісьменнікаў з просьбай дапамагчы. Я сустрэўся з загадчыкам рэдакцыі Хв. Жычкам, папрасіў расказаць, чаму затрымана кніга. Галоўнае ў тым, што сказаў Хв. Жычка, зводзілася да трох пунктаў: Андраюк выказвае

"устарэлыя погляды", "ён не тых хваліць" і нават – запомнілася – выказаў: у аўтара "не нашы погляды". (Было яшчэ супрацьпастаўленне літаратуры першага і другога пасляваенных дзесяцігоддзяў. – *С.А.*). Я папрасіў даць вёрстку, прачытаў і адразу скажу, што, хоць кнігу там-сям і варта было яшчэ падрэдагаваць, ніякіх "не нашых", не савецкіх, поглядаў не ўбачыў. Кніга, вядома, наша, савецкая. (Дарэчы, як можна так лёгка кідацца падобнымі абвінавачаннямі!). Што да абвінавачання: Андраюк "не таго хваліць", то тут было над чым падумаць – Андраюк хваліў М. Лобанка, А. Чарнышэвіча, Я. Брыля, В. Быкава, У. Караткевіча, І. Пташнікава, І. Мележа і некаторых іншых. Хваліў і некаторых другіх, хваліў і крытыкаваў. Чаму гэта не тыя, пра каго трэба пісаць? Ва ўсёй гэтай гісторыі належала ўсебакова разабрацца, пачуць калектыўную думку пісьменнікаў, і мы рашылі абмеркаваць кнігу на секцыі крытыкі. На сходзе секцыі выступілі вядучыя крытыкі і празаікі, якія выказалі нямала і заўваг (дарэчы, зусім іншых, чым у рэдакцыі) і аднагалосна сышліся на думцы, што кніга вартая таго, каб яе выдалі. Пратакол (на дваццаці старонках) быў пасланы ў выдавецтва "Беларусь". Там прачыталі яго і – раскідалі набор кніг Андраюка!

"Гісторыя" – выключная і, як кажуць, павучальная. Яна ярка паказвае, які "такт" праяўляюць некаторыя нашы таварышы ў рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва да крытыкі, асабліва маладой. Яна паказвае таксама, як ставяцца там да калектыўнай думкі членаў нашага саюза пісьменнікаў і разам з тым – да думкі некаторых яго выбраных кіраўнікоў.

З гэтай "гісторыі" стала зразумела, што справа тут не ў высокіх матэрыях, а ў тым, што малады крытык кагосьці непрадбачліва не пахваліў, кагосьці недахваліў. А хтосьці і рашыў палічыцца за даўнія "грахі" Андраюка, за яго ранейшую крытыку. І стала вядома, што справа тут не ў думцы аднаго Хв. Жычкі, а ў настроях некаторых пакрыўджаных крытыкам.

І кнігу "зарэзалі", наперакор рашэнню секцыі крытыкі, наперакор шырокай калектыўнай думцы. Паказалі непавагу да многіх пісьменнікаў" (Іван Мележ. *Жыццёвыя клопаты*. Мінск, 1975. С. 502 -504.).

Да гэтага варта дадаць наступнае. Пра гэта расказвае крытык Аляксей Гардзіцкі ў сваіх нататках мемуарнага зместу ("Полымя". 1994, №2). У той час ён працаваў у Камітэце па друку. Згадвае, што прыйшоў да іх ліст за подпісам Івана Мележа з хадайнічаннем аб выданні маёй кнігі. Да ліста дадаваўся пратакол пасяджэння секцыі крытыкі, дзе ўсе, па сутнасці, выступоўцы ацэньвалі кнігу станоўча.

Гардзіцкаму было даручана прачытаць карэктуру кнігі і выказаць сваю думку. Ацэнка была станоўчая.

Праз нейкі час Гардзіцкі і намеснік старшыні камітэта Барушка Анатоль Фаміч былі запрошаны ў ЦК партыі да Уладзіміра Гніламёдава, які ў аддзеле культуры курыраваў мастацкую літаратуру. Быў запрошаны загадчык рэдакцыі Хв. Жычка, а таксама і аўтар, гэта значыць я. Выступілі я, потым Гардзіцкі, Барушка. Усё ішло добра. Гніламёдаў ужо робіць пэўныя станоўчыя высновы. Ды раптам Жычка сказаў, што ўчора дырэктар выдавецтва быў у сакратара ЦК Пілатовіча і вырашана: кнігу не выдаваць. На пытанне Гніламёдава: чаму? – Жычка растлумачыў: “Дух не наш”. Нямая сцэна. І тут Барушка, які толькі што ацэньваў станоўча, загаварыў (цытаты Гардзіцкага): “Так-так, дух не той, дух не той, – спахапіўся Барушка і пачаў паляпваць Андраюка па плячы, нібыта ён даўно яго ведае і яны, маўляў, адзін аднаго разумеюць”.

Гніламёдаў толькі і сказаў: “Пасяджэнне пераносіцца!”

Заключныя развагі Гардзіцкага: “Цяпер я разумею: нас проста хацелі падставіць як пешак, зрабіць вінаватымі ў гэтай гульні. Ды яшчэ: мы праходзілі своеасаблівую школу, паводле якой, як выявілася, эстэтычны густ неабавязковы, галоўнае – валодаць нюхам, адчуваць, чым дыхаюць там, наверсе, і тады даволі проста вызначаецца гэты самы дух кніжкі”.

Кніга гэтая ўсё ж выйшла. Праз Інстытут літаратуры ў выдавецтве “Навука і тэхніка” у 1973 годзе. Навуковым рэдактарам быў П.К. Дзюбайла, рэдактар пільны, патрабавальны. Уважліва чытаў і выдавецкі рэдактар. Кніга працярпела і пэўныя скарачэнні. І пазней, і сёння чытаць яе не хочацца.

Зразумела, што на гэты раз кніга вышла з дазволу ЦК. Пра гэта гаворыць і Гардзіцкі, згадвае пра гэта і У. Гніламёдаў у сваім рамане -дзённіку “Сем гадоў у ЦК”: за дазволам выдаваць маю кнігу звяртаўся дырэктар Інстытута літаратуры Барысенка В.В.

Вядомая рэч, уся гэтая гісторыя нямала, як кажуць, патрапала мне нерваў, пахіснула, паставіла пад сумніў маю веру ў справядлівасць, у вышэйшую пісьменніцкую справядлівасць. Адначасова ўвяла мяне ў больш шырокае кола пісьменнікаў, пашырыла маю вядомасць сярод іх.

Асабіста для мяне добра і тое, што пасля гэтага я адчуў прыязныя адносіны да сябе старэйшых пісьменнікаў (І. Мележа, Я. Брыля, А. Кулакоўскага, В. Быкава, А. Карпюка), сваіх аднагодкаў. На маім становішчы ў Інстытуце быццам ніяк не адбілася. Ва ўсякім разе сёння нічога благога ў гэтай сувязі не згадваецца. Да гэтага часу

я ўжо як трэба ўключыўся і ў навукова-даследчыцкую працу, а не толькі крытычную.

Планавыя даследчыя тэмы былі розныя. Першая была прысвечана беларускаму апавяданню першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Працавалася звычайна, без асаблівага захаплення. Наступная калектыўная тэма была прысвечана даследаванню індывідуальнага стылю лепшых паэтаў і празаікаў таго часу. Мне трэба было даследаваць стыль Івана Мележа. Тэма ўдзячная. Узяўся за яе выкананне з задавальненнем. Праўда, да гэтага ўзнікла неабходнасць напісаць артыкул тэарэтычнага характару: даць сваё разуменне індывідуальнага стылю пісьменніка. Праца захапіла, працаваў з вялікім задавальненнем. З аднаго боку, трэба было перачытаць, асэнсаваць агромністы, і няпросты, тэарэтычны матэрыял, дзесьці вызначыць, акрэсліць сваё разуменне індывідуальнага стылю. З другога – убачыць, хутчэй – адчуць, усю адметнасць, глыбіню, арганічнасць, паэтычнасць індывідуальнага стылю Івана Мележа, якім ён выявіўся ў яго “Палескай хроніцы”.

У яго раманах “Людзі на балоце” і “Подых навальніцы” надзвычай моцна адчувалася арганічнае адзінства аўтара і свету, які ён узнаўляе, чалавека (яго герояў) і абставін (свету прыроды, ладу жыцця, сямейна-бытавых узаемаадносін), асабліва адзінства ўзноўленага свету і слова. У нашай літаратуры, мне здаецца, цяжка знайсці твор, пасля чытання якога засталося б уражанне, што пра гэтых людзей, пра гэты свет можна толькі так гаварыць, пісаць, такім словам, у такім тоне, рытме. Выключная праўдзівасць і арганічнасць узноўленага, створанага наноў свету. Таму зусім зразумела, што ўся папярэдняя творчасць Івана Мележа (за выключэннем некалькіх апавяданняў), асабліва ж раман “Мінскі напрамак”, даволі слаба суадносіліся ў плане стылю з раманамі “Людзі на балоце” і “Подых навальніцы”. Пра гэта, гаворачы пра выпрацоўку, станаўленне індывідуальнага стылю, мне і давялося таксама гаварыць.

У прыватнасці сцвярджалася і такое: “У раманах “Людзі на балоце” і “Подых навальніцы” стыль пісьменніка канчаткова акрэсліўся, праявіўся як мастацкая рэальнасць. Папярэдняя творчасць – гэта толькі пошукі арыгінальнага стылю, пошукі сябе. У ранейшых творах пры ўсіх іх больш ці менш значных вартасцях не заўсёды можна было ўбачыць закончанасць і ўзаемаабумоўленасць розных элементаў мастацкага цэлага. То жыццёвы матэрыял неяк рэзка выпіраў сваімі знешнімі абрысамі, то аўтарская думка праходзіла яркай стужкай па паверхні, падпарадкоўваючы сабе матэрыял, то

багаты матэрыял жыцця неяк рассыпаўся, існаваў сам па сабе ў шматлікіх яго праяўленнях, нярэдка ў знешніх, выпадковых сувязях. Недастаткова адчувалася аўтарская пераўжытасць, асабістая далучанасць да падзей і характараў”. Магчыма, дзесьці гэта было рэзкавата, часам, просталінейна. Хаця пры абмеркаванні гэтай працы і ў сектары, і на вучоным савеце ніякіх заўваг крытычных ў гэтым плане не было.

Але здарылася наступная гісторыя, згадаваць якую не дужа прыемна. Пасля ўсіх перыпетый, звязаных з маёй першай кнігай, у мяне з Іванам Мележам наладзіліся добрыя, прыязныя адносіны. Я адчуваў яго ўвагу. Ён знаў, што я пра яго пішу. Машынапісны тэкст папрасіў пачытаць. Я аднёс яму. Праз нейкі час Іван Паўлавіч запрашае да сябе. Ішоў я з трывогай, з унутраным непакоем. Гутарка была, скажам прама, не дужа сардэчная. Адчувалася, што Мележ стрымлівае сябе. Пахваліў усё, што сказана было пра раманы “Людзі на балоце” і “Подых навальніцы”. Спадабалася ўсё, ніякіх заўваг не было. Затое ўсё тое, што было напісана пра творчась да гэтых раманаў, асабліва пра раман “Мінскі напрамак”, ім практычна не прымалася зусім. Расказваў, што такое ў яго творчым лёсе гэты раман, як ён над ім працаваў, колькі аддаў часу, здароўя, чаго ён яму каштаваў. Гаварыў доўга. Я маўчаў. Ды і што я мог яму, у такім настроі, гаварыць. Злосці ў яго не было, было раздражненне і крыўда. Можна ўявіць, з якім настроем вяртаўся я пасля гэтай сустрэчы. Трэба сказаць шчыра, што якойсьці прыкметнай змены ў адносінах да мяне нашага тады ўжо класіка я не адчуваў пазней. Так, калі ў 1975 годзе выйшла яго кніга артыкулаў, эсэ, інтэрв’ю “Жыццёвыя клопаты”, я атрымаў асобнік з дарчым надпісам аўтара: “Серафіму Андраюку – мае крытычныя клопаты, па-сяброўску Іван Мележ. 23.10.1975”.

Праходзіць час. Чытаю ў кнізе крытыка Дзмітрыя Бугаёва “Служэнне Беларусі”(2003) артыкул “Некалькі згадак пра Івана Мележа”, пазначаны 2001 годам. У гэтым артыкуле Бугаёў згадвае пра адну даволі запамінальную для яго сустрэчу з Іванам Мележам. Сярод іншага тут піша: “Шмат гаварылася пры той сустрэчы пра Серафіма Андраюка”. Чаму? Бугаёў расказвае. Цытуе вышэй прыведзеныя словы мае пра творчасць да “Палескай хронікі”. У прынцыпе я і сёння не адмаўляюся ад гэтай ацэнкі. Але выказана яна, напэўна, была рэзка. У той час хацелася быць прынцыповым у адносінах да ўсіх. Сёння разумееш – і ўважлівым, чулым. Бо згадваецца такое (або хтосьці згадвае) – і ўзнікае нейкая няёмкасць, шкадаванне.

То былі першыя вынікі і турботы, радасці і засмучэнні на ніве, так бы мовіць, творчай працы. Яны далі магчымасць у поўнай меры адчуць тую няпростую атмасферу, у якой я апынуўся. Праўда, гэта менш за ўсё была атмасфера творчая. Хутчэй грамадска-побытавая, якая панавала не так у жыцці навуковага творчага калектыву, як у жыцці літаратурным. Ды гэта зразумела. Пісьменнікі – людзі эмацыянальныя, з абвостраным успрыманнем навакольнага свету, рэальнага жыцця, з рэзкай рэакцыяй. Умовы грамадска-палітычныя надавалі гэтай рэакцыі характар ідэалагічны. І гэта было самае непрыемнае і небяспечнае.

То былі гады, калі я ўваходзіў у гэты новы для мяне свет – свет літаратурна-навуковы, літаратурна-крытычны. Асвойваў яго, асвойваўся ў ім. У Інстытуце панавала атмасфера творчая, таварыская, атмасфера ўзаемаразумення і ўзаемапавагі, творчай патрабавальнасці і памяркоўнасці. Дырэктар Інстытута літаратуры Васіль Васільевіч Барысенка, маючы вопыт няпростых у літаратурным жыцці папярэдніх гадоў, не дапускаў ніякіх унутраных звадак, усяляк імкнуўся прыглушыць тыя адмоўныя сігналы, што час ад часу даходзілі звонку. Навукоўцы старэйшага пакалення Адамовіч А.М., Івашын В.У., Перкін Н.С., Пшыркоў Ю.С., маладзейшыя, але ўжо даволі вядомыя ў навуковых і літаратурных колах Бугаёў Д.Я., Дзюбайла П.К., Грынчык М.М., Каваленка В.А., Кісялёў Г.В., Коршунаў А.Ф., Мальдзіс А.І., Мушынскі М.І., Яскевіч А.С. і яшчэ маладзейшыя, тыя, хто толькі ступіў на сцежку даследчыка роднай літаратуры, былі аб’яднаны агульнымі клопатамі, выкананнем агульных задач, па сутнасці, заўсёды знаходзілі ўзаемаразуменне і пэўную згоду пры вырашэнні самых складаных пытанняў, звязаных з гісторыяй роднай літаратуры, па-добраму таварышавалі, некаторыя сябравалі.

Усё гэта былі людзі розныя, даследчыкі рознага характару, розных навуковых схільнасцяў. Няўрымслівы, дзесьці трохі крыклівы, аж да краёў перапоўнены палемічнасцю Дзмітрый Бугаёў. Віктар Каваленка, увесь завостраны на успрыманне новых тэарэтычных і гісторыка-літаратурных ідэй, якія імкнуўся вывяраць нашай літаратурай, у сваю чаргу саму нашу літаратуру ацэньваючы з пункту гледжання гэтых ідэй. Апантаны шукальнік і адкрывальнік у гісторыі скарбаў беларускага слова Адам Мальдзіс. Уніклівы, уедлівы даследчык мастацкага тэксту, канкрэтнага твора і творчасці асобнага пісьменніка Міхась Мушынскі. Натхнёны вынаходца ў літаратуры новых духоўных і эстэтычных ідэй Алесь Яскевіч…

Зусім зразумела, што ў такім калектыве, у такой творчай

атмасферы і працаваць хацелася, і працавалася добра. Праца захапляла. Можна нават сказаць: я жыў працай.

Зразумела, што такое захапленне працай, непаразуменні з першай кнігай адцягвалі ўвагу ад клопатаў і турботаў хатніх, сямейных. Усе яны ўзваліліся на плечы маёй Тамары. А больш дакладна: яна сама іх узваліла акуратна на свае нямоцныя плечы ды і на галаву сваю. Можа, толькі сёння належна разумееш, як ёй было нялёгка. Наогул нам, але жонцы асабліва. Найбольш не варта забываць пра справы грашовыя. Былі яны няпростыя і нялёгкія. Аспірант, нейкі час беспрацоўны, бібліятэкар, малодшы навуковы супрацоўнік – гэта цэлых 6 гадоў. Стыпендыя і заробкі мізэрныя. Жонка, па сутнасці, увесь час працавала на паўтары стаўкі. Але і тут заробкі былі не надта багатыя. Памагалі, як маглі, бацькі – мае і бацька Тамары. Дачушка расла – гадавалася ў асноўным у дзіцячых садках. На канікулах – у вёсцы: на Міршчыне ці то (радзей) у Урупінску на рацэ Хапёр. Разам і мы. Сонца, цяпло, чыстая рачная вада – усё гэта сцірала сляды жыццёвых непрыемнасцяў, напаўняла верай, упэўненасцю. А для дачушкі то наогул такі адпачынак быў святам. Для мяне адпачынак на радзіме жонкі таксама, па сутнасці, быў святам. Усё тут было іншае, адрознае ад нашага – беларускага. Многа сонца, усё напоўнена яго святлом і цяплом, адчуванне прасторы і высокага неба. Галасы гучаць неяк звонка. Пах пшаніцы, прывялай травы, пах ад сагрэтага сонца, а не ад прайшоўшага дажджу, як гэта ў нас. Часцей адпачывалі на маёй Міршчыне.

У Мір прыязджалі звычайна ўжо вечарам. Ніякіх аўтобусаў у вёску не было. Падарожных машын таксама. Даводзілася ісці пешшу. І гэта было не выключэнне. То была звычайная з’ява. Клункі на плечы – і ў паход. За горадам дзіця спрабавала хныкаць. Тады я пачынаў якуюсьці маршавую песню, жонка і дзіця падхоплівалі – і пайшлі. Яшчэ сёння старэйшая дачка згадвае, як здорава мы вышагвалі пад маршавую песню.

Мы шли под грохот канонады,
Мы смерти смотрели в лицо…

Час пралятаў незаўважна, стомленасці – ніякой.

У саміх Бербашах усё было блізкае, роднае. У хаце было цесна, горача. Спалі ў хляве на сене ці то на саломе. Побач бясконца жавала карова. Часам узбураліся пацукі (а іх было нямала), насіліся вакол, пішчалі, вочы ў іх гарэлі пранізліва. Бывала, што яны нас проста выганялі. Дні праходзілі ў паходах – па ягады, па грыбы.

Увогуле ж адпачынак у вёсцы, на прыродзе, надаваў сілы – і фізічных, і душэўных, мацаваў упэўненасць. У душы надоўга

заставалася адчуванне бясконцасці, прыгажосці і разнастайнасці навакольнага свету. Адступалі далёка, у нейкія часіны зусім знікалі, усякія хатнія, бытавыя клопаты і турботы. А яны ж прысутнічалі пастаянна, нікуды не знікалі. І не дробныя.

Немалы час жылі на прыватных кватэрах – спачатку на адной, потым – на другой. Пакойчыкі былі і там, і там невялічкія – 7-8 $м^2$. Сёння цяжка ўявіць, як мы там траіх размяшчаліся. Успамінаць пра ўсё гэта не надта хочацца, бо ўспаміны гэтыя заўсёды з лёгкім прысмакам гаркаты. І ўсё ж пры ўсім пры тым і ў тым хатнім жыцці, дакладней жыцці на прыватнай кватэры, не ўсё было толькі дрэннае. Былі і засталіся ў памяці да сённяшніх дзён моманты светлыя, прыемныя, якія змяншаюць агульны негатыўны малюнак сямейнага жыцця на прыватнай кватэры.

Год ці два жылі на адной кватэры. Праз нейкі час вымушаны былі шукаць новае месца жыхарства. Знайшлі ў Сельгаспасёлку на завулку Меліярацыйным. Зноў жа ў драўляным доме. Сям'я гаспадароў была нямалая – гаспадар, гаспадарыня, двое дзяцей-сыночкаў і бабуля, маці гаспадара. Гаспадары былі дзесьці нашага ўзросту. Гаспадара звалі Міхаіл, гаспадыню Люба. Прозвішча іх – Праневіч. Прозвішча і імёны гаспадароў помняцца і сёння: нішто добрае не забываецца. Адносіны ў іх да нас былі ўважлівыя і паважлівыя, добразычлівыя. Пад канец нашага кватаравання яны сталі па-сапраўднаму сяброўскія. І ўжо пазней, калі заімелі сваю кватэру, мы не раз гасцявалі ў іх, яны ў нас. Але… Як бы то ні было добра, па-людску, жыццё на кватэры ёсць жыццё кватаранта, а не гаспадара. Ды і зацягнулася ўсё гэта дзесьці на гады чатыры.

Час ішоў. Ужо пасля таго, як залічылі на працу, пачаў я хадзіць, як кажуць, па начальству, прасіць, каб выдзелілі пакойчык у інтэрнаце для маласямейных. Праз пэўны час выдзелілі. Пакойчык невялікі – здаецца, 9 $м^2$. У блоку было 4 пакойчыкі, агульная кухня, прыбіральня. У адным пакоі жыў стары халасцяк, у астатніх сямейныя. Людзі розныя. Нейкіх асаблівых спрэчак, тым больш сварак не было. Жыццё па прынцыпе суіснавання. Дзяўчынка наша ўжо хадзіла ў школу. І я, і жонка працавалі блізка. Увогуле ж жыццё інтэрнацкае было нейкае шэрае, бясколернае. Жыў кожны сам па сабе. Не было ні сяброўстваў, ні спрэчак. Халасцяк наш час ад часу выпіваў патроху. Але паводзіны яго ніяк не парушалі аднастайнасці нашага бытавання. Умовы ўмовамі, а час бяжыць. Жыццё не стаіць на месцы. Мы з жонкай з хваляваннем пачалі чакаць другое дзіця. З хваляваннем, бо з першым ніякага хвалявання, здаецца, не было.

Нарадзілася дачушка яшчэ адна. Назвалі Алесяй, першую звалі

Светай. У гэты час мы ўжо перасяліліся ў трохі большы пакойчык(13 м$^2$), у другім блоку. Атмасфера тут панавала цяплейшая. Больш агульных размоў было на кухні. Склаліся добрыя, шчырыя адносіны з адной сям'ёй, у якой таксама было дзіцё яшчэ малое. То была сям'я Шылкоў (Шылко Лявон, Шылко Тамара). Ён працаваў на заводзе інжынерам, яна старшым навуковым супрацоўнікам у інстытуце генетыкі. Асабліва яна была жанчына гаваркая, галасістая. Яе гучны смех чуўся даволі часта. І пазней, калі і яны, і мы атрымалі ўжо кватэры, адносіны шчырага сяброўства захоўваліся доўга. У асноўным ішло гэта па жаночай лініі. Нярэдка збіраліся, бралі чарку, спявалі, танцавалі. Добрыя, шчырыя адносіны ва ўмовах жыцця інтэрнацкага склаліся і з сям'ёй Чамярыцкіх (Вячаслаў і Марына). Доўгі час захоўваліся і пасля інтэрната. Увогуле, як згадваецца, нягледзячы на пэўныя цяжкасці і нязручнасці, мы ўсё ж стараліся жыць неяк актыўна. Наведвалі тэатр (Оперны, Купалаўскі), музеі, выставы розныя, вечары ў Доме літаратара, канцэрты прыезджых артыстаў. Дзеці нашыя, як гляджу сёння, жывуць ва ўсіх адносінах лепш, але ў тэатр амаль не ходзяць, музеі якіясьці не наведваюць, на тыя ці іншыя сустрэчы з людзьмі мастацтва не надта імкнуцца. Вядома, сёння ёсць добры тэлевізар, ёсць камп'ютар, інтэрнэт. Усё гэта так. Аднак жа ўсё гэта не тое. Унутрана сённяшні чалавек імкнецца жыць як мага спакайней. Маўляў, раздражальнікаў хапае знешніх, навошта яшчэ самому ствараць іх.

Ну, але вернемся ў тыя гады. У інтэрнат для маласямейных. Спачатку ўсё было лепш, чым на прыватнай кватэры. Не было такой скаванасці, унутранай напружанасці, пэўнай заціснутасці. Ты валодаў такімі ж правамі, як і іншыя. То было напачатку. Паступова ўсё гэта стала страшэнна надаядаць, раздражняць. І чым далей, тым больш. Нельга сказаць, што я спакойна сядзеў і чакаў. Зусім не. Хадзіў, як кажуць, па інстанцыях. Выпрошваў, выкленчваў. Нават да віцэ-прэзідэнта Кандрата Крапівы трапіў. Параілі знаёмыя. Сказалі, што хтосьці іхні знаёмы пагаворыць з ім на гэты конт. Я пайшоў. Зайшоў у кабінет. Кабінет здаўся вялікім, халодным. Сам Кандрат Кандратавіч – нейкім далёкім, халодным. Хвалюючыся, збіваючыся, я расказаў пра свае жыллёвыя клопаты. Крапіва выслухаў усё, не задаў ніводнага пытання. Потым запытаў: “А як жа іншыя?” Пытанне прагучала так, было сказана такім тонам, што ніякіх далейшых размоў не магло быць. Я пайшоў – страшэнна расчараваны, расстроены. І не так тым, што было сказана, як тым, як быо сказана, як адбылася наша гаворка, калі можна лічыць яе гаворкай. Засталося нейкае неўразуменне, крыўда. Я не ўбачыў, не адчуў

звычайнай увагі да чалавека, не кажучы ўжо пра чуласць.

Спадзяюся, што ў тым, што пазней пісаў пра Кандрата Крапіву, гэта не адбілася. Ва ўсякім разе ніякіх заўваг адносна неаб'ектыўнасці ў ацэнцы творчасці пісьменніка ніхто ні разу мне не рабіў. А пісаў пра яго не адзін раз: манаграфічны раздзел у акадэмічнай гісторыі беларускай савецкай літаратуры (на рускай мове), раздзел такога ж зместу ў вузаўскім дапаможніку, нарэшце, укладанне кнігі "Выбраныя творы", што выйшла ў "Беларускім кнігазборы", прадмова да яе, каментар.

Прыватна-кватэрнае і інтэрнатнае жыццё ў Мінску працягвалася, напэўна, не менш дзесяці гадоў. Калі не больш. Сёння як падумаеш: жах! А тады жыццё ішло пераважна спакойна, як у іншых. І вось гэтае "як у іншых", "як іншыя" як бы заспакойвала, засцерагала ад якіхсьці небяспечных перажыванняў. Такое было тагачаснае жыццё. Тады яно ўяўлялася амаль нармальным. Ды і праца. Яна была галоўным у тым жыцці. А ў гэтае навуковалітаратурнае жыццё я ўваходзіў усё больш шырока, грунтоўна.

Справа ў тым, што ў пачатку 70-х гадоў і ў другой палове мне даручана было рабіць агляды прозы. Адпаведна – за 1970, 1971, 1976, 1977. Праца гэтая была вельмі жывая, яна актыўна ўцягвала ў тагачасны літаратурны працэс. Агляды ўсе, адпаведна за кожны год, абмяркоўваліся на пасяджэннях секцыі крытыкі, пазней друкаваліся ў часопісе "Полымя". Тым самым больш шырока пачаў уваходзіць і ў тагачасны літаратурны працэс, і ў тагачаснае літаратурнае жыццё. Кола знаёмстваў на гэтай глебе таксама павялічвалася. Зразумела, з'явіліся і нядобразычліўцы, хаця адкрыта свае адмоўныя адносіны амаль не выяўлялі. Убачыцца гэта пры розных тайных галасаваннях ці то ў якіх, як кажуць, закулісных гульнях. А іх будзе дастаткова. Ды што зробім: такое жыццё. А такім яно бывае заўсёды і з усімі.

Праца над аглядамі дазволіла мне (а дзесьці і прымусіла) свабодна адчуваць сябе ў тагачаснай літаратуры. Больш за тое, прымусіла так ці інакш суадносіць тагачасныя творы многіх празаікаў з усёй іх творчасцю. Ды не толькі, але і паглядзець на гэтую творчасць і ў гістарычным, і ў сучасным літаратурным працэсе. Выступленні ж з аглядными дакладамі прымусілі мяне больш смела адчуваць сябе ў пісьменніцкай грамадзе. Значна пашырылі кола знаёмстваў. Менавіта ў гэтыя гады склаліся вельмі шчырыя сяброўскія адносіны з Барысам Сачанкам, Янкам Сіпаковым, Іванам Пташнікавым. Мне падабалася іх творчасць. У кожнага з іх я адчуваў нешта блізкае сабе ў адчуванні навакольнага свету, у адчуванні часу, які мы ўжо перажылі і ў якім жылі, агульнае

ў разуменні чалавека. Яны былі розныя і як пісьменнікі, і як людзі. Сачанка актыўны, таварыскі, прабіўны. У яго было нямала сяброў, дом у яго быў гасцінны, ён заўсёды быў гатовы дапамагчы чалавеку, выручыць яго ў хвіліну складаную, цяжкую. І рабіў гэта не аднаму і не адзін раз. Сіпакоў трохі іншы. Ён больш спакойны, некалькі як бы сцішаны або нясмелы. Так ва ўсякім разе часам падавалася. Яго вылучала выключная шчырасць, добразычлівасць, адкрытасць, хаця (часам мне здавалася) дзесьці ў глыбіні хаваўся і пэўны недавер, які мог крыху выявіцца пасля добрай чаркі. У любым становішчы да канца ён не раскрываўся. У мяне заставалася такое адчуванне. Барыс з Янкам цесна сябравалі яшчэ са студэнцкіх гадоў. У іх сяброўства было, так бы мовіць, поўнае. Яны былі адкрытыя ва ўсім. Для мяне гэта стала вядома значна пазней. Маё сяброўства з імі абодвума грунтавалася на агульнасці літаратурных інтарэсаў, а таксама на нашай вялікай любові да кнігі. Пра сваю любоў да кнігі, адданасць і вернасць ёй хораша напісаў Янка Сіпакоў у сваёй кнізе-эсэ “Мая бібліятэка”. Там пра ўсё ёсць: і пра кнігі, і пра іх аўтараў, і пра ўзаемаадносіны аўтара з тымі, чые кнігі ў яго былі з аўтографамі, і пра вельмі часта няпростае набыццё гэтых кніг. Больш багатая колькасна і на выданні рэдкія і рэдкіх аўтараў была бібліятэка ў Барыса Сачанкі. Не раз даводзілася бываць у яго, гасцяваць і бачыць гэтае багацце, браць у рукі яго. Моманты выключнага душэўнага перажывання і хвалявання. Пра кнігу Барыс мог гаварыць бясконца – пра яе аўтара, пра яе месца ў літаратуры і, асабліва, яе месца ў яго бібліятэчных скарбах, пра тое, як яе ўдалося набыць. То былі цэлыя займальныя, часам з момантамі дэтэктыву гісторыі.

Вось гэтая любоў да кнігі, прага кнігі, набыццё кнігі і зблізіла нас, аб’яднала. Кожны тыдзень, а бывала і некалькі разоў на тыдзень, мы сустракаліся з клопатам пра кнігу. Два разы на тыдзень прывозілі з кніжнай базы ў кнігарні новыя кнігі. Мы зналі, у якія дні. Пільнавалі. Наведвалі кнігарні, з загадчыкамі якіх у нас былі добрыя таварыскія адносіны. Не раз патрэбныя кнігі яны нам пакідалі. Былі ў нас сувязі і з кніжнай базай – з дзяўчатамі-таваразнаўцамі, а таксама з загадчыкам Лапцёнкам Уладзімірам Ільічом. Лапцёнак любіў кнігу, ведаў яе, адчуваў, каму яна па-сапраўднаму патрэбна, дапамагаў набыць. Зусім не выпадкова пасля выхаду на пенсію ён са сваімі блізкімі заняўся выдавецкай дзейнасцю. Час ад часу мы наведваліся на кніжную базу, нагадвалі загадчыку і яго жаночай камандзе пра сябе. Нярэдка ездзіў з намі таксама Анатоль Вярцінскі. Такое працягвалася гады. Праўда, трэба шчыра прызнацца, што часам вось гэты працэс набыцця кнігі быў больш цікавы,

захапляльны, чым пазнейшае знаёмства з гэтай кнігай. Увогуле ж жыццё для кнігі, жыццё з кнігай было для кожнага з нас сапраўднай радасцю ў тым жыцці, асабліва ў жыцці духоўным. Кніга мацавала нашыя ўзаемаадносіны, уносіла ў іх прамень святла. Сяброўства наша працягвалася да апошніх дзён сяброў маіх. Барыс Сачанка памёр 05.07.1995 года, Янка Сіпакоў – 10.03.2011.

З Іванам Пташнікавым таварыскія ўзаемаадносіны склаліся яшчэ са студэнцкіх гадоў. Заняткі ў нас праходзілі на адным паверсе ў біялагічным корпусе тагачаснага Белдзяржуніверсітэта. Ён вучыўся на журфаку, я на філфаку, на беларускім аддзяленні. Любілі займацца ў кабінеце марксізма-ленінізма, загадваў якім дабрэйшай душы чалавек Аляксей Фаміч, колішні сакратар прыёмнай камісіі. Першы свой твор, аповесь “Чачык” надрукаваў Пташнікаў у апошні год вучобы. Зразумела, паступіўшы ў аспірантуры, потым працуючы ў сектары савецкай літаратуры, даследуючы сучасную прозу, я ўважліва чытаў усё, што ім стваралася. Творы яго мне падабаліся. Яны імпанавалі мне глыбокім спасціжэннем сутнасці чалавека, яго ўнутранага свету, цудоўнымі карцінамі прыроды, нязменнай любоўю да роднага кутка зямлі, высокай здольнасцю выяўляць у жыцці, у чалавеку высокі драматызм. Пісаў пра яго я шмат. Пазней ужо выйшла манаграфія, прысвечаная яго творчасці, “Чалавек на зямлі”. А ўжо праз колькі часу на пісьменніцкім лецішчы “Узгор’е -2” мы з ім сталі суседзямі. І вось гэтае суседства дазволіла мне бліжэй пазнаць Пташнікава як чалавека, а таксама якіясьці моманты яго творчасці. Чалавек ён весь у сабе, скрытны, не надта гаваркі; пра сябе, сваё жыццё не любіць расказваць. І не расказвае. Не дарэмна ж, відаць, у чатырох кнігах пісьменніцкіх аўтабіяграфій яго аўтабіяграфіі няма. У час асваення зямлі на лецішчы Пташнікаў паказаў сябе сапраўдным гаспадаром – дбайным, акуратным. Градкі ён ледзь не лінейкай вымяраў. Не раз падумалася, ці не выяўляецца гэта па-свойму і ў творчасці: сюжэтна-кампазіцыйная іх зладжанасць, абмежаванне кола дзейных асоб, выключная засяроджанасць на чалавеку і яго бліжэйшым, як бы непасрэдна асабістым свеце, моцная эмацыянальная насычанась слова, адсутнасць усялякай публіцыстычнасці. Сёння Іван Мікалаевіч хворы, на вуліцу не выходзіць, не піша. Але і цяпер час ад часу тэлефануе, хвілін колькі пагаворым пра здароўе, пра знаёмых, пра нейкія падзеі…

Добрыя, сяброўскія ўзаемаадносіны з гэтымі людзьмі – І. Пташнікавым, Б. Сачанкам, Я. Сіпаковым – спрыялі больш пэўнаму, устойліваму адчуванню сябе ў пісьменніцкім асяроддзі.

Фармальна, юрыдычна я ўжо тады быў у гэтым асяроддзі. У

канцы 1972 года, а менавіта 25 снежня атрымаў членскі білет Саюза пісьменнікаў СССР, зацверджаны подпісам Георгія Маркава, сакратара Праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і Максіма Танка, старшані Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР.

Усё адбылося не адразу. 16.10.1970г. у сваім дзённіку (кн. “Радкі і жыццё”) крытык Варлен Бечык запісвае: “У Саюзе было абмеркаванне творчасці маладых крытыкаў Андраюка, Бечыка і Жураўлёва. Цяжкі груз пахвал… Рады за сябе і за хлопцаў. Хаця пра ўсіх нас – з відавочнымі перабольшаннямі”. Звычайна, на такіх абмеркаваннях выказваліся прапановы аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў. Напэўна, такія прапановы былі і тут. Але і тут, як і з кнігай, не атрымалася як трэба. Прымалі на пасяджэнні прэзідыума. Усё ішло быццам нармальна, крытыкі асаблівай не было. Галасаванне тайнае. Не прайшоў. Зразумела, быў расстроены. Дамоў пайшоў адзін, пешшу. Хто-ніхто супакойваў: усё гэта яшчэ водгукі гісторыі з кнігай. На плошчы Якуба Коласа сустрэў Рыгора Бярозкіна. Блізка з ім мы, як кажуць, не сустракаліся. Быў я крытык не з тых, якіх ён асабліва шанаваў: яму не падабалася мова маіх пісанняў. Але тут ён спыніў, папытаў, што і як, настойліва запрасіў да сябе: жыў ён блізка. Зайшлі да яго, чарку выпілі, шчыра пагаварылі. У яго якраз тады выйшла кніга пра Максіма Багдановіча на рускай мове. Прэзентаваў гэтую кнігу. Мяне парадаваў і ўзбадзёрыў дарчы надпіс наступнага зместу: “Не гаруй, дружа, усё праходзіць, праўда застаецца”. На працы тое, што не быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў, было ўспрынята спакойна: не першая такая гісторыя.

Праходзіць нейкі час. Зноў запрашаюць на прэзідыум, зноў збіраюцца прымаць – паўторна. Крыўда мая яшчэ не прайшла – не пайшоў. Дзесьці на наступны дзень нечакана патэлефанаваў Васіль Вітка. Чаго вы не прыйшлі на прэзідыўм? Кіньце крыўдаваць. Усё будзе добра. Усё гэта было вельмі прыемна чуць. Тым больш ад Віткі, чалавека, усімі паважанага. І сустрэча з Бярозкіным, і тэлефанаванне Віткі былі зусім нечаканыя для мяне. Тым больш каштоўныя. Праз якійсьці месяц зноў запрасілі на прэзідыум. На гэты раз прынялі: толькі нехта адзін прагаласаваў супраць. Вядомая рэч, пасля мусіла быць чарка. Яна і была. Добра запомнілася, быў там і Васіль Быкаў. Жыў ён тады яшчэ ў Гродна. Высветлілася, што ён нідзе ў гасцёўні не пасяліўся: начаваць няма куды ісці. Я прапанаваў пайсці да мяне: на той час я ўжо атрымаў 3-х пакаёвую кватэру. Быкаў згадзіўся. Дзеці ўжо спалі. Жонка прыгатавала каву ці то чай, нейкую закусь. Узялі яшчэ па чарцы. Усё было шчыра, сар-

дэчна. Спаў Быкаў на складным крэсле ў зале. Нейкі час размаўлялі з ім на кухні. Сказаў ён тады мне, што прыязджаў да яго ў Гродна Салжаніцын. Гэта засталося нават у п'янай галаве. Астатняе мала што засталося ў памяці. Раніцай прачнуўся – яго ўжо няма. Жонка кажа, што ўстаў рана – паспяшаўся на цягнік.

Той жа Варлен Бечык у сваім дзённіку 04.01.1973 года запіша: "У Андраюка пасля прыёму ў Саюз быў Быкаў. Вялікі гонар. Божа, колькі трэба зрабіць, каб вось так пагаварыць з ім па шчырасці". У мяне, скажу шчыра, было больш спакойнае ўспрыманне гэтай падзеі. З Быкавым адносіны сталі больш цёплыя. Пры сустрэчах ён заўсёды пытаў: як "жоначка". Так цёпла ён называў. Помніцца, былі мы запрошаны і на юбілейны вечар у кафэ Дома літаратараў. Прыйшоў я адзін. Васіль Уладзіміравіч папытаў, чаму няма "жоначкі". У той час адносіны да Быкава, успрыманне яго былі яшчэ спакойныя, без лішняй долі захаплення. Як і ён сам па сваёй натуры.

Сваё жыццё сваім шляхам працякала і непасрэдна ў самім нашым акадэмічным інстытуце. Не заўсёды спакойна і роўна. Апрача непасрэдна навуковага занятку, людзі таварышавалі, займаліся грамадскімі справамі. У мяне ў канцы аспірантуры склаліся добрыя таварыскія адносіны з Міколам Прашковічам. Мы ў адны гады вучыліся на філфаку. Праўда, 4 гады ён вучыўся на рускім аддзяленні, на 5-ым курсе перайшоў на беларускае. У аспірантуру паступіў на 2 гады раней за мяне. Пакуль я стаў малодшым навуковым супрацоўнікам, ён ужо на гэтай пасадзе адчуваў сябе даволі ўстойліва. Праз пэўны час стаў старшым навуковым супрацоўнікам. Быў ён хлопец добры, сяброўскі. Жыў у інтэрнаце. У яго часта збіраліся, бралі чарку. Вялі спрэчкі, вострыя размовы, асабліва па нацыянальным пытанні. Быў ён знаёмы з Ларысай Геніюш, таварышаваў з У. Караткевічам, А. Маладзісам, з мастакамі, навукоўцамі, былі добрыя сувязі з украінскімі нацыянальна настроеннымі людзьмі. Неяк збіраў грошы на дапамогу камусьці з украінскіх сяброў, што сядзеў у турме. У тыя гады, калі адпаведныя службы працавалі асабліва старанна, сачылі за ўсімі і за кожным, хто думаў не так, як гэта трэба было, наіўна было думаць, што ў гэтай кампаніі не з'явіцца чалавек з адпаведным заданнем. Напэўна, ён і быў. І, відаць, нядрэнна рабіў сваю справу. Праз нейкі час сярод нацыянальна настроеных людзей запанавала як бы нейкая трывога. Пачалі даходзіць чуткі, што не аднаго ўжо выклікалі ў КДБ. Папаўзлі ціхія размовы, што там Мікола ўсё расказаў, усё і пра ўсіх. Нехта сказаў, што і маё прозвішча там упаміналі. Гэта ўсё не надавала настрою. Аднойчы праходзіў агульнаакадэмічны партыйны

сход. Іван Якаўлевіч Навуменка (на гэты час дырэктар інстытута) вяртаўся са сходу. Я знаходзіўся ў калідоры. Устрывожаны, падышоў да мяне. “Вас таксама ўпаміналі. Трэба адмежаваца”. Што значыла “адмежавацца”? Ад каго? Калі? Як? – я сабе не ўяўляў ды і нічога не рабіў. Пасялілася ў душы нейкая трывога. Трывога адчувалася і ў калектыве. Для некаторых нацыянальна настроеных хлопцаў закончылася дрэнна: пяць чалавек – М. Прашковіч, А. Каўрус, В. Рабкевіч, М. Чарняўскі, С. Міско – былі адхілены ад працы. Сцяпана Міско блізка я не ведаў. Астатніх хлопцаў ведаў добра. І Валянцін Рабкевіч, і Алесь Каўрус, і Міхась Чарняўскі былі здольныя, таленавітыя навукоўцы, сумленныя таварышы. Не заўважаў, каб хтосьці з іх праяўляў асаблівую прыхільнасць да чаркі. Былі яны, вядомая рэч, і сапраўднымі патрыётамі, любілі ўсё сваё, беларускае. Але не больш таго: ніякай непрыязні да іншага народа, людзей іншай нацыянальнасці ні ў каго з іх не было. Усё гэта выклікала неўразуменне, прыглушала не проста творчую, а жыццёвую энергію, скоўвала рух думкі, зашорвала. І ці трэба сёння здзіўляцца з сітуацыяй з беларускай мовай, наогул з беларускасцю на Беларусі?!

У тыя ж гады ўсё гэта не надта, мякка кажучы, спрыяла навуковай, ды і літаратурнай (мабыць, тут і найбольш) дзейнасці. Цэнзура, адпаведныя ідэалагічныя аддзелы розных дзяржаўна-партыйных структур пільна сачылі за ўсім тым, што было звязана так ці інакш з ідэалогіяй. Усе навуковыя працы ў інстытуце абмяркоўваліся на розных узроўнях. Пры выданні кнігі былі не толькі выдавецкія, але і свае пільныя, звычайна, навуковыя рэдактары. Ды і аўтар кожны знаходзіўся ў пэўным унутраным напружанні, хацеў таго ці нават не хацеў, але ўсё ён рабіў цяпер, адчуваючы грамадскі клімат часу, яго атмасферу.

Але ж дзіўная рэч: якраз у тыя гады, 60-70-я, былі створаны лепшыя творы ў нашай літаратуры – “Людзі на балоце” і “Подых навальніцы” Івана Мележа, “Птушкі і гнёзды” Янкі Брыля, “Жураўліны крык”, “Трэцяя ракета”, “Сотнікаў” Васіля Быкава, “Каласы пад сярпом тваім”, “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” Уладзіміра Караткевіча, “Тартак”, “Мсціжы” Івана Пташнікава, “Плач перапёлкі”, “Апраўданне крыві” Івана Чыгрынава, “Апошнія і першыя”, “Чужое неба” Барыса Сачанкі, аповесці і апавяданні Вячаслава Адамчыка, Анатоля Кудраўца, Міхася Стральцова. Тады ж з’явілася ўнікальная кніга Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка “Я з вогненнай вёскі”. Я ўзгадваю тут у асноўным кнігі прозы, бо прозай я займаўся. Але вялікі ўздым быў і

ў паэзіі. Магчыма нават, больш яркі.

Чаму так адбывалася? За часы ваенныя, пасляваенныя ў грамадстве, у кожным чалавеку накапілася творчай энергіі, якая патрабавала выхаду. Тыя выключныя ўспаміны мінулых нядаўніх гадоў, неверагодныя ўражанні перапаўнялі чалавека, як бы самі вырываліся з яго. Гэтымі памкненнямі, адчуваннямі была пранізана ўся атмасфера тагачаснага жыцця. Адліга ў грамадстве дала магчымасць гэтай энергіі творчай, духоўнай вырвацца напаверхню са схаваў чалавечай душы і памяці. Пазнейшыя ўсялякія забароны афіцыйныя, абмежаванні, перашкоды дзесьці ўжо не маглі спыніць гэты напор чалавечай энергіі, што імкнулася да жыцця, у жыццё. Для творцы цяпер істотна не проста расказаць пра якуюсьці з'яву, падзею, назваць той ці іншы факт. Ён ішоў у глыбіню, даследаваў вытокі, выяўляў сувязі. А гэта ў сваю чаргу нараджала новыя ідэі, вылучала новыя праблемы, тым самым паглыбляючы і ўзбуйняючы само мастацкае спасціжэнне гісторыі і сучаснасці, свету і чалавека. Так сёння бачыцца тагачаснае літаратурнае жыццё, так разумеецца. Ды і тады не ўсё ўспрымалася як належнае. Пачуццё, унутранае адчуванне несправядлівасці многае ў жыцці наогул, у літаратурным свеце генетычна не прымала. Разам з тым многае цярпелася, з чымсьці, непрымальным унутрана, даводзілася мірыцца, асцярожнічаць.

Прайдуць гады. І не малыя. Цяпер, ужо пасля васьмідзесяці, згадваючы тагачаснае жыццё, галоўным чынам жыццё сярод людзей, у свеце літаратуры, я не бачу за сабою якіхсьці ганебных, шкодных для іншых учынкаў. З'яўляецца часам шкадаванне, што дзесьці быў часам няўважлівы, просталінейны, душэўна глухаваты. Урэшце, усе мы не бязгрэшныя. Жыццё так нас выхоўвала, вясковае, аднаасобнае, з верай у Бога і боязню граху. І гэта засталося да сёння.

Тады ж усё ішло сваім ладам і парадкам і ў літаратуры, і ў нашым інстытуце. У 1973 годзе дырэктарам Інстытута літаратуры стаў Навуменка Іван Якаўлевіч, вядомы пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар. Барысенка В.В. пайшоў на пенсію. Як вядома, кожны новы кіраўнік, заняўшы пасаду, імкнецца штосьці змяніць, палепшыць. Тым самым і сябе паказаць. Само сабою зразумела, што пры назначэнні на новую пасаду кожны абавязкова атрымліваў пэўныя пажаданні, рэкамендацыі, указанні, якія трэба было выконваць. Пры ранейшым кіраўніцтве было даволі свабодна – і ў плане дысцыпліны, і ў плане творчым. Новы кіраўнік быў больш малады, больш эмацыянальны як пісьменнік. Гэта таксама неяк адбілася – у павышанай прыхільнасці ў адносінах да адных і ў

большай прыдзірлівасці, прынцыповасці – да другіх. Больш строгай стала дысцыпліна. Больш строгі падыход ў плане ідэалагічным стаў пры абмеркаванні навуковых прац на вучоных саветах, адпаведна і ў аддзелах. Але ў нашым аддзеле (ці сектары, як тады называлі) і так дысцыпліна была строгая, а ўвага да ўсялякіх разважанняў, выказванняў была самая пільная. Тут наш Павел Кузьміч быў першы. Нярэдка за тое ці іншае расстройваўся, але злосці не трымаў. У душы, здаецца, быў ён чалавек добры. І працавалася нам з ім нядрэнна.

Займаўся наш аддзел, як вядома, савецкай літаратурай. Я ўжо гаварыў, што працаваў напачатку над апавяданнем першага пасляваеннага дзесяігоддзя, над стылем Мележа, над аглядамі прозы 1970 і 1971 гадоў. Тут я адчуваў сябе досыць свабодна. Ведаў нядрэнна і тагачасную рускую прозу, прозу іншых рэспублік Саюза. Пісаў рэцэнзіі, артыкулы. Не раз даводзілася выступаць з аглядными дакладамі. Пра адно такое выступленне хочацца ўзгадаць, хаця, кажучы па-праўдзе, не дужа прыемна гэта. Але што зробіш – было… і помніцца. Дзесьці восенню 1973 года ў нашым Саюзе пісьменнікаў праходзіў усесаюзны сімпозіўм перакладчыкаў беларускай літаратуры. Даклад па сучаснай беларускай паэзіі рабіў супрацоўнік нашага аддзела паэт Мікола Арочка, па прозе – я. Зрабілі даклады, прынялі іх нядрэнна, нас у перапынку віншавалі. І раптам… Анатоль Грачанікаў, сакратар нашага Саюза пісьменнікаў (ён курыраваў паэзію) запрашае зайсці да яго ў кабінет. Заходзім. Там сядзіць Марцалеў С.В., загадчык аддзела культуры нашага ЦК. Грачанікаў адразу ж выйшаў. Марцалёў гаворыць: “Слухаў я ваш даклад”. Я быў у трохі прыўзнятым настроі (мусіць думаў, што хваліць будуць) і ў адказ пытаю: “І што?” “Дрэнна!” – быў адказ. Далей тлумачэнне: зноў у вас супрацьпастаўленне першага пасляваеннага дзесяцігоддзя і другога, хваліце творы недасканалыя ў ідэйных адносінах, многія таленавітыя ідэйна выверaныя раманы і аповесці замоўчваеце. І далей галоўнае, што выказаў таварыш адказны за культуру ў рэспубліцы: “Мы вас білі, але білі дубчыкам, шкадуючы” (словы запомніліся), цяпер будзем біць па-іншаму, раз вы крытыкі не прымаеце (перадаю тут сэнс). Выйшаў я сам не свой. Мне ж ужо амаль 40 гадоў, а прабралі як хлапчука. Брыдка было, сорамна. Расказаў толькі Алесю Адамовічу пад настрой. У інстытуце ніякіх адмоўных вынікаў гэтай “размовы” не адчуў. Праўда, у выдавецтве, не ведаю па гэтай прычыне ці не, але была перанесена на год пазней кніга маіх крытычных артыкулаў “Вывяраючы жыццём”. Цяпер для мяне стала зразумела, па чыёй рэкамендацыі быў рассыпаны набор

маёй першай кнігі.

Прайшлі гады, дзесяцігоддзі. Але і сёння я да канца не разумею, якія ідэйна-палітычныя памылкі былі ў маём дакладзе. Дарэчы, як і ў першай кнізе. Пісаў і пішу так, як я адчуваю, разумею той ці іншый твор, творчасць пэўнага пісьменніка, адпаведны перыяд літаратурнага працэсу. Хвалявалі мяне ў літаратуры найперш праблемы праўдзівасці і духоўнасці, чалавечнасці. Праўдзівасці не ў сэнсе поўнай адпаведнасці падзейнага зместу мастацкага твора рэальным падзеям і фактам. А праўдзівасці мастацкага ўвасаблення, праўдзівасці слова, праўдзівасці, якая першую праверку вытрымлівае на ўзроўні эмацыянальным: захапіў твор, усхваляваў, прымусіў думаць, перажываць. Чалавечнасць – не як замілаванасць, суцэльнае захапленне чалавекам, яго ідэалізацыя. А зноў жа, чалавечнасць – як паказ, паўнакроўнае ўзнаўленне чалавечай асобы, багата надзеленай духоўна, з Богам у душы. Адна з тэм маіх так і называлася “Духоўны свет чалавека”. Ды і ў маіх асноўных даследчых тэмах “Іван Пташнікаў” і “Традыцыі і сучаснасць” гэтыя праблемы, а можа, хутчэй праблема, былі галоўныя.

Творчасць Івана Пташнікава была мне ўнутрана блізкай. Той свет, які ён узнаўляў, які ствараў – прырода, лес, неба, хмары, вецер – то быў наш свет, беларускі, свет паэтычны, прыгожы, драматычны. Тыя вобразы, якія стварыў пісьменнік у сваіх раманах, аповесцях, апавяданнях, – гэта вобразы сапраўдных карэнных беларусаў. Людзей, якія нясуць у сябе беларускі свет, ім створаны. Свет і чалавек арганічна паяднаны, іх нельга ўявіць адно без аднаго. Свет, у якім жывуць героі Пташнікава, не замкнёны сам у сабе, не ізаляваны ад свету вялікага. Ён неад’емная частка гэтага свету. Прайдуць гады, дзесяцігоддзі, стагоддзі. Хтосьці з прадстаўнікоў будучых пакаленняў, што будуць жыць на гэтай зямлі, захоча ўведаць, якой ў яе натуральным стане, выглядзе была зямля гэтая і якія людзі жылі на ёй. То, безумоўна, найперш звернецца да літаратуры як мастацтва слова. Бо якраз літаратура найбольш арганічна і цэласна, этнічна і сацыяльна поўна падае яго, паказвае. Гэта гучыць у самім слове. І я бы палічыў, што ў найбольшай ступені гэта, наша жыццё і нашага чалавека, можна ўбачыць у “Новай зямлі” Якуба Коласа, раманах Кузьмы Чорнага, “Палескай хронікі” Івана Мележа, творчасці Івана Пташнікава, Анатоля Кудраўца…

Даследуючы тагачасную прозу, гаворачы пра яе высокія дасягненні і набыткі, падкрэсліваючы яе высокія ідэйна-мастацкія дасягненні, нельга было не паглядзець на ўсё гэта гістарычна – не на голым жа месцы ўсё раптам узнікла. Давялося звярнуць больш

пільную ўвагу на літаратурны працэс у яго гістарычным мастацкім руху. Дзе аснова тагачасных поспехаў? Дзе выток? Так з'явілася, выспела задума працы "Традыцыі і сучаснасць". Працаваў я над гэтай тэмай тры гады. Ускладаў я на яе пэўныя надзеі: меркаваў, на яе аснове абараню доктарскую дысертацыю. Аднак… жыццё рухаецца праз нечаканасці. Ва ўсякім разе ў мяне так.

У 2-ой палове 70-х адчуліся якіясьці змены ў жыцці і працы нашага інстытута. Сама атмасфера змянілася. Стала неяк цішэй, спакайней. Менш узнікала калідорных абмеркаванняў, спрэчак. Адыходзілі ветэраны, старэйшыя супрацоўнікі нашай навуковай установы. У 1976 годзе памёр удумлівы даследчык літаратуры Навум Саламонавіч Перкін. Пад канец 1980 года не стала майго настаўніка, добрай душы чалавека, сапраўднага беларуса Юльяна Сяргеевіча Пшыркова. Страта адчувальная: ні параіцца, ні параду папытаць у чалавека багатага жыццёвага вопыту, чалавека, якому верыш. У аддзеле ўжо працавалі выдатны крытык Варлен Бечык і маладзейшы трохі даследчык драматургіі Сцяпан Лаўшук, на сённяшні дзень доктар навук, член-карэспандэнт нацыянальнай акадэміі навук Сцяпан Сцяпанавіч Лаўшук. Сядзелі мы ў адным кабінеце. Склаліся ў нас увогуле даверлівыя таварыскія адносіны. Нямала было перагаворана, абмеркавана, пакрытыкавана. З Лаўшуком мы былі вучні аднаго настаўніка: кіраўніком яго дысертацыі быў Ю.С. Пшыркоў. Хлопец ён памяркоўны, разважлівы, не балбатун, трохі жартаўлівы, сур'ёзны, працавіты. Па-сапраўднаму адносіўся да сваёй прыналежнасці да партыі камуністаў. У хуткім часе ён стаў сакратаром інстытуцкай партыйнай арганізацыі. Дык вось як сакратар пачаў ён прапаноўваць і нам, сваім таварышам па кабінеце, падумаць наконт уступлення ў шэрагі камуністычнай партыі. Якіясьці асаблівыя думкі ці адчуванні з гэтай нагоды ў памяці не засталіся. Прыемна было, што адну з рэкамендацый даў былы наш дырэктар Барысенка В.В. Якіхсьці змен у працы ў гэтай сувязі я не адчуў, хаця з'явілася унутрана адчуванне большай адказнасці за працу, за паводзіны. Галоўнае, чаму я пра гэтую падзею згадваю, гэта тое, што яна паўплывала на мой далейшы працоўны, творчы – не скажу, лёс. Пра гэта трохі пазней.

Кватэру з сям'ёю атрымаў па сённяшняй вуліцы Сурганава. У буйнапанэльным доме, на трэцім паверсе. Паміж вуліцай Куйбышава і Максіма Багдановіча (тады Максіма Горкага) знаходзіліся тры аднатыпныя дамы. Мы пасяліліся ў сярэднім. Тады раён толькі асвойваўся. Па другі бок вуліцы Сурганава пачынаўся так званы Сельгаспасёлак. Прыватныя дамы, садкі, агароды. Адчуванне пра-

сторы, неабжытасці. Сёння ўсё змянілася. Калі раней гэтыя тры дамы, калі глядзець на іх з вуліцы Сурганава, рабілі ўражанне, то сёння іх за збудаваннямі больш сучаснымі проста нельга заўважыць. Яны як бы прыглушаны гэтымі сучаснымі збудаваннямі. А тады глянеш у акно – адчуванне прасторы, паветра. Перад акном маладая бярозка. Дзіўна, як яна захавалася. Увогуле радаваліся: тры пакоі – гэта не адзін у інтэрнаце для маласямейных.

Пачалі абжывацца, купляць нешта і для кухні, і для спальні, і для залы. Цягнулася гэта доўга: купляць асабліва дык і не было за што. Але ж трэба было. І паціху тое-сёе набывалася. Для мяне асабліва радасць была, калі купілі кніжную секцыю. Цяпер мае кнігі, маё галоўнае багацце ладна размясцілася на паліцах. Можна было любавацца імі, пры неабходнасці адразу ж узяць – паглядзець, пачытаць. Зараз, маючы кватэру, было ўжо зручней запрасіць і прыняць кагосьці з родных: было хоць спаць дзе пакласці. Раней мы да іх пастаянна ездзілі. Ну а цяпер і яны маглі ўжо прыязджаць. І прыязджалі. Прыязджалі мае бацька і маці, браты, прыязджалі жончын бацька і сястра.

Непадалёку ад нас атрымалі кватэру суседзі па інтэрнаце Шылкі. Часта сустракаліся. То мы да іх у госці, то яны да нас. Ішло нармальнае жыццё. Сёння ў маіх дзяцей гэтага няма. Ды і ў нас пастулова ўсё гэта знікла. Выраслі дзеці, мы пастарэлі; змяніліся зацікаўленасці, пабольшала турботаў.

Раслі дзеці, вучыліся. Вучыліся нядрэнна і адна дачка, і другая. Клопатаў у бацькоў павялічвалася. Расходаў таксама. З’явілася нейкае невыразнае адчуванне-чакане змены. І яна адбылася. У 1981 годзе я пайшоў на новую работу – галоўным рэдактарам выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

Але гэта зноў жа яшчэ адна новая старонка ў маім жыццёвым лёсе.



# На парозе

Мінуў гадок папросту
Восемдзесят дзевяты,
Пачаўся дзевяносты
Высокай круглай даты.

Жыву далей з надзеяй,
Што Бог і мне дазволіць
Дажыць да юбілею,
Хвіліны так прыгожай.

Свой доўгі шлях жыццёвы,
Хвіліну дарагую,
Магчыма, падсумую
Шчэ паэтычным словам.

І маю шчэ ж надзею,
Хоць гэта і не проста,
Яшчэ пісаць... І як умею –
Пражыць звыш дзевяноста!

*Беласток, 23 сакавіка 2014 года*

# Няма ўжо Шведаў

*Вёска Мора існуе ад 1568 года*

Няма ўжо роду Шведаў ў Моры.
Здаецца, ўсе ўжо на пагосце.
Зышлі без спеху ды з пакорай,
Як паслухмяныя прыроды госці.

Ужо ў семнаццатым стагоддзі,
Як наша хроніка гаворыць,
І мой тут жыў далёкі родзіч,
Ці не з Лукянавых каторы.

Прайшло чатырыста гадочкаў
І безліч пакаленняў Шведаў
У замагільным спіць пясочку,
Амаль усе – і безыменна.

# Інтэлігенцыя

*Нельга есці хлеб народа*
*І грэбаваць яго мовай.*
Уладзімір Караткевіч

Штораз і ў нас здараецца
На сходах, канферэнцыях,
Што роднага цураецца
Нібыта нашая інтэлігенцыя.

Грэбуе роднай моваю
І беларускай вёскаю,
Абраднасцю вясковаю,
Жытнёваю палоскаю.

А іх бацькі вясковыя
І беларускамоўныя
Перасяляюцца ў кватэры новыя –
Магільнікі царкоўныя.

# Вясковыя лавачкі

У міжвойні, белапольскім,
Гаравалі нашы вёскі –
Бедна, глуха, небагата,
Не было святла ў хатах,
Тэлефонаў, радыёлаў.
Было крышку школ і школак,
Вось такая тут асвета
Для вясковых школьных дзетак.

А на вуліцы, пры хатах,
Было лавачак багата,
На якіх ужо старэчы
Грэлі ў сонцы свае плечы.

А вясковыя дзяўчаты
Вечарам ішлі ўсе з хатак
Ды на лавачках сядалі
І спявалі, і спявалі...

Іх гагулькавыя песні
Былі радасцю прадвесня.
Адзывалася наўкола
Моладзь і ў суседніх сёлах.
Помню, помню... як бы з Мора
Песні тыя чуў учора.



Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ

# Шкатулка з пісьмамі

Калі феерверкаў агні
Заззялі ў акне яе гулка
Паміж гарадскіх камяніц,
Адкрыла яна зноў шкатулку.

Трымала ў шкатулцы лісты
З забытай ужо маладосці,
Напісаных шрыфтам густым
Аб страсці, яе прыгажосці.

Папера пажоўкла на іх,
А літары ўжо пабялелі.
Лісты ў яе пальцах худых,
Як лісце на дрэве, дрыжэлі.

Раней акуляры на нос
Надзела дрыжачай рукою,
Ліст кожны трымала наўскос,
Чытаючы іх, прад сабою.

Услых іх чытала яна,
Па шчоках ліліся ёй слёзы.
Нікога навокал... Адна,
Як дзесьці на ветры бяроза.

Яна пра любоў ўсё чытала,
Сустрэчы свае, пацалункі.
Ў жыцці ёй было такі мала
Кахання-дарунку!

,,А першых, гарачых няма!?”
Сябе колькі раз пытала.
,,Усе гэты лісты я сама
Калісь да сябе напісала”.

# Музыка ля мора

Звінела музыка ля мора,
Цудоўна граў стары срыпач,
Я чуў у ёй людское гора,
Я чуў у ёй бяду і плач.

Да неба музыка ўзлятала,
То гучна падала з нябёс,
Душу калола вострым джалам,
Даводзіла жанчын да слёз.

Яна ўбягала ў гукі хвалі.
У тэмбр злучаліся адзін
І замяняліся ў каралі,
А кропля кожная ў рубін.

То скрыпача на пляжы рукі
На струнах скрыпкі і смычком
Маглі стварыць такія гукі,
Што ў душы паплылі цурком,

Што ўсіх  узрушылі навокал
Сваёй мелодыяй жывой,
У грудзі іх зайшлі глыбока,
Змяніўшы радужны настрой.

Я чуў у музыцы пакуты,
Якія перажыў калісь,
Калі няволі скінуў путы
Далёка на чужой зямлі.

Як крылы падымалі гукі
Мяне, бы ластаўку, ўгару,
І ўспомніліся маці рукі,
Далёкае сяло і Беларусь.



Алесь ГАЙДУК

# Дзеці індыга

У скверы, па якому ішоў Павел, было ціха, вецер толькі раскачваў вершаліны высокіх бяроз і клёнаў. Цэнтральная алея, добра расчышчаная ад снегу, вяла амаль да дому сына, да якога ён накіроўваўся. Візіт яго быў некалькі незвычайны. Жонка, а яе ў сваю чаргу сын з нявесткай, папрасіла пабыць з унукам дома. У гэтым годзе Максім, а так звалі дзіця, часта хварэў. Не паспеее як след вылечыцца, ідзе ў садзік, а праз два-тры дні зноў пачынае тэмпературыць.

Пры ўсім тым, і нявестка расказвала, што на рабоце на яе пачынаюць коса глядзець з-за частых пропускаў. А працавала яна настаўніцай. Павел чытаў лекцыі студэнтам ва ўніверсітэце, быў доктарам псіхалагічных навук. Цяпер у студэнтаў канікулы. Таму і згадзіўся дагледзець унука. Было яму крыху больш чатырох годзікаў. Частыя хваробы зрабілі яго капрызным, так што Паўла чакаў сур’ёзны экзамен.

Каля каліткі двухпавярховага дома, невялікага па сучасных уяўленнях, дзе жыў сын з сям’ёй, забрахалі сабакі, адчуўшы прышэльца. Гэта былі дзве каўказскія аўчаркі. Лахматыя, злосныя, яны выклікалі страх у чужых. У тым, што сабакі накінуцца без папярэджання на непажаданага госця, можна было не сумнявацца.

Павел дастаў мабільнік і патэлефанаваў нявестцы, што ён ужо прыбыў. Вікторыя хуценька накінула куртку і пабегла адчыніць калітку. Сабакі, пазнаўшы Паўла, радасна завіхлялі хвастамі і пачалі церціся аб ногі, любілі калі ім прыносілі пачастункі, або хаця б палашчылі.

– Ну, як там Максім? – павітаўшыся, на хаду пацікавіўся свёкар.

– Амаль здаровы, ужо не тэмпературыць, праўда, яшчэ кашляе, – адказала нявестка.

Па ўсім было відаць, што ў яе добры настрой. Прычыну гэтага

Павел ведаў, улічваючы характар Вікторыі. Яна не была дамаседам, сама прызнавалася, што калі пабудзе дома тыдзень-два, то ў яе ўсё пачынае валіцца з рук, нічога не хочацца рабіць. Таму сённяшні выхад на работу для яе быў сапраўдным святам. Сын рана паехаў на працу. Працаваў ён прарабам і амаль суткамі прападаў на будоўлі. Пасада вялікіх прыбыткаў яму не прыносіла, часта скардзіўся на рабочых, якія любілі выпіць, адпаведна зрываўся графік выканання работ. Нерэгулярна завозіліся і набываліся будаўнічыя матэрыялы. Сын прымаў усё гэта блізка да сэрца, перажываў. Абыякава адносіцца да сваіх абавязкаў ён не мог. Паўла турбавала тое, што ад гэтага сын усё больш і больш стаў негатыўна адносіцца да людзей увогуле, наступалі моманты, калі ён пачынаў расчароўвацца ў выбары прафесіі. Хаця будаваць ён любіў, і калі справы ладзіліся, было відаць, як літаральна вырасталі ў яго крылы. Бацька ў цяжкія моманты спрабаваў яго неяк суцяшаць, што не трэба адчайвацца, а спадзявацца на лепшыя часы.

Дом сын пабудаваў сам на крэдыт, узяты на прадпрыемстве жонкай Паўла. Былі некалі залатыя часы, калі прадпрыемства атрымлівала добрыя прыбыткі і з ахвотай выдавала льготныя крэдыты для будаўніцтва жылля. Але грошай хапіла толькі на тое, каб давесці да ладу першы паверх, не кажучы пра пакупку мэблі. Таму кухня, пабудаваная належным чынам, разам з тым выглядала бедна. Кухонная мэбля, аддадзеная некім са знаёмых, таму што тыя купілі сабе новую, была па ўзросту большая, чым цяперашнія яе гаспадары. Прыкладна такая ж і канапа. Адзінае, што прываблівала, дык гэта вялікі стол пасярод кухні і новы тэлевізар з плоскім экранам, які вісеў на сцяне, падараваны братам.

Унук ужо прачнуўся і пад коўдрай глядзеў нейкі мультсерыял. Гэта быў адзін з тых шматлікіх серыялаў, якія былі моднымі і ствараліся прыкладна па аднаму ўзору. Браліся героі ўжо вядомых казак і пад іх пісаліся новыя сюжэты на сучасныя матывы. Мова некаторых з іх амаль не адрознівалася ад блатной фені. Дзеці на дзіва хутка ўсвойвалі для сябе новы слоўны запас, як і пераймалі ўзоры паводзін. Калі быць да канца праўдзівым, то гэтыя мульт-фільмы былі вельмі маляўнічымі, ствараліся не без творчых находак, хаця на першым месцы ў іх ствральнікаў была задача выдаць займальны прадукт.

– Прывітанне, джыгіт, – жартаўліва звярнуўся да Максіма дзед. Той нават і вухам не павёў, працягваючы глядзець тэлевізар.

– Прывітайся з дзядулем, – загадала маці. Але і гэты загад Максім прапусціў міма вушэй. Вікторыя адчувала няёмкасць, але

Паўла гэта толькі забаўляла. Урэшце ён папрасіў не акцэнтаваць на гэтым увагу, бо ўжо Вікторыя спяшалася на працу і давала рэкамендацыі на дзень:

– Таблеткі і мікстура ад кашлю ў кухоннай шафе, – яна адчыніла і паказала іх на паліцы. – Раніцай пакорміце яго маннай кашай, на абед – суп у халадзільніку. Вікторыя асабліва не стала распаўсюджвацца наконт таго, чым пакарміць сына, бо добра ведала кулінарныя здольнасці свёкра. Той з маладых гадоў захапляўся кулінарыяй і мог паспрачацца ў майстэрстве з любым шэф-поварам рэстарана. Як толькі ў Паўла надаралася свабодная мінута, асабліва на выхадныя дні, ён станавіўся каля пліты, і яго кулінарныя сакрэты ўвасабляліся ў смачныя стравы. Для родных наступала сапраўднае свята. Былі ў жыцці Паўла такія моманты, калі ён шкадаваў, што не выбраў сабе прафесію повара.

Праз некалькі мінут Вікторыя хуценька апранулася і паехала на работу. Дзед з унукам засталіся ўдваіх. Увогуле, Павел у блізкім акружэнні ўнука быў ледзь не адзіным чалавекам, які яму не патураў, нічым яго не ўлагоджваў і ніколі яго не ўпрашваў. З гэтым даводзілася мірыцца. І ўсё ж, пэўная непрыязнасць да дзеда ў яго існавала, і пры сустрэчы з ім, асабліва калі яны заставаліся ўдваіх, Максім стараўся праявіць сваю самастойнасць і незалежнасць. Паўла гэта радавала.

Найпершая і найважнешая справа была накарміць унука. Тут было некалькі праблем. У яго меню ўваходзілі толькі пэўныя стравы, якія ён згаджаўся есці. Усякія навінкі ён адвяргаў. На снеданне Максім мог з'есці або амлет, або манную кашу, або бліны. Па-другое, з ім трэба было ўзгадніць, што ён будзе есці ў дадзены канкрэтны момант. Таму дзед і звярнуўся з пытаннем да ўнука:

– Што будзем есці: кашу, амлет ці бліны?

Унук моўчкі працягваў глядзець мультфільм. Павел ведаў пра яго манеру ігнараваць субяседніка, калі ён чым-небудзь заняты. Таму пачаў праяўляць настойлівасць. Зноў жа, гэта не дало ніякіх вынікаў. На нешта іншае дзед і не разлічваў.

– Так, калі ты не адкажаш на маё пытанне, я выключу тэлевізар, – паставіў ён ультыматум.

– Гэтага рабіць я табе не дазваляю, – не стаў ужо маўчаць Максім, выдатна ведаючы, што так яно і можа быць.

– А хто будзе пытацца твайго дазволу, – працягнуў дыялог Павел і ўзяўся за пульт. Максім пачаў моцна крычаць, нібыта яго нехта збіраўся балюча пабіць. Убачыўшы, што ніякай рэакцыі на яго істэрычныя крыкі няма, абсалютна спакойна заявіў, што ён будзе

есці кашу, толькі дабавіў:

– Не забудзь пакласці ў кашу мёду.

Мёд, як малако і яблыкі, адносіўся да самых любімых прадуктаў дзіцяці. Гэта быў ледзь не адзіны аргумент на карысць таго, што ўнука можна паставіць на ногі. Ён не любіў есці мяса. Калі толькі трохі курацiны. Не еў і рыбу.

Тым часам на вуліцы за вакном пачаўся густы снегапад. Белая заслона закрыла нават суседні дом. Блакітныя елкі, якія раслі насупраць вакон і падняліся значна вышэй двухмятровага плоту, апраналіся у багаты белы кажух. Каля кармушкі на балконе, якую некалі Павел змайстраваў с пластмасавага вядзерца, шчыравалі сініцы, клявалі насыпаныя туды семкі. Унук часта любіў назіраць за птушкамі, сачыў за тым, каб у кармушцы заўсёды быў корм.

Не паспеў Павел нават закіпяціць малако, кабварыць манку, як зайграў мабільнік. Званіў загадчык кафедры псіхалогіі:

– Павел Васільевіч, добры дзень, як справы, – прагучала дзяжурная фраза. Ён не ведаў, што выкладчык цяпер за няньку. – Слухай, тут да мяне звярнулася жонка аднаго высокага начальніка. Просіць палячыць мужа. У яго, наколькі я разумею, цяжкая форма дэпрэсіі. П’е пачкамі антыдэпрэсанты, падсеў на стакан. Пачаліся непрыемнасці на службе. Я рэкамендаваў цябе.

Прафесар крайне неахвотна браўся за такія справы. Як правіла, прычыны падобных захворванняў ляжалі ў характары службовых адносін. Асабліва балюча біла па псіхіцы такіх людзей несправядлівасць у дачыненні да іх. Часам яны вымушаны былі прымаць рашэнні, накіраваныя супраць іх сумлення і супраць людскіх інтарэсаў. І тут мала чым можа дапамагчы псіхатэрапеўт, а больш – пакаянне. Прымаючы з лёгкасцю такія рашэнні, чалавек не падазрае, што ён закладвае бомбу замаруджанага дзеяння пад уласную псіхіку. Але адмовіць у просьбе без дай прычыны ён не мог і як доктар, і як службовы чалавек. Часам, слухаючы выступленні таго або іншага палітыка, высокага чыноўніка, сваім прафесійным вокам заўважаў сімптомы таго або іншага псіхічнага захворвання.

– Сцяпан Міхайлавіч, давайце заўтра буду на кафедры, там усё і вырашым, – Павел Васільевіч усё ж спадзяваўся знайсці якуюнебудзь прычыну, каб адмовіцца.

Малако закіпела, повар падсыпаў у каструлю маннай кашы, перамяшаў старанна, дабавіў цукру, масла і мёду і наклаў яе на талерку, каб папярэдне астыла. Максім на хвіліну адарваўся ад экрана і ўважліва сачыў за дзеяннямі дзеда. Калі што не так, а як варыцца каша, ён выдатна ведаў, то мог і пакрытыкаваць. А то і

знайсці прычыну, як адмовіцца есці. Такія падыходы да харчавання супярэчылі прынцыпам Паўла і ўсёй сутнасці яго душы. Ён усмамінаў, як у дзяцінстве яны, дзеці, з прагнасцю і нейкім зачараваннем сачылі за маці, якая раніцай пякла ў печы бліны. А якія смачныя яны былі! Ніхто практычна не хварэў. Усялякая непаслухмянасць жорстка каралася. Каля печы на цвіку вісела плеценая авоська. А адчуць яе моц у руках маці нікому не хацелася. У сям'і было пяцёра дзяцей, і ўгаворваць кожнага або у нечым пераконваць у маці не было часу і жадання. Да таго ж, у хлявах было многа дамашняй жывёлы.

Вядома ж, прафесар не быў прыхільнікам насілля ў выхаванні дзяцей. Пры першым позірку на Максіма, на знясілены хваробамі арганізм, а на ім была толькі скура ды косці, хацелася плакаць, а не думаць пра папружку. Да таго ж, не толькі ў Максіма, але і ў іншых многіх дзяцей ён і без таго назіраў наяўнасць пачуцця страху. Выклікаўся ён часам вельмі лёгка нязначнымі прычынамі. Цяпер гэта хутчэй для выкладчыка было пытанне, на якое ён не меў адназначнага адказу: куды падзеўся ў многіх дзяцей здаровы апетыт. Урэшце, унук меў сваю думку наконт свайго целаскладу. Неяк бабуля, жонка Паўла, была ў сына ў гасцях. І Максім задаў ёй нечаканае пытанне:

– А чаму ты такая тоўстая. Мама худая, баба Вера худая, а ты тоўстая.

Бабуля анямела ад такога пытання і не ведала, што адказаць. Скінуць для яе вагу было даўняй марай, як, дарэчы, для сваціі Веры дабавіць некалькі кілаграмаў. Дабавіць было немагчыма, бо яна, як толькі надыходзіў сезон, не разгінала спіны на дачы, дзе яна развяла вялікі агарод і асабліва любіла вырошчваць кветкі. Прыбытку з агароду не было амаль ніякага. Гэта не вельмі падабалася свату, бо і яму даводзілася дапамагаць жонцы. Вырошчванне кветак ён лічыў марнай справай. Усялякія яго спробы памяняць сітуацыю толькі прыводзілі да сямейных скандалаў.

Каша астыла і дзед паставіў талерку перад унукам:

– Так, Максім, стаў на паўзу, і трэба паесці.

– Праз пяць хвілін. Каша яшчэ не астыла, – заявіў хлопчык. Спрачацца з ім не мела ніякага сэнсу. Праз пяць дык праз пяць.

Праз некаторы час унук узяў талерку з кашай, але не стаў выключаць тэлевізар, а размясціўся на канапе, пачаў неахвотна есці, запатрабаваў дабавіць яшчэ мёду. На экране Маша з Мядзведзем з прычоскай і ў касцюме панка давала рок-канцэрт для лясных звяроў. Тыя кінуліся ў шалёныя пляскі. Гэта серыя закончылася, і ўнук

папрасіў яе паўтарыць. Дзед моўчкі выканаў просьбу ўнука. Студэнтам ён сам захапляўся рок-музыкай. На жаль, паўторны прагляд гэтай серыі не прыбавіў гледачу апетыту.

Некаторы час любімымі для Максіма былі мультфільмы пра аўтамабілі, якія размаўлялі паміж сабой. Дома ў яго быў сапраўдны аўтамабільны парк з цацак. Але потым неяк, седзячы за праглядам падобнага фільма, заявіў:

– Тут паказваюць няпраўду – на самай справе аўтамабілі не размаўляюць.

І ўсё, пасля гэтага ў яго з’явіліся новыя захапленні.

Зноў зайграў мабільнік. Экран высвеціў прозвішча дырэктара выдавецтва. З выдавецтвам прафесара звязвалі творчыя справы. Гады два назад яго папрасілі стаць галоўным рэдактарам псіхалагічнага часопіса на грамадскіх асновах. Зарплату ён там не атрымліваў, а матэрыялы рэдагаваў. Калі-нікалі атрымліваў мізэрны ганарар за свае матэрыялы. Згадзіўся толькі таму, што быў заклапочаны развіццём псіхалагічнай навукі ў краіне. А пасля распаду яна аказалася ў вельмі незайздросным стане. Лепшыя вучоныя перабраліся ў Маскву, а маладыя стараліся дасягнуць навуковых вышынь, кампілюючы чужыя думкі.

Павел здагадваўся аб прычыне званка. Ніяк не мог пабачыць свет чарговы нумар часопіса, таму што ён, як галоўны рэдактар, быў супраць публікацыі матэрыяла аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў жанчыны, якая выхоўвала прыёмных дзяцей. Пазбавілі, хутчэй за ўсё, па недастатковых прычынах, супраць волі дзяцей. Жанчына піша скаргі ва ўсе інстанцыі, назраваў скандал. Матэрыял жа падтрымліваў рашэнне камісіі.

– Слухаю, Тамара Генадзьеўна, – Павел націснуў кнопку мабільніка, якая злучала з субяседнікам.

– Павел Васільевіч, чытачы хвалююцца, пытаюцца, чаму не выходзіць наступны нумар часопіса. Спрэчны матэрыял я асабіста ўзгадніла з міністэтствам. Яно – за.

Для прафесара гэта не было пераканаўчым аргументам. Калі ўзнікнуць сур’ёзныя праблемы, то ўсе разбягуцца. А ты застанешся крайнім. Ды і не гэта галоўнае. Па-першае, гэта не іхняя тэматыка. А па-другое, па вопыту ён адчуваў, што за ўсім гэтым стаяць нейкія не зусім чыстыя гульні.

– Тамара Генадзьеўна, вы ж ведаеце, што ёсць чым замяніць гэты матэрыял. Што датычыць міністэрства, то не яно, а мы з вамі нясём усю адказнасць за надрукаванае на старонках часопіса. Паверце, пасля гэтай публікацыі нам будзе сорамна глядзець людзям у вочы.

– Прашу Вас, падумайце яшчэ раз, – дырэктар рэзка спыніла гутарку, зразумеўшы, што пазіцыя прафесара засталася ранейшай.

Максім уважліва слухаў перамовы дзеда, а калі той паклаў на стол мабільнік, нечакана сказаў:

– Маладзец дзед, не здавайся. Інакш цябе чакаюць вялікія непрыемнасці.

Павел аслупянеў. Няўжо ўнук такое мог сказаць. Ён жа яшчэ зусім дзіця. А можа ў яго самога пачынаюцца галюцынацыі? Унутры пахаладзела ад такой думкі. І ён адразу ж пастараўся яе прагнаць ад сябе. У той жа час узнікла пачуццё замілаванасці і ўдзячнасці. Павел адказаў:

– Дзякуй унучак за падтрымку. Здавацца я не збіраюся.

З вялікай цяжкасцю ўнук асіліў некалькі чайных лыжак маннай кашы і катэгарычна заявіў, што больш есці ён не будзе. Выпіў палову кружкі малака і, урэшце, выключыўшы тэлевізар, пачаў апранацца. Ад дапамогі дзеда не стаў адмаўляцца.

– А цяпер дапамажы мне паставіць камп’ютар на стол, – звярнуўся ён да Паўла.

Камп’ютар пакуль стаяў на падаконніку. Задумка Максіма была зразумелай: ён збіраўся засесці за камп’ютарныя гульні. Яны сабой уяўлялі баявыя дзеянні танкавых падраздзяленняў. Гульні ў розныя там мячыкі, караблікі і лабірынты – даўно пройдзены этап. Танкавая бітва – іншая справа.

Задумка Максіма дзеду не спадабалася, не гаворачы аб тым, што ён увогуле быў супраць камп’ютарных гульняў, якія разбураюць псіхіку чалавека, спусташаюць розум чалавека і няшчадна з’ядаюць такі важны час для чалавека ў яго кароткім жыцці. Ён не мог згадзіцца і з пазіцыяй той часткі людзей, да якіх, дарэчы, адносілася і маці Максіма, што ёсць развіваючыя гульні, і яны карысныя для дзяцей. Наіўныя людзі. Сёння існуюць цэлыя карпарацыі, якія зарабляюць мільярды долараў на псіхічнай залежнасці людзей ад камп’ютарных гульняў. Перасяліўшыся ў віртуальны свет, чалавек не хоча вяртацца ў рэальны нават тады, калі яму трэба вырашаць самыя надзённыя задачы. Прафесар сустракаецца з гэтым ў сваёй прафесійнай дзейнасці пастаянна.

– Не, Максім, гуляць на камп’ютары пакуль я табе забараняю. Ты і так цэлую раніцу сядзеў каля тэлевізара. Займемся чым-небудзь іншым, паабедаем, і пасля гэтага зможаш паўдзельнічыць у танкавых баях, – Павел разумеў, што зусім забараніць пагуляць на камп’ютары будзе вельмі жорстка. Гэта, прыкладна, тое самае, што пазбавіць наркамана дозы.

Максім непрыязна паглядзеў на дзеда, які ўжо расслабіўся пасля выканання баявой задачы, каб пакарміць унука, і перасеў на мяккую канапу. Затым з кулакамі накінуўся на Паўла, пры гэтым моцна крычаў, што ніхто не можа забараніць яму гуляць на камп'ютары. Прапусціўшы некалькі ўдараў, дзед заняў самаабарону, перахапіў рукі ўнука, здавалася, пазбавіўшы яго магчымасці біцца. Але не, ён галавой пачаў біць у пуза праціўніка. Добра, што пуза дзеда на гэты момант ужо мела дастойны для саліднага мужчыны памер і мяккасць. Адхіліўшы хлопчыка на адлегласць выцягнутых рук, калі ён ужо стаў недасягальным для ўдараў, Павел спакойна заявіў:

– Калі ты сябе так паводзіш, то я табе звяжу рукі і ногі і будзеш ляжаць на канапе. Пры гэтым увогуле не дазволю табе гуляць на камп'ютары.

Максім ведаў, што дзед не адступіць ад сваіх патрабаванняў. Зусім супакоіўшыся, заявіў:

– Ну, добра, пойдзем будаваць горад. Горад яны будавалі з паламаных цацак, кубікаў, дзіцячых канструктараў. Усяго гэтага дабра было дзве вялікія скрыні. Трэба сказаць, што малы архітэктар пабудаваў горад з толкам. У ім былі жылыя дамы, школы, бальніцы, магазіны, стаянкі, трамвайныя пуці, масты, рэчка. Заставалася толькі наладзіць аўтамабільны рух.

Так непрыкметна наблізіўся час абеду, і Павел прапанаваў унуку:

– Пара абедаць. Мама зварыла суп, я хутка разагрэю яго, і будзем есці.

– Суп я есці не буду.

Ідэя з супам не вельмі падабалася і самому прафесару. Зноў малы сербане пару лыжак і на гэтым спыніцца. А прымусіць яго есці было немагчыма. Было і іншае: хацелася праверыць свае кулінарныя здольнасці. Калі хворае дзіця захоча пакаштаваць яго стравы, то і ён нешта значыць у кулінарнай справе.

– Ну, добра, пагуляй тут адзін, а я на кухні што-небудзь прыдумаю.

– Пойдзеш праз пяць мінут.

– Магу і праз пяць, – згадзіўся дзед. Пытанне было не прынцыповае.

Праз пяць мінут ён накіраваўся на кухню, размарозіў мяса, замарынаваў яго па самых сучасных рэцэптах са сваімі дапаўненнямі. Кухня для Паўла была нешта накшталт сакрэтнай лабараторыі, дзе ён чараваў. Не ў сэнсе вядзьмарыць, а ў сэнсе творчых азарэнняў. Звычайныя людзі дома адрозніваюцца ад сапраўдных прафесіяналаў тым, што яны не надаюць значэнне дробязям, якія і не дробязі, а

значэнне маюць большае, чым састаў інгрыдыентаў.

Калі гуляш, а менавіта гэту страву вырашыў прыгатаваць дамашні шэф-повар, быў амаль гатовы, заставалася толькі патушыцца соусу, на кухні паявіўся ўнук.

– Ого. Як смачна пахне, – ён падставіў да пліты табурэтку, зняў накрыўку, узяў лыжку і паспытаў соўс. – Нядрэнна, пасалі, дабаў крыху смятаны і таматнага соўсу. Мяса, канечне, дрэнь, вырашчанае на генетычна мадыфікаваных камбікармах, але есці можна, хаця можна і памерці, тут як пашанцуе. Праз пяць мінут гуляш будзе гатовы.

Прафесар стаяў па стойцы смірна. Усе заўвагі будуць абавязкова ўлічаны. Унук паставіў назад табурэтку і накіраваўся ў залу. Павел зноў падумаў пра сябе, што вар’яцее. Такога не можа быць. Такога дзіця зрабіць не можа.

“Хаця, што такое рэальнасць? – падумаў прафесар, – калі не спасціжэнне ісціны. Нечакана ўся сітуацыя з выхадам часопіса яму падалася ў іншым свеце. Ён набраў нумар тэлефона дырэктара выдавецтва:

– Тамара Генадзьеўна, прабачце, гэта зноў я. Не выключаю, што праўда можа быць на вашым баку. Урэшце, у канчатковым выпадку дзяржава павінна абараняць правы дзіцяці. Заўтра аддадзім нумар у друкарню.

Максім з’еў столькі мяса, што дзед спужаўся, каб яму не стала дрэнна, і нават угаворваў больш не есці. Пасля гэтага ўнук напомніў абяцанне дзеда і засеў за камп’ютар. Сам яго падключыў, зайшоў у Інтэрнет, адкрыў паштовую скрыню, з дапамогай Паўла ўвёў мудрагелісты код, пасля чаго на экране з’явіліся танкі. Выйграўшы некалькі баёў, “танкіст” з’еў яблык і банан. Але прыйшоў час спаць. Ведаючы прыхільнасць унука да лічбы пяць, Павел сказаў:

– Усё, будзем заканчваць гульню і праз пяць хвілін пойдзем спаць.

– Пяць хвілін – гэта многа, – Максім амаль адразу ж выключыў камп’ютар і накіраваўся ў спальню.

Папрасіў прачытаць казку пра бабулю, якая была пакарана за тое, што не глядзела за парадкам у доме, мірна заснуў. Дзед ціхенька выйшаў са спальні і пачаў чакаць нявестку, якая неўзабаве павінна была прыйсці з работы.

***

Цяжка сказаць, колькі прайшло часу, можа паўгадзіны, а можа і значна менш. У двары раптам забрахалі сабакі. Вокны з залы выходзілі якраз туды. Павел вырашыў паглядзець, у чым там справа. Калітка адчынілася, і ў двор першым забег… унук, апрануты, як і належыць, у цёплую зімовую куртку, вязаную шапачку. За ім зайшла Вікторыя з цэлафанавым пакетам у руках. Прафесар не верыў сваім вачам. Максім тым часам палез на высокую гурбу, якую намяло каля плоту. Павел кінуўся ў спальню. Дзіцячы ложак быў акуратна засцелены. Ён ліхаманкава думаў, як магло здарыцца, што ўнук збег. Тэарэтычна гэта магло здарыцца. Ён мог сам апрануцца, выйсці праз балконныя дзверы ў агарод і адтуль праз калітку накіравацца на вуліцу. Практычна ж гэта ўяўлялася неверагодным.

Дзед хуценька вярнуўся ў залу – нявестка з сынам ужо заходзілі ў дом. Вікторыя вельмі здзівілася, убачыўшы свёкра ў доме:

– Добры дзень, якім ветрам да нас?

– Ды вось узяў ключы ў сына, бо мне спатрэбіліся некаторыя мае кнігі, што знаходзяцца ў вас, – сказаў Павел першае, што прыйшло ў галаву.

– А я вось рана закончыла заняткі, зайшла ў садзік і забрала Максіма.

“Які садзік, ён жа сёння цэлы дзень быў са мной”, – хацеў закрычыць Павел, але стрымаўся, уражаны тым, што Вікторыя не памятала аб іх ранішняй сустрэчы. Што ж, калі так, то будзем гуляць па яе правілах.

Тым часам жанчына распранулася і пайшла з пакетам на кухню. Яны засталіся ўдваіх з унукам.

– Дзед, ты не пужайся, людзі вельмі мала ведаюць пра тое, што адбываецца ў жыцці. Правільна зрабіў, што згадзіўся надрукаваць артыкул, бо тая жанчына не можа выхоўваць дзяцей. Адмаўляйся лячыць высокага начальніка. Па-першае, ты яго не вылечыш, а па-другое, дапаможаш вызваліць яму нечалавечую псіхічную энергію, набыць здольнасць масавага ўнушэння ідэй. Ён зможа стаць прэзідэнтам і прынясе многа гора людзям.

Павел ад здзіўлення здранцвеў. Калі ранейшыя словы і дзеянні малога ён неяк мог растлумачыць здольнасцю бяздумна запамінаць і капіраваць пачутае і ўбачанае, то цяпер гэтага зрабіць ніяк не ўдавалася. Разам з тым, узнікла пачуццё сваёй бездапаможнасці. І нават не таму, што ён не можа прадбачыць элементарныя рэчы, а таму, што яму яўна не стае цвярозага позірку на рэальныя падзеі. І

цяпер ён быў цалкам на баку Максіма.

Тым часам Вікторыя запрасіла яго на кухню папіць каву. Нявестка любіла пагаварыць, таму Павел амаль маўчаў і яму не трэба было хаваць свой стан. Гэта дапамагло неяк сабрацца з духам. Затым ён схадзіў на другі паверх, узяў некалькі кніг, пакінуў ключы ад дома, якія, як ні дзіўна, аказаліся ў яго кішэні, і развітаўся.



Галіна ТВАРАНОВІЧ

# Мой лёс да твайго...

Напрыканцы даўжэзнай алеі
разлеглых могілак рудальштацкіх
у любай Цюрынгіі Гётэ й Шыллера
спачывае Anegret-Bettina Lochau,
дарагая мая сястра па духу,
назаўжды маладая сяброўка.

Адсюль як рукою падаць
да магутных муроў  Heideckburg –
пануе палац над жыццёвым абсягам
і ціхім у ім  Friedenhof –  міру дваром.
О, гэтая вернасць сэнсу нямецкага слова...

У канец доўгай алеі як найхутчэй
трымціць мне патрапіць, дайсці,
каб пастаяць пры Беціне,
як жа даўно паўналетняй у Вечнасці
mein liebes Schwesterchen.

Сустрэліся ў Мінску,
адкрытыя лёсу і свету,
дзяўчаты й хлопцы з розных краёў.
Інтэрнат на Кастрычніцкай,
што карабель, разгайданы стыхіяй
смелых памкненняў, надзей...

І памяць упарта вяртае –
то ж ява ў сне!
З Бецінай да брамы, знаёмай нібыта адвеку,
пясчанай дарогай між сосен шчасліва ідзём –
да кветак разліву, птушынага граю,
туды, дзе арэлі маленства лятуць...

Ды раптам нябачная варта мяне запыняе.
Беціна ж гаворыць, на дзіва, лагодна:

“То мне ўвайсці, а ты тут застаешся.
Не крыўдуй, не спяшайся, не рвіся.
Мой лёс да твайго прыкладзецца...”

Праз бясконца-імгненныя жніўні
усё адплывае перон з цягнікам на Берлін.
І ядвабнаю птушкай імкнецца ў рукі мае
зялёная хустачка з шыі Беціны...

*Бельск – Мінск, 30.07.2013 – 19.08.2014*





# Нас мала

Нас мала. Ды  гэта не значыць,
Што мы анічога не варты.
Нас крыўдзяць. І гэта мы бачым.
Ды ў гэтым змаганні, не йначай,
Мацнее наш дух неперsaможна-упарты.

Мы не згубіліся ў дзеях.
За намі сцягі слаўных вояў.
Над намі  іх неба гісторыі.
Той шлях і цяпер нас вядзе
З веку ў век. І з намі надзея.

Бойцеся нас, бо нас мала!
І мы сваё маем джала.
Мацнейшае за кожную зброю
Слова нашае. Слова!
Яно, як тая Пагоня,
Імчыцца ўсё ў бой. І нас бароніць.

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

# Gotland – Зямля Бога

### *Перад тым, як быць...*

Вы любіце свой дзень нараджэння, падарункі? Я – не. Відаць, ліміт маёй любові закончыўся ў дзяцінстве, калі гэты дзень заўсёды быў святам з ягоным поўным антуражам. Але апошнім разам атрымала падарунак, які выпадае толькі аднойчы. Якраз у мой дзень на схіле зімы ў Гародні прызямліліся Пятровіч-Пашкевіч і прапанавалі мне мару пра Visby.

Напэўна, усе, хто чытаюць нашу перыёдыку, сустракалі водгукі пра гэтае места ў вершах, эсэях. Гэты нянаскі тапонім сёння ўжо вобраз, які стала ўпісваецца ў найноўшы літаратурны кантэкст. Нават спроба з'явілася падыскутаваць, як гучыць назоў адпаведна нашаму вымаўленню і што трэба напрыканцы пісаць. Але ці варта падаваць кірылічны адпаведнік? Не стасуецца гэтае слова з кірыліцай.

Уяўляючы, што Visby – гэта Рай, гэта адно для абраных, нават марыць пра яго не смела. Але шчасце ў жыцці ўсё ж бывае.

### *Ружы між камянёў*

Гэта было першае, што кінулася ў вочы. Як радасна мне сустрэць іх тут. Ледзьве не ля кожнага маленькага дамка і вялікага дому літаральна з каменняў уздымаюцца шыкоўныя кусты белых, ружовых, жоўтых і чырвоных ружаў. Апошнія – блізняты маім, што ля зарыцкага ганку. Толькі там яны ўжо адцвілі, а тут у самай красе.

І нават калі б мне стала невыносна сумна між чужых людзей, якіх не разумею, і гэта ўзаемна, мяне б выратавалі ружы. Але так стаць проста не магло.

Між іх не чуюся адзінокай.

Visby – горад ружаў.

Гэта вядома.

Але лепш гэта бачыць.

## *І іншыя кветкі*

Яны на кожнай вольнай ад каменю лапінцы. Амаль усе мае добрыя знаёмыя. Вясновая рэтраспектыва: цвіце язмін, які ў нас бялеў яшчэ ў травені. Мілая сустрэча з гэтаю кветкай мае бабулі, бо водар яе навявае згадку пра час, даўно адляцелы. Шыкоўныя кусты хосты, духмяная петунья, нізкія летнія вяргіні, вялікагаловыя жоўтыя аксаміткі. І клімаціс, які толькі зацвітае. Як жа хораша абвівае ён каменныя сцены, як туліцца да іх гэтая пяшчотная ліяна, каб схавацца ад ветру. Бо яна кабета. А кабеце, каб застацца ёю, трэба схавацца за некага. А яшчэ ўбачыла тут незвычайныя завушніцы. Іх у нашай вёсцы называюць яшчэ разбітае сэрца. (Тут, у Visby, у адным з ягоных эсэяў Уладзіміра Арлова з з кнігі "Сланы Ганібала" нечакана сустрэла і гэтую кветку, і дзве яе назвы).

У нас завушніцы толькі ружовыя. А тут белыя. Чаму? Усе ведаюць, ад чаго разбіваецца сэрца. Калі гэта здараецца, з яго мусіць выцекчы ўся кроў. І твар кветак становіцца змярцвела-белым. Як прад сконам... Усё тут сапраўднае. У нас жа, і страціўшы каханне, не паміраюць. Хапае на тое іншых прычынаў. Гэта я прыдумала ў сваіх "Гарадзенскіх казках" смерць ад кахання. І не толькі я.

Зрэшты, наўрад ці ведаюць тутэйшыя людзі, што кветка называецца разбітае сэрца. У Батанічным садзе яны

І кветкі – пустазелле – вельмі да твару гэтай зямлі. Цыкорый з блакітнымі прамяніста-зоркавымі вачыма, што прабіваецца між камянёў і трэшчынаў асфальту ўсцяж мора. І нейкая расліна з кветкамі, падобнымі да нашага малачаю. Побач з імі хораша глядзіцца стройны конскі шчавей з рукамі-венікамі. Ажыўляе выгляд каменнай сцяны зыркі чыстацел, што аднойчы залечваў мне раны, без якіх і на Зямлі Бога не бывае. А вось крапіўку доўга шукала ў патрэбе. Знайшла між лопуху, калі ўжо і патрэбы не стала. І ў Батанічным садзе ёй месца знайшлося: як жа – прадстаўнік флоры! Мяккія дываны бярозкі з белымі пахучымі парасонікамі. Высокі ружовы кіпрэй, лісцікі якога рву да свае гарбаты. І лопух тут вельмі нават прэзентабельны. Цэлыя шыракалісныя плантацыі ля старажытнае сцяны і ля сучаснае вілы. І ў Батанічным садзе. А лебяда! Стаіць ганарова, смела, не думае, што нікчэмнасць (хто ж пра сябе так думае?), усяго толькі зелле пустое, якога з мільён я сарвала. Расці сабе! Тут усім воля...

Кветкі на гэтай зямлі моцныя, высокія, яркія. Бо растуць на скалах. І ўсё, што трапляе ў глебу, ім дастаецца. Скалы і так самадастатковыя, непатрэбна ім нічога. Не тое, што нашыя пяскі, якія ўсе сокі ў сябе ўцягваюць, ды балоты, на якіх нішто мацнейшае не ўтрымаецца...

## *Каменнае сэрца Visby*

Усё тут каменнае. Вельмі добра захаваная каменная сцяна (тры з паловай кіламетры) з высокімі і не вельмі вежамі. Іх 29, як падае http://

aleksandrfridman.ru. Абыйшла сцяну, праверыла. Налічыла 41. Мо сайт лічыць толькі тыя, што добра захаваліся? Занадта вялікая розніца. Нават я, у каго заўсёдныя праблемы з лічбамі, не магла на столькі памыліцца. Двойчы пералічыла на старой мапе гораду – 39. Інфармацыя з розных крыніцаў. Выбірайце любую. Сцяна велічна (нават там, дзе разваліны) узвышаецца вакол старога горада. А для сядзібаў на некаторых вулках, што збудаваны паралельна ёй, служыць плотам з тылу. Уяўляеце, плот з сярэднявечнай сцяны? З каменю большасць дамоў (сустракаюцца і драўляныя). І – брукаванка. Мы, гарадзенцы, вельмі любім сваю брукаванку. Такое прыгожае тут няма. Праўда, наша зусім юная ў параўнанні з тутэйшай. Ды і засталіся ад яе толькі аскепкі. Тут, у старым горадзе, усе дарогі забрукаваныя. І ходнікі таксама. Даўняю парою, вечным каменем, які служыць месцічам вось ужо многа стагоддзяў, з любоўю выкладвалі майстры розныя ўзоры. То роўнымі радочкамі з прадаўгаватых або квадратных камянёў, то шахматным парадкам, то роўнымі кругамі. Асабліва хораша, калі разыходзяцца плаўныя разводы, каб ізноў сысціся. А месцамі проста густа парассыпаныя рознакаляровыя, рознага памеру прадаўгаватыя камні, якія вельмі падобныя да цукерак – марскіх каменьчыкаў. Па такіх нязручна хадзіць, таму абавязкова ці пасярэдзіне, ці з краю выкладзены роўныя сцяжынкі з прастакутнічкаў.

Толькі тут задумалася, адкуль такі сантымент да бруку. Згадала, што была выкладзена каменем старая вуліца майго Шчонава, а гэта зусім маленькая вёска між мястэчкамі Варонча і Райца, безумоўна, таксама раней забрукаванымі. Такая дарога малою дзяўчынкай успрымалася як нешта незвычайнае, бо кожны камень адрозніваўся, заставаўся сабою. Іх можна было доўга разглядаць, зважаючы на колер, форму, штосьці прыдумваць. А яшчэ добра памятаецца стары шлях з Наваградка да Баранавічаў. Вузкая брукаванка, абсаджаная дрэвамі, кроны якіх спляталіся сваімі вяршалінамі. Кожная паездка па ім была падарожжам у незвычайнае. Асабліва ў часе залатой восені. Была пэўнай, што менавіта па такім шляху пакідаў наш Край Міхал Клеафас Агінскі, і яму загучалі тут незвычайнай прыгажосці гукі, што стануць знакамітым паланэзам. Калі ж шлях пачалі знішчаць, каб пабудаваць на яго месцы новую шырокую асфальтавую дарогу, смутак мой быў як па вялікай страце. Брат злаваўся на мае аргументы, што ў часе паездкі па новай дарозе ў душы не загучыць музыка, і казаў: “Затое ездзіць будзе зручна. А музыку ўключай і слухай”...

Сам горад збудаваны на вялізных каменных сходах, што ўзвышаюцца над морам. Вуліцы бягуць уніз, а ад мора лёгка ўздымаюцца ўгору. Аж на тую Kirkberget (Касцельную гару), якая таксама каменная, дзе месціцца наш Цэнтр. Яна нават і не гара, а стромая скала, абрыў, да якога падысці страшна.

І мора тут каменнае. Берагі і дно пры берагох, а мо і далей, усыпаныя і вялізнымі валунамі, і іх дзеткамі рознага ўзросту і росту. Паміж пірсамі – каменная выспа. Маленькая. Мо з дзясятак метраў у дыяметры. Напэўна, сцягнулі ў адно месца каменне, калі пірсы будавалі. Убачыўшы першы раз

з берага, падумала: як гэта да яе дабрацца. Гляджу, а там дзеці. Глыбіня крыху вышэй за калена. Як брод перайсці...

Калі на каменныя муры свеціць сонца, яны становяцца цёплымі і пяшчотнымі. Штоによる разу, як хіліцца к вечару дзень і даўжэйшымі робяцца цені ад камяніцаў (не плагіячу, проста думаю вершамі), ідучы ад мора, дакранаюся рукою да сонечных аплікацыяў на суровых каменных сценах, і заўсёды яны ласкава дзеляцца са мною сваім цяплом.

Каменнае сэрца Visby добрае да тых, хто палюбіў яго.

### *Хвалі – авечыя статкі*

– заўсёды думала, што гэта прыгожая метафара. Аж не! Жывыя, белыя, імклівыя статкі. Бачыла на свае вочы. Плывуць з далёкіх мораў-акіянаў, гнаныя ветрам. А найперш марай – знайсці той райскі кут, Зямлю Бога, дзе іх шануюць найбольш чым дзе ў свеце. І вось даплылі. У такім часе ніхто не плавае ў моры, бо могуць збіць, растаптаць. Але яны і самі, дабраўшыся да берага, знікаюць. Не, не таму, што разбіваюцца аб каменне, аб скалы. Проста, іх мара збылася. Навошта жыць далей? Існаваць?

І толькі адзінкі, самыя смелыя, адчайныя і цікаўныя, выходзяць на бераг. І застываюць на бруку ля кожнае брамы каменнай сцяны. І гадуюць у сваіх сэрцах новую мару – вярнуцца туды, адкуль прыплылі на Зямлю Бога... А пакуль ціха пасуцца на каменнай пашы. Бо навошта каменным авечкам іншая паша? Не супраць, каб на іх спіны прыселі вандроўнікі, стамлёныя вольным шпацырам. Ведаюць, што перажывуць кожнага, хто сёння да іх падыходзіць. Гадуюць на сабе багатую воўну, з якое робяць шыкоўнае адзенне. Такое, як у вершы Ірыны Багдановіч “Готландскае руно”:

*Раптам у вулцы маленькай – ільсністыя воўны,*
*Голых каменных авечак жывая апратка,*
*Позірк чаруюць срабрыстым, мякуткім, шыкоўным,*
*Арыстакрацкім, праўдзіва мясцовым парадкам!*

### *Sankta Maria*

За маім вакном (келля №3) касцёл Sankta Maria – храм XIII стагоддзя. Цуд. Як усе святыні з тых далёкіх часоў. Праўда, мне не надта пашанцавала: якраз гэтае крыло яе прыбралі ў карункавае павуціннерыштаванне, абцягнулі сеткаю колеру марское хвалі. Любуйся! Любуюся. Вежамі, вольнымі ад тых убранняў, што нагадваюць шахматных каралёў з багатай калекцыі, купаламі, залатымі пеўнямі. Яны ўздымаюць мой зрок да неба, і мне, як Ірыне Багдановіч год таму, Святая Марыя “*ў вочы глядзіць купаламі, / А я – на Яе і на мора гляджу задумёна...*”

А неба – адно. Тое ж, што і над маёю Гародняй. Светлае і сонечнае. Калі ж хмарнае, аплывае дажджом, малюся:

*Хмары над Visby плывуць,*
*даляціце да Зарыцы, хмаркі,*
*і ападзіце дажджом*
*на мае прызавялыя кветкі...*

Адна царква на ўвесь стары горад, а на нядзельнай месе вернікаў вобмаль. Дзіўна мне. А мо таму, што людзі і так жывуць у Раі. І нічога больш ад Бога не хочуць. Бо прыходзім часта да Яго ў патрэбе, у няшчасці. І не заўсёды спяшаемся выказаць удзячнасць за тое, што маем. Мне ж ёсць за што і дзякаваць, і чаго прасіць.

А служба такая ўрачыстая, такая велічна-прыгожая. А галасы святароў! Нібы раскаты грому. Толькі ў царкве адчула прыгажосць гэтае мовы. Бо на вуліцах яна гучыць зусім інакш.

## *Гадзіннік у Sankta Maria*

*"Гадзіннік у Sankta Maria спявае гадзіны"*. І нат паўгадзіны. І не проста спявае. Нагадвае мне: час твой у Visby сплывае, запоўні кожны дзень, кожную хвіліну, каб не ззялі пустэчай. Стараюся. Уважліва гляджу на гэты горад з мінулага, спрэс антыкварны, і такі блізкі, бо пазнаю ў ім і сваю Гародню, і свой Наваградак, і ранейшыя Карэлічы. Ды і вясковыя шчонаўскія драўляныя хаткі пазнаю. Праўда, у нас ніколі не было такое прыгожае гонты. Нікуды не спяшаюся, шукаю суладдзя з сабою. Слухаю мора. Размаўляць з ім, праўда, не ўмею. Але ж для кабеты значна важней умець слухаць. Гляджу, як хаваецца сонца за морам. Маем мы дома такую мажлівасць?..

Звон плыве над усім местам. А мо над усім Готландам?

У мяне ж прад вачыма наш гарадзенскі гадзіннік на белай птушцы – Фары. Чую, як Юрка Голуб чытае свой трыялет:

*Гадзіннік на Фарным касцёле*
*Не лічыць спазненне за грэх.*
*І хоча чаканне сагрэць*
*Гадзіннік на Фарным касцёле.*

Наш не спявае. Толькі паказвае час. Падказвае гарадзенцам: спяшайцеся жыць. Альбо: прыпыніцеся хоць на хвіліну, куды вы спяшаецеся. Прысядзьце на лаўку. Вершы чытаць перасталі, то хоць паслухайце нашу паэтку:

*Сяджу перад Фарным касцёлам*
*Пры Богу на лаўцы.*
*Гародня віруе наўкола*
*На пляцы.*
*Спяшаецца час незваротны.*
*Яму не належаць*
*Анёлы спрадвечнай Гародні*
*На вежах.*

Цікава, ці пішуць тутэйшыя паэты пра гадзіннік у Sankta Maria?.. Пра сам горад – так. У бібліятэцы, якую не стамляюся вывучаць, знайшла цэлую паліцу з кнігамі пра Visby. Найбольш фотаальбомаў, дзе прыгожыя, вельмі якасныя здымкі паказваюць гэты край ва ўсёй ягонай велічнай і суровай красе. Ёсць тут і анталогія мастацкіх твораў, між якіх і паэтычныя. На жаль, не валодаю дарам, як мая непісьменная бабуля, чытаць на недасяжнай мне мове.

А яшчэ было цікава: гэты звон дорыць месту толькі нейкі механізм, аўтамат ці калі-небудзь радуе ўсіх талент музыкі. Дапыталася. Калі не проста звон абвяшчае гадзіны, а гучыць музыка, то гэта міні-канцэрт нябачнага маэстра.

### *Гарлачыкавы ставок*

Побач з морам. Пасярэдзіне фантан, пырскі ад якога дастаюць да недалёкіх лаўкаў, дзе добра лавіць сонечныя промні, чытаць або проста слухаць ваду.

Белыя гарлачыкі буйныя-буйныя. Разы мо ў два большыя за нашыя.

Вы бачылі ружовыя гарлачыкі? І я не бачыла. То ўяўляйце: ярка-ружовыя, крыху меншыя чым тутэйшыя белыя. І лісце ружова-чырвонае.

І на стаўку кветкі, і вакол кветкі. Гіганцкая хоста, касмея. Мама называла цыганачкі. У нас яна – кветкавае смецце, якое пасееш – не выпалеш. І назоў *касмея* таксама пачула ад мамы. Яе калежанка, настаўніца біялогіі, якая апякавалася школьным прысядзібным участкам, ніяк не магла вывесці з яго тых цыганачкаў. Дастала каталог насення, якое высылалі па пошце. І сярод мноства назоваў вельмі ўпадабала – *касмея*. Нечым незямным, касмічным павеяла ад яго. Кветкі павінны быць такое ж, нябеснае прыгажосці. То і заказала. Амаль увесь кветнік засеяла. І ўзышлі, і выраслі, і расцвілі... Бойцеся сваіх мараў: яны збываюцца. (Апошняе ніяк не пра мяне і Visby).

А тут касмея буйная, ярка-барвовая. Абавязкова збяру насенне.

### *Мая лаўка*

Тут ужо шмат майго: келля, месца на пляжы і за сталом у сталоўцы, філіжанка. Ды і шмат яшчэ чаго. Бо заўсёды была аднаасобніцай.

І каля гарлачыкавага стаўка ёсць мая лаўка. Прыходжу аднойчы, а там вікінг рассеўся. І побач свайго каня металёвага (ровар) паставіў. Села здалёку і замаўляю-гіпнатэзую: бяры свой пляцак, сядай на ровар і едзь. Паўтараю ў думках, навязваю яму сваё. Паціху кранаецца рука, кладзецца на пляцак. А я ўсё шапчу. Павольна ўстае, ад’язджае. Мая лаўка вольная...

Недарэмна ж я ўнучка бабулі-знахаркі.

## *Інгеборг і Аскар*

Аскар магутны, дужы, смелы (чаго ім тут баяцца?), высокі. Часта проста гіганцкі. На кожным квадратным чвэрцькіламетры. І марскім байцом мог бы быць. Толькі з кім ваяваць? І чаго? Усё даўно зваявана. Увесь свет ля ягоных ног. Гэтак ягоны выгляд кажа.

Якраз у Visby прачытала ў кнізе Барыса Пятровіча (пра яе пазней), што герой ягоны спачатку "зьдзівіўся: наколькі тут падобныя да беларускіх людзі..." Не, яны значна буйнейшыя, святлейшыя. Беларусы неяк сцямнелі, змізарнелі. Светлавалосых мужчынаў у нас, нават маладых, адзінкі. Жанчыны, зразумела, выбіраюць колер які хочуць. І рослых неяк не надта заўважна.

Размова ў кнізе йдзе не пра падабенства, а пра розніцу, пра яе прычыну: "...але аснова якая? – у беларусаў пясочак, балота, а ў шведаў – скала... ці трэба далей тлумачыць пра стрыжань народу, пра мяккасьць беларусаў – славутую талерантнасьць – якая імкнецца хоць бы захаваць тое, што маеш, і пра імкненьне шведаў да новага..." У першы дзень, убачыўшы побач з Цэнтрам кветкі на скалах, падумала найперш пра іх, а не пра людзей.

Людзі тут гаспадары свайго лёсу, свайго Краю, упэўненыя, моцныя, добразычлівыя, здаровыя.

А вось Інгеборг не зусім "*як сасонка страйна*". Вельмі прыгожая! Правільныя рысы твару, гордая пастава, светлавалосая. Не тое, што нашыя маладыя беларусачкі сёння, што спрэс сталі "пякучымі" брунэткамі. Добра, калі хоць адну светлую галоўку ў аўдыторыі згледзіш. Але "*страйна*" зусім не па нашых мерках. Здаровая, зусім не празрыстая, не цененькая галіначка. Проста Максім Багдановіч ніколі не быў на Балтыцы.

Любуюся ёю і добра ведаю, што горкую долю не наспявае ёй вецер суворы. Тое было даўно. Толькі вось сёння побач з Аскарам вельмі часта бачу не яе, а брыдкае, кароткаfamilyгае, чорнавалосае, вузкавокае стварэнне, што шчабеча па-свойму, па-птушынаму і да яго, і да дзіцяці, якое нясе бацька. А дзіця на яе падобнае. Як мог горды прыгожы Аскар выбраць гэтую, ніякую, чужую, што ходзіць як марыянетка, падскокваючы? Чым яго ўзяла?

А вось пары наадварот (кітаец і Інгеборг) не бачыла ні аднае.

## *Мова*

Дзве тут асноўныя: шведская і ангельская. Усе ведаюць. А ў мяне, да сораму, з гэтых дзвюх па два словы. Толькі нямецкая, але добра-такі прызавялая, дваццацігадовае даўнасці. Пасля апошняга экзамену за незапатрабаванасцю ў архіў памяці здадзеная. Пані Мар'я Тальгрэ, пісьменніца, журналіст з Стакгольма, з якою мы па-нямецку якраз і размаўлялі, суцяшала мяне: мая нямецкая намнога лепей за яе рускую.

Праўда, мова гэтая нейк хутка пачала ажываць, усё новыя парасткі пускаць, хоць зернейкі засохшымі былі.

Спачатку хадзіла з размоўнікам. Прачытаю пытанне, а адказ не разумею. А пасля пакінула. Што тут невядома: куды ні ідзеш, выйдзеш, куды хочаш. І вырашыла размаўляць з імі па-беларуску. Бо толькі з аднае нагоды і звярталася, каб сфатаграфавалі. Працягваю фотаапарат, ветліва прашу па-нашаму і паказваю на сябе і фон, на якім увекавечана быць мушу. І неаднойчы ў адказ казалі мне па-руску. Расейцы, якія ў Скандынавіі жывуць стала. Тут яны зусім іншыя, нашу мову разумеюць. Не тое, што ў Беларусі. Пэўна, скандынаўскі клімат іх цывілізуе. А вось тыя, што прыязджаюць са сваёй Масковіі, такое выдаюць, што проста словаў няма. Прыпыняюцца на вуліцы, дзе такія прыгожыя, такія мілыя, такія нашы дамкі, зручныя утульныя, у ружах. Адзін тыцкае пальцам і з пагардаю кажа: “Какое старьё! Они же тут ничего не перестраивают”. Расейцы, яны і ў Visby расейцы. Так мне крыўдна стала, быццам абразілі маё асабістае, такое дарагое. Наша спрадвечная беларуская крыўда! І нічога ім не сказала, бо даўно ведаю, як недарэчна выглядае кабета, якая штосьці адстойвае, штосьці даказвае...

Па-руску гаварыла са мною і мілая пані з Літвы, што з сям’ёю прыехала на Готланд на адзін дзень. На сваёй яхце. Вельмі проста. Як далёка нам да Літвы! Ад нашага лецішча 20 кіламетраў.

Толькі ні разу ніхто не адказаў мне па-беларуску. Чаго захацела...

Калі ж яны ў мяне нешта пыталі, ветліва казала: “Хацела б Вам адказаць, але толькі адзін чалавек у Вашай краіне зразумеў бы мяне – Стэфан Эрыксан”. І іншыя варыянты на гэтую тэму...

Так і разумеліся. Вельмі нават няблага. Комплекс моўнае непаўнавартасці не вельмі даймаў мяне. Бо за кожным словам і без іх – усмешкі, усмешкі...

## *Усмешкі*

Людзі табе, чужаніцы, прыязныя дораць усмешкі. Зрэшты, хаджу тут паважнаю госцяй, нібы каралевай з далёкай краіны ў кароне з саломкі, якую сплялі мне дзіцячыя ручкі са школы ў вёсцы на шляху паэткі Алаізы Пашкевіч...

Выключэнні з гэтага агульнага ўсмешлівага правіла бываюць. Да прыкладу. На пірсе. Вузка, не размінуцца. Твар у твар з трыма асобамі. Міжволі ўсміхнешся. А ў адказ першыя дзве (кабеты майго веку) праходзяць з каменнымі тварамі. І толькі трэцяя, дзяўчынка-падлетак, міла сцвярджае правіла: людзі тут прыязныя, умеюць дарыць усмешку і незнаёмым. Дзякуй, дзяўчынка. За тое, што ўсмешка твая на твары маім адбілася. І засталася.

Дарэчы, якраз кабеты майго веку ўсміхаюцца найменей.

## *Беларуская палічка*

Не надта багатая. Але ёсць у бібліятэцы Цэнтра. Пра тое прачытайце ў эсэ Уладзіміра Сіўчыкава. І пра кнігу запісаў. І не забудзьце глянуць на старонку 90, дзе Васіль Быкаў пакінуў цвяток Радзімы васілька. У вершы Валянціны Аксак прачытаеце:

*Ён прыязджаў сюды тройчы*
*і столькі ж маркоціўся –*
*не знаходзіў*
*сваю каханую*
*ў суквецьцях красуняў*
*з цэлага сьвету.*

Таму і намаляваў. Я таксама шукала. Знайшла. На каляровай фіранцы між чырвоных макаў і белых рамонкаў у вакне аднаго з дамкоў недалёка каля Батанічнага саду.

Вось жа, на нашай палічцы тамы Васіля Быкава, кнігі Валянціны Аксак, Уладзімера Арлова, Анатоля Сыса, Франца Сіўко, Сяргея Дубаўца, Андрэя Хадановіча, Альгерда Бахарэвіча, Анатоля Івашчанкі, двухтомнік "Беларуская літаратура і свет", выданні Сіўчыкава, "Дзеяслоў"... Прывезла некалькі з Гародні. Спадзяюся, "Апошні дзень" Анатоля Брусевіча дачакаецца тут сустрэчы з аўтарам. Анатоль пра гэта не ведае. На тое найперш і везла. Бо веру, што між кнігамі і людзьмі існуе прыцягненне.

Кніга падарожных эсэ Уладзімера Арлова дапамагла мне чарговы раз упэўніцца, што з гумарам у мяне ўсё ў норме. Бо дома мой адзіны каханы шторазу, калі смутна мне становіцца ад анекдотаў, прачытаных ім з апошняе старонкі газетаў, катэгарычна заяўляе: "Гумару ты не разумееш!" Разумела не толькі дасціпны гумар нашага пісьменніка-вандроўцы, але і ягоны боль, ад якога беларусы не здольныя пазбавіцца ні за якімі межамі.

Шкада толькі, што нічога няма на беларускай палічцы з нашаніўскае класікі.

## *"Шчасце быць"*

Сустрэла тут кнігу Барыса Пятровіча, якую ў свой час прапусціла, бо прачытала недзе ў анатацыі, што туды ўвайшлі "Фрэскі", а іх ўжо чытала. Аказалася, гэта зусім іншая кніга, назва якое стала лейтматывам усяго майго жыцця ў Visby. Самым цікавым суразмоўцам тут і быў мне герой гэтае кнігі.

Увесь час збіваюся, каб штосьці пра яе напісаць. Але не, бо пішу пра Visby і пра сваіх паэтаў. А Барыс Пятровіч не мой аўтар. Імкнуся не блытаць жанры. Бо Visby не кніга. Хоць тыя, што маюць шчасце быць тут, напэўна, як і я, чытаюць яго вуліцы як радкі, старонкі вельмі цікавае кнігі. І ведаюць, што не прачытаюць. Бо шчасце быць у Visby вельмі кароткае, як усе шчасці.

Праўда, “Шчасце быць” – таксама не зусім кніга, бо відавочна рассыпаецца на дзве. І я ніколі б не звяла іх ў адно, як гэта зрабіў аўтар. Першую чытала са смуткам: наверх, на свет цэлы (праўда, свет не ведае ні нас, ні нашае літаратуры) выцягнутыя ўсе нашыя беларускія вясковыя загадкі-комплексы, пра якія беларусы (тыя, хто за іх гаворыць) згадваць пачалі сто гадоў таму. Але толькі кранаць, хаваючыся, нейкім адным слоўцам падказваючы, што сказаць хочуць. Самае далікатнае – *патаёмнае*. А тут усё адкрыта. Пэўна, прыйшоў час.

Другую чытала з болем. Бо свет у ёй (з усім тым штохвілінным, штокрокавым абсурдам, які так дакладна, падрабязна, нават смакуючы, як мазахіст свой боль, раскрывае пісьменнік, здзекуючыся нават з асноўнай ідэі, што ў назве) можна ж бачыць зусім інакш. Як шчасце быць. Без іншых, адваротных, сэнсаў. Не шукаючы, не выглядаючы і не выцягваючы на свет белы абсурд за абсурдам. Не ведучы чытача ў “Трызьненьнях” ад нерухомасці да яшчэ большае нерухомасці, ад цемры да яшчэ большае цемры, якая адно і ёсць шчасцем?... Але ж на тое яны і ёсць трызненні.

І яшчэ глыбей, больш балюча пакапацца ў даўно вядомым-забытым: жыццё як сон, я ёсць і мяне няма. Хто ўсё ж у нас першым гэта вывеў? Барыс Пятровіч тут пазначыў 1993 год. Валянцін Акудовіч выдаў сваю кнігу ў 1998-ым. А калі напісаў?..

“Піліпікі”, што ў фінале, крыху раз’ясняюць змрочнасць “Версій” і “Трызьненьняў”. Не можа не выклікаць усмешку тое, як пісьменнік прэпаруе свядомасць і падсвядомасць свайго Піліпіка (зразумела, Піліпа), маленькага чалавека, які проста жыве, круціцца. Бо інакш тут не выжывеш. Суцэльныя анекдатычныя сітуацыі для яго норма. І сам ён анекдот. Які ходзіць. І нават думае. І часам цытуючы вершы. Але, наогул, “Піліпікі” зусім не лёгкаважкае чытво. Такога і быць не магло пад вокладкаю “Шчасьце быць...” А запачаткавана ў нас такая літаратура ў новым часе сто гадоў таму Вацлавам Ластоўскім, ягонымі “Прыгодамі Панаса і Тараса”. Праўда, там героі пра сваё з якім яшчэ гонарам! Бо лепшае ад чужога. Нягоршае. А тут ужо і не ведаюць, якое гэта, сваё. І ведаць не хочуць.

## *“Ружоўніца”*

Як жа міла сустрэць мне тут гэтую кнігу. Так я пісала пра ружы, але нічога, бо і пра кнігу так. Бо адна ў нас з пані Валянцінай любоў – кветкі. Суцешыў яе эпіграф з Крыстыяна Бабэна: і мне заўсёды няёмка, бо ў кожнай кнізе пра кветкі. Якіх усюды выглядаюць мае вочы. І ў творах знакамітых гарадзенак: Элізы Ажэшкі, Алаізы Пашкевіч, Ларысы Геніюш, Дануты Бічэль...

Вершы – пяшчотна-журботныя імпрэсіі, дзе лёгкі водгук падзеі, калі прыходзіць успамін. Усё гэта: і набыткі, і страты – так гарманічна злагоджана, асветлена дабрынёй, жаноцкасцю, мудрасцю. Вельмі элеганцка, не губляючы годнасці, не зраніўшыся да крыві, умее яе гераіня

абыйсці тое, што абыйсці трэба, каб застацца сабою.

У нас так многа падобнага. А гэта найперш вабіць у творах. Так, паэтка тлумачыць:

*Распусьніца – ад дзеяслова "распусьціцца": здольнасьць кветкі і жанчыны.*

А я тлумачу студэнтам пра Купалаву Зоську: яна не блудніца, яна заблудзілася між людзьмі, якія не кахаюць, адно ненавідзяць. Яна таксама "распусьцілася", гледзячы на кветкі, жывучы між іх болей, чым між людзей, збіраючы іх на лузе ля рэчкі, вянок звіваючы, букет складаючы, каб аддаць Старцу, каб той памаліўся за ... Памятаеце.

Так хочацца верыць, услед за паэткай, што паўторыцца і наш беларускі цуд (с. 45). Напэўна! Але ўбачым яго мы, відаць, ужо здалёку, звысоку.

Яе вольныя (не хоккаўскія, не вымераныя сіметрычна склады: 5–7–5) трохрадкоўі "Проста быць тут" так многа гавораць мне. Проста ставяць кропку:

*Проста быць тут.*
*Тут проста быць.*
*Быць тут проста.*

А я проста дабаўляю да кожнага радка адно слова – *шчасце*.

Як і паэтка, таемна звязу з Готланда не адну кветку. Ніякі гэта не крадзеж. А рассяленне красы.

У Visby мне было вельмі светла з вершамі Валянціны Аксак. З "Ружоўніцай" хадзіла па Батанічным садзе. Пра яго мусіць быць асобны аповед. Але не варта. Лепш чытайце нізку паэткі "Батанічны сад у Visby", а ў якасці нагляднага дапаможніка глядзіце здымкі на маім сайце.

## *Едрусь і Юра*

А яшчэ я ў гэтым Раі размаўляю з Едрусем Мазько і Юрам Гуменюком. Пішу пра Едрусевы "Займеньнікі", шукаю іх зменныя сэнсы, а яны ўвесь час вядуць па адным шляху, да аднаго: праз каханне да смерці. Як жа ён прыцягваў яе! Неадвязная думка-мроя вярэдзіць мяне. Як усе нашыя думкі-памкненні: каб нешта вярнуць, адкінуўшы тое, што ёсць нязменным. Вось жа, той мой ланцужок, які ўвесьчасна закругляецца ў кола: чаму яго адзінай кнізе не з'явіцца раней, тады б ён прыйшоў у наш Саюз, як зрабіў тое ягоны апошні лепшы сябра Толік Брусевіч, і тады не мне, а яму прапанавалі б Visby, і тут ён бы ацалеў, яшчэ раз, ужо канчаткова, пераканаўшыся, якая яна, адзінота, верная з тымі, каго абірае, ад яе тут паміраеш сто разоў і столькі ж уваскрасаеш. І не варта іншых ратункаў шукаць, а проста зразумець і прыняць назаўсёды, што шчасце быць – аксіёма, дадзенасць.  І трэба яе засвоіць. І перастаць клікаць смерць. І ягонае сэрца вылекавалася б ад стомы, прагі ўсё і ўсюды паспець, не разбілася б аб гарадзенскую брукаванку, бо ўбачыў бы ён, які моцны тут брук, грунт, на якім вырастаюць моцныя, здаровыя гаспадары тутэйшага

краю. Аж свеціцца іх здароўе і сіла. А Едрусь сэрца здаровае мець не мог. Бо ў нашым Краі жыць і не пакутаваць нельга. Ён ніколі не прыедзе ў гэты Рай. Але тут я памятаю пра яго. І тут ягоная кніга, якая (чаму?) не з'явілася раней...

І пра Юру, які жыў у сваім тэатры, ствараючы яго ўсюды, дзе з'яўляўся. Сам выбіраў ролі. І свой апошні перформанс выканаў...

## *"Лео"*

У шведскай пісьменніцы Маар'і Тальгрэ "Лео" – галоўная кніга, праца многіх гадоў, мастацка-дакументальная аповесць пра бацьку, эстонскага патрыёта, які быў забіты НКУС у 1944 годзе.

Гісторыя Эстоніі часоў Другой сусветнай вайны вельмі нагадвае нашу. Тое ж імкненне патрыётаў маленькае краіны выратаваць яе між схваткай двух агрэсараў, тая ж самаахвярнасць і тыя ж горы бруду, што былі вылітыя на іх савецкай прапагандай. У кнізе два галоўныя героі: адзін з кіраўнікоў эстонскага Супраціўлення Лео Тальгрэ і ягоная маленькая дачка, якая шукае бацьку. Праз многа гадоў, ужо нават стаўшы дарослай, застаецца той дзяўчынкай, ідзе па ягоных слядах, каб разабрацца, што ж было насамрэч. Яна вяртае сабе бацьку, смелага, шчырага, прыгожага і прыстойнага чалавека. Яна ачышчае ад бруду памяць пра яго.

Мо і не згадала б пра гэтую кнігу, калі б не знайшла ў ёй адну назву. Сябар Лео, які быў схоплены жывым, адбываў пакаранне ў **Інце**. Так, у тым лагеры, дзе пакутавала і наша паэтка Ларыса Геніюш. Тыя ж шляхі, той жа крыж. Але цалкам іншы фінал трагічнай гісторыі. Бо ў Эстонцаў усё гэта – страшнае мінулае. Бо над іх краінай – нацыянальны сіне-чорна-белы сцяг...

## *Чай-кі-рлі*

Пісаць пра Visby і не згадаць іх нельга. Яны гаспадыні ніжняга неба над морам, ля мора. Нахабныя, гарластыя крыкулі. Чайкі. Ніколі ў дзяцістве не чула – *кірлі*. З суседняе, польскае мовы. Складаюцца-раскладаюцца мне гэтыя словы. То ў адно, то рассыпаюцца на склады. І атрымоўваецца *чай-кі-рлі*.

Кірлі лепей, чым чайкі. Бо ў гэтым слове адбіваецца іх крык, настойлівы, абрывісты, як тутэйшая мова, якое хіба ніколі б не вывучыла. Захапляюся маім калегам, які, збіраючыся ў Visby, чатыры месяцы (паведаміла Луіс Пасторэ з Сігулды) вучыў мову. Брава! Напэўна, ён разумеў і кірляў. Якіх я зразумець не магу: як можна быць такімі нахабнымі, так лезці ў вочы, у вушы сваім патрабавальным *кір*?..

## *Як на мамінай печы*

Калі раптам хто з гараджанаў чытае мае готландскія абразкі, прапусціце гэты. Бо зразумець яго змогуць толькі тыя, хто вырас у вясковай беларускай хаце, дзе ў цэнры печ, крыніца цяпла, мілы прытулак.

Даўно гэта страчана. Больш за трыццаць гадоў, калі перабудавалі нашую хату. Вялікая, утульная печ была для мяне зацішным месцам, дзе ніхто з наведвальнікаў за каляроваю занавескай не бачыў малую дзяўчынку, адкуль, цікаўная да ўсяго, мела мажлівасць слухаць размовы з бацькамі, часцей з мамай, бо бацька заўсёды быў заняты, няшматслоўны, ягоныя аўдыенцыі заканчваліся вельмі хутка. А мама была радая, як мне падаецца, кожнаму добраму чалавеку (нядобрых хіба і не было) у нашай хаце.

Печ грэла мяне, шчодра аддаючы сваё цяпло. Яна была маім працоўным месцам. Тут чытала кнігі, вучыла вусныя ўрокі. Шыла. Усё жыццё нешта шыю. Бацькава показка пра мяне: “Што мая Сора то шые, то пора?” А яшчэ любіла разглядваць здымкі кінаактораў, якіх мела вельмі многа. Бацька прывозіў са сваіх камандзіровак. Найлепшы падарунак. Ведала ўсе фільмы, у якіх яны здымаліся, гэтая інфармацыя была на адваротным боку. Да дробязяў магла апісаць знешнасць. Нават гульню прыдумала: па апісанні партрэта пазнаць актора або наадварот. Зразумела, заўсёды ў ёй выйгравала.

Калі заканчвала школу, бедавала: “Як буду ў тым горадзе без печы?”

Вось жа, у гэтым далёкім месце, да мяне вярнулася мая маміна печ.

Людзі тут пачуваюцца вельмі вольна. Могуць прылегчы на кожным месцы, дзе расце трава. І на схіле Касцельнай гары таксама заўсёды нехта адпачывае. Ёсць тут тры каменныя прастакутнікі. Даволі вялікія. Метраў два на паўтара. Не ведаю, якая іх праўдзівая функцыя, але служаць яны людзям, каб прысесці, прылегчы. І ў сонечны дзень, нават вельмі халодны, нават калі вар’яцее ад злосці вецер, яны не проста цёплыя, а вельмі-вельмі цёплыя. Толькі б сонца свяціла.

А вось у маю келлю яно заглядвала толькі вечарам. Калі ж працавала гадзінамі за кампутарам, не рухаючыся, ногі вымярзалі да ледніковага стану. І тады ішла на сонца, вярталася на дзясяткі-дзясяткі гадоў таму. І грэлася на цёплых каменных лежаках. Выгравала ўсё свае косткі-суставы не горай, чым у найлепшай працэдуры ў санаторыі.

Дзякуй табе, Visby.

Мне было тут цёпла.

Як на мамінай печы.

## *Мае бірузовыя пацеркі*

рассыпаліся па брукаванцы Visby. Колеру марское хвалі. Так доўга шукала іх, каб пасавалі да завушніцаў, а завушніцы да пярсцёнка.

Збіраю іх між камянёў. І раптам разумею: рассыпаліся, каб ператварыцца пад нагамі ў пыл і са снегам вясною сплысці ў мора. Бо ў яго тут няма гэтага бірузовага – колеру – марское хвалі. А што гэта за мора без колеру марское хвалі?

Не буду збіраць мае пацеркі. Падару мору ягоную хвалю.

Каб хоць чым аддзячыць.

За шчасце быць.

У Visby.

**PS** Калісьці Хрыстос прызямліўся ў Гародні. Але люд тутэйшы не быў Яго вартым. І Ён выбраў іншы Край – Gotland – Зямлю Бога. Дзякую Небу за шчасце – быць у Visby.



## Цішыня

Не плачу,
Плачуць, здаецца, толькі вочы,
Што бачаць тое, што бачаць.
Не тужу,
Тужыць, няйначай, толькі сэрца,
Зашчымленае страхам і трывогай.
У глыбокай цішыні самоты
Нараджаецца малітва
За ўсіх, каго люблю,
Якую не магу выказаць
Ні сабе, ні вам, ні таму,
Каго кахаю.

## Расстанне

Чуваць патайныя гамонкі
Чужародных дрэў.
Не той пах кветак
І гэты кут не наш,
Не мой.
Час плыве бяскрайняй ракой расстання.
У яе глыбокай вадзе,
Усхваляванай чужавейным ветрам,
Цяжка ўбачыць сваё адлюстраванне.
Хутка стамляюцца,
Створаныя ў марах, імкненні.
І топяцца.

Бязгучны грукат сэрца ўзмацняе тугу.
Стаю ў цэнтры вялікага свету
І ў бяздоннай пустэчы будучыні.

## Існаванне паэта

З душы,
што перамяняецца
ў іарданскую галубку,
з-над белай
карткі паперы
узлятае ёй насустрач
трапяткое
яе адлюстраванне
ў гэту адну
адзіную хвіліну,
якое завецца
вершам.

## Захады сонца

У вачах мамы
бляскам мінулага
адбіваюцца захады жыцця.
Рытм яе сэрца
напаўняе наш дзень,
на яе скронях –
сумота восеньскай радасці.
І толькі сасмяглыя вусны
прагна высвечваюць,
усё яшчэ смакуюць
даўняе каханне.

Дастойна маўчыць
адвячоркавая цішыня
напярэдадні яе дня.

Малюся, каб чарговы
не быў апошнім.

Радзім ГАРЭЦКІ

# Жыццёвы меланж –2013-2014

## Раман расійскага філолага

З вялікай цікавасцю праглынуў захапляючую кнігу Аляксандра Чудакова “Ложится мгла на старые ступени. Роман-идиллия” (2012), які рашэннем журы конкурса “Русский Букер” прызнаны лепшым рускім раманам першага дзесяцігоддзя новага стагоддзя. Яго напісаў выдатны расійскі філолаг Аляксандр Чудакоў (1938-2005) ужо ў сталым узросце на базе сваіх дзённікаў і ўспамінаў, якія, дзякуючы бліскучай памяці, трымалі шмат нават дробных бытавых падрабязнасцяў жыцця і адначасова важкіх абагульненняў. Раман напісаны цудоўнай рускай мовай, блізкай да чэхаўскай, – здаецца, вельмі простай, але ўсё глыбока асвятляючай, з мяккім гумарам, які змушае радасна смяяцца. Чытаецца так лёгка, што адчуваеш сапраўдную асалоду ад слова, якое дазваляе яскрава ўяўляць усё тое, пра што піша аўтар – вясёлае, светлае, жыццярадаснае і жудаснае; цяжкае, грознае. Непаўторны стыль рамана: з аднаго боку, падрабязнасці падзей, дасканалае апісанне рэчаў, дасканалыя думкі і пачуцці героеў, а з другога – выдуманая, і ў той жа час рэальная рэчаіснасць. Аўтабіяграфічнасць удала ўпісана ў зменлівую шматпакутную рэальнасць мінулага стагоддзя.

А.Чудакоў на 10 год маладзей за мяне, але падзеі і сітуацыі ягонага жыцця вельмі блізкія і зразумелыя мне: ён жыў у той жа час, і яго лёс нечым падобны да майго. Рэпрэсіраваныя родныя; ГУЛАГ, які пранік усюду і не даваў забыць пра існуючую сістэму бальшавізму; вайна і эвакуацыя; жыццё ў Казахстане; лысенкаўчшына ў навуцы; дэмагогія і хлусня, страх і нянавісць, якія прыводзяць да раздвоенасці душы чалавека; і ў той жа час – радасць і любоў да жыцця; адчуванне шчасця, маладосці і сілы; вера, надзея і каханне…

У “Новой газете” пра раман А.Чудакова напісана, што гэта – вобраз сапраўднай Расіі ў яе самыя цяжкія гады. *Книга гомерически смешная и невероятно грустная, жуткая и жизнеутверждающая, эпическая и лирическая. Интеллигентная робинзонада, роман воспитания, «человеческий документ.*

## Шосты з’езд беларусаў свету

З’езд прайшоў 23–24 ліпеня 2013 г. у Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Раў. У з’ездзе прынялі ўдзел дэлегаты беларускіх дыяспар з 21 краіны свету, сярод якіх больш за 200 чалавек з замежжа і каля 140 чалавек з Беларусі. Таксама прысутнічалі прадстаўнікі дыппрадстаўніцтваў Украіны, ЗША, Польшчы і Нідэрландаў, 14 прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў, у тым ліку Міністр культуры Барыс Святлоў, Упаўнаважаны па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка. Тэма з’езду: “Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці”. Пасля вітання кіраўніка “Бацькаўшчыны” Алены Макоўскай, мне, як сустаршыні Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенню з’езда, давялося абвесціць з’езд адкрытым. Пасля гімна ЗБС “Бацькаўшчына” ўшанавалі хвілінай маўчання памяць 51 сябра Згуртавання, што адышлі ў іншы свет за час паміж Пятым і Шостым з’ездамі.

З асноўнымі дакладамі выступілі Алена Макоўская, даследчыца беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка, старшыня гуртка Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Вашынгтоне Алеся Кіпель і сябра абласной Рады Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алег Рудакоў. Праца з’езда і яго вынікі даволі шырока адзначаліся ў СМІ, асабліва ў недзяржаўнай прэсе, таму я не буду пераказваць іх, падкрэслю толькі некаторыя моманты.

Дзякуючы дасканалай працы Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенню Шостага з’езда і асабліва працоўнай групы на чале са старшынёй Рады Нінай Шыдлоўскай, з’езд прайшоў вельмі арганізавана. Упершыню, калі не лічыць Першы з’езд беларусаў свету, не было ніякіх перашкод з боку ўладных структур. Вельмі лагодна, без асабліва рэзкіх нападкаў адзін на аднаго, спакойна прайшла дыскусія, а таксама даволі аднадушна прыняты выніковыя дакументы і абрана новае кіраўніцтва Згуртавання “Бацькаўшчына”. Шосты з’езд прайшоў пад знакам 20-гадовага юбілею правядзення незабыўнага і вельмі паспяховага Першага з’езда беларусаў свету ў 1993 г. Таму ў гонар гэтай даты ўсім дэлегатам з’езда быў уручаны спецыяльны значок, а ганаровым сябрам Згуртавання – яшчэ і памятныя медалі да 20-годдзя Першага з’езда беларусаў свету. На канцэрце асабліва ўразілі выступленні іркуцкага гурту аўтэнтычнага спеву “Крывічы”, дуэт чэшскіх беларусаў Сяргея Доўгушава і Аляксандра Ясінскага і інш. Дэлегаты і госці з цікавасцю аглядзелі шэраг выстаў, удзельнічалі ў прэзентацыі культурных праектаў – кніг, музычных дыскаў і інш.

Дэталёва была абмеркавана і прынята праграма “Беларусы замежжа” (2013–2017), якая ставіць мэту захаваць беларускую прысутнасць у свеце ў розных яе праявах, кансалідаваць беларускую нацыю і ўмацаваць грамадзянскую супольнасць у Беларусі. Пасля грунтоўнага разгляду падрыхтаваных праектаў, рэзалюцый і зваротаў, якія выклікалі гарачыя, але добразычлівыя спрэчкі, былі зацверджаны наступныя

дакументы: “Выніковая рэзалюцыя”, “Зварот да Нацыянальнага сходу і Ураду Рэспублікі Беларусь аб прыняцці закона “Аб беларусах замежжа”, “Бела-руская мова – галоўны фактар існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь”, “Пра захаванне гісторыка-культурнай спадчыны”, “Пра транслітарацыю найменняў беларускіх геаграфічных аб’ектаў”, “Аб акце добрай во-лі” (заклік вызваліць вязняў сумлення). Кіраўніком Згуртавання “Баць-каўшчына” была пераабрана Алена Макоўская, старшынёй Рады – Ніна Шыдлоўская. Намеснікамі старшыні сталі Валеры Герасімаў і Барыс Стук. У новы склад Вялікай Рады ўвайшлі 50 чалавек ад Беларусі (яны складаюць Малую Раду) і такая ж колькасць ад замежжа. Усе дакументы з’езда былі надрукаваны ў газетах і перададзены ў адпаведныя дзяржаўныя і грамадскія структуры.

***

Ужо ў лістападзе 2013 г. з’явілася паведамленне аб тым, што Палата прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Беларусі прыняла ў першым чытанні законапраект “Аб беларусах замежжа”. Прыемна, што шэраг прапаноў, якія Згуртаванне “Бацькаўшчына” на працягу ўжо 20 гадоў прапаноўвала і на Шостым з’ездзе зноў дапрацавала і прыняло, улічаны Нацыянальным сходам Беларусі. У прыватнасці, гэта адносіцца да льготнага парадку атрымання грамадзянства Беларусі для беларусаў, якія жывуць за мяжой і не маюць беларускага пашпарта. Важна, што ўведзена дасканалае вызначэнне, якія групы людзей маюцца на ўвазе пад беларусамі замежжа.

## Выстава ў Мінскай гарадской ратушы

28 жніўня 2013 г. адбылася выстаўка вядомага скульптара Алеся Шатэрніка “Святло майго горада (скульптура, жывапіс, імпрэсія)”. Гэта рэдкі, а магчыма і першы выпадак, калі Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі разам з Музеем гісторыі г. Мінска, Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі і Беларускім саюзам мастакоў праводзіць выставу ў Мінскай гарадской ратушы сябра суполкі “Пагоня”, якая была створана ў 1990 г. у складзе Саюза мастакоў Беларусі з мэтай “развіцця нацыянальнага мастацтва… дзеля абуджэння нацыянальнай самасвядомасці народу, ягонага духоўнага, культурнага і дзяржаўнага адраджэння” (Статут суполкі). На выставе былі прадстаўлены найбольш вядомыя скульптурныя і жывапісныя творы (шэраг пейзажаў, храмаў, новы партрэт) Алеся Шатэрніка, а таксама яго літаратурныя працы. Як сам Аляксандр Сяргеевіч адзначыў у сваім буклеце “Сонцакрыж” (2011): *Жывапіс – гэта двухмернае прастора. Скульптура – трохмерная. Паэтычнае слова выходзіць па-за межы гэтых Прастораў і набліжаецца да чацвёртага вымярэння: Боскага Слова… “Напачатку было Слова…”* Таму ён апантана працуе ў пералічаных трох напрамках творчасці. Усе выступоўцы адзначалі шматграннасць творчых схільнасцей А. Шатэрніка. Чамусьці ніхто не казаў пра яго шматлікія мемарыяльныя дошкі. Якраз па

гэтым напрамку яго творчасці мне і прыйшлося шмат разоў сустракацца з Аляксандрам Сяргеевічам. З вялікай удзячнасцю ўспамінаю яго працу над мемарыяльнымі табліцамі, якія ўсталяваны ў Вільні на ўваходзе ў будынак Першай Віленскай беларускай гімназіі – выкладчыка Максіма Гарэцкага і яго вучаніцы Наталлі Арсенневай. Тады я часта наведваў яго майстэрню, былі вельмі цікавыя размовы, а потым мы разам ездзілі на адкрыццё дошак у Вільню. Потым я звярнуўся да А. Шатэрніка зрабіць мемарыяльную дошку майму бацьку акадэміку Гаўрылу Гарэцкаму. Цяпер яна вісіць на будынку Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі. Побач таксама зробленая А. Шатэрнікам – дошка ў гонар акадэміка Аляксандра Сямёнавіча Махнача. Ён жа намаляваў яго партрэт, які ўпісаўся ў галярэю выдатных геолагаў Беларусі – членаў Акадэміі навук, якая ўпрыгожвае залу пасяджэнняў Інстытута. А.С. Шатэрнік зрабіў дошку ў гонар выдатных вучоных Інстытута беларускай культуры, на якой у тым ліку выбіты прозвішчы Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, а таксама роднага брата яго дзеда – Міколы Шатэрніка, вядомага беларускага мовазнаўца. Хацелі, каб гэтая мемарыяльная дошка была побач з дошкамі У. Ігнатоўскага і М. Гарэцкага на былым будынку Інбелкульта, дзе ў той час змяшчаўся Скарынаўскі Нацыянальны культурна-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны і наша Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", але дазволу не атрымалі. Мы тады яе адкрылі ў вестыбюлі нашага будынку. У далейшым дошка М. Гарэцкага была скрадзена, нашы грамадскія арганізацыі выкінуты разам з мемарыяльнымі дошкамі. Было жаданне зноў іх усталяваць да 90-годдзя стварэння Інбелкульта, але так і да сённяшняга дня дошкі пыляцца ў кладоўках.

Пасля адкрыцця выстаўкі я шчыра павіншаваў Алеся Шатэрніка з такой выдатнай падзеяй. Калі выйшлі мы з ім з ратушы, убачылі помнік Максіму Гарэцкаму, які нарэшце быў ужо вызвалены ад рамонтных матэрыялаў і добра выглядаў на фоне свежапафарбаванага будынку. Нам здалося, што пісьменнік усміхнуўся нам і шчыра падзякаваў нашаму выдатнаму скульптару і жывапісцу за яго шчырую працу на шляху нацыянальнага адраджэння.

## Сумная вестка

Адна мая супрацоўніца 14 верасня патэлефанавала мне на мабільнік і паведаміла сумную вестку: памёр бацька Міхася Нагорнага. Пачуўшы, што я вельмі засмуціўся, яна пачала супакойваць мяне: "Ды, ведаеце, ён жа ўжо быў зусім стары, знямоглы, ледзь рухаўся…" А я пра сябе падумаў: "Стары, вядома, не малады, але ён маладзей мяне на 40 дзён. Які ж я?"

Я адразу патэлефанаваў Міхасю Нагорнаму, які ўжо пару месяцаў як пераехаў на пастаяннае жыхарства ў сваю родную вёску Астраўкі на Нёманшчыне, дзе і жыў разам з бацькам. Міхась – адзін з самых здольных і сур'ёзных маіх вучняў, які выдатна працаваў над шэрагам праблем тэктонікі і ўжо завяршаў напісанне доктарскай дысертацыі. Але з'явіліся

значныя цяжкасці са зрокам, які вельмі хутка пачаў пагаршацца. Ён быў вымушаны пайсці з нашага інстытута і ў апошнія гады працаваў дацэнтам у Інстытуце спорту і турызму, дзе выкладаў некалькі прадметаў па прыродазнаўству, рэлігіі і інш. Да свайго 60-годдзя зусім страціў зрок, атрымаў пенсію і з’ехаў у вёску.

Яго бацька Анатоль Нагорны, як і маці Міхася, выдатны настаўнік, які ўсё жыццё прапрацаваў у вясковай школе, вельмі інтэлігентны, добразычлівы чалавек, які ўсіх людзей любіў і якога ўсе таксама любілі і ставіліся да яго з павагай. Я яго троху ведаў, ён мне падабаўся і бацькі заўсёды праз Міхася перадавалі мне, а я ім прывітанні і пажаданні ўсяго найлепшага. Да слёз было шкада Міхася…

Я адразу дазваніўся да Міхася, выказаў яму шчырае спачуванне і падтрымку. Ён бадзёрым голасам мужнага чалавека, паведаміў мне: *Бацька памёр яшчэ 9 верасня і яго ўжо пахавалі, зрабіўшы магілку побач з матчынай. Апошні год ён вельмі саслабеў, хадзіў з цяжкасцю, абапіраючыся на кіёк. З часам слабасць павялічвалася, гублялася цікавасць да ўсяго (а ён заўсёды цікавіўся многім – сачыў за жыццём вёскі, усім шмат дапамагаў, чытаў газеты, кнігі, глядзеў тэлэбачанне, ведаў усе навіны), вочы зусім патухлі і не свяціліся, як раней. Не хварэў. Тыдзень правёў у бальніцы, дзе стараліся яго падмацаваць рознымі кропельніцамі, але ён усё слабеў, хаця розум не губляў, забралі яго дахаты, дзе ён яшчэ дзень пражыў, а раніцою памёр. Проста ён вычарпаў усе дадзеныя яму ад Бога жыццёвыя сілы, спакойна без якіх-небудзь пакут пакінуў гэты свет і перайшоў у іншы. Ён пражыў добрае сумленнае жыццё.*

*Я жыву нармальна адзін у вялікай хаце. Сам сабе рыхтую ежу і раблю гэта някепска. Слухаю радыё, па прыёмніку лаўлю розныя каналы. Успамінаю прачытанае і пабачанае раней. Шмат прагульваюся, раблю кожны дзень па 10-15 км па знаёмых з дзяцінства сцежках, а наша прыгожае асяроддзе, хаця зараз і не бачу, але яскрава ўяўляю яго, як і раней. Шкада, безумоўна, што застаўся без бацькі, але супраць законаў жыцця нічога не зробіш, і рад, што ён адышоў так ціха, без пакут. Я задаволены і не скарджуся на свой лёс.*

Мне было вельмі сумна, але падтрымлівала думка, што яшчэ не згубіў жыццёвыя сілы. У гэты ж дзень я змог за рулём свайго старога жыгулёнка прыехаць з жонкай на дачу, з дапамогай бензапілы зваліць у лесе дзве нятоўстыя сасны і распілаваць іх, а на наступны дзень пакалоць на дровы, увечары з прыемнасцю папарыцца ў парыльні і ціха пасядзець каля каміну, гледзячы на полымя і думаючы пра жыццё і лёсы людзей…

## “І самы светлы талент – дабрыня”

*(Да 100-годдзя з дня нараджэння Сяргея Грахоўскага)*

25 верасня 2013 г. споўнілася 100 гадоў выдатнаму беларускаму паэту, празаіку, публіцысту, перакладчыку Сяргею Грахоўскаму, які належыў да той плеяды лепшых сыноў і дачок беларускай інтэлігенцыі,

**Дзень незалежнасці.** 17 траўня 1814 г. – дзень абвяшчэння Эйдсвальскай канстытуцыі незалежнай нарвежскай дзяржавы (Эйдсвале – мястэчка на поўначны ўсход ад Хрыстыаніі). З таго часу 17 траўня зрабіўся нацыянальным святам Нарвегіі, а сама канстытуцыя са зменамі і дадаткамі дзейнічае і цяпер. Але вайсковае ўмяшанне Швецыі прывяло да заключэння шведска-нарвежскай уніі, якую ўдалося скасаваць толькі пасля рэферэндуму ў 1905 г. Каралём Каралеўства Нарвегіі стаў Хокон VII, дацкі прынц па паходжанні. З гэтага часу Нарвегія стала поўнасцю незалежнай, але Дзень незалежнасці, як і раней, святкуецца 17 траўня.

Уся краіна – у нацыянальных сцягах рознага памеру – ад вялікіх да зусім малых – на ўсіх афіцыйных будынках, унутры супермаркетаў і вялікіх магазінаў супраць кожнага аддзела, на большасці жылых дамоў, катэджаў і іншых уласных памяшканняў. Не толькі ў сталіцэ Осла і буйных гарадах, але і ва ўсіх гарадках, пасёлках, мястэчках, фермах насельніцтва ўрачыста адзначае гэтае свята, прычым без усякага нагадвання, прапаганды і тым больш націску. Звычайна вельмі проста па-рабочаму, спартыўна апранутых у дзень 17 траўня людзей не пазнаць: большасць жанчын, а таксама і некаторыя мужчыны – у прыгожых нацыянальных строях, астатнія – жанчыны ў лепшым сваім убранні, мужчыны ў касцюмах з гальштукамі і лентачкамі чырвонымі звонку і белымі ўнутры, якія прышпілены на левым баку.

У гарадах і мястэчках праходзяць народныя дэманстрацыі: ці адна агульная, ці папярэдне яшчэ дзве-тры асобныя: дзіцячыя, школьныя, спартыўныя. Не меншая колькасць людзей збіраецца, каб паглядзець на ўдзельнікаў дэманстрацый. Уражанне надзвычайнае! На чале калоны ідзе адзін кіраўнік ці група кіраўнікоў паліцыі, затым шэраг маладых хлопцаў у спецыяльных строях у зеленавата-шэрых сарочках нясуць вялікія нацыянальныя сцягі, а за імі аркестр, які выконвае розныя маршавыя мелодыі. Апрача дырыжора, наперадзе група прыгожых стромкіх дзяўчат у элегантных строях пад музыку прадстаўляюць спецыяльныя мастацкія рухі з дапамогай адпаведных указак. Затым праходзяць розныя раёны горада, школы, ліцэі, каледжы, універсітэты, культурныя цэнтры і клубы шматлікіх напрамкаў (балетныя, бальных і народных танцаў, акрабатыкі, цыркавыя, музычныя, шахматныя, футбольныя, хакейныя, баскетбольныя, валейбольныя, дзіцячыя, ветэранаў і г.д.). Кожная група паказвае сваё майстэрства і дасягненні, прычым зноў на чале асобных падраздзяленняў нясуць іх сімвалічны знак, нацыянальныя і свае сцягі, ідзе самадзейны аркестр, сярод якога выканаўцы рознага ўзросту – ад пенсіянераў да зусім маладых хлопцаў і дзяўчат. Часам удзельнікі крычаць прывітанні, спяваюць песні. Сярод удзельнікаў шэсця шмат бацькоў з зусім малымі дзеткамі і нават у калясках – усе нясуць невялічкія нацыянальныя сцягі. Цікавая спецыяльная вопратка ў выглядзе чырвоных штаноў з сімваламі дзяржавы ў маладых хлопцаў і дзяўчат – выпускнікоў розных спецыяльных каледжаў. І ў калонах, і сярод гледачоў сустракаюцца людзі іншых народаў: негры, арабы, в’етнамцы, японцы, інданезійцы, еўрапейцы і інш.

Многія з іх таксама з нарвежскімі сцягамі.

Найбольш уражваюць жанчыны ў нацыянальных нарвежскіх строях – яны вельмі прыгожыя і жанчын робяць прыгажэйшымі і прывабнейшымі. Часцей гэтыя строі маюць такі выгляд: на белую сукенку надзета цёмная ці чырвоная камізэлька, на якую шырокім поясам прымацавана цёмнага (чорнага, цёмна-сіняга ці цёмна-шэрага) колеру святочная спадніца (тыпа беларускага андараку) з вышыванкамі. На плечы нярэдка накінута хустка, а на галаву – хустачка. Наперадзе скуенка, камізэлька, пояс, якія ўпрыгожаны срэбранымі нацыянальнымі вырабамі. Нечым гэтыя строі нагадваюць многія нацыянальныя строі беларусаў.

Завяршае шэсце ці вайсковы аркестр, ці проста адзін-два паліцыянты.

Калі бачыш такое шчырае святкаванне незалежнасці краіны ўсім насельніцтвам, якое тым самым выказвае сваё надзвычай моцнае самавызначэнне, гонар за свой народ і дзяржаву, сэрца любога чалавека з розных куткоў зямлі напаўняецца павагай да гэтага народа і выказвае яму пажаданне поспехаў, новых дасягненняў і росквіту. А маё сэрца, апрача тых жа пачуццяў, яшчэ балюча шчаміла ад жалю, што няма ў беларусаў такой агульнай самасвядомасці, гонару і адданасці сваёй цудоўнай краіне.

**Настаўніца.** Адна настаўніца з Расіі скончыла Педагагічны інстытут замежных моў, прыехала ў Нарвегію з сынам. Тут праз некаторы час выйшла замуж за нарвежца, нарадзіла яшчэ двух дзетак. Вельмі энергічная, жвавая, добра авалодала нарвежскай мовай, атрымала працу настаўніка ў школе, скончыўшы спецыяльныя курсы. Жаліцца, што ў яе цяжкая праца. Справа ў тым, што да дзетак тут адносіны, як да дарослых, сяброўскія, на роўных. На іх нельга крычаць, тым больш груба лаяць – усё трэба спакойна растлумачыць, пагутарыць, яны павінны адчуваць сябе вольнымі, не адчуваць ніякага прымусу, але заняць іх трэба нечым так, каб ім было цікава. Усё гэта даецца вельмі цяжка, бо дзеці ў большасці непаслухмяныя, свавольныя, адчуваюць сябе зусім самастойнымі, а некаторыя нават ганарлівыя. Наша настаўніца не-не ды сарвецца і прыкрыкне, а зрэдку і не зусім паважліва. Дырэктар школы аднойчы пачуў і зрабіў заўвагу ў досыць катэгарычнай форме: “Вы кіньце гэтыя Вашы рускія савецкія звычкі!” Таму ёй увесь час прыходзіцца трымаць сябе ў руках, сачыць за сваімі паводзінамі і адносінамі да школьнікаў, а гэта не так лёгка.

**Пясочная валейбольная пляцоўка**. Каля вялікага возера, на самам версе яго крутога берага, дзе мелася больш роўная тэраса, прывезлі некалькі машын дробненькага чыстага пясочку, выраўнялі і зрабілі тут зручную валейбольную пясочную пляцоўку. Адразу за пляцоўкай цягнецца вуліца, па той бок якой размешчаны ўласныя дамы, катэджы, палісаднікі, стаяць аўтамашыны. Аднойчы позна вечарам з боку возера пачаўся моцны вецер, які дзьмуў усю ноч. Ён быў настолькі магутны, што ўзняў пясок з пляцоўкі і з сілай панёс праз дарогу на адзін з дамоў і на аўтамашыну, якая стаяла побач. Раніцою, калі вецер сціх, гаспадары дома ўбачылі, што іх

аўтамашына прыгожага сіняя набыла незразумелы стракаты колер і выглядала цалкам пашарпанай. Гаспадары пажаліліся на арганізатараў пляцоўкі. Улады мястэчка адказалі: “Аўтамашына павінна стаяць у гаражы, а не на вуліцы і таму вінаваты Вы самі, уладальнікі аўтамашыны, а не арганізатары пляцоўкі і кіраўнікі мястэчка, якія далі дазвол на будаўніцтва пляцоўкі”.

**У фермера.** Запрасілі у госці да фермера. Ён патомны фермер гадоў 60, яго жонка (ужо другая) рускамоўная жыхарка з прыбалтыйскай краіны прыблізна на 25 гадоў маладзейшая; у іх агульны сын – вучань 4 класа. Тэрыторыя фермы раскінулася сярод гор з тыповым ледавіковым ландшафтам. Горы рознай формы: згладжаныя ў выглядзе паўкруглай спіны вялізарнага дыназаўра, уся пакрытая лесам, багатым ягадамі і грыбамі; вастрэйшыя горы, усыпаныя зялёнымі плямамі кустоў і чахлых дрэў; зусім голыя скалы, некалі абцёсаныя ледніком. Паміж гор – лагчыны, тэрасы, на якіх балоты, неглыбокія вазёрцы, а мясцінамі – глыбачэзныя (да 100 м і болей) акруглыя ці слаба выцягнутыя азёры з чыстай крынічнай вадой блакітнага, а то амаль сіняга колеру. Робіць проста казачнае ўражанне. Азёры звычайна праточныя, звязаныя паміж сабой рачулкамі, у пашыраных і больш глыбокіх месцах якіх бачны стрэлачкі шустрых фарэлей. Межы фермы акрэслены агароджай з невялікіх валуноў. У нашага фермера плошча яго зямель займае не менш 5–6 км удаўжыню і 1–3 км ушырыню. Усе балоты меліяраваны і на іх палях пасаджана трава для сена. Сенакос праходзіць 2–3 разы ў год. На месцы некаторых былых балот некалі раслі магутныя сосны, рэшткі ствалоў і каранёў якіх былі выкапаны. Яны звалены часова ў значную кучу Зроблены аналіз па вуглероду $C^{14}$ паказаў, што ўзрост лесу дасягае 6 тыс. гадоў. Гаспадар увесь час змагаецца за пашырэнне палёў травы шляхам асушэння балот, карчавання дрэў ці пнёў, разбурэння невялікіх скалістых гор і ачышчэння ад развалаў валуноў. Уся тэрыторыя фермы ўяўляе працяглы вялікі схіл, парушаны палямі травы. Чым далей угору, тым вышэй робяцца горкі, на якіх пасуцца авечкі (іх у гаспадара каля 70 і каля 140 малых авечак). Яны спрытна лазяць паміж валуноў і шчыпаюць траўку, якую таксама фермеры падсяваюць і ўгнойваюць. Тут авечкі ўсё лета і восень пасуцца.

Праз усю тэрыторыю фермы з глыбокага возера на высокай частцы гор уніз весела збягае і журчыць рачулка.

Супраць возера, якое належыць ужо суседняму фермеру, наш гаспадар паказаў невялікую пляцоўку, на якой відны 5 астанкаў былых фундаментаў ад хацін. Як ён распавёў, тут яшчэ ў 1706 г. жыў яго далёкі продак. Спачатку ён ажаніўся на жанчыне, якая была гадоў на 10–15 старэйшая за яго. Але дзетак не было. Калі яму споўнілася 60 гадоў, жонка памерла і ён узяў у жонкі маладую дзяўчыну на гадоў 40 маладзейшую, якая адарыла яго 6 дзеткамі, а сам ён памёр амаль у 100 гадоў. Вось з тых часоў надзел фермы пераходзіць ад аднаго да другога і, нарэшце, дайшла чарга і да нашага гаспадара, які вельмі любіць сваю зямлю, сваю працу і

атрымлівае ад яе сапраўдную асалоду, не гонячыся за камерцыяй.

Бліжэй да больш нізіннай часткі тэрыторыі на беразе той рачулачкі, а тут ужо ручайка, стаіць катэдж гаспадароў. Гэта вельмі ўтульны трохпакаёвы катэдж з верандай, на якой мы сядзелі, пілі, елі смачную разнастайную ежу і пітво, якім нашы добразычлівыя гасцінныя гаспадары шчыра і сардэчна нас частавалі. Дом мае ўсё неабходнае для нармальнага жыцця – электру, ацяпленне, каналізацыю. Кожны мае камп'ютар. Гаспадар вельмі адукаваны, добра ведае гісторыю краіны і раёна, апрача сваёй складанай гаспадаркі бярэ актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, друкуе ў газетах свае погляды і прапановы па паляпшэнні фермерскіх гаспадарак і іншых пытаннях мясцовай камуны. Побач з домам багатыя падсобныя памяшканні: кароўнік, дзе гадуецца 16 малочных кароў і прыгожы магутны бык, розныя трактары, сельскагаспадарчыя машыны, некалькі легкавых аўтамашын і інш. Раней трымалі кабанчыкаў, кароў для малака. Выклікае здзіўленне, як можна такімі малымі сіламі так добра весці такую вялікую гаспадарку і трымаць яе ў ідэальным стане. З шчырай удзячнасцю і пажаданнямі усяго найлепшага пакінулі мы нашых сімпатычных фермераў.

**Мастачка.** У Нарвегіі людзям, якія панаехалі з розных краін і якія не ведаюць ці слаба ведаюць нарвежскую мову, цяжка знайсці працу. Многія згаджаюцца на любую працу, але стараюцца знайсці лепшую ці шукаюць магчымасці яшчэ як-небудзь зарабіць. Адна жыхарка Літвы працуе прыбіральшчыцай. У Літве яна атрымала мастацкую адукацыю. Апрача таго добра навучылася рабіць піроржныя і пячы тарты. Яна ўспомніла свае гэтыя здольнасці і вырашыла падзарабіць на продажы праз інтэрнет тартоў, але не якіх-небудзь звычайных, а па-сапраўднаму мастацкіх. Яна выставіла многія формы розных тартоў на сваім сайце – у выглядзе замкаў, веж, аўтамабіляў, кветак і інш. А дзеля жарту зрабіла некалькі тартоў у выглядзе жаночых грудзей, мужчынскіх членаў, жаночых попак. Найбольшую папулярнасць атрымалі не першыя, а менавіта апошнія, жартаўлівыя. Справа пайшла – пасыпаліся заказы, а за імі і з грашыма стала лепей…

**Дасканаласць роднасці.** Калі беларускамоўны ці рускамоўны чалавек гаворыць пра бабушку ці дедушку, ён не можа без тлумачэння адразу вызначыць, чыя гэта бабушка (бабуля, баба) – па маці ці па бацьку. Тое ж тычыцца і дедушки (дзядулі, дзеда). Нарвежцы таксама могуць выказаць агульную роднасць без удакладнення, чые яны – маці ці бацькі – такімі словамі: bestemor – бабушка, bestear – дедушка. Прабабушка вызначаецца як oldemor, а пра-прабабушка – trippoldemor. Але калі нарвежац адразу хоча падкрэсціць, чыя гэта бабуля (па маме ці па тату), ён адкажа дасканала: mormor (мурмур) – маміна мама, morfar – мамін тата; тое ж пра татавых бацькоў: farmor, farfar.

г. Менск, травень 2013 – травень 2014.

Валянцін САМОЙЛА

# СВЕТЛЫ СУМ

***

А давай паспрабуем жыць
Так, каб сорамна не было,
Раніцою нябёсы мыць,
А пасля ваконнае шкло,

Каб нарэшце лягло святло
Там, дзе цемра дагэтуль гусцела,
Каб няшчасце ў балота сплыло,
Ну, а ўдача каб прыляцела,

Каб заўсёды давала плён
Праца наша, такая нялёгкая,
Каб пакутам паставіць заслон,
Каб пахабшчына не галёкала,

Каб усмешкай людзей сустракаць,
Каб сурова караць нелюдзей,
Каб не толькі шчасце шукаць,
А знайсці ўсе яго сумелі бы,

Каб каханне на ўсё жыццё,
А сяброўства – аж да магілы,
Каб гарачай тугі асцё
Навылёт нам душу не прабіла.

Ну дык што, паспрабуем жыць
Так, каб сорамна не было?
Толькі месяц над лесам смыліць
І мяцеллю зямлю заняло…

## Трыялет

Згарэла свечка на стале.
Пакой мой цемраю накрыла.
Мяцеліца пад дахам выла.
Згарэла свечка на стале.
Жыццё ўсе мары разбурыла,
Не ведаю, як быць далей.
Згарэла свечка на стале.
Пакой мой цемраю накрыла.

## Трыялет

Ты з казкі да мяне прыйшла,
Як знічка жніўеньскаю ноччу.
О, гэтыя азёры–вочы!
Ты з казкі да мяне прыйшла,
Так лёс шчасліва напрарочыў.
Здагадка сэрца апякла:
Ты з казкі да мяне прыйшла,
Як знічка жніўеньскаю ноччу.

***

Сонца шчодра святло расплёсквае.
Бусел крылы раскрыў у гняздзе.
Пах чаромхавы разам з пялёсткамі
На рачную ваду ўпадзе.

Не заўсёды нам быць шчаслівымі.
Годнасць разам са стратамі йдзе.
На палі з васількамі маўклівымі
Жаўрукамі спакой упадзе.

Ўсе абшары блакітам запоўнены.
З яго вецер надзеі прадзе.
Боль з каханнем з прамежкамі роўнымі
Мне на сэрца ўпадуць па чарзе.

Павуцінне між сосен гайдаецца.
Цень аеру дрыжыць на вадзе.
Запаветныя мары збываюцца,
Калі знічка ў далоні ўпадзе.

***

У лугі я выйду надвячоркам,
Шорхат траў пад крокамі пачую.
Дзесьці блізка, ля мурожнага пагорка,
Казкі беларускія начуюць.

Месяц нада мною ледзь смылее,
Сэрца лёгка стукаецца ў грудзі.
Спяць гарлачыкі на Котры і лілеі
І ваду сваім дыханнем студзяць.

Неба вочы-зоры спакваля раскрые,
Адлюструе іх у кроплях росных.
Не варушаць вершалінамі дубы старыя,
І ледзь чутна перашэптваюцца сосны.

Вы на шчасце людзям упадзіце, зоры,
Сыпцеся, як іскры, з паднябесся.
Чорныя фіранкі з залатым узорам
Ноч над дахамі дамоў павесіць.

***

Зноў восень, дождж, халодныя вятры,
І дрэвы ўжо амаль усю лістоту скінулі.
Касцёр, распалены на ўзлеску, ледзь гарыць.
І горкі дым віецца над далінаю.

Няўтульна, сыра, на душы слата.
Гусіны ключ знікае ў вышыні над лугам.
Маркотны конь раллю араць прыстаў,
І селянін няспешна йдзе за плугам.

У сэрцы чорнай зданню сум ажыў.
Вільготны вецер дзьме і не сціхае.
Жагнаюць Жалудок касцёльныя крыжы,
Ссівелы дзед з аўтобуснай кульгае.

І зблыталіся вечнасць і нябыт,
Перапляліся спадзяванні з болем.
Я нешта важнае ў жыцці забыў,
І страх бярэ: не ўспомню ўжо ніколі.

Каторы раз і восень, і дажджы…
А сутнасць рэчаў спасцігаць усё не ўмею…
І толькі Бог святлом у беспрасветнасці жыццёвае імжы…
Ён прыме ўсіх. І мне душу сагрэе.

***

Прападае раса на траве,
Як на золку знікаюць зоры.
Вецер шэпт каласоў сарве
І пылком разнясе па разорах.
Заліваецца сонцам зямля.
Разлятаецца песня ў разліве.
Да калодзежнага жураўля
Груша туліцца сарамліва.

У крыніцах струменіць вада.
І так многа святла навокал…
Хтось сваю чысціню аддаў
І разліў бярозавым сокам.

***

– Што сядзіш, настаўніца, ў самоце
Пад прыгнётам сваіх вечных дум?
Зноўку нешта не ладкуецца ў рабоце?
– Што ты, гэта проста светлы сум.

– Што такое здарыцца пасмела?
Боль які твае пачуцці закрануў?
Ты ж так весела смяяцца ўмела.
– Што ты, гэта проста светлы сум.

– Ці дыхнуў вільготны надвячорак,
У душу ўліваючы атрутную расу?
Адчаго ў вачах тваіх застыла гора?
– Што ты, гэта проста светлы сум.

– Можа, бессаромна хто пакрыўдзіў,
З твару ясную сціраючы красу?
Ты павер: усё мінецца і адыдзе…
– Што ты, гэта проста светлы сум.

Проста нервы крышачку сваволяць,
Проста стомленасць, што ў сэрцы я нясу.
Проста навучальны год заканчваецца ў школе.
Проста гэта светлы, светлы сум.

## Маці ўсіх, хто загінуў і загіне на вайне

Маці начэй не спалі над калыскамі.
Марылі, як сыны іх вырастуць мужнымі і добрымі.
А ўзняліся любыя сыночкі абеліскамі,
Шэрымі, самотнымі, гордымі.

Маці галовы схіляюць да плітаў з мармуру і каменю,
Успамінаючы, як сыны іх раслі добрымі і дужымі,
Што былі яны ў свеце лепшымі самымі,
На спатканні бегалі з прыгожымі ружамі.

Маці гады тыя здаюцца такімі блізкімі,
І не спяць начэй яны, адчаем скутыя.
Узняліся любыя сыночкі абеліскамі –
Шэрымі, самотнымі, пакутнымі.

***

Расчыню я акно надвячоркам,
Хай сцякае ў пакой са двара
Шэры змрок з ледзь прыкметнымі зоркамі,
Што ціхмяна над домам гарацЬ.

З акна выгляну я асцярожна
І ў каторы ўжо раз рызыкну
Зразумець, што ў кустах прыдарожных
Бае ўпарта і сумна цвыркун.

Не ўсё бачаць праз цемру вочы,
Ды я ведаю гэта і так:
Дуб з бярозай абняцца хоча,
Толькі вось не абдыме ніяк.

І ў расчыненае акенца
З вышыні кіне дуб малады
Тры слязінкі з разбітага сэрца…
І ўпадуць мне ў далонь жалуды.

Я далоні прыцісну да скроняў,
Да акна павярнуся спіной.
З затравелых расістых гоняў
Узняліся туманы сцяной.



Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

# З цыкла "Начныя нататкі і фацэцыі"

### З блаславеньня Папы

У межах агульнанацыянальнай  дыктоўкі разам з Валодзем Падголам правёў сеанс для сваякоў рэпрэсаваных палітыкаў і актывістаў.

Сталы ў бібліятэцы касьцёла сьвятога Сымона і сьвятой Алены (ягоныя сьвятары і паства не прымаюць зсаветызаваную назву – Чырвоны касьцёл!) аказаліся занятымі выставаю – кнігамі Яна Паўла ІІ і фотаальбомамі пра яго. Давялося прынесьці сталы і крэслы дадаткова. Апынуліся яны пад вялікім партрэтам Папы, на якім той дабраслаўляў прыхаджан, а значыць і нас. Урачыстасьці, сьвятасьці дадавала дзеі ў бібліятэчным сутарэньні і выстаўленая там лічбавая копія з Турынскай плашчаніцы, выкананая на метале ў натуральную велічыню.

Нельга было глядзець без хваляваньня, як старанна пісалі маці Аляксандра Казуліна, Зьмітра Касьпяровіча, Уладзіміра Лабковіча, Андрэя Кіма. Поруч з імі шчыравалі эколаг і публіцыст Валеры Дранчук, мастак Рыгор Кійка, культуролаг Ада Чалей, грамадскі дзеяч Галіна Сіўчык... Цікава было дазнацца, што Тацьцяна Кім і Галіна Сіўчык пісалі беларускую дыктоўку першы раз у жыцьці, бо не вывучалі беларускай мовы ў школе, а калі яшчэ дакладней – вучыліся не ў беларускіх школах.

Але ідэю дыктоўкі ўпадабалі яны настолькі, што намерыліся правесьці яе і праз два дні на знак пратэсту... у сталічным Цэнтральным судзе, дзе меўся адбыцца закрыты працэс над актывістам маладзёвага нефармальнага аб'яднаньня "Ініцыятыва" Андрэем Кімам, які нібыта ўдарыў міліцыянта падчас мітынгу прадпрымальнікаў. Іронія і трагедыя лёсу – Андрэя будуць засуджваць у будынку колішняга Коласаўскага ліцэя, у якім ён вучыўся!

Уразіў мяне і яшчэ адзін "напісант", амаль што мой цёзка па прозьвішчы, навучэнец 23-й менскай гімназіі. Зазірнуў праз ягонае плячо і пабачыў, што Ян Вітаўт Сіўчык старанна выводзіць сказы... лацінкаю! Ня змог устрымацца і напрыканцы ўзнагародзіў яго як актыўнага ўдзельніка дыктоўкі ўнікальным (на 28 моваў і на 100 000 адзінак перакладу!) "ЕўраСлоўнікам" Лявона Баршчэўскага, пажадаў яму стацца ўдзельнікам будучай дыктоўкі краін-спадкаемцаў Вялікага княства Літоўскага і нават ЕўраДыктоўкі. Дарэчы, скарысталі сёлета лацінку гэтаксама пісьменьнік

Уладзімір Содаль, палітык Алесь Лагвінец і многія іншыя.

Прыемна было пачуць падзяку за педагагічныя і артыстычныя высілкі – гэтым разам ад Валерыя Дранчука. Але калі й давядзецца яшчэ выступаць ў ролі дыктоўшчыка, дык хацеў бы прамаўляць разам са знакамітай тэледыктаркаю Зінаідай Бандарэнка!

*29 сакавіка 2008 г.*

## Рознасьвятасьць

На кніжным кірмашы, які праходзіў у павільёне "БелЭКСПА", што на вуліцы Янкі Купалы, на стэндзе выдавецтва "Pro Christo" прыслухаўся да дыспуту паміж наведвальнікам-чытачом і выдавецкім рэдактарам.

Кніжнік-прафесіянал даводзіў, што расійскія кананізаваныя сьвятыя ёсьць пераважна пустэльнікамі дый пячорнікамі, а беларускія — рупліўцамі-працаўнікамі дый нястомнымі асьветнікамі!

Цікавае і, напэўна ж, слушнае назіраньне-сцьверджаньне!

Узгадалася зазнанае яшчэ падчас вучобы на філалагічным факультэце.

Беларускае слова "свята" — аднакарэннае са словам "сьвятасьць".

Адпаведнае яму рускае слова "праздник» азначае «праздность», "ничегонеделание».

*12 лютага 2009 года*

## Перапіс

Мінулася дзесяць гадоў ад першага, незалежніцкага, уласна беларускага перапісу. Пачаўся другі, але ўжо нават самі апублікаваныя перапісныя аркушы выклікаюць ня толькі сумневы, але і абурэнне. Пытанняў у іх ажно трыццаць сем! Многія ўспрымюцца як недарэчныя і нахабныя, а некаторыя, датычныя падрабязнай характарыстыкі кватэры ці памяшкання, куды лагічней было б адрасаваць у Жыллёва-эксплуатацыйныя службы або ў Бюро тэхнічнай інвентарызацыі. Многія пытанні насцярожваюць, бо відавочна маюць за мэту русіфікатарскія памкненні. Пэўныя пункты ўспрымаюцца, як спроба бесцырымоннага ўмяшальніцтва ў прыватнае жыццё, як парушэньне грамадзянскіх свабодаў. З якога гэта дуба рэспандэнт мусіць дакладаць, ці мае ён яшчэ іншыя ўласныя жылыя памяшканні альбо ці падключаны да Інтарнэту ягоны кампутар?!

Беларусы традыцыйна недаверліва ставяцца да дзяржавы, лічаць, што перапісы працавалі і працуюць хутчэй на ідэалогію і на апарат уціску, чым на статыстыку. Вынікам і гэтага перапісу мала хто паверыць, гэтаксама як не даюць веры вынікам выбараў ужо паўтары дзесяцігоддзі!

Дый канчатковыя лічбы гэтага перапісу ўлады абяцаюць абвесціць толькі напрыканцы 2012 года! Мабыць, камусьці дужа ня хочацца, каб непажаданую, сумную статыстыку выбаршчыкі зазналі да мясцовых ці прэзідэнцкіх выбараў?! Хіба нельга пры сёньняшніх узроўнях інфарматыкі, сувязі і камунікацыяў апрацаваць усе дадзеныя з перапісу раней як за тры

гады?! Альбо вынікі перапісу ёсць дзяржаўнай таямніцаю і не падлягаюць заўчаснаму, на думку цяперашніх уладаў, абнароднанню?!

Хаця адзін з вынікаў ужо сёння можна прадказаць напэўна. Афіцыйна прызнана, што на 1 верасня гэтага года насельніцтва Беларусі зменьшылася на 12 800 чалавек і склала 9 663 400 чалавек. Адзін толькі Менск пабагацеў на 25 000 насельнікаў – да 1 939 400 жыхароў.

Вельмі сумна і прыкра, бо 13 000 – гэта цэлы горад ці мястэчка. Як можна пагадзіцца з тым, што раптам знік з мапы Беларусі Лагойск альбо Смалявічы?! І гэта пры тым, што, здаецца, зусім нядаўна беларусы звыкла, горда і аптымістычна абвяшчалі на свет цэлы: "Нас – дзесяць мільёнаў!"

Мабыць, найперш збірае сваё чорнае жніво Чарнобыль, хаця дактары найчасьцей пішуць у заключэннях пра смерць – "Сардэчна-сасудзістае захворванне".

*14 кастрычніка 2009 года*

## Лёневы новатворы

Паляшук з паходжання Фёдар Дастаеўскі ганарыўся тым, што здолеў увесьці ў рускую мову свой аўтарскі неалагізм – слова "стушеваться".

Ураджэнец Давыд-Гарадка Леанід Дранько-Майсюк і ў гутарковай мове, і ў літаратурнай творчасці ўпарта і падкрэслена скарыстоўвае два ўласныя словатворы – "далькажык" у значэнні "мабільнік, мабільны тэлефон" і "асветар" у сэнсе "інтэрнет".

Хочацца ўсклікнуць: "А даражэнечкі ж Ты мой Лёнечка! Пры ўсяе да Цябе любові і павазе дазволь усумніцца, што прыжывуцца гэтыя сімпатычныя слоўцы ў нашае мове!"

Чаму? Ды таму, што "далькажык" прапануецца як беларускі аналаг грэцкаму слову "тэлефон" (tele phone – далёкі гук). Але, па-першае, і даўно звыклыя, ад часоў Антонія Меучы і Аляксандра Бела, стацыянарныя тэлефоны дазвалялі і дазваляюць ня толькі далёка казаць, але і здалёк чуць. Па-другое, мабільнік вызначаецца ня толькі тым, што яго можна практычна заўсёды мець пры сабе. Гэта яшчэ ледзь не кампутар у кішэні ці ў дамскай сумачцы. Самая просценькая мадэль дае мажлівасць ня толькі аператыўна перамаўляцца, але і абменьвацца тэкставымі і графічнымі пасланнямі, здымаць фота- і відэасюжэты, бавіць час за гульнямі. Сёння можна скарыстоўваць мабільны і як FM-радыё, калькулятар, гадзіннік, будзільнік, таймер, каляндар, слоўнік, даведнік, нататнік, можна выходзіць з яго ў інтэрнет і ў сацыяльныя сеткі!

А Internet – гэта найперш глабальная сетка для сувязі, атрымання і распаўсюду інфармацыі, а асветніцтва – толькі адна з ягоных шматлікіх функцый. Да таго ж само слова "асветар" успрымаецца хіба што як сінонім слова "асветнік".Натуральна, лексіколагі ўправе ўвесьці абедзьве гэтыя лексемы ў слоўнікі і праілюстраваць адпаведныя артыкулы цытатамі з апавяданняў Ленаніда Дранько-Майсюка, але покуль што не даводзілася чуць, каб карыстаўся імі хтосьці акрамя самога паэта.

Але быў бы зусім ня супраць праз колькі год пераканацца, што абодва вынайдзеныя словы па-сапраўднаму прыжыліся ў нашае мове, што імі шырока і ахвотна карыстаюцца ня толькі калегі-пісьменнікі і журналісты, але і ўвесь люд паспаліты.

*21 лютага 2010 года,*
*на Сусветны дзень роднае мовы*

## Скокі джабулані пад акампанемент вувузелаў

Нашыя суседзі – палякі, расіяне, украінцы даволі рэгулярна ўдзельнічаюць у грандыёзных футбольных фэстах. Ці праб'юцца на іх у бліжэйшыя гады нашы суайчыннікі на ўзроўні нацыянальнай зборнай? Чамусьці здольнае барысаўская БАТЭ годна выступаць супраць еўрапейскіх грандаў.

Але ўсё роўна вельмі задаволены, як праходзіць, хай сабе і без беларускай каманды, футбольны чэмпіянат свету ў Паўднёвай Афрыцы. Разняволенасцю публікі, стракатымі ўборамі, няспынным акампанементам дудак і барабанаў нагадвае ён бразільскі карнавал.

Праўда, пасля выхаду з груп лацінаамерыканцы занадта паверылі ў свае сілы. Яны былі прадстаўлены пяццю зборнымі, Азія – адной толькі Японіяй, а Афрыка – Ганаю.

Неспадзявана пакінулі мундыяль такія нібыта гранды як Італія і Францыя.

Але першых недалюбліваю за іхняе нуднае "катэначыё". Можа, і справядліва, што іх адправілі дадому славакі.

А другія былі пакараныя за махлярства Ц'еры Анры, які ў адборачным туры падыграў сабе рукою і ў супрацьстаянні з Паўночнай Ірландыяй выцягнуў ёю на чэмпіянат сваю зборную. Хаця якія там французы – скрозь выхадцы з Афрыкі! Нават жарт такі хадзіў: "Што такое зборная Францыі?" – "Гэта зборная Афрыкі!"

Еўропа заставалася прадстаўленай нібыта ўсяго толькі трыма камандамі – галандскай, нямецкай ды гішпанскай. Фанабэрлівы трэнер аргенцінцаў Дыега Марадона нават прымерваўся на ролю трунара еўрапейскага футболу!

І што мы маем сёння?

Нямецкая машына, у складзе якой, можна сказаць, таксама паўкаманды "легіянеры" – тры палякі, бразілец, ганец, турак, датчанін, серб і іншыя – закатала бела-блакітных у асфальт. Дзякаваць Богу, пасля ганебнага пройгрышу ягонай каманды з лікам 0:4 у "гандбаліста" Марадоны прапала жаданне дэманстраваць свой аголены тлусты азадак на вуліцах Буэнас-Айрэса!

У напружаным, калі не драматычным паўфінале Галандыя, якую больш карэктна было б называць Нідэрландамі, адолела Уругвай з ягоным неверагодна ўдачлівым капітанам Дыега Фарланам. Прычым капітан "памаранчавых" Джавані ван Бронхарст, які заканчвае выступаць за

зборную, забіў ці не найпрыгажэйшы на чэмпіянаце гол – з 36 метраў загнаў мяч-джабулані ў самую “дзявятку”!

У другім паўфінале немцы сыйшліся з гішпанцамі. Напэўна ж, “Бундэс -маншафт” хацела адолець “Фурыя роха”, папомсціцца за паражэнне ў фінале “Еўра”, але пазалеташні сцэнарый паўтарыўся. Дзіўна, але германцы без свайго лідэра Томаса Мюлера гулялі так, як быццам бы іх магла задаволіць нічыя! А зборная з Пірэнеяў кантралявала мяч, нібыта мая любімая “Барселона”, і вострa атакавала. Не забіў гэтым разам вундэркінд Давід Вілья, затое заваліў нямецкага Галіяфа абаронца Карлес Пуёль. За чвэрць гадзіны да фінальнага свістка пасля падачы вуглавога каталонец ударам галавой нібыта каменем, запушчаным з прашчы, ледзь не парваў сетку на браме супернікаў! Варта адзначыць, што і тут вызначыўся ігрок з капітанскай павязкай, і тут не падвяла старая гвардыя!

У суботу ў немцаў будзе шанец у пэўнай ступені рэабілітавацца – абыграць Уругвай у матчы за трэцяе месца і давесьці, што каманда на чале з бундэстрэнерам Яхімам Лёвам вельмі перспектыўная. Хаця заява капітана бела-чорных Філіпа Лама, што ён нібыта не жадае біцца за бронзавыя медалі, наўрад ці паспрыяе поспеху.

Проста невыказна цешыць мяне, што ў фінальным двубоі другі раз запар сустрэнуцца зборныя са Старога свету, каманды з двух каралеўстваў. Цешыць найперш таму, што еўрапейцы раней не выйгравалі Залаты кубак на чужым кантыненце!

Вельмі сімпатычныя мне дзейныя чэмпіёны Еўропы, а таксама іхні сціплы, але мудры трэнер Вісэнтэ дэль Боске. Аснову ў іх складаюць ігракі “Барсы”, а я неверагодна шаную і сталіцу вольналюбівай Каталоніі, у якой пашчасціла пабываць. Дзевяць барселонцаў – гэта ледзь ня цэлая каманда, прычым каманда вопытная, сыграная і, калі казаць аб’ектыўна, наймацнейшая ў свеце.

Гатовы парадавацца за “Чырвоную фурыю”, але ў нядзелю, мабыць, буду на баку Уэслі Снэйдара і Ар’ена ван Робена. Можа і таму, што цяпер я ў нідэрландскім “матэрыяле” – у серыі “Беларускія ЕўраГраматыкі” дашліфоўваем у выдавецтве арыгінал-макет “Кароткай граматыкі нідэрландскай мовы” і здаем яго ў друкарню.

І хіба “памаранчавыя” ня вартыя галоўнай перамогі?! У адборачным турніры выйгралі яны ўсе восем матчаў, перамагалі ва ўсіх матчах і на афрыканскіх стадыёнах! На мундыялі каманда Бэрта ван Марвійка першая аформіла выхад з групы, выбіла з турніру саміх пентакампіёнаў-бразільцаў!

Хай бы васьміног Паўль падказаў “Залатой багіні” новы, але зноў еўрапейскі адрас – у краіну цюльпанаў! Хай бы ў нядзелю забіў Робін ван Персі, хай бы надзейна адстаяў брамнік Маартэн Стэкеленбург!

Хай бы нідэрландцы з трэцяе спробы перамаглі ў фінале дый заслужана сталіся чэмпіёнамі свету!

*Чацьвер, 8 ліпеня 2010 года*

## Jedno gorące mleczko!

Мой цёзка, празаік Уладзімір А. расказаў быў гісторыю з часоў, як першага разу пабываў у Нямеччыне. Захацелася яму шыкануць і, каб пачуцца сапраўдным і незалежным еўрапейцам, замовіў сабе ў вулічнай кавярні кубачак кавы, а потым яшчэ папрасіў да тае кавы малака.

Якія ж былі ягоныя зьдзіўленьне і прыкрасьць, калі пабачыў у рахунку, што мусіць заплаціць за духмяны напой паўтары дойчмаркі, а за малоко — ажно пяць!

Тады мне прыгадалася свая “малочная” гісторыя.

Адпачываў колькі гадоў таму з сям’ёю на Каляды ў засьнежаным і дужа марозным Закапанэ.

Падчас аднае з вечаровых шпацыровак зайшлі пагрэцца ў прыватную аўстэрыю.

Замовілі бацькам па глінтвейну, старэйшай дачцэ гарбату, а малодшая, Хрысьціна, папрасіла малака, якога… не аказалася ў меню. Аднак гаспадыня, якая прымала заказ, не разгубілася і папрасіла счакаць колькі мінут.

Праз акно пабачылі мы, як праз вуліцу кінуўся да бліжэйшае прадуктовае крамы падлетак бяз верхняе вопраткі, мабыць, гаспадынеў сын.

А праз некалькі мінут афіцыянт прынёс Хрысьцінін заказ у надзіва прыгожым, нібыта ёлачнае ўпрыгажэньне, парцалянавым кубачку. І да яго на сподачку і сурвэтачцы — два кубічкі рафінаванага бялюткага цукру!

– Jedno gorące mleczko dla panienki!

Дачушка мая была расчуленая такім клопатам і павагаю, тым болей што і ў гардэробе яе футра патрымалі, сагрэлі перад каларыферам знутры і толькі потым падалі, дапамаглі надзець.

Мабыць, і засынала яна таго вечара са словамі “Jedno gorące mleczko…” на вуснах.

І, мажліва, той клапатліва здабыты і спагадліва пададзены кубачак гарачага салодкага малака шмат што вызначыў у яе жыцьцёвым лёсе.

*11.11.11*

## Колеры крыві

На нацыянальных сьцягах многіх еўрапейскіх народаў — беларусаў, латышоў, палякаў, славакаў і іншых — вельмі актыўны чырвоны колер.

Найчасьцей зьвязваюць ягоную семантыку з кроўю Хрыста, з колерам плашчаніцы або з кроўю, пралітаю змагарамі за Радзіму.

Але ці не самымі назіральнымі і хітрымі аказаліся нашыя паўночназаходнія суседзі — латышы.

Без асаблівых тлумачэньняў, але настойліва і далікатна ўдакладняюць яны пры патрэбе колеры свайго сьцяга, маўляў, не адкрыты чырвоны, а больш цёмны, складаны й насычаны. І праўда, пралітая кроў — што артэрыяльная, што венозная — вельмі хутка цямнее, робіцца брунатначырвонаю. Але аніразу не пачуў я ад саміх латышоў пра колер крыві.

Здагадку маю колісь пацьвердзіў краязнаўца, паэт і актыўны перакладчык латыскае паэзіі Сяргей Панізьнік, калі пра гэта наўпрост спытаўся я ў яго на выставе сучаснага латышскага жывапісу.

А вось пра тое, што ў адрозьненьні ад герба "Пагоня", знанага з канца XIII стагоддзя, наш бел-чырвона-белы сьцяг кадыфікаваны, прыдуманы, уведзены ва ўжытак у 1917 годзе, дазнаўся нядаўна. Больш за тое, вядомы нават яго аўтар. Гэта Клаўдзій Дуж-Душэўскі, выпускнік Пецярбургскага горнага інстытута, дойлід, грамадскі дый тэатральны дзеяч.

*16 траўня 2012 года*

**Вінцэнт і Аляксей**

Некалькі гадоў таму напісаў я і апублікаваў даволі разгорнутае эсэ пра Вінцэнта Вілема Ван Гога — нідэрландскага галерэйшчыка, сьвятара і геніяльнага мастака. А сёлета дочкі мае выбраліся ў Амстэрдам да сяброўкі і гасьцявалі ў яе два тыдні. Дражнілі мяне SVS-камі кшталту: "Прывітаньне, татка! Мы пабачылі палотны Рэмбрандта, Пікаса, Малевіча і Вярмеера Дэльфтскага. Сёньня ідзем глядзець Клода Манэ і Шагала!"

Куды болей за розныя прысмакі і сувеніры парадаваў мяне прывезены з галандскага музея мастака альбом "Van Gogh Museum. Life, Work and Contemporaries (Музей Ван Гога. Жыцьцё, праца і сучасьнікі)".

Арыгінальна і часам вельмі нечакана скампанаваныя там іканаграфічныя матэрыялы. Некаторыя артэфакты сталіся мне адкрыцьцём. Да прыкладу, фотапартрэт брата Тэадора 1889 года — за два гады да Вінцэнтавай сьмерці. Карта Нідэрландаў, Бельгіі і Францыі з адзначанымі на ёй гарадамі і мясцовасьцямі, дзе жыў, працаваў і тварыў вялікі галандзец. Рэпрадукцыі з малазнаных твораў майстроў і паплечнікаў (японца Утагава Хірасіге, француза Поля Гагена), якія уплывалі на мастака, што пайшоў з жыцьця заўчасна.

А вось дата ягонага нараджэньня адзначана і на беларускім мастакоўскім календары — 30 сакавіка нарадзіўся і Алесь MaRa (Аляксей Марачкін). Больш за тое, лучыць іх і яшчэ адзін дзівосны факт з біяграфій. Агульнавядома, што за год да нараджэньня Ван Гога памёр ягоны старэйшы брат, які гэтаксама меў імя Вінцэнт Вілем! Аказваецца, што гэтаксама за год да з'яўленьня на сьвет будучага беларускага мастака памёр ягоны брат, якога бацькі гэтаксама звалі Аляксеем, Ляксейкам!

На адной з апошніх сваіх персанальных імпрэзаў Алесь MaRa паказаў публіцы некалькі новых твораў. "Мальву" — па гатычнаму стромкае палатно, прадстаўляў ён з асаблівым замілаваньнем, называў "беларускай мальвінаю" і згадваў пры тым знакамітыя вангогаўскія "Сланечнікі".

Чарговы раз Аляксей прыемна здзівіў умельствам і талентамператвараць свае асабістыя сьвяты ў сьвяты сябрам і паплечнікам ня толькі з мастакоўскага цэха — прасьпяваў дуэтам з цяперашнім ачольнікам творчай суполкі "Пагоня" жывапісцам Генадзем Драздовым, пачытаў свае вершы.

*18 чэрвеня 2012 года*

## Рэкамендацыя

Праглядаў днямі тэчкі з даўнімі запісамі і дакументамі, а сярод іх і папку з надпісам “Беларускі ПЭН-цэнтар”. Сярод грымзолаў з паседжанняў рады дый агульных сходаў натыкнуўся і на чарнавікі сваіх рэкамендацый творцам і грамадскім дзеячам, за якіх, упэўнены, мне аніколі ня будзе сорамна, ─ праваабаронцу Алесю Бяляцкаму, мастаку Міхалу Анемпадыставу, журналісту Аляксандру Тамковічу, гісторыку Сяргею Тарасаву і паэту Алесю Камоцкаму.

Рэкамендацыя апошняму аказалася звышлапідарнаю.

“Алеся Камоцкага ведаю чвэрць стагодзьдзя.

Цалкам прыстойны чалавек, сапраўдны інтэлігент, таленавіты і пасьпяховы творца.

Цаню і шаную ягоную музыку і паэзію.

Маю гонар рэкамендаваць яго сябрам ПЭН-цэнтра.

Менск,

5 сьнежня 2006 г.”

Але да гэтага можна было б і трэба было б дадаць і пра ўнiверсітэцкую адукацыю філосафа, і пра неверагодную колькасць праведзеных сольна і з сябрамі-музыкамі канцэртаў, і пра тое, што апошнім часам штогод выдае ён кніжку вершаў альбо кампакт-дыск праспяванай паэзіі.

І пра тое, што самаахвярна і бескарысліва апякуецца Ірынай Міхайлаўнай Суворавай-Быкавай, удавою нашага класіка. Мабыць, яшчэ болей апякуецца ён дзядзькам Рыгорам, Рыгорам Барадуліным, і як сааўтар некалькіх музычна-паэтычных праектаў, і як анёл-ахоўнік у быце, побыце і ў быцці.

Прыемна было пачуць на лецішчы на Лысае Гары ад празаіка Алеся Жука, што хацеў бы набыць бардавы дыскі, якія трымаў бы і прайграваў бы нават у машыне, бо любіць творчасць Алеся Камоцкага.

P. S. А як на сённяшні дзень, дык трэба было б адзначыць яго як дзень, у які Алесь стаўся дзедам ─ ягоная з Касяй Камоцкаю дачка Каця нарадзіла ім унука Саўку! А дзень гэты глыбока сімвалічны як дзень нараджэння Васіля Быкава!

*19 чэрвеня 2012 года*

## Хваласьпеў,
## або Колькі словаў на прэзентацыі

У “Кнізе для спадарыні Эл” Леаніда Дранько-Майсюка багата вершаў, у назвах якіх задзейнічана сталічная тапаніміка. Прычым назвы пададзены не савецкія, а даўнія, натуральныя, і праз гэта вельмі прыгожыя, мілагучныя ─ вуліцы Феліцыянаўская, Францысканская, Ракаўская, Ратамская, Кальварыйская, Койданаўская, Гандлёвая, Ерусалімская, Нямецкая, Няміга, Раманаўская Слабада, завулкі Паўночны, Музычны, Сьнежны…

Але сам паэт жыве сёньня на адной з цэнтральных вуліц, якая носіць

імя чалавека, што аніразу не ступіў на беларускую зямлю. Леанід прапаноўвае лічыць, што завецца вуліца ў гонар Лены, але не ўдакладняе, што гэта за міфічная асоба. А я сам сабе даўно імяную тую вуліцу Лёнінай.

Падымаўся аднаго дня лесьвічнымі пралётамі ў Лёневу кватэру, каб абмеркаваць рэдактуру і прадмову да свайго паэтычнага зборніка. Пралёты там доўгія, а столь у Дранько-Майсюка адпаведна (ва ўсіх сэнсах!) высокая. Дый кватэра ў яго пад нумарам 10, а гэта наводзіла на думку, што па жыцьці цаляе ён у "дзясятку", пачынаючы з таго, што нарадзіўся 10-га чысла дзесятага месяца года.

Аказалася, пісаў паэт эсэ пра Янку Брыля ў часопіс "Крыніца" і не знаходзіў ключавога слова, слова для назвы, а таму ўжо на парозе запытаўся, як найлепш вызначыць Івана Антонавіча адным словам.

"Мэтр", — вырвалася тады ў мяне, і Леанід радасна пагадзіўся, удзячна падхапіў лапідарнае азначэньне.

Сёньня без усялякіх нацяжак і агаворак дапасоўваю гэтае слова да самога Леаніда Дранько-Майсюка, знанага творцы і аўтара пятнаццаці кніжак.

Гэта бліскучы вершатворца з непаўторнай інтанацыяй і адметным стылем.

Бездакорнае адчуваньне рытму ўласьціва і ягонай прозе.

Леанід — чуйны і абачлівы крытык, пераканаўчы і натхнёны публіцыст, фенаменальнага таленту рэдактар.

Ён неверагодна прагны чытач — ягонай абазнанасьці ў літаратуры, а ў тым ліку і найноўшай, прыемна дзівуешся. Дзівуешся і таму, што пасьпявае ён прачытваць і сучасьнікаў. Больш за тое, знаходзіць ёмістыя, важкія, натхняльныя словы ўхвалы.

Ён яшчэ і таленавіты слухач дый, пакарыстаюся рызыкоўным неалагізмам, нястомны "штурхач". Няраз бывала, што раскажаш яму гісторыю, а ён тут жа падхопіць: "Валодзя, а ты пра гэта напісаў? Не?! Чаму? Напішы абавязкова!"

У Леаніда выдатная памяць на паэтычныя радкі. Паўсюль і нястомна дэкламуе, цытуе, арганічна ўплятае ў размовы і прамовы высокія ўзоры прыгожага пісьменства, прычым, пераважна не свае, а братоў па паэтычным цэху.

Як нястомны прапагандыст заўсёды і паўсюль — у гарадской бібліятэцы майго роднага Жодзіна, у музеі Кузьмы Чорнага ў Цімкавічах, ад рампы Дома літаратара, перад мікрафонам у Музеі гісторыі беларускай літаратуры — цьвердзіць, агалошвае ён зачараванай аўдыторыі адну тэзу, адну сьвятую яму канстанту: "Беларуская мова — самая прыгожая мова ў сьвеце!" І сьцьвярджае, даводзіць гэта ўсім сваім жыцьцём, дзейнасьцю і творчасьцю.

Мабыць, сотні, калі ня тысячы спадарынь — дам, кабет і дзяўчатак — з замілаваньнем і тахканьнем у грудзёх згадваюць кампліменты, якія пачулі ад кавалера і рыцара Леаніда Дранько-Майсюка. Але, пэўна ж, ёсьць адна пані, якой паэт-менезінгер служыў, служыць і служыцьме аддана,

самаахвярна і верна. Імя гэтай пані — Беларусь, і на алтар ёй кладзецца пятнаццатая паэтава кніга. Кладзецца як плён натхнёнай працы і як нагода для сьвята.

Выхад у сьвет добрай беларускай кніжкі — гэта заўсёды сьвята. А Леанід, як кажа наш класік, мае толькі адзін недахоп — ня ўмее пісаць кепска! Таму і прэзентацыю ладзіць ён таленавіта. Ладзіць найперш як сьвята сваім — сябрам, паплечнікам, аднадумцам.

Як маршалак, артыстычны вядоўца кожнаму знаходзіць ён ня толькі добрыя словы, але й віртуозна складае прысьвячэньні, дарчыя надпісы дый мадрыгалы. Не магу ўстрымацца, каб не працытаваць адзін з прысьвечаных сабе, любімаму:

Анёл Скарынавай крыві
І князь Купалавай лагоды,
Валодзя Сіўчыкаў, жыві
І будзь шчасьлівы назаўсёды!

То дзякуй Табе вялікі, дарагі Лёнечка, і са сьвятам! Са сьвятам новай кнігі і сьвятам прызнаньня таленту!

І дазволь зрабіць Табе невялічкі прэзент — альбом з выявамі найвыдатнейшых постацяў Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай “Рыцары Пагоні і Арла”, які надарыўся, пабачыў сьвет у маім суаўтарстве з Аляксеем Марачкіным. Дазволь падараваць яго Табе як рыцару Пагоні, а калі ўлічыць Твае пераклады з польскай паэзіі, і найперш насьледваньні з Канстанта Ільдэфанса Галчыньскага, дык і рыцару Арла!

*5 верасьня 2012 года*

## Віртуальныя масты

Беларуская дзяўчына Алеся, якая жыве і працуе цяпер за акіянам, у Злучаных Штатах, нават не ўяўляла, што пасярод Балтыкі, на шведскай выспе Готланд, за яе здароўе і посьпехі падымалі келіхі з італьянскім шампанскім “Asti Martini” пісьменьнік і выдавец, бацька-беларус, гаспадыня і добрая чараўніца Балтыйскага цэнтра пісьменьнікаў і перакладчыкаў, руская Лена Пастарнак, яе памочнік і менеджар, швед Патрык Мускас (Patryk Muskos), а таксама пісьменьніца-празаік і каардынатар Тбіліскага кінафестываля, грузінка Ніна Сурамелашвілі.

Дазналася пра гэта імяніньніца праз некалькі гадзін, калі яе малодшая сястра Хрысьціна наладзіла і віртуозна правяла skype-канферэнцыю з роднымі і сябрамі, як своеасаблівы віртуальны мост паміж беларускім Менскам, шведскім Вісбі, польскай Варшавай і амерыканскім Нью-Йоркам!

*24 верасьня 2012 года*

**Карэ – празаік дацкі,**
**або Карыкатурны скандал**

Мабыць, падчас маёй кадэнцыі ў Балтыйскім цэнтры пісьменьнікаў і перакладчыкаў самы знаны ў сьвеце сярод калег-літаратараў быў дацкі празаік Карэ Блюйтген (Kåre Bluitgen).

Пасьпяховы і заможны, празаік нават абвясьціў быў конкурс на афармленьне сваёй папулярызатарскай кніжкі для дзяцей. У кніжцы той расказвалася пра іслам, але аніводзін мастак не пагадзіўся намаляваць да яе ілюстрацыі, калі ня будзе захаваная ананімнасьць! Як прычыну тае ўмовы называлі нібыта існую ў ісламе забарону на выявы жывёлаў і людзей, а тым болей прарока Мухамеда.

Але некаторыя мастакі, прэтэндэнты на аздабленьне кніжкі Блюйтгейна, рызыкнулі. У верасьні 2005 года у дацкай газеце “Jullands-Posten” у якасьці ілюстрацый да артыкула, у якім ішла гаворка пра самацэнзуру і свабоду слова, былі апублікаваныя дванаццаць карыкатурных выяваў прарока. Аддзел культуры выданьня настояў на тым, што Данія – вольная краіна, у якой мастакі не павіны баяцца маляваць.

Сярод мусульман няма адзінства адносна таго, ці можна маляваць Мухамеда. Шыіты ставяцца да гэтага досыць памяркоўна, а ў такіх плынях як вахабізм катэгарычна забаронена маляваць жывёл і людзей, нягледзячы на тое, што існуе багатая і даўняя традыцыя выяваў Мухамеда.

Галоўны рэдактар дацкай газеты Ёрн Мікельсен сцьвярджаў, што апублікаваныя малюнкі Крыстофера Цылера толькі дэманструюць на практыцы свабоду слова, але многія мусульмане як у самой Даніі, так і паза яе межамі ўспрынялі публікацыю як абразу іхніх рэлігійных пачуцьцяў і як сьвядомую правакацыю.

А паспрыялі таму ачольнік Ісламскага таварыства Даніі імам Ахмад Абу Лабан і прэс-сакратар арганізацыі Ахмед Акары, якія пайшлі на сьвядомую фальсіфікацыю, – дадалі ў свой даклад мусульманскім краінам яшчэ тры, куды больш абразьлівыя малюнкі.

На ўвесь сьвет грымнуў так званы карыкатурны скандал – міжкультурны канфлікт паміж мусульманамі найперш арабскага сьвету і прыхільнікамі сучаснай заходняй культурнай традыцыі.

Чаго толькі ні было!

Мусульманскія краіны байкатавалі дацкія тавары, выказвалі пратэсты праз Лігу арабскіх дзяржаў, дэманстратыўна зачынялі свае амбасады ў еўрапейскіх краінах, арганізоўвалі масавыя агрэсіўныя пратэстныя акцыі, падчас якіх грамілі амерыканскія і заходнееўрапейскія фірмы, установы і дыпламатычныя прадстаўніцтвы, нападалі на іхніх грамадзян. Зацятыя ісламісты правялі шматлікія забастоўкі ў Пакістане, а ў Нігерыі падпалілі дзесяць хрысьціянскіх храмаў, дзе загінула шаснаццаць чалавек. Падчас беспарадкаў у Лівіі паліцэйскія застрэлілі адзінаццаць дэманстрантаў і паранілі пяцьдзесят!

Дайшло да неверагоднага ў дваццаць першым стагоддзі дзікунства –

афганскі рух “Талібан” абвясьціў узнагароду ў сто кілаграмаў золата таму, хто заб’е аўтараў крамольных карыкатур! Цікава толькі, у якасьці доказу кілеру трэба было б прад’явіць скальпы альбо відэазапісы?!

Прэм’ер-міністр Даніі Андэрс Фог Расмусен (Anders Fogh Rasmussen) вымушаны быў сустрэцца з пасламі сямідзесяці шасьці краін, каб патлумачыць сваю пазіцыю.

Міністр замежных спраў Швецыі Лайла Фрэйвальдс (Laila Freivalds) сыйшла ў адстаўку, бо фактычна зачыніла сайт партыі “Шведскія дэмакраты”, які таксама абнародваў сатырычныя малюнкі.

Трэба заўважыць, што на знак салідарнасьці з датчанамі і нарвежцамі скандальныя малюнкі апублікавалі французскія газеты “France Soir”, “Liberation” і “Le Monde”, нямецкая “Die Welt”, іспанская “El Pais”, італьянская “La Stampa”, бельгійская “De Standaard”, новазеландская “The Dominion Post”, польская “Rzeczpospolita”, а таксама іншыя выданьні ў Вялікабрытаніі, Ісландыі, Нідэрландах, Швейцарыі.

ЕўраЗьвяз заявіў, што байкот дацкіх тавараў парушае міжнародныя нормы. Выступілі ў падтрымку дацкага прэм’ера Глава ЕўраКамісіі Хасэ Мануэль Барозу (José Manuel Durăo Barroso) і амерыканскі прэзідэнт Джордж Буш-малодшы.

Але канфлікт працягваўся.

У жніўні 2007 года шведская газета “Nerikes Allehanda” надрукавала карыкатуры Ларса Вілкса (Lars Endel Roger Vilks), а ў адказ адна з тэрарыстычных груповак дакляравала сто тысяч даляраў за ліквідацыю мастака і чамусьці ўдвая меней – за забойства галоўнага рэдактара выданьня.

У наступным годзе пяць дацкіх газет зьмясьцілі новыя карыкатуры, калі дазналіся пра замах на 73-гадовага графіка Курта Вастаргаарда (Kurt Westergaard) і неаднаразовыя спробы ўварвацца ў ягоны дом у горадзе Аархус. Падтрымкай творцу сталіся таксама Патсдамская прэмія СМІ і Лейпцыгская прэмія СМІ.

Здавалася б, усе гэтыя падзеі адбываліся далёка, але закранулі яны і Беларусь.

Апазіцыйная газета “Згода” апублікавала ў лютым 2006 года артыкул “Палітычны крэатыў” і праілюстравала яго знакамітымі карыкатурамі. Газету тую ўлады зачынілі, а галоўнаму рэдактару Аляксандру Сдвіжкову мінскі гарадскі суд уплішчыў аж тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму за нібыта распаўсюд расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варажнечы. Гэты прысуд аказаўся самым жорсткім ва ўсім сьвеце для ўдзельнікаў карыкатурнага скандалу! Дзякаваць Богу, што Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь разгледзеў касацыйную скаргу і вызваліў асуджанага з-пад варты!

Некалькі дзён перад сваім ад’ездам Карэ Блюйтген, як любяць казаць цяперашнія маладзёны, тусаваўся тут, у Балтыйскім цэнтры, з іншым, блізкім яму па ўзросьце датчанінам.

Цяпер шкадую, што пасаромеўся тады спытацца, ці не мастак гэта Ларс Вілкс, якому таксама трэба было б паціснуць руку на знак падзякі і

салідарнасьці.

Далучаюся да меркаваньня, што агрэсіўныя імамы здрадзілі краіне, якая іх прытуліла. Яны жывуць у Даніі і не працуюць, затое атрымліваюць добрую сацыяльную дапамогу і могуць свабодна спавядаць іслам.

За апошнія дзесяцігоддзі мусульмане перасяліліся ў Заходнюю Еўропу ў такой колькасьці, што прымушаюць задумвацца, хрысьціянская гэта ці ісламская тэрыторыя. Мусульмане тут бяднейшыя, горш адукаваныя, больш крыміналізаваныя і абсалютна не жадаюць асіміляваацца.

Дацкая нацыя – гаспадар у сваёй краіне, дзе паводле Канстытуцыі захоўвае дзяржаўны статус нацыянальнай, лютэранцкай царквы.

Карыкатурны скандал прымусіў ня толькі датчан, але і іх суседзяў узгадаць пра хрысьціянскія карані еўрапейскай цывілізацыі. Быць хрысьціянінам – істотны складнік скандынаўкай ідэнтычнасьці. Нездарма і на дацкім, і на нарвежскім, і на фінскім, і на шведскім сьцягах выяўляюцца крыжы.

А што тычыць беларусаў, дык застаўся пры даўнім перакананьні, што надзвычай моцныя ў нас і язычніцкія традыцыі.

*25 верасьня 2012 года*

## Прафесійныя сьвяты

Сусьветны дзень пісьменьніка – гэта сьвята, якое адзначаецца 3 сакавіка і заклікае "чацьвертую ўладу" выступаць за свабоду слова ў любых яе праявах дый супраць негатыўных асьпектаў і ў дэмакратычным друку.

У 1921 годзе ў Лондане быў створаны ПЭН-клуб. Назва арганізацыі – гэта абрэвіятура, утвораная першымі літарамі слоў: паэты, драматургі (анг. poets, playwriters), нарысісты, рэдактары (анг. essayists, editors) і навелісты, раманісты (анг. novelists). У сукупнасьці літары гэтыя складаюць слова асадка (анг. pen).

Ідэя стварыць арганізацыю Міжнародны ПЭН-клуб (International PEN Club) належыць брытанскай пісьменьніцы Кэтрын Эмі Доўсан-Скот (Mrs. C. A. Dawson Scott), а яе першым прэзідэнтам стаўся Джон Галсуорсі (John Galsworthy).

У студзені 1986 года праходзіў ўжо 48 міжнародны кангрэс ПЭН-клуба, і менавіта ягоныя дэлегаты абвясьцілі 3 сакавіка "Суьветным днём міру для пісьменьнікаў".

Ля вытокаў Беларускага ПЭН-цэнтра ў лістападзе 1989 года стаялі дваццаць літаратараў, сярод якіх былі такія знаныя майстры пяра як Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Уладзімір Арлоў, Адам Мальдзіс, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Уладзімір Някляеў, Міхась Тычына, Карлас Шэрман і іншыя.

Сёньня падобныя цэнтры дзейнічаюць у 130 краінах.

Пісьмовыя творы людзі ствараюць на ста пяцідзесяці мовах. Паводле адных дадзеных пісьменьнікаў у сьвеце сто тысяч, а паводле іншых – каля двухсот тысяч. Нібыта і шмат, але калі прыняць да ведама, што на зямной

кулі жыве сем мільярдаў чалавек, дык выходзіць, што зусім і нямнога!

А вось пра другое прафесійнае сьвята нагадалі сёньня літоўскія перакладчыцы Ёне Рамунітэ (Ione Ramunyte) і Рута Ёнінайтэ (Rūta Joninaite), якія жывуць і працуюць у суседніх з маім пакоях у Балтыйскім цэнтры пісьменьнікаў і перакладчыкаў.

Сьвята гэтае куды маладзейшае, бо з'явілася толькі ў 1991 годзе. Менавіта тады Міжнародная федэрацыя перакладчыкаў (International Fédération Internationale des Traducteurs, FIT) абвясьціла 30 верасьня Міжнародным днём перакладчыкаў (International Translation Day).

Дзень гэты быў абраны невыпадкова – 30 верасьня 419 (або 420) года пайшоў у лепшы сьвет Еранім Стрыдонскі (Sant Jerome of Stridonium), адзін з чатырох лацінскіх айцоў Царквы, пісьменьнік, гісторык і перакладчык.

Якраз Ераніма Стрыдонскага лічаць апекуном перакладчыкаў. Быў ён паводле сьведчаньняў храністаў чалавекам магутнага інтэлекту, шмат падарожнічаў, а ў тым ліку і ў Сьвятую зямлю. У Халкідскай пустэльні, дзе вывучаў габрэйскую ды халдзейскую мовы, пражыў ён аскетам чатыры гады. Пазьней перасяліўся ў Бетлем, дзе перакладаў на латынь Стары і Новы запаветы.

Праз адзінаццаць стагоддзяў Трыдэнцкі сабор абвясьціў ягоную версію афіцыйным лацінскім тэкстам Сьвятога пісаньня (Вульгата).

Паводле папулярнае прыпавесьці, Еранім выцягнуў з лапы льва стрэмку. Таму мастакі найчасьцей паказвалі яго вучоным, які шчыруе ў кельлі над рукапісам, а поруч зь ім ляжыць удзячны і аддадзены сябар-леў.

Сёлета Дзень перакладчыка адзначаўся ў сьвеце пад дэвізам "Пераклад як міжкультурная сувязь".

Хацелі былі і мае суседкі-літоўкі адзначыць прафесійнае сьвята невялічкім міжнацыянальным фуршэтам, ды аказалася, што заседзеліся яны ў сваіх кельлях ды схамянуліся надта позна. Урачыстая дата прыпала на нядзелю, а ў нядзелю ў 22-тысячным Вісбі нават шампанскага ня купіш! Адзіная сьпецыялізаваная крама алкагольнай прадукцыі "SystemBolaget" нават у суботу працуе толькі да 15-й гадзіны. Вісбійцы добра ведаюць пра гэта, а таму закупляюцца на выходныя зараней.

Хаця нашым суседзям можна і пазайздросьціць.

У 2004 годзе створаны ў іх Літоўскі саюз літаратурных перакладчыкаў, а ў апошні верасьнёўскі дзень ці напачатку кастрычніка ўручаюцца дзьве прэміі – найлепшаму перакладчыку на літоўскую мову і найлепшаму перастваральніку з літоўскае мовы.

*30 верасьня 2012 года, нядзеля*

## Вера і адвага

Даўней дачка Алеся дасылала мне фотаздымкі нью-ёркскай вуліцы Тадэвуша Касцюшкі (Kosciuszko street), а цяпер падарожнічала па Пенсільваніі і ў горадзе Скрэнтан (Scranton) сфатаграфавала і помнік Тадэвушу

Касцюшку (1746–1817) – нацыянальнаму герою Беларусі, Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, ганароваму грамадзяніну Францыі.

Крыху здзівіўся, бо ведаў, што помнікі вялікаму сыну беларускае зямлі стаяць у некалькіх амерыканскіх гарадах, але пра гэты пачуў упершыню.

У 1910 годзе быў усталяваны манумент польскага скульптара Антона Папела ў цяперашняй сталіцы Вашынгтоне, у Лафайет-парку перад Белым домам, поруч з выявамі іншых герояў вайны за незалежнасць ЗША: французаў маркіза Жыльбера Лафайета, адмірала Франсуа дэ Граса, генерал-лейтэнанта Жана-Батыста дэ Рашамбо і прускага барона Фрыдрыха фон Сцюбена. У 1913 годзе пастаўлены помнік ў Вест-Пойнце, але не ў маленечкім, на 164 жыхары, гарадку ў Арканзасе, а ў аднайменным горадзе-кампусе ў штаце Нью-Ёрк пры знакамітай вайсковай акадэміі, якую заснаваў згаданы ўжо фон Сцюбен, а будаваў наш зямляк. У 1927 годзе ўзведзены помнік (скульптар Тэа Руглес Кітсан) на Паблік Гардэнс у Бостане, у штаце Масачусетс, на атлантычным узбярэжжы, на паўночным усходзе ЗША. Стаіць помнік у парку імя Тадэвуша Касцюшкі горада Мілуокі ў штаце Вісконсін. У горадзе-мільянеры Чыкага, што ў штаце Ілінойс, на Салідарыці-драйв, з перспектываю на возера Мічыган, высіцца конны помнік. Ёсць манумент і ў Уільямс парку, у адным з трох Санкт-Пецярбургаў, назвы якіх прамаўляюцца як Сэнт Пітэрсберг, што на поўдні краіны ў штаце Фларыда.

Ёсць меркаванне, што амерыканцы – адносна маладая нацыя, а таму ахвотна дублявалі еўрапейскія найменні, старанна “навёрстывалі” і старылі сваю гісторыю. Дбайна рэстаўруюць яны гістарычныя будынкі, што-нішто прывозяць з іншых кантынентаў або робяць дакладныя копіі, рупліва ўсталёўваюць помнікі і манументы, ахвотна прымаюць іх у дар як знакамітую статую Свабоды.

Заканамерна, што і ў Філадэльфіі (Philadelphia), што можна перакласці з грэцкай мовы як “горад братняй любові”, у колішняй сталіцы паўночнаамерыканскіх штатаў, у калысцы амерыканскай дзяржаўнасці і амерыканскай дэмакратыі, у горадзе, дзе былі абвешчаны Дэкларацыя незалежнасці, а потым і Канстытуцыя, дзе быў падпісаны Біль аб правах, да 200-годдзя незалежнасці Злучаных Штатаў на перакрыжаванні Бенджамін Франклін Парквэй і 18-й стрыт быў усталяваны помнік Тадэвушу Касцюшку скульптара Мар’яна Канечнага як дар польскага народа народу амерыканскаму.

Аказваецца, і гэтага мала! Пенсільванія ўшанавала змагара за амерыканскую незалежнасць і дэмакратыю помнікам і ў горадзе Скрэнтан!

На жаль, звестак пра яго і самой выявы не здолеў адшукаць я ні ў даведніках, ні ў свабоднай энцыклапедыі “Вікіпедыя”, ні на сайтах “Бацькаўшчыны” і “Спадчыны”. Затое што-нішто ўведала на маю просьбу Алеся.

Помнік стаіць на плошчы Картхаўс (Courthouse Square), а на пастаменце выбіты надпіс: “General Thaddeus Kosciuszko Born Feb. 4. 1746 Died Oct 15. 1817.”

Астатні тэкст падаю ў перакладзе з ангельскай: “Гэтым помнікам у 1998 годзе ўганараваны польскі эмігрант, генерал Касцюшка, вядомы як бацька амерыканскай вайсковай інжынерыі пасля праектавання шматлікіх фартэцый падчас Амерыканскай рэвалюцыі.

Помнік Касцюшку ўганароўвае першага замежнага вайсковага афіцэра, які прыйшоў на дапамогу ЗША падчас рэвалюцыі. Брыгадны генерал Касцюшка праявіў вайсковае інжынернае геройства поруч з умельствам планаваць і вызначаць ходу бітвы пад Саратогаю, якая надала яму імя “Бацькі амерыканскай артылерыі”.

Ён таксама знаны праектаваннем фартэцый у Вест-Пойнце”.

Часам праслізгвае інфармацыя пра помнікі нібыта ў Кліўлендзе, штат Агайё, на паўднёвым беразе возера Эры, і ў Дэтройце (дарэчы, пабрацiме Мінска!), штат Мічыган, але, зноў жа, інфармацыя тая вельмі няпэўная.

Большасць з названых манументаў пастаўлены намаганнямі і коштам польскай дыяспары і ўзвышаюцца ў вельмі выйгрышных, даступных шырокай публіцы месцах.

Амерыканцы не супыняюцца – усталюўваюць усё новыя манументы. І калі вашынгтонскаму ўжо больш за сто гадоў, дык скрэнтанаўскаму – усяго пятнаццаць.

А як ушаноўвае помнікамі свайго слаўнага сына, які лічыў і называў сябе літвінам, Беларусь?

Біёграфы дагэтуль спрачаюцца, дзе нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка з сёмага калена Касцюшкаў Сяхновіцкіх, герба “Рох-III”, сын каталіка Людвіка Тадэвуша Касцюшкі і ўніяткі Тэклі з Ратомскіх. Адны аддаюць права першародства маёнтку Мерачоўшчына колішняга Слонімскага павета, другія – вёсачцы Сяхновічы Малыя, што ў трох кіламетрах ад Косава.

З адносна нядаўняга часу, з 1988 года перад будынкам Сяхновіцкай школкі стаяў адзіны помнік, пагрудная бетонная выява вышынёю 1,2 метра, выробленая яшчэ ў 1932 годзе скульптаркай Бальбінай (Альбінай) Свіціч-Відацкай і ўсталяваная ў Кобрыне. Аднак твор той цяжка аднесці да высокамастацкіх дый хто яго бачыў у маленькай вёсачцы! Жорсткая іронія лёсу і ў тым, што доўгі час помнік той захоўваўся ў запасніках музея… Аляксандра Суворава, заўсёднага антаганіста Касцюшкі, вернага служкі імперыі, карніка, які выразаў палову Кобрынскага павету! (Мабыць ніводная краіна, акрамя Беларусі, так шырока не ўшаноўвае сваіх акупантаў! Цяжка ўявіць, каб у суседняй Польшчы высіўся манумент душыцеля вызвольных паўстанняў!). Паспеў ён пабыць, як і ягоны правобраз, і ў вязьніцы – у казематах Брэсцкай крэпасці, бо быў перададзены на захоўванне ў Брэсцкі абласны краязнаўчы музей.

Вельмі хораша, што ў 2005 годзе ў нашае сталіцы з’явіўся масянжовы бюст Тадэвуша Касцюшкі, які вырабіў Алесь Шатэрнік. Але і яго пабачыць няпроста – дзеля гэтага трэба патрапіць за мураваны паркан, на тэрыторыю амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі, што на рагу вуліц Камуністычная і Старавіленская з афіцыйным адрасам: Старавіленская, 46. А як файна было

б вынесці помнік на вуліцу на агляд люду паспалітаму дый перайменаваць вуліцу тую з Камуністычнай у вуліцу Тадэвуша Касцюшкі! Польская амбасада пазалетась адмовілася ад выгоднага, пранаванага ёй будынка толькі таму, што мясціўся ён на вуліцы Камуністычнай!

Каб пабачыць пласкасную скульптуру, усталяваную да 190-годдзя з дня смерці героя, спатрэбіцца выправіцца ў Старыя Дарогі, на панадворак прыватнага мастацкага музея. Яе аўтары Алесь Цыркуноў і Анатоль Крывенка, а кіраўнікі праекта Анатоль, на вялікі жаль, ужо нябожчык, і Міхаіл Белыя.

Аддаць даніну памяці генерала можна таксама каля памятнага знака ў Мерачоўшчыне ці пры валуне з выбітым на ім надпісе "Cieniom Kościuszki" на сядзібе Агінскіх у Залессі, што на Маладзечыншчыне.

Але хочацца верыць, што прычакаем часоў, калі зможам сфатаграфавацца, скажам, у Брэсце, пры паўнавартасным – у поўны рост ці нават пры конным – помніку нашаму славутаму суайчынніку дый адаслаць тыя здымкі праз акіян сваякам і прыяцелям.

*4 лютага, у дзень нараджэння Тадэвуша Касцюшкі.*
*2013 год*

## Праз шэсць стагоддзяў

На кансісторыі кардыналаў Папа Рымскі Бенядыкт XVI, які меў імя Язэп Ратцынгер і быў ці ня першым Папам-немцам за апошнюю тысячу гадоў, агаломшыў увесь свет заяваю, што 28 лютага дабраахвотна пакіне Апостальскі Пасад Рымскага Біскупа! Пакіне праз свой сталы век і недахоп маральных і фізічных сіл, каб далей выконваць узятае на сябе восем гадоў таму служэнне, сыйдзе ў затворніцкі кляштар у Ватыкане, а захавае за сабою толькі званне pontifex emeritus – ганаровы пантыфік.

Гісторыкі і тэолагі сцвярджаюць, што падобнага не было з 1415 года, ад часоў Папы Рыгора XII.

Абсалютна нечакана, за месяц да Вялікадня і вернікі, і агностыкі сталіся сведкамі гістарычнае падзеі. Як бы ні пырскалі слінаю крытыканы, пра што б ні пляткарылі зламыснікі і недабразычліўцы – гэта мужны і высакародны ўчынак вялікага чалавека. Наступнік Святога Пятра па сваёй волі адмовіўся ня толькі ад духоўнае ўлады над адным мільярдам двумастамі мільёнамі каталікоў і ўніятаў! Праўда, усмешка ягоная пры тым, магло падацца, была крыху разгубленай і вінаватаю.

Мабыць, у Беларусі многія ня толькі хрысціяне задаваліся рытарычным пытаннем: "А ці здольныя на такі ўчынак цяперашні кіраўнік, які на пасадзе амаль дзевятнаццаць гадоў, альбо праваслаўны першаіерарх Філарэт, які нясе свой цяжкі крыж яшчэ даўжэй?!"

У большасці дэмакратычных краін канстытуцыі дазваляюць ачольваць дзяржаву ня больш за два тэрміны. Нават у камуністычным Кітаі прыйшлі да высновы, што трэба мяняць лідэра і ягоную каманду праз дзесяць гадоў, бо пераемнасць ва ўладзе ідзе на карысць краіне і грамадству.

P.S. Вось толькі як патлумачыць знак з нябёсаў у дзень адрачэння? Маланка рэзнула проста ў купал сабора Святога Пятра!

*12 лютага 2013 года*

**Магія лічбаў і законаў**

Уначы Алеся даслала эсэмэску з-за акіяна, з Нью-Ёрка, розніца з якім у нас восем гадзін:

“Tata, sionnia mnie spounilasia 10 000 dzion, a tabie – 20 006! Try dni tamu ty byu u dva razy starejshy za mianie! Vos jak!

Liubliu!

11/02/13 22:15 (NY)

Любоў і ўвага да лічбаў, мабыць, засталіся як у выпускніцы элітнай матэматычнай сталічнай школы №19. Але ж, натуральна, сённяшнія разлікі правяла яна не з каляндарыкамі і не на калькулятары – ёсць адпаведныя кампутарныя праграмы і формулы. Але да яе падлікаў з сумам дадаў бы яшчэ й такі – дзесяціну са сваіх дзён дачушка пражыла за акіянам!

У мяне ж цяпер ёсць нагода і мажлівасць няспешна і цвяроза паразважаць пра магію круглых (і ня вельмі круглых) лічбаў.

Мінулася покуль што не 100, а толькі 88 (але і васьмёрка – лічба дасканалая паводле графікі сваёй амаль што як круглы нуль!) дзён як атрымаў пералом абедзьвюх костак левай канцавіны. Тыдзень праляжаў у лякарні на расцяжцы, перанёс цягам месяца чатыры аперацыі. Цяпер скачу, пераважна па кватэры, на мыліцах і з металёвым апаратам Ілізарава на галёнцы.

Разважаю і пра тое, што ўсё, відаць, даецца нездарма і не выпадкова. Мусіць, трэба было, каб спыніўся дый асэнсаваў, што рабіў няправільна, што трэба было б змяніць у жыцці.

Дастаў з кніжнае паліцы аўтабіяграфічны ў многім раман грузінскага празаіка Надара Думбадзе “Закон вечнасці”, які пераклаў ажно дваццаць пяць гадоў таму! Перачытаў адну з апошніх старонак, сцэну, у якой галоўны герой, пісьменнік і рэдактар газеты Бачана Рамішвілі выпісваецца з лякарні і развітваецца са сваім доктарам.

“– Відаць, кожны чалавек павінен перанесці цяжкую хваробу, што дасць яму магчымасць цвяроза, спакойна прааналізаваць мінулае і нанава прайсці жыццёвы шлях. У гэтым сэнсе ваша бальніца зрабіла мне вялікую паслугу.

– Наўрад ці, Бачана Акакіевіч, вашаму жыццёваму шляху патрэбны паўторны аналіз, – перакананa сказаў прафесар.

– Вы так думаеце? – усміхнуўся Бачана.

– У крайнім выпадку збоку гэтак здаецца.

– І ўсё ж два месяцы ў вашай бальніцы былі мне часам незвычайных адкрыццяў.

– Што ж вы, Бачана Акакіевіч, такога адкрылі, чаго раней не ведалі?

– Закон вечнасці!

– Як вы сказалі? – перапытаў здзіўлены прафесар.
– Закон вечнасці! – паўтарыў Бачана.
– Гм… цікава… Аднак кожны закон выражаецца нейкай формулай. Ваш закон вечнасці таксама мае нейкую формулу?
– Ведама, мае.
– Ці не падзеліцеся, Бачана Акакіевіч? Можаце на мяне разлічваць – я не прысвою яе і не памкнуся запісацца ў сааўтары, – пажартаваў прафесар.
– Сутнасць гэтага закона ў тым, што… душа чалавечая намнога цяжэйшая за цела, настолькі цяжэйшая, што чалавеку самому не пад сілу несці яе. Таму ўсе мы, пакуль жывыя, павінны дапамагаць адзін аднаму і імкнуцца абяссмерціць душу адзін аднаго. Вы – маю, я – другую, трэці – яшчэ нечую, і так да бясконцасці. А ўсё гэта патрэбна, каб пасля смерці чалавека мы не асіроцелі і не засталіся самотнымі на свеце…
Прафесар здзіўлена слухаў Бачану, а калі той змоўк, доўга стаяў у задуменнасці.
– Аднак складаны закон вы адкрылі!
– Складаны! – кіўнуў Бачана.
– І спадзеяцеся спраўдзіць яго?
– Калі б гэта было не так, я цяпер быў бы нежывы, дый ці варта было б жыць наогул, Надар Іракліевіч?! – Бачана падаў руку прафесару. Стары доктар падышоў бліжэй, і Бачана абняў яго.
– Так, – сказаў усхваляваны і крыху разгублены прафесар, – вам штучнае сэрца не падыйдзе. З ім вы не зможаце жыць.
І калі Бачана адчуў на сваёй спіне волатаўскія прафесаравы рукі, дык пераканаўся – закон вечнасці дзейнічае…”
Фармуляваць свой закон вечнасці покуль што не намерваюся. Але, напэўна ж, пагаджуся з аднагодкам-літаратарам Язэпам Я., што як мінімум, самы час дарабляць недаробленае і рабіць гэта на “выдатна”, калі блізяцца твае 55.

*12 лютага 2013 года*

## Назва старадаўняя і годная

Нярэдка бывае так, што купіш кніжку або атрымаеш у падарунак, а вось прачытаць яе ўсё ніяк не выпадае.
Таму прадчуваў асалоду, калі з’явілася нагода, дайшлі нарэшце рукі да тома навукова-папулярных эцюдаў Валянціны Лемцюговай “Тапонімы распавядаюць”. Тлумачыцца ў ім паходжанне каля трох тысяч назваў беларускіх айконімаў – найменняў паселішчаў. Задзейнічана таксама шмат гідронімаў – назваў азёр, рэк, балот, мікратапонімаў – палёў, сенажацей, урочышчаў, антратапонімаў – уласных асабовых імён, мянушак і прозвішчаў. Пры назвах аўтарка падала гістарычныя, геаграфічныя і этнаграфічныя звесткі, народныя легенды і паданні, старадаўнія і сучасныя версіі, агульнавядомыя і зусім новыя навуковыя варыянты.

Валянціна Пятроўна – навуковец вельмі аўтарытэтны і кампетэнтны. Ведаю гэта хаця б таму, што меў гонар і задавальненне рэдагаваць, а потым і выдаваць яе (у сааўтарстве з Аннай Арашонкавай) “Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы”.

Зразумела, што кнігі кшталту “Тапонімы распавядаюць” не чытаюць як белетрыстыку, а карыстаюцца імі хутчэй як даведнікамі. Таму адзін з першых эцюдаў, што зацікавіў мяне, быў пра роднае Жодзіна. Прачытаў яго, і ўзнікла патрэба тое-сёе пракаменціраваць і ўдакладніць.

Думаецца, што ўжо ў назве эцюда **Жо́дзіна (Жо́дзін, Жо́дзінь)** мусіў бы фігураваць і варыянт **Жо́дынь**. Можна і трэба было б больш дакладна адзначыць і месца ўзнікнення паселішча – не проста на рацэ Пліса, а там, дзе ўпадала ў яе рэчка Жодзіна. Мяркую, што спрадвеку звалася яна менавіта так, а памяншальна-ласкальны суфікс –к- набыла пазней, стала звацца Жодзінкаю пасля таго як абмялела.

Маю да той мясціны пажыццёвы сантымент, бо вуліца Партызанская, на якой і сёння стаіць барак чыгуначнікаў, у якім прайшлі мае дзяцічыя гады, упіналася якраз у тую рачулку. Каля яе цягнуліся разоры бульбяных сотак нашае сям’і, паўз яе ляжаў мой колішні штодзённы шлях ў школу, а таксама на забаўкі ў буданах і зямлянках у лесапасадцы, да яе спускаўся на лыжах з чыгуначнага адхону. Больш за тое, пры вуліцы Піянерскай пачуваўся разам з сябрукамі піянерам Дзікага Захаду і намерваўся быў запрудзіць рачулку, каб потым ладзіць плыты і сплаўляцца на іх у бок Плісы хаця б да вуліцы Маскоўскай (часткі колішняга тракта на Маскву), пад якую нырцавала яна ў жалезабетонны калектар.

Акцэнтую, што паявілася Жодзіна на сутоку Жодзіна з Плісою і таму, што вышэй па цячэнні было мястэчка з аднайменнаю назвай Пліса, якое бальшавікі перайменавалі ў недарэчны і груваскі Чырвоны Сцяг.

Мяркую, што найхутчэй найменне гідроніма Жодзіна – балцкага паходжання са значэннем “гаваркая, булькатлівая” рэчка.

Упэўнены, што менавіта ад назвы рэчкі пайшло і найменне паселішча. Агульнавядома, што славяне на тэрыторыі Беларусі традыцыйна сяліліся на сутоках рэк, а паселішчы свае называлі па імені меншай рэчкі. Так, на Заходняй Дзвіне Віцебск стаіць пры ўпадзенні ў яе Віцьбы, Друя – пры ўпадзенні Друйкі, а Полацк там, дзе ўпадае ў яе Палата.

Шаноўная Вялянціна Пятроўна піша, што Жодзіна “Упершыню ўпамінаецца ў 1688 годзе як вёска Жодзіна Слабада. Паселішча належала Радзівілам”.

Дазволю сабе колькі словаў каментарыя.

Наш знакаміты гісторык, археолаг і энцыклапедыст Міхась Ткачоў, які некалькі гадоў настаўнічаў і праводзіў раскопкі ў Жодзіне разам са сваім братам, краязнаўцам Аляксандрам Каралёвым, пісаў яшчэ ў 1979 годзе: “У сутоках рэчкі Жодзінкі з ракою Плісою выяўлена селішча з керамікаю XII-XIII стст. і XVI-XVII стст. Занята агародамі і забудавана дамамі. Культурны пласт таўшчынёй каля 0,4 м. Плошча каля 1 га”. Гэта значыць, што месца тое было аблюбаванае і абжытае здаўна. Паселішча магло

занепадаць, асабліва па вайне 1558–1583 гг. з Расіяй, цэнтр цяжару мог пераносіцца ў Зарэчча.

Што тычыць першай пісьмовай згадкі пра паселішча, дык дацiроўку трэба было б пазначаць амаль на паўстагоддзя раней. Гісторык Вячаслаў Насевіч адшукаў у “Смалявіцкім інвентары” за 1643 год запіс, што пад будучае мястэчка Багуслаў Поле ўжо высечана 400 пляцовак, большасць якіх ужо разабраная, а рэестр знаходзіцца ў пана Чэрніка.

Справа ў тым, што Жодзіна Слабада і Багуслаў Поле – тое самае паселішча, а дзьве назвы, народная і афіцыёзная, доўгі час бытавалі паралельна! Найхутчэй, “кіраўніцтва справамі” знакамітага дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага княства Літоўскага князя Багуслава Радзівіла (1620—1669) заснавала слабаду там, дзе ўжо жылі сяляне-тубыльцы. А каб прывабіць рамеснікаў і гандляроў на землі ўсходняй ускраіны сваёй Смалявіччыны, князь падараваў ім “слабоды” – вызваліў ад выплаты чыншу і падаткаў аж на 25 гадоў.

Цалкам лагічна, што Жодзіна Слабада – гэта слабада на рэчцы Жодзіна. Мажліва, азначэнне Жодзіна спатрэбілася і на тое, каб адрозніваць мястэчка ад іншай Слабады, якая і сёння месціцца на захад ад Смалявіч.

А вось што да назвы Багуслаў Поле, дык тут, як кажуць, ёсць пытанне. Польскі гісторык Генрых Літвін, які займаецца гісторыяй XVI–XVII стагоддзяў, зазначае: “Несумнена, што ў свой час па-польску гэта гучала і пісалася “Bogusławpol”. На Беларусі і на Украіне назвы гарадоў і мястэчак нярэдка падавалі на ўзор Багуслаў Поля. Аднак гэта няправільна! Насамрэч у падобных назвах фігуравала слова “поліс”, што па-грэцку азначае “горад, паселішча”! Багуслаў-поліс, Барыс-поліс, Крыстына-поліс, Езу-поліс, Марыям-поліс і гэтак далей. Гэта тычылася гарадоў, заснаваных у XVI стагоддзі і пазней”.

Мяне самога даўно бянтэжыла – чаму “Поле”? Новыя гарады ўзнікалі найчасцей на рэках, але нярэдка пасярод лясоў і нават пушчаў. І сёння ў наваколлях горада захаваліся такія мікратапонімы як Зялёны Бор і Бабін Лес. Дык адкуль жа бралася тое ці іншае Поле?! Мабыць, з-за так званай народнай этымалогіі ці праз недастатковую пісьменнасць некаторых пісарчукоў, якім замест “поліс” чулася “поле”. Наўрад ці адзін з тагачасных найбуйнейшых латыфундыстаў ВКЛ князь Багуслаў Радзівіл узрадаваўся б, калі дазнаўся б, што паселішча ў ягоны гонар імянуецца Полем!

Аднак тая назва захаваная ў найменні адной з вуліц Жодзіна, гідранімічная версія якога не даспадобы шаноўнай Валянціне Пятроўне. Яе яна нават не згадвае і піша: ”З першаснай назвы вынікае, што гісторыя горада распачыналася са слабады, якую заснаваў нехта *Жадзен* ці *Жэдзень*. Менавіта такія сугучныя з асновай назвы, імёны засведчаны ў “Ономастиконе” С. Б. Весялоўскага: *Жаден Грігорьев* (1593 г.), *Жедень Семен Иванович* (1625 г.). Відаць ад той жа асновы, з той жа семантыкай “скупец, скнара”, што і *Жадный Ермолаев* (1593 г.), *Жадобін Петр* (1605 г.).

Незразумела, навошта шукаць міфічнага скнару Жадзена, калі рэчка

Жодзіна была і ёсць?! Недаспадобы мне гэтая антрапанімічная версія і таму, што ў школьных летніках і на алімпіядах, бывала, атрымліваў крыўдную мянушку “жадзіна”, калі казаў, што родам з Жодзіна.

Не магу пагадзіцца з шаноўнай даследчыцай і тады, калі яна катэгарычна сцвярджае: “У беларускім іменаслове ад гэтых імёнаў-мянушак не засталося ніякіх слядоў”, бо прыходзяць на памяць як мінімум балота Стары Жадзен, што ў Жыткавіцкім раёне, і прозвішча цяперашняга міністра абароны Юрыя Жадобіна.

Але як там ні было, спадарыня Гісторыя распарадзілася так, што з доўгага шэрагу – Жодзіна, Жодзін, Жодзінь, Жодынь, Жодзіна Слабада, Багуслаўполь, Багуслаў, Багуслаў Поле – засталася старадаўняя, слаўная і годная назва Жодзіна.

*13 лютага 2013 года*

**Бяздоннае багацце**

“Свіцязянка” і “Пан Тадэвуш” Адама Міцкевіча, “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях” Яна Баршчэўскага, “Магіла льва” і “Нікому” Янкі Купалы, “Дзікае паляванне караля Стаха” і “Чорны замак Альшанскі” Уладзіміра Караткевіча, “Страцім-лебедзь” Максіма Багдановіча і “Лабірынты” Вацлава Ластоўскага – гэтым і многім іншым шэдэўрам асноваю і крыніцай натхнення паслужылі легенды і паданні нашага краю.

Але пры невымерным багацці нашага фальклору кніг легенд і паданняў параўнаўча нямнога. Розняцца тэксты ступенню апрацоўкі – ад дылетанцкіх да навуковых запісаў, ад сухога фіксавання да літаратурнай містыфікацыі, ад філігранна пераказаных да асэнсаваных па-мастакоўску.

Каб не вынаходзіць ровар дый асвяжыць у памяці даўно знанае і чытанае, пагрузіцца ў матэрыял, пагартаў даведнікі і літаратурныя энцыклапедыі, чытанкі і хрэстаматыі. Некаторыя з кніг легенд і паданняў адшукаў я на сваіх кніжных паліцах, а яшчэ займеў важкую торбу праз добрую фею, няўрымслівага і руплівага бібліёграфа Святлану Пугачову.

Была гэта не простая цікавасць. Узнікла патрэба разгортваць выдавецкую серыю “Казкі і быліны”, доўжыць яе чарговым тамам ─ легенд і паданняў. Узяў на сябе ўкладанне ─ мажлівасць спалучыць карыснае і патрэбнае з прыемным і займальным.

Фаліянт “Легенды і паданні”, скаладзены Майсеем Грынблатам і Антонам Гурскім, – адзін з больш чым паўсотні ў серыі “Беларуская народная творчасць” Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, якія пабачыкі свет у “Навуцы і тэхніцы”. Прыемна было расчытваць свае колішнія, яшчэ студэнцкія паметы алоўкам на палях.

Пад яго вокладкаю ўпершыню найбольш поўна былі сабраныя асноўныя жанры няказкавай прозы нацыянальнага эпасу. У легендах пададзены старажытныя міфалагічныя ўяўленні пра паходжанне сусвету, зямлі, чалавека, жывёл і раслін, а таксама пра Бога і пра святых. Паданні

апавядаюць пра гістарычныя падзеі і гістарычных асобаў, пра паходжанне гарадоў, вёсак, курганоў і ўрочышчаў, рэк і азёраў і іх назваў, пра прозвішчы і мянушкі людзей, пра заклятыя скарбы.

Тэксты пададзеныя ў тым выглядзе, як былі запісаныя збіральнікамі, а таму нават назвы іх — “Як бог пчолы за лгарства пакараў”, “От як даўней летніх бацькоў трацілі”, “Як адна бабка бабіла чарцяня”, “Два канцы ў вёсцы Трабухі”, “Аб Сожу і Няпрэ”, “Камень Лысіна Паца” — вабяць нязмушанасцю і чысцінёй.

Выданне папраўдзе грунтоўнае, акадэмічнае – да тэкстаў дададзены ўступны артыкул-даследванне, каментарыі, паказальнік прадметаў, з’яў, імёнаў і міфалагічных істот, алфавітны спіс збіральнікаў і геаграфічны паказальнік. Том гэты быў бы зусім ня лішнім на кніжных паліцах у інтэлігентаў і ўсіх, хто цікавіцца культурай і творчасцю свайго народу, тым болей, што само слова *legenda* з лаціны перакладаецца літаральна як “тое, што трэба прачытаць”.

Трэба было б тут дадаць, што ў 1990 годзе пад назваю “Бяздоннае багацце” ў “Мастацкай літаратуры” выйшаў складзены Антонам Гурскім скарочаны варыянт акадэмічнага выдання, а яшчэ праз дзесяць гадоў з гэткаю самаю назваю пабачыў свет томік выбраных твораў, сярод якіх і легенды Вацлава Ластоўскага. Назву кніжкам дало паданне, пераказанае Ластоўскім. Яно распавядае пра паляўнічага, загоншчыка Ранцэвіча, які давёў князю Яраславу, што сапраўднае багацце — гэта не куфар з дукатамі, а зямля, якая верна паслужыць і нашчадкам.

Напрыканцы мінулага стагоддзя ў запісах Ірыны Масляніцынай у “Юнацтве” выйшлі беларускія народныя легенды і паданні “Млын на сямі колах”. Літаратурная апрацоўка тэкстаў у Масляніцынай — гэта хутчэй вольны і разгорнуты пераказ фальклорных першакрыніц, якія стаіць на мяжы з мастакоўскім, гістарычным апавяданнем.

“Карона Міндоўга”, “Выбар веры”, “Таямніца глыбінь svіцязянскіх”, “Слёзы Рагнеды”, “Судзіслаў, праўнук Перанега”, “Прымадонна яго ясна-вяльможнасці”, “Рыцарская пальчатка”, “Бутрым Няміра”, “Легенда пра князёўну Соф’ю”, “Прыўкрасная Юдзіта” – ад “апетытных” найменняў павінны былі б пацячы слінкі ў кінасцэнарыстаў і ў лібрэтыстаў.

Адна толькі Радзівіліяда (паданні “Чорная дама Нясвіжа”, “Пане Каханку” і інш.) дала апошнім часам беларускай сцэне п’есы “Чорная панна Нясвіжа” Аляксея Дударава, “Барбара Радзівіл” Раісы Баравіковай, “Пане Каханку” Андрэя Курэйчыка, “Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл” паводле твораў Францішкі Уршулі Радзівіл, узноўленая опера “Чужое багацце нікому ня служыць” Яна Давіда Голанда… А патэнцыйныя аўтары коміксаў павінны былі б згадаць фенаменальны поспех легенды ў малюнках паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча “Дзікае паляванне” з ягоным фантастычным як на сённяшні дзень тыражом у 250 000 асобнікаў.

“Міншчына: Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў” — кнігай з такой назваю эстафету ў Масляніцынай пераняў у выдавецтве

“Беларусь” Аляксей Ненадавец. Хіба ўжо засяродзіўся ён на тапаніміцы.

Аўтар напісаў і выпусціў у свет ажно шэсць цаглінаў, па адной на беларускую вобласць! У кожнай, якая ўтрымлівае па сотні-паўтары тэкстаў, патлумачыў ён паходжанне назваў гарадоў, мястэчак і вёсак.

Часам здаецца, што Ненадавец-літаратар неўтаймоўнай фантазіяй перамагае Ненадаўца-навукоўца, што прывязка да тапонімаў досыць штучная і ёсць нагодаю літаратурнай містыфікацыі. Мяркую па нарысе пра сваё роднае Жодзіна, колішнюю Жодзіну Слабаду. Толькі мімаходзь аўтар завязвае этымалогію на міфічнага пчаляра-бортніка Жодзіна. Ані знаку няма пра папулярныя ў горадзе версіі – ні пра французскага салдата Жадэна, ні пра рачулку Жодзінку, ні пра заснавальніка горада князя Багуслава Радзівіла, у гонар якога горад іменаваўся і Багуслаўполем (Багуслаў-полісам)!

Аўтар кнігі “Гісторыя Беларусі паводле паданняў і легендаў” Кастусь Цвірка нездарма мае навуковыя ступені кандыдата гістарычных навук і кандыдата філалагічных навук! І тут задзейнічаны выйгрышны брэнд “Легенды і паданні”. Выйгрышны таму, што бачыцца за ім штосьці важкае, аўтарытэтнае, тое, што заслугоўвае ўвагі і павагі. Выйгрышны, бо інтрыгуе чытача ўсё патаемнае і загадкавае, і таму, што пашанотна давярае ён захаванаму і пераказанаму далёкімі продкамі. Абапіраецца спадар Цвірка ня толькі на легенды і паданні – ягоны тэкст густа перасыпаны спасылкамі на летапісы, Статуты ВКЛ, цытатамі з даследванняў аўтарытэтных айчынных і замежных гісторыкаў, мініяцюрамі, гравюрамі, мастацкімі рэканструкцыямі і выявамі дакументаў. Ня будзе перабольшаннем назваць выданне навукова-папулярным курсам гісторыі (ад былiннага зачыну “Краіна арыяў, альбо Адкуль мы родам” да публіцыстычнага артыкула “Барацьба беларускага народа за дзяржаўную незалежнасць”), у якім аддадзена даніна і пэўнай стылізацыі нават у загалоўках кшталту “Уся слава Усяслава, або Герой народных паданняў, летапісаў, былін, паэм, раманаў” ці “Як беларусы аддалі сваю гістарычную назву Літва, а з ёю сталіцу сваёй жа старажытнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага Вільню і ўвесь Віленскі край жамойтам”. Сапраўды, нашыя суседзі, палякі, летувісы і расейцы, на глебе міфалогіі, а ў тым ліку і ладных кавалкаў нашай, плённа для саміх сябе твораць гісторыю і дзяржаўнасць.

Мабыць, нездарма ў свой час і Кастусь Тарасаў назваў сваю кнігу гістарычных нарысаў “Памяць пра легенды”!

На фоне некаторых рэгіянальных, аматарскіх выданняў кшталту “Паданні Лепельшчыны”, “Легенды і паданні Ляхавіцкага краю”, “Легенды і паданні Ганцаўшчыны” прыемна вылучаецца кніжка Міколы Гайдука “Легенды Беласточчыны”. Даводзіцца пашкадаваць, што далёка ня ўсе выданні з таго краю даходзяць да нас, трапляюць у поле зроку.

У пераказах Уладзіміра Ягоўдзіка ўжо пабачылі свет кнігі беларускіх народных легенд і паданняў “Заклятыя скарбы” і “Вужовы кароль”. А летась, на восеньскія Дзяды меў я радасць атрымаць у падарунак ад цёзкі томік

“Сіні калодзеж. Сто беларускіх легенд і паданняў”.

Гэты бліскучы выдавецкі праект ажыццявіла сваімі высілкамі адна сям’я! Бацька выбраў і пераказаў тэксты, якія некалі рупліва збіралі і запісвалі фалькларысты і этнографы Еўдакім Раманаў, Міхал Федароўскі, Павал Шэйн, Адам Ганоры Кіркор, Павал Дземідовіч, Аляксандр Сержпутоўскі, Павал Шпілеўскі, Уладзімір Васілевіч, Лія Салавей дый іншыя.

Кніжку гожа аздобілі дочкі пісьменніка, мастачка Юлія і дызайнерка Вера. Ну а да друкарскага варштата, а потым і да чытачоў парупілася данесьці яе жонка Марыя.

Той, хто прачытае гэты томік, сапраўды натоліць смагу зорнай і крынічнай вадою са святога Сіняга калодзежа.

*На дзень святога Валянціна і… Уладзіміра Ягоўдзіка,*
*14 лютага 2013 года*

## Habemus Papam!

На плошчы святога Пятра сотні тысяч вернікаў знадзеена пазіралі з-пад парасонаў на медны комін па-над Сіксцінскай капэлаю.

Іх чаканне не было марным – неспадзявана хутка, на другі дзень канклава, на пятым галасаванні ста пятнаццаці кардыналаў быў абраны новы, дзвесце шэсцьдзесят шосты Папа Рымскі.

У 19.06 па мясцовым часе з коміна, на якім гаспадарліва ўладкавалася была белая чаіца, паваліў чаканы белы дым, пасля загучалі і званы, а па-над плошчаю панесліся захопленыя воплескі і радасныя воклічы!

Дождж пераціх (гэта таксама ўспрынялося як добры знак!) і амаль праз гадзіну на балконе з’явіліся кардыналы. Найстарэйшы з іх, француз Жан-Луі Таран усхваляваным голасам абвясціў urbi et orbi імя наступніка святога Пятра на Апостальскім Пасадзе. Ім аказаўся кардынал ня з першага кола папабіляў, арцыбіскуп Буэнас-Айрэса Хорхе Марыё Берголіа.

Натуральна, усім хацелася паболей даведацца пра новаабранага Папу.

Гэта самы малодшы з пяці дзяцей італьянскага эмігранта-чыгуначніка. Шырока адукаваны – выкладаў тэалогію, філасофію і літаратуру, вольна гаворыць па-італьянску і па-нямецку. Мае аргенцінскае і італьянскае грамадзянства. Надзвычай сціплы ў быце – да апошняга часу жыў у аднапакаёўцы, самому сабе кухарыў, а на службу дабіраўся на метро.

У 1958 годзе ўступіў у Ордэн езуітаў. У кардыналы ў 2001 годзе пасвяціў яго Папа Ян Павел II, а на канклаве ў красавіку 2005 года Берголіа зняў сваю кандыдатуру на карысць Язэпа Ратцынгера.

Новы Папа абраў сабе імя Францыск у гонар Францыска з Асізі, які вызначаўся сціпласцю і адкрытасцю на патрэбы іншых людзей. А ў беларусаў імя гэтае немінуча выклікае з памяці асветніка, гуманіста і першадрукара Францішка Скарыны, які вучыўся і ў Італіі.

Да новага Папы шматкроць дастасоўваецца азначэнне “першы”. Ён – першы Папа-езуіт. Ён – першы Папа-нееўрапеец. Ён – першы Папа-аргенцінец, першы пасланец Паўднёвай Амерыкі. Ён – першы Папа па імені

Францыск…

Яго лічаць умераным кансерватарам. Да чалавечых характарыстык дадаюць, што шануе ён творчасць свайго суайчынніка і цёзкі Хорхе Луіса Борхеса, а таксама рускага пісьменніка з беларускімі каранямі Фёдара Дастаеўскага. Натуральна, што любіць аргенцінскае танга, а таксама футбол – заўзее за клуб “Сан-Ларэнца”. Прыемна і тое, што не чужы яму і гумар – нават сваю першую па абранні прамову пачаў ён з жарта!

Закідаюць яму найперш мажлівыя праблемы са здароўем дый сталы, у семдзесят шэсць гадоў, век.

Шкада, што няма сёння ў Беларусі  кардынала, які мог бы паехаць у Ватыкан хаця б абіраць Папу, а не тое, што быць абраным! Зноўку беларусы чужыя на свяце жыцця?

Але ж хочацца верыць, што канкардат – дамова пра супрацу паміж дзьвюма дзяржавамі, паміж Апостальскім Пасадам і Беларуссю – нарэшце будзе падпісаны, а Папа Францыск ступіць на зямлю Францыска Скарыны – на радасць каталікам, уніятам і ўсім вернікам.

*14 сакавіка 2013 года*

## “Залатая яблынька”

Практычна не гаворыцца пра такі спецыфічны і адметны від літаратурнай дзейнасці як укладальніцтва.

А між тым сам укладальнік ёсць і генератарам выдавецкай серыі, праекта або асобнага тома. Нярэдка ён, як пазначылі б у тытрах кінематаграфісты, аднаасобна з’яўляецца і аўтарам ідэі, і сцэнарыстам, і рэжысёрам-пастаноўшчыкам.

Бывае так, што супрацоўнік выдавецтва прагматычна выконвае вытворчы план і толькі дае новую назву, скажам, зборніку казак, якія ўжо выходзілі раней.

Але бывае і так, што ўкладальніцкі працэс расцягваецца на месяцы і нават гады, вымагае як эўрыстыкі, так і чарнавой засяроджанай працы за кампутарам, у бібліятэках, а таксама за каваю і ў тэлефонных размовах, па скайпе з аўтарамі ці іх спадкаемцамі, перакладчыкамі, бібліёграфамі, навуковымі кансультантамі, рэцэнзентамі…

* * *

У дзень нараджэння Ганса Хрысціяна Андэрсена, які адзначаецца як Міжнародны дзень дзіцячай кнігі, завязаў я матузкі тэчкі “Залатая яблынька” з раздрукоўкаю вычытанага карэктарам рукапіса, а таксама скінуў, спадзяюся, апошні варыянт тэкста і на флэшку.

У гэтай чытанцы, кажучы словамі анатацыі, адрасаванай дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, іх бацькам, бабулям і дзядулям, а таксама навучэнцам педагагічных коледжаў, настаўніцам і выхавацелькам, сабраў народныя казкі, легенды і паданні, а таксама творы беларускіх пісьменнікаў.

Хоць і кажуць, што не ўсё тое золата, што блішчыць, спадзяюся, назва “Залатая яблынька” паводле наймення адной з казак – традыцыйная, пазітыўная, удалая. Хочацца верыць, што нясе яна станоўчы зарад і прыемныя асацыяцыі, дазваляе згадаць такія дыяменты як “Каток – залаты лабок “, “Ох і залатая табакерка”, “Залаты птах”, “Залатая Горка”, “Скарб у балоце”, “Заклятая магіла волата”, а таксама важкі злітак мужыка, які царскага генерала правучыў, і талерку дукатаў казачніка, які прымусіў пана ўскрыкнуць “Ілжэш, хам!”.

Не сумняваюся, што і падзагаловак “Казкі, легенды, паданні” спрацуе як прыцягальны брэнд: людзей прываблівае ўсё старажытнае і загадкавае.

Склаў кніжку з шасці раздзелаў: “Казкі пра жывёл”, “Чарадзейныя казкі”, “Сацыяльна-бытавыя і авантурна-навелістычныя казкі”, “Легенды”, “Паданні”, а таксама “Слоўнічка”, у якім патлумачыў некаторыя тэрміны і паняцці.

Няраз дзякаваў у думках пісьменніку Алесю Якімовічу (1904–1979), які ў свой час таленавіта выканаў вялізарную працу – давёў да чытэльнага, літаратурнага стану важкі пласт (больш за 200 тэкстаў!) беларускіх народных казак. За савецкім часам ягоная карпатлівая творчая дзейнасць азначалася словам “апрацоўка”. Чуецца ў гэтым пэўная нівеліроўка і механістычнасць, нібыта апрацоўваў ён фальклорныя запісы як драўляныя цурбакі на сталярным варштаце. І добра яшчэ, калі выдаўцы не забываліся потым пазначыць гэтую самую пісьменніцкую апрацоўку, бо надаралася і такое!

Падчас працы так захапіўся матэрыялам, што падахвоціўся, сам пераказаў некалькі тэкстаў, і асабліва ўсцешаны паданнем пра роднае Жодзіна. Гаварыў пра гэта з калегамі – Крыстынаю Лялько і з Уладзімірам Ягоўдзікам. Пагадзіліся, што казку, легенду, паданне літаратар усё ж пераказвае, а не апрацоўвае! Прычым пераказвае часам настолькі адвольна, што і падпісвае як свой твор. Да прыкладу, Якуб Колас пазначаў тэкст “Музыкі” (беларускі аналаг нямецкіх “Брэменскіх музыкаў”) як пераказ, а казку “Зайчыкі” ці паданне “Чаму ў сенакос і ў жніво ідзе дождж” падпісваў як аўтарскія.

Таму палічыў мэтазгодным і лагічным у кожным раздзеле паставіць пасля фальклорных узораў літаратурныя казкі, быліны, інтэрмедыі, інсцэніроўкі Яна Баршчэўскага, Янкі Купалы, Клаўдзіі Каліны, Пятра Васючэнкі… Прыўнесены ў іх і прыкметы сучаснасці – у быліне Максіма Танка мураш Бадзіня выправіўся ў касмічнае падарожжа, а ліса ў Станіслава Шушкевіча задзейнічала на свае лісіныя патрэбы магнітафон.

Прадчуваю асалоду і ад сааўтарства – мастачка-графік Алена Карповіч, з мужам якой Алегам вучыўся адначасна ў мастацкай вучэльні і нават жыў у адным інтэрнатаўскім пакоі, днямі мусіць здаць рэшту ілюстрацый да “Залатой яблынькі”. Вельмі задаволены, як аздобіла яна ў нашым выдавецтве чытанку “Крынічка”, зборнік польскай паэзіі дзецям “Качка-дзівачка”, том казак народаў свету, а таксама кніжкі паэзіі Рыгора Барадуліна і Артура Вольскага.

Па электроннай пошце выслаў спрактыкаванаму дызайнеру Мішу Драко неабходныя матэрыялы і звесткі, каб падрыхтаваў макет, а таксама тытул і авантытул. А вось вокладка чамусьці бачыцца мне пераважна сінеблакітнаю, з ліхтарыкамі залатых яблыкаў.

Адначасна шчыруе над кніжкаю і вярстальшчык Васіль Козлік, пасля першай вёрсткі якога можна будзе паправіць, удакладніць і змяніць тое-сёе па ўкладанні і па карэктуры.

Разлічваю на тыраж у пяць тысяч асобнікаў, што не так і мала на сённяшні дзень, а таксама на дадрукоўкі наступнымі гадамі. Бо нярэдка бывае і так – гартаеш ці нават прачытваеш кніжку з тыражом у сотнюдзьве асобнікаў, які на сёння, асабліва для паэтычных зборнікаў, ёсць сумнай рэаліяй, і думаеш: “А і праўда, каму яна, акрамя самога аўтара, ягоных сваякоў і знаёмцаў увогуле патрэбная?!”

Міхась Скобла, які ўклаў не адну грунтоўную анталогію, нярэдка скарыстоўвае дасціпную прыказку” “Хочаш насмяшыць Бога – падзяліся сваімі планамі!”

Але гэтым разам, хочацца верыць, усё пройдзе гладка і не пазней як на Яблычны спас мецьмем плён з “Залатой яблынькі”.

*2 красакавіка 2013 года*

**Адмазка**

Як і прадчуваў, падборку маю перанеслі ў наступны нумар часопіса.

Дый тлумачэнне галоўны рэдактар агучыла проста смеху вартае: нібыта тэхнічны рэдактар Алег Г. заявіў на планёрцы, што нядобра (маўляў, будуць смяяцца чытачы), калі ў адным нумары прачытаюць кароткую прозу амаль што цёзак па прозвішчы – Франца Сіўко і Уладзіміра Сіўчыкава.

Па-першае, запярэчыў ёй, праз свой сціплы аб’ём часопіс ня можа публікаваць ні п’есы, ні паэмы, ні аповесці, ні, тым болей, раманы.

Па-другое, нягледзячы на тое, што тэхрэд уваходзіць у рэдакцыйную раду, зусім не ягоная прэрагатыва вызначаць рэдакцыйную палітыку выдання ў галіне літаратуры, зусім ня ён мусіць ухваляць аўтараў, тэматыку і жанры.

Па-трэцяе, стаім мы з шаноўным Францам Іванавічам поруч, скажам, у тэлефонным даведніку Саюза беларускіх пісьменнікаў, і нікога той факт не весяліць. Як і тое, што нарадзіліся мы ў адзін травеньскі дзень, але з розніцаю ў пяць гадоў.

Вынікае, што паводле тэхрэдаўскага (?) ўяўлення ня могуць надрукавацца пад адной вокладкай, да прыкладу, гісторык Аляксандар Пашкевіч і аўтар гістарычных раманаў Алесь Пашкевіч. Ня можа быць апублікаваны поруч плён працы мовазнаўцы Аляксандра Лукашанца, журналіста Аляксандра Лукашука, мастака Уладзіміра Лукашыка і фотамайстра Алега Лукашэвіча.

Калі апеляваць да згаданага ўжо пісьменніцкага даведніка, дык няця-

жка знайсьці ў ім па тры літаратары з прозвішчамі Дубянецкі і Марціновіч, а ўжо па два можна адшукаць з добры тузін: Адамовіч, Баршчэўскі, Вольскі, Галубовіч, Дэбіш, Жук, Кавалёў, Касцюкевіч, Міхно, Пятроў, Станкевіч, Сямёнава, Яскевіч… І ўжо зусім бяда, калі творца носіць прозвішча з коранем "Барыс", бо паводле заганнай логікі ня могуць, проста ня маюць права надрукавацца ў адным нумары часопіса Сымон Барыс, Сяргей Барысавец, Юрый Барысевіч, Уладзімір Барысенка, Таццяна Барысік і (які жах – зноў Таццяна!) Таццяна Барысюк!

"Чытачы будуць смяяцца!"

*13 красавіка 2013 года*

**"Ах, што за цуд гэтыя казкі!"**

Пераглядаў днямі дамашнюю бібліятэку, і аказалася, што ў ёй больш за паўтары дзесяткі кніг беларускіх народных казак!

Падумалася, што чалавек як мінімум тры-чатыры разы праходзіць перыяды актыўнага ўспрымання казак: у сваім маленстве, у школе на ўроках чытання і літаратуры, тады, калі выхоўвае сваіх дзетак, і тады, калі гадуе ўнукаў.

Мабыць, у кожнай інтэлігентнай сям'і на паліцах можна знайсьці некалькі кніжак казак. З імі, як правіла, не расстаюцца, ашчадна захоўваюць, а калі каму і перадаюць, дык найчасьцей у спадчыну. Можа, гэта таму, што згадваюцца казкі як салодкі ўспамін з дзяцінства, асацыююцца з сутонлівым спакоем поруч з маці ці бабуляю перад сном, з цеплынёю і пяшчотай.

Падзяліць казачныя тамы можна было б на дзве катэгорыі: выданні навукоўцам, філолагам, педагогам і кніжкі, адрасаваныя напасрэдна для чытаньня дзецям.

Захацелася ўзяць у рукі, перагартаць некаторыя з іх.

"Казкі ў сучасных запісах", укладзеныя Канстанцінам Кабашнікавым і Галінай Барташэвіч, займаюць на паліцы пачэснае месца. Гэты фаліянт, падрыхтаваны ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, – адзін з больш чым паўсотні ў серыі "Беларуская народная творчасць", якой мы мусім ганарыцца. Шэсць з іх прысвечаныя беларускім народным казкам, а чарадзейным, ці як іх яшчэ называюць, "уласна казкам" давялося выдзеліць ажно два тамы амаль па сем соцен старонак дый неўзабаве і перавыдаць іх! Некаторыя жанры ў нас куды багацейшыя, чым у суседзяў: да прыкладу, у беларускім рэпертуары каля 500 сюжэтаў легендарных казак, ва ўкраінскім — 196, а ў рускім — усяго толькі 56.

Пад вокладкаю гэтага тома ўпершыню сабраныя архіўныя матэрыялы і экспедыцыйныя запісы паваенных гадоў, якія значна пашыраюць уяўленні пра казкі, іх сюжэтны склад і асаблівасці бытавання. Выданне папраўдзе грунтоўнае, акадэмічнае – да тэкстаў дададзены ўступны артыкулдаследванне, а таксама каментары — паказнік сюжэтаў, асабовы спіс

збіральнікаў, асабовы спіс казачнікаў і геаграфічны паказнік, якія займаюць ледзь ня дваццаць адсоткаў аб’ёму кнігі.

“Ах, што за цуд гэтыя казкі!” — хочацца ўсклікнуць следам за класікам і ўцяміць, адкуль імя героя ягонага паэтычнага шэдэўра, калі набачыш найменне “Гвідон Саміхленавіч”. Вельмі імпануюць мне ўжо самі назвы можа і таму, што не “прычасаныя” яны, не прыгладжаныя літапрацоўшчыкамі: “Як дзедава дачка спамаглася, а бабіна з зайздрасці прапала”, “Пра бараньку”, “Іван і кусюлька”, “Як вужава жонка паставіла сынка дубком”, “Васька-Папялышка”, ”Іван Сучкін сын Залатыя гузікі”, “Аб смушчэнніку Мілляне”, “Юда — беззаконны чорт”.

Кніга апавяданняў, легенд, казак, аповесцяў “Бяздоннае багацце” Вацлава Ластоўскага пабачыла свет у выдавецтве “Юнацтва”, дзякуючы сямейнаму падраду ўкладальніка Язэпа Янушкевіча і ягонай жонкі, мастачкі Галіны Хінкі-Янушкевіч, якую ведаю з тых часоў, калі выкладала яна маёй дачцэ Хрысціне малюнак, жывапіс і кампазіцыю ў Рэспубліканскім каледжы мастацтваў, а па-простаму — у Парнаце.

Як і “неадменны сакратар Адраджэння” Вацлаў Ластоўскі, казкі пісалі, апрацоўвалі, пераказвалі многія творцы — ад пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца, Цёткі, Ядвігіна Ш. і Максіма Багдановіча да літаратараў сённяшняга дня. Мабыць і самі яны часам з цяжкасцю вызначалі, дзе ў іх апрацоўка фальклорных пярлінаў, дзе майстравіты вольны пераказ, а дзе ўжо і ўласна літаратурны твор. Да прыкладу, у 12-томініку Якуба Коласа казка “Зайчыкі” падпісаная як аўтарская, а тэкст “Муз*ы*кі” — беларускі аналаг нямецкіх “Брэменскіх музыкаў” — пазначаны як пераказ.

Дарэчы, у родным горадзе музыкаў Брэмене, а таксама ў латвійскай сталіцы Рызе стаяць помнікі ім, і турыст мусіць на шчасце дакрануцца да аднаго з пярэдніх асліных капытоў. Шмат дзе па свеце ўсталяваныя помнікі літаратурным героям, няма падобных хіба што ў Беларусі…

У хрэстаматыі “Дзіцячая літаратура” колішняй універсітэцкай выкладчыцы Маргарыты Яфімавай вычытаў, што ў 1946 годзе выйшла кніжка беларускіх народных казак, пераказаная дзеткам Міхасём Клімковічам, у 1952 годзе Дзяржаўнае выдавецтва БССР парупілася выпусціць “Беларускія народныя казкі” ў апрацоўцы Якуба Коласа. А вось пра тое, што з 1955 года на рынку казачных пераказаў усталявалася гегемонія беларускага дзіцячага пісьменніка Алеся Якімовіча (1904–1979), ведаў даўно .

Але і сам ён наўрад ці мог уявіць, што самымі запатрабаванымі ў ягонай творчай спадчыне, надрукаванымі шматтысячнымі накладамі акажуцца апрацоўкі беларускіх народных казак.

“Каток – залаты лабок” (1955), “Бацькаў дар” (1957), “З рога ўсяго многа” (1959) – ад сярэдзіны пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя і да сённяшніх дзён зборнікі казак менавіта ў ягоных узнаўленнях выходзяць з зайздроснай рэгулярнасцю. Дзіва што — Алесь Якімовіч апрацаваў больш за дзвесце казак! Выдаўцам было і ёсць з чаго выбіраць — хочаш выдавай

казкі пра жывёл, хочаш — чарадзейныя, а хочаш — сацыяльна-бытавыя з авантурна-навелістычнымі.

Кніга выдавецтва "Юнацтва" "Людзей слухай, а свой розум май" у аздабленні Валерыя Славука — своеасаблівы клон выдадзенай "Мастацкай літаратурай" на сем гадоў раней. Змяніліся хіба што фармат і мастак-ілюстратар, а ўся праца ўкладальніка звялася да таго, што памяняў ён месцамі з паўдзесятка казак.

Казкі гэтыя былі няраз апрабіраваныя і прыйшліся пад густ чытачам. Дый навошта было напружвацца і выдаўцам?! Вось яны і схітравалі.

Але вядомая беларуская пісьменніца Крыстына Лялько пагадзілася з народнай мудрасцю "Хітрэй свету ня будзеш" — у 1991 годзе яна склала і пераказала кніжку "Хітрэй свету ня будзеш", а тым самым перапыніла фактычна аднаасобнае панаванне Алеся Якімовіча на казачнай дзялцы.

З густам і вельмі таленавіта папрацавала яна над тэкстамі, якія некалі рупліва збіралі і запісвалі фальклярысты і этнографы Еўдакім Раманаў, Міхал Федароўскі, Адам Ганоры Кіркор, Аляксандр Сержпутоўскі, Павал Шпілеўскі дый іншыя.

Дзівіць хіба што тое, што выдаўцы пазіцыянавалі ўсе казкі зборніка, як чарадзейныя. А між тым сустракаюцца сярод іх і казкі пра жывёл ("Былінка і верабей", "Вясёлы кош", "Дасціпны пеўнік", "Казка пра ласку", "Пеўнік і курачка"), і сацыяльна-бытавыя (тая самая "Хітрэй свету ня будзеш") і нават паданне ("Чаму ў Беларусі львоў няма").

Але што значыць гэтая прыкрая парушынка ў параўнанні з накладам у 300 000 асобнікаў слаўных, адраджэнцкіх гадоў!

Кнігі казак, адрасаваныя дзецям, цяжка ўявіць без ілюстрацый, хаця сустракаюцца часам і такія, як у выдавецтве "Парадокс", прэцэдэнты і недарэчнасці. А вось у кніжцы-казцы "Прагны багацей" на пяць старонак прыгожа аблямаванага тэксту прыпадае ажно дзесяць палосных, найшыкоўнейшых ілюстрацый Міколы Селешчука!

Дый увогуле трэба парадавацца за беларускіх дзяцей, бо для іх (найперш у выдавецтве "Юнацта", якое не жартам і зусім не па-казачнаму праглынула "Мастацкая літаратура"!) шчыравалі такія майстры як Таццяна Беразенская, Вячаслаў Валынец, Анатоль Волкаў, Алена Карповіч, Уладзімір Лукашык, Уладзімір Савіч, Валеры Славук, Галіна Хінка-Янушкевіч… Іхняя натхнёная праца няраз адзначалася на кніжных выставах і сімпозіумах. А Павал Татарнікаў нават двойчы здабыў "Залаты яблык" — найвышэйшую ўзнагароду Міжнароднага біенале ілюстрацыі ў Браціславе! І адну з гэтых найпрэстыжнейшых сярод мастакоў кнігі ўзнарагод атрымаў ён за аздабленне тома беларускіх народных казак "Царэўна ў падземным царстве", якую падрыхтаваў Уладзімір Ягоўдзік.

Сёлета на "Беларусьфільме" знялі паўнаметражны мультфільм пра Несцерку, прычым з беларускамоўнай і рускамоўнай агучкамі, а таксама з англійскімі субтытрамі. Няўжо і кінематаграфісты нарэшце павярнуліся тварам да айчыннага фальклору?!

*26 красавіка 2013 года*

## Рыба гніе з галавы

Эсэіст, паэт, радыёжурналіст Міхась Скобла гады тры таму спытаўся на літаратурным выступе ў аўдыторыі жодзінскіх школьнікаў, ці ведаюць яны, хто такі Багуслаў Радзівіл, і пабачыў, што называецца, лес рук!

Фотарэпарцёр Сяржук Гудзілін сфатаграфаваў і размясціў на сайце газеты “Наша Ніва” графіці на паркане пры жодзінскім гарадскім стадыёне. З яго вынікае, што футбольныя заўзятары каманды “Тарпеда-БелАЗ” ахвотна і горда імянуюцца “багуслаўцамі”. І праўда, мецъ за прашчура князя Багуслава Радзівіла, які быў у сваяцтве з многімі еўрапейскімі каранаванымі асобамі, а з ім і 370-гадовую гісторыю, куды больш пачэсна, чым 65-гадовую гісторыю пралетарыяў-прыхадняў.

Пра старадаўнюю гісторыю, а ў тым ліку і гісторыю Жодзіна, можна было гаварыць з колішнім старшынёю гарвыканкама Васілём Грышчанкам, можа і праз тое, што папрацаваў ён і ў Нясвіжы, дзе нельга было не прасякнуцца беларушчынай.

На вялікі жаль, цяперашні “граданачальнік” ёсць тыповы homo soveticus, які жыве старымі ўяўленнямі і ведамі пра Жодзіна. Натуральна, на пасаду ён прызначаны, а не абраны дэмакратычна. Перад гэтым паспеў пасядзець у чыноўніцкіх крэслах у Лагойску, Карэлічах, Браславе, Дзяржынску…

Увосень плануе ён адсвяткаваць 65-годдзе Беларускага аўтазавода і… 50-годдзе горада! Няўжо аўтамабілебудаўнікі-белазаўцы пятнаццаць гадоў жылі ў чыстым полі?! І як можна святкаваць гэта пасля таго, як гісторыкі і краязнаўцы пераканаўча, з дакументамі ў руках давялі, што век паселішча – у сем з лішкам разоў большы! А адзначаць дату, калі гораду рашэннем Савета міністраў БССР надалі статус горада абласнога падпарадкавання, за дату ягонага нараджэння – гэта прафанацыя гісторыі і поўны абсурд!

Таму ня дзівіць, але моцна засмучае, што ў школах занядбаны факультатыў жодзіназнаўства, што пра Другія Радзівілаўскія чытанні ва ўладных кабінетах ня хочуць і слухаць. Канца краю не відно рэмонту будынка краязнаўчага музея, бясконца таўчэцца вада ў ступе наконт гарадской карціннай галерэі.

Затое плануе мэр ачысціць, паглыбіць і выпрастаць(!) рэчышча Жодзінкі, якую з XVII стагоддзя імянуюць яшчэ і Жодыняй. (Лепш бы зладзіў масток праз рачулку паміж вуліцамі Партызанскай і Багуслаў Поле!) Рэчка жыве па сваіх законах, і нельга выпростваць яе, ператвараць у канаву! Ваданосныя слаі – гэта тонкая і далікатная матэрыя, няможна сунуцца на яе з экскаватарам! Жодзінцы ведаюць, што пасля таго, як закулі ў жалезабетон крыніцу па-за плацінаю водасховішча на Плісе, тая ледзь ледзь ліпее.

Але мэр упэўнены, што ягонае меркаванне апрыёры ёсць адзіна правільным на падуладнай яму тэрыторыі нават у дачыненні да жыцця духоўнага! Пастару Царквы “Дом Божы” Аляксандру Шавякову ён наўпрост заяўляе, што ягоная царква – гэта прытон. Маўляў, існуюць

толькі дзве царквы ─ праваслаўная і каталіцкая, а астатнія ня маюць права існаваць. Але куды падзецца ў такім разе грэка-каталікам, пратэстантам, іўдзеям, мусульманам?!

Як да Бога далёка вертыкальшчыку да Вальтэраўскага: “Я не падзяляю Вашага пункту погляду, але гатовы аддаць жыццё за Вашу магчымасць выказваць яго!”

Няўжо і ён, дачаснік, лічыць свайго сюзерэна вышэйшым за Бога, няўжо не баіцца праз тое і суда Божага?!

*На Радаўніцу,*
*14 траўня 2013 года*

**Андэрсенаў Прэсбург**

Экскурсаводы дый іншыя жыхары славацкай сталіцы, якая гістарычна была цэнтрам аўстрыйскай, вугорскай, габрэйскай, нямецкай, славацкай і чэшскай культур, сёння ахвотна расказваюць сваім гасцям гісторыю пра Ханса Крысціяна Андэрсена (Hans Christian Andersen,1805–1875). Вялікі празаік, паэт і драматург наведаў Прэсбург (Pressburg*)*, як тады на нямецкі лад іменавалася Брацiслава (Bratislava; Prešporok/Prešporek*)*, у 1841 годзе. Калі ў пісьменніка спыталіся, ці не напіша ён пра горад у сваіх чароўных казках, той адказаў, што паэтызаваць і апяваць горад на Дунаі няма патрэбы, бо ён ужо сам сабою казачны і рамантычны.

Агульнавядома таксама, што Андэрсен страшэнна абураўся, калі чуў, што нібыта піша казкі дзецям. Ён лічыў, што шмат карыснага і павучальнага могуць расчытаць у іх як у Біблійных прыпавесцях і дарослыя.

З гэтае прычыны ці таму, што сам ён аніколі ня быў жанаты і ня меў сваіх дзяцей, Андэрсен распарадзіўся, каб на ягоным помніку ─ першапачаткова выяве ў атачэнні дзяцей ─ не было аніводнага дзіцяці.

Калі меркаваць па ўсталяваных скульптурных помніках, дык найболей шануюць творчасць мегазоркі-казачніка славакі і амерыканцы, якія паставілі помнікі ў Брацiславе і ў Нью-Ёрку адпаведна. Ну і, натуральна, датчане, бо манумент “Русалачка” ў Капенгагене адназначна ўслаўляе іх суайчынніка. (Дарэчы, якраз у позе скульптурнай Русалачкі пачынала свой выступ дацкая спявачка Эмілі дэ Форэст, якая бліскуча выйграла сёлета песенны конкурс “Еўрабачанне”).

Гучаць галасы несмяротных герояў Ханса Крысціяна Андэрсена і па-беларуску. Гучаць са старонак кніжак і на сайце перакладной літаратуры, з аўдыёкніг “Анёл”, “Калядная быль” і “Дзікія лебедзі”, а таксама са сцэны Купалаўскага тэатра ў спектаклі “Лістапад. Андэрсен” з кампутарнай анімацыяй і фрагментамі кіно.

Дзень нараджэння вялікага дацкага пісьменніка 2 красавіка адзначаецца як Міжнародны дзень дзіцячай кнігі. Найпрэстыжнейшая прэмія для пісьменнікаў і мастакоў у галіне дзіцячай літаратуры носіць ягонае імя і нефармальна імянуецца “Нобелеўскай прэміяй у дзіцячай літаратуры”. Хай сабе покуль што беларускія творцы не сталіся яе лаўрэатамі, але

Міжнародны ганаровы дыплом, які ў 1986 годзе атрымала за кнігу вершаў і перакладаў “На двары алімпіяда” Эдзі Агняцвет, абнадзейвае.

А мяне штодня вітае ў перадпакоі Андэрсенаў Прэсбург — копія старадаўняй гравюры. Гэта прэзент даўняга сябра Яна Коваля, які пазалетась падарыў мне і некалькі незабыўных казачных дзён у Аўстрыі і ў Славаччыне.

*19 траўня 2013 года*

## Лысіну на плеш не змяняеш

Чапляе, рэжа вока новамодная завядзёнка ў перыёдыцы — дзіўным чынам выкадроўваць фотапартрэты аўтараў, зразаць верхнюю і ніжнюю часткі твараў.

Пытаўся пра гэта ў рэдактара тоўстага часопіса і атрымаў адказ: маўляў, самае галоўнае, самае выразнае на твары — гэта вочы.

Ня стаў спрачацца, але, упэўны, што выявы інака Мікалая (паэта Зьніча — Алега Бембеля) і мастака Уладзіміра Пракапцова будуць няпоўныя без клабука і шырокай барады дый кучаравай шавялюры адпаведна.

А пазней заўважыў, што некаторыя з рэдактараў і дызайнераў і самі не вызначаюцца багатай расліннасцю на галовах!

Сумняваўся быў гэтаксама і наконт таго, як пазначаюць аўтарства фотаздымкаў. Лічыў і лічу непрымальным, калі на абароце тытула ці на апошняй старонцы пішацца: “У нумары выкарыстаны фотаздымкі…” і далей гамузам падаецца пералік імёнаў фатографаў. Нікому ж не прыходзіць у галаў напісаць: ”У нумары выкарыстаны раманы, вершы, паэмы, эсэ, артыкулы…” і падаць следам спіс літаратараў!

Наўрад ці слушныя падобныя спісы і таму, што адзін фатограф здымаў у камфортных умовах студыі, а другі рызыкаваў ня толькі сваёй апаратурай, але і здароўем ці нават жыццём, адзін шчоўкаў падчас дамоўленай фотасесіі, а другі падлавіў каштоўны кадр як папарацы, адзін падаў “сырэц”, а другі апрацаваў выяву ў “фоташопе”. Кожны творца мусіць адказваць за сваё, зробленае менавіта ім.

Таму найлепей даваць подпіс да кожнага канкрэтнага здымка, а калі ўжо зусім нявыкрутка, дык спіс можна ўдасканаліць — пазначыць старонкі: “У нумары скарыстаныя здымкі Віталя Гіля (с.154–156), Юрыя Дзядзінкіна (с.9, 11), Уладзіміра Кармілкіна (с.14), Уладзіміра Крука (с.29, 105), Сяргея Шапрана (с.120—122), Яўгена Коктыша (с.150–153) і Яўгена Шатохіна (с. 310, 314)”.

Зразумела, некаторыя фота бывае ідэнтыфікаваць нялёгка. Але і тут можна падаслаць саломкі, пазначыць іх: “Фота з архіва часопіса”, чым падаваць зусім безыменнымі.

А на сайце адной з радыёстанцый агледзеў вельмі тактоўны подпіс “Courtesy photo”, што азначае “Здымак ласкава прадастаўлены”.

Калі сам аддаю фоткі на сайты ці ў друкаваныя выданні, дык падпісваю іх як мага падрабязней — хто зняты, у якім месцы і калі шчоўкнуў затвор.

Асабліва дбайна стараюся пазначаць аўтарства, калі гэта не мае асабістыя фоткі, а з майго архіва: раптам ня будзе мажлівасці іх аплаціць, дык хоць паспрыяю, каб захавалася аўтарскае права на імя.

Але, як у кожным з правілаў, і тут ёсць выключэнні — гэта калі сам фатограф просіць не пазначаць ягонае імя ці хоча скарыстаць псеўданім. Да прыкладу, калі лічыць, што ў нумары зашмат ягоных матэрыялаў, калі да ягоных падпрацовак раўніва ставіцца асноўны працадаўца альбо кантрактам увогуле не ўхваляецца супрацоўнічаць з іншымі выданнямі.

Але ёсць і пытанне, якім чынам падпісваць фота. Малапрымальным бачыцца, калі імя майстра накладаецца проста на ягоны здымак. Наўрад ці хто насмеліцца падпісваць падобным чынам рэпрадукцыю з мастацкага палатна! Ёсць жа цяпер тэхнічная мажлівасць прабіць імя аўтара ці інфармацыйнага агенцтва хаця б дробным кеглем па вертыкалі, збоку здымка.

* * *

Але множацца і сімпатычныя тэндэнцыі.

Літаратурны дадатак да штотыднёвай газеты стаў падаваць ня толькі галовы, але і паясныя партрэты, а часам і сітуатыўныя, сюжэтныя фота. З прыходам маладога мастацкага рэдактара Дар'і Б. Літаратурна-мастацкі часопіс пайшоў яшчэ далей — стаў змяшчаць і палосныя, на ўсю старонку фота. Прыемна, калі не баяцца рэдактары ставіць не "зашпіленыя на ўсе гузікі", а адкрытыя, усмешлівыя ці нават "хуліганістыя" здымкі.

Добра, калі разумеюць, што часам аўтару выгодна папазіраваць знакамітасці, асабліва калі даць ёй на колькі мінут свой фотаапарат ці мабільнік з уманціраванай у яго камерай. Гэта амаль тое самае, як сфатаграфавацца поруч з самой знакамітасцю.

Мабыць, схітраваў Сяргей Панізьнік, калі быў яшчэ курсантам Львоўскай вайскова-палітычнай вучэльні. Папрасіў класіка, каб той націснуў на спуск ягонага фотаапарата, а з таго часу ахвотна публікуе здымак, дзе ён у вайсковай форме, з подпісам "Фота Івана Мележа".

Блогера, радыёжурналіста і паэта Міхася Скоблу фатаграфавалі дзясяткі, калі ня сотні разоў, але ў сваёй кнізе гутарак "Вольная студыя" змясціў ён фотаздымак, зроблены фактычна першым прэзідэнтам незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам!

*10 чэрвеня 2013 года*

## Гуманнае свята

Трэцяй нядзеляй чэрвеня дачка Алеся, якая цяпер у Нью-Ёрку, эсэмэскай, а потым і па скайпе павіншавала з Татавым днём, паабяцала перадаць прынагодна прэзент, падзякавала за апалую восеньскую лістоту, якой разам шапацелі ў дзіцячым парку, за належнае (паводле яе слоў) выхаванне і за шчаслівае дзяцінства. Аказваецца, ёсць у амерыканцаў, у

адрозненні ад нашых — пераважна мілітарных і прасавецкіх — і такое гуманнае свята як Father’s Day.

Упершыню адзначалі яго больш за сто гадоў таму, 19 чэрвеня 1910 года, а ініцыяткай гэтага фэста лічаць Санору Смарт Дод з горада Спокана (Spokane), што ў штаце Вашынгтон. Такім чынам жанчына хацела выказаць невымерную ўдзячнасць свайму татку, Уільяму Джэксану Смарту і ўсім амерыканцам, якія старанна выхоўваюць дзетак. Ягоная жонка памерла, калі нараджала шостае дзіця, але бацька-адзіночка выхаваў на сваёй ферме і тое немаўлятка, і пяць старэйшых за яго дзетак.

Але прыхільнікам свята давялося яшчэ больш за паўстагоддзя пераадольваць супраціў кангрэсменаў, якія лічылі, што свята лабіруюць гандляры, якія хочуць на ім нажыцца. Агульнанацыянальным фэстам гэты дзень стаўся толькі ў 1966 годзе, калі прэзідэнт Ліндан Джонсан абвясціў трэцюю нядзелю чэрвеня нацыянальным святам. Падчас штогадовых урачыстасцей дзяржава, царква і простыя грамадзяне традыцыйна аказваюць падтрымку бацькам з невысокімі прыбыткамі, якія самі выхоўваюць дзяцей.

З цягам часу і іншыя краіны, якія абвяшчаюць, што цэняць сямейныя каштоўнасці, сталі адзначаць гэты дзень і ўшаноўваць мужчын-бацькоў. Сярод іх — Аргенціна, Вялікабрытанія, Канада, Кітай, Куба, Ізраіль, Індыя, Ірландыя, Мексіка, Нідэрланды, Паўднёвая Афрыка, Славакія, Францыя, Чэхія, Швейцарыя, Японія і многія іншыя. У некаторых краінах свята гэтае таксама адзначаюць у першым летнім месяцы: у першую нядзелю — у Літве, а ў другую — у Бельгіі. У арабскіх краінах — Іярданіі, Ліване, Палестыне, Сірыі, Ягіпце мужчын віншуюць 21-га чэрвеня, у дзень летняга сонцастаяння і першы дзень лета паводле іх календара, а 23-га чысла — у суседняй з намі Польшчы. У раманскамоўных Італіі, Іспаніі дый Партугаліі бацькоў-мужчын вітаюць 19 сакавіка, а ў краінах Балтыі Нарвегіі, Фінляндыі, Швецыі, Эстоніі, а таксама ў Ісландыі — у другую нядзелю лістапада…

А што ў нас?

Відавочная дыскрымінацыя… мужчын! Дзень міжнароднай салідарнасці жанчын 8 Сакавіка — чырвоны дзень календара, дзень непрацоўны. А вось быццам бы і існы ў Беларусі Матчын дзень мінаецца фактычна незаўважным ці то 13 красавіка, ці то 14 кастрычніка.

Але нават нібыта мужчынскі дзень 23 лютага не парупіліся вылучыць у календары чырвоным колерам, зрабіць выходным тыя, каму так да душы саўковыя традыцыі.

Дагэтуль культывуецца іх заганная традыцыя віншаваць мужчын, найперш як ваяроў і абаронцаў, у лютым. А між тым хлуслівае вайсковае свята ня мае да Беларусі аніякіх адносінаў. Па-першае, незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі была абвешчана патрыётамі толькі 25 сакавіка 1918 года. Па-другое, лютаўскімі днямі таго года кайзераўскія войскі пераможна наступалі і на расейскую сталіцу, захоплівалі ўсё новыя тэрыторыі. А яшчэ пазней, каб утрымаць сваю уладу ў Расеі, бальшавікі

адкупаліся ад немцаў гіганцкімі рэпарацыямі і землямі на ўскраінах былой імперыі, а ў тым ліку і беларускімі!

З задавальненнем прыняў доччыны віншаванні з найперш амерыканскім святам, бо імаверная ўрачыстасць з такім найменнем успрымалася б сёння ў Беларусі як трагікамічная і двухсэнсавая. Мімаволі асацыіраваўся б Дзень бацькі з мянушкамі і эўфемізмамі на адрас адной асобы — ЛукАлРыг, ППРБ, Генералісімус, Галоўны хакеіст, Залатавуст, які сваю краіну за цывілізаваным светам не павядзе, Бацька-адзіночка і проста Бацька.

Сёлета запабег наперад цягніка мінскі дзіцячы парк імя М. Горкага — наладзіў Татаў дзень, які прысвяціў… Міжнароднаму дню бацькі! Але пры заўсёднай любові і бясконцай павазе да тае ўстановы мушу зазначыць, што мімаволі згадаліся заакіянскія гандляры, якіх апасаліся кангрэсмены, бо запрашаў парк на… няіснае свята!

З задавальненнем перадам ад Алесі эстафету віншаванняў тым сябрам і знаёмцам, якіх лічу ўзорнымі бацькамі, і не толькі ў Беларусі!

*16 чэрвеня 2013 года*

## «Нам не дано предугадать, Как слово наше отзовется…»

Найвялікшага дацкага літаратара Ханса Крысціяна Андэрсена спецыялісты-філолагі ведаюць і як паэта, і як празаіка, і як драматурга. Але чытачы ва ўсім свеце, як дарослыя, так і дзеці, ведаюць і цэняць яго найперш як казачніка. Хто ні чытаў або ні слухаў такія ягоныя шэдэўры як “Брыдкае качаня”, “Дзікія лебедзі”, “Дзяўчынка, якая наступіла на хлеб”, “Дзюймовачка”, “Новая каралёва світка”, “Прынцэса на гароху”, “Русалачка” ці “Снежная каралева”?! Гучаць яны і сёння, да прыкладу, у ньюёркскім Цэнтрал-парку каля помніка пісьменніку.

Але сам Андэрсен недалюбліваў і недаацэньваў казкі, якія прынеслі яму заслужаную славу, марна стараўся праславіцца як раманіст і аўтар п’ес. Больш за тое, менавіта дзякуючы сваім казкам пісьменнік стаўся ці не самым знаным у свеце датчанінам. Поруч з Андэрсенам можа стаць хіба што паўлегендарны, услаўлены якраз драматычным талентам Уільяма Шэкспіра (William Shakespeare, 1564–1616), Гамлет, прынц дацкі.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

Ірландзец паводле нацыянальнасці, шатландзец паводле месца нараджэння, брытанец паводле выхавання – англійскі празаік, драматург, паэт і публіцыст Артур Конан Дойл (Sir Arthur Ignatius Conan Doyle, 1859–1930) выдаў тры кнігі паэзіі, некалькі гістарычных і прыгодніцкіх раманаў, тамы аўтабіяграфічных нарысаў, філасофскія творы, напісаў паўдзесятка п’ес, ахвотна працаваў у новым на той час жанры навуковай фантастыкі (“Прыхаваны свет” пра таямнічае плато з дапатопнымі яшчарамі пасярод Амазонскай сельвы, “Маракотава бездань” пра Атлантыду, якая апусцілася на акеанічнае дно). Ён здолеў стварыць запамінальныя вобразы пірата Шаркі, няўрымслівага прафесара Чэленджара, брыгадзіра напалеонаўскага

войска Жэрара.

Але ніводзін з ягоных герояў не быў  настолькі папулярны як прыватны дэтэктыў Шэрлак Холмс (Sherlock Holmes) – ад “Эцюда ў барвовых танах” (1888) да “Архіва Шэрлака Холмса” (1927). Дзякуючы сваім творам Артур Конан Дойл стаўся ня толькі знаным ва ўсім свеце літаратарам, якому наследавалі многія дэтэктыўшчыкі, але і выперадзіў некаторыя прыёмы і методыкі ў крыміналістыцы. Да свайго героя аўтар ставіўся досыць скептычна і нават “забіў” яго ў двубоі з каралём злачыннага свету прафесарам Марыярці. Аднак праз дзесяць гадоў Дойл вымушаны быў “уваскрасіць” Шэрлака Холмса, які неверагодна палюбіўся чытачам.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

Беларускі пісьменнік Алесь Якімовіч (1904–1979) пісаў пераважна для дзяцей. Ён выдаў некалькі кніжак вершаў і апавяданняў, літаратурныя казкі ў вершах і ў прозе “Каваль Вярнідуб”, чытэльныя аповесці “Адкуль ліха на свеце”, “Канец сервітуту”, “Кастусь Каліноўскі” і “Цяжкі год”, быў аўтарам падручнікаў і складальнікам чытанак, выступаў і як перакладчык.

Але наўрад ці мог ён уявіць, што самымі запатрабаванымі з ягонай творчай спадчыны, надрукаванымі мільённымі накладамі акажуцца… апрацоўкі беларускіх народных казак.

“Каток – залаты лабок” (1955), “Бацькаў дар” (1957), “З рога ўсяго многа” (1959), “Андрэй за ўсіх мудрэй” (1983) – ад сярэдзіны пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя і да сённяшніх дзён зборнікі казак менавіта ў ягоных перастварэннях выходзяць з зайздроснай рэгулярнасцю.

Нявызнаныя шляхі Божыя!

*Дзень летняга сонцавароту 2013 года*

## The are more things…

З электроннай рассылкі атрымаў ліст Анатоля Сідарэвіча, які пазіцыянуе сябе як публіцыста, літаратурнага крытыка, гісторыка, а таксама крытыка камуністычнай ідэалогіі:

“З жніўня

Пішу, працягваю пісаць успаміны пра Адамовіча. І раптам вельмі захацелася пазваніць ягонай дачцэ, Наталлі. Размаўляем, і я дазнаюся, што сёння сапраўдны, а не пашпартны дзень нараджэння Алеся Міхайлавіча. У дадатак высветлілася, што Наталля сёння на радзіме Алеся Міхайлавіча, у Глушы, толькі што пабывала на бацькавай магіле. Містыка! Чаму менавіта сёння захацелася ўзяцца за стары адкладзены тэкст? Чаму менавіта сёння захацелася патэлефанаваць Наталлі?”

Адказаў спадару Анатолю цытатаю з класіка ў сваім перакладзе:

The are more things in heaven and earth, Horatio,
Then are dreamt of in your philosophy.
William Shakespeare. *Hamlet*
Шмат рэчаў ёсць на свеце, мой Гарацыё,

Што і не сняцца нашым мудрацам!
Уільям Шэкспір. *Гамлет*

Дадаў таксама, што з задавальненнем згадваю колішнюю аўтобусную паездку ў Глушу, куды запрасіла Наталля Адамовіч, і пра якую нагадваюць мне найперш архіўныя фотаздымкі. Наведалі тады з Вольгай Іпатавай, Валянцінам Тарасам, Сяргеем Законнікавым і іншымі калегамі-літаратарамі магілы Алеся Міхайлавіча і ягоных сваякоў, пабылі ў бацькоўскім доме класіка і пры зачыненай аптэцы, якую меркавалася пераабсталяваць пад мемарыяльны музей, выступілі на вечарыне ў Доме культуры.

Сеў пераглядаць свае даўнія запісы і неверагодным чынам натрапіў на сваю містычную згадку.

Аніколі не было ні раней, ні пасля, каб у офісе па маім працоўным стале паўзла маленькая, але не чырвона-чорная, а шэрая, з сямю жоўтымі кропачкамі багоўка. У большасці еўрапейскіх моў гэты сімпатычны і карысны людзям жучок імянуецца як Божая жывёліна. У англамоўных краінах завуць яго Ladybird, Lady Beetle, Ladybug, дзе Lady атаясамліваецца з Дзевай Марыяй, а таму літаральна перакладаецца як птушка ці жук Дзевы Марыі. Мабыць, таму і лічыцца, што забіваць багоўку нельга ні ў якім разе.

Толькі выпусціў яе ў акно, як пачуў званок дамафона.

Завітаў Уладзя Арлоў, які прынёс і падпісаў мне кніжку заакіянскіх падарожных нататак і эсэ “Божая кароўка з пятай авеню”! Але і на тым дзівосы ня скончыліся! Аказваецца, Уладзя парэкамендаваў і мяне дэлегатам на міжнародную канферэнцыю па дзіцячай культуры і літаратуры краін Балтыйскага рэгіёну, бо дэбютаваў я ў выдавецтве “Юнацтва” кнігаю апавяданняў і п’ес “Гульня ў тастамант”, прапрацаваў шэсць гадоў у часопісе для дзяцей і падлеткаў “Бярозка” дый як выдавец і складальнік спрычыніўся да тузіна дзіцячых арыгінальных і перакладных тамоў, да чытанак і хрэстаматый.

Не мінулася і чвэрць гадзіны, як сышоў мой цёзка, як патэлефанавала Лена Пастарнак, дырэктарка і добрая фея Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў, што ў горадзе Вісбі на шведскай выспе Готланд, і афіцыйна запрасіла на канферэнцыю!

Мажліва перакажу пра тое спадару Сідарэвічу як алаверды на ягоны мэсыдж:

“7 жніўня

Дзякуй за Ваш ліст. Вярнуўшыся 1 верасня з адпачынку, я пастараюся даць на яго адказ.”

Можа, напішу яму і пра іншую містычную праяву.

Здаецца, нямала сіл і часу паклаў, каб папулярызаваць асобу дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, мецэната, фактычнага заснавальніка майго роднага Жодзіна князя Багуслава Радзівіла.

На мастацкай выставе “Millennium” пабачыў быў бюст князя Багуслава, які стварыў Аляксандар Бацьвінёнак, і напрасіўся да скульптара ў май-

стэрню. Там ён прызнаўся, што ствараў вобраз нашага славутага суайчынніка, памятаючы і пра бюст французскага караля Людовіка XIV, аўтар якога – найвыбітнейшы скульптар і дойлід італьянскага барока Джавані Ларэнца Бярніні. Пагадзіўся, што было гэта цалкам абгрунтавана. Папершае, “кароль-сонца” быў у далёкім, але ўсё ж сваяцтве з нашым славутым земляком, а праз тое ласкава прымаў яго ў Вярсалі. А па-другое, Джавані Бярніні і Багуслаў Радзівіл былі сучаснікамі. Яны нават маглі перастрэцца, але Багуславаў дзядзька, выхавацель і апякун Януш Радзівіл наказаў пляменніку як заўзятаму падарожніку наведваць толькі пратэстанцкія краіны. А Італія, і тым болей Ватыкан, дзе пераважна жыў і працаваў Бярніні, былі і ёсць краінамі каталіцкімі.

Аказалася, што і ў Аляксандра Бацьвінёнка ў Жодзіне жывуць сваякі. Больш за тое, князеў бюст разглядаў ён як праект помніка заснавальніку горада і нават распрацаваў архітэктурную прывязку да плошчы з будынкам былога гарсавета, а цяпер краязнаўчага музея.

Перайшлі былі на зусім ужо прыватныя рэчы, і я сказаў, што ўсцешаны тым, што, як і князь Багуслаў, нарадзіўся 3 траўня.

Скульптар моўчкі выцягнуў з нагруднай кішэні свой пашпарт, у якім за дату нараджэння гэтаксама значылася 3 траўня!

Хіба не містыка – гэткае неверагоднае супадзенне?!

*7 жніўня, 14 верасня 2013 года*

## Новая дзяржава

Гэта цалкам верагодна праз год ці крыху болей.

На 2014 год запланаваны рэферэндум у Каталоніі (Catalunya), у выніку якога аўтаномная вобласць можа стацца незалежнай і выйсьці са складу Іспаніі.

Трагічным каталонцам стаў 1714 год, калі Каталона-Арагонская Карона страціла палітычную і юрыдычную незалежнасць, а іспанскі пасад заняў кароль Філіп V.

За незалежнасць (independencia) каталонцы, якія здавён лічаць сябе нацыяй, асобнай ад іспанцаў, змагаюцца амаль трыста гадоў, і маюць на гэта ўсе падставы. Каталонія – самы эканамічна развіты рэгіён Іспаніі, у ім самая высокая шчыльнасць насельніцтва. Сем з паловаю мільёнаў яе жыхароў складаюць шаснаццаць адсоткаў насельніцтва краіны, ды выпрабляюць яны дваццаць тры адсоткі валавога нацыянальнага прадукту, а валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва там амаль такі самы як у Нямеччыне! У сельскай гаспадарцы занятыя ўсяго два адсоткі працоўных, затое шасцьдзесят чатыры (!) маюць занятак у сферы абслугоўвання пераважна на пяцістах восьмідзесяці кіламетрах міжземнаморскага ўзбярэжжа з выдатнымі пляжамі! Ганарацца каталонцы сваёй каталанскай моваю, якая пры каўдзільё Франсіска Франка Баамондэ ледзь ня знікла з ужытку, але пасля таго як дыктатуру зрынулі, імкліва адрадзілася. Ганарацца сваёй культурнай адметнасцю і такімі сусветна вядомымі

асобамі, як дойлід Антоніа Гаўдзі, мастакі Сальвадор Далі і Жаан Міро, оперныя спевакі Мансерат Кабалье і Жазэп Карэрас, футбалісты легендарнай “Барсы” Віктор Вальдэс, Эрнандэс Хаві, Херар Піке…

У апошнія гады ў Барселоне на маніфестацыі пад лозунгамі “Каталонія – не Іспанія!”, “Каталонія – новая дзяржава Еўропы!” выходзяць па паўтары мільёны чалавек, што нават уявіць цяжка!

Сёлета каталонцы перанялі акцыю прыбалтаў, якія галасавалі напрыканцы васьмідзесятых за выхад з Савецкага Саюза, – чатырыста тысяч чалавек выцягнуліся ў жывы ланцуг праз усю аўтаномію, праз восемдзесят шэсць гарадоў і мястэчак, ад Валенсіі да Францыі! Акцыя пачалася ў 17.14, і такім чынам нацыя згадала трагічны ёй год.

“Independencia!”, “Adéu, Espaya!”, “Goodbye, Spain!” – такія надпісыграфіці на свае вочы няраз бачыў я на платах і будынках у Барселоне, у Січэзе і ў Фігерасе.

Каталонцы ня проста жадаюць, яны неўтаймоўна прагнуць незалежнасці. І, несумненна, вырвуцца з хцівых імперскіх абдымкаў, мірным і цывілізаваным шляхам дамогуцца свайго!

*11 верасня 2013 года*

**Гэтае салодкае слова – свабода!**

Прынеслі мне з крамы “Белсаюздруку” паўтузіна паштовак са сталічнымі краявідамі. Панаклейваў маркі ці, як кажуць паштавікі сваім груваcткім канцылярытам, знакаў паштовай аплаты.

Адну з іх, з відарысам пляца Волі, сфатаграфаваным Сяргеем Плыткевічам з вышыні птушынага палёту, закарцела падпісаць і адправіць Алесю Бяляцкаму да дня народзінаў наўздагон той, што нырцанула ў сінюю скрынку заўчора. У Велікодны сонечны кадр спрактыкаванага майстра патрапілі і менская ратуша, і галоўныя беларускія хрысціянскія храмы, і касцёл святога Язэпа, і кансерваторыя, і гатэль “Еўропа”, і грузінская амбасада пад бела-чырвоным сцягам з пяццю крыжамі…

Падумалася, што, мабыць, у папраўчай калоніі №2 у Бабруйску цэнзару, які ўдзельнічае ў нібыта выпраўленні і выхаванні пісьменніка, праваабаронцы, наміната Нобелеўскай прэміі міру, таксама спадабаецца гэтая прыгожая еўрапейская плошча. Ці, можа, ненавісныя яму нават самі словы “свабода” і “птушыны палёт”?! І хто ён сам – інтэлігент ці вайсковец, гадаванец Львоўскай вышэйшай вайскова-палітычнай вучэльні ці выпускнік аддзялення рускай філалогіі педуніверсітэта? І ці салодкае гэтае слова на смак яму? Ці, можа, горшае за чорную рэдзьку? А можа, заядае ён кожнае дзяжурства заварнымі пірожнымі ці бланманжэ? Або наадварот, запівае “хрушчовікам” пярцоўкі?

Спрактыкаваная ў ліставанні Тамара М. раіла пісаць у месцы зняволення простыя словы пра самыя простыя рэчы, бо калі толькі хаця б што-небудзь насцярожыць цэнзара, дык паштоўка неадменна паляціць у сметніцу.

Апошнім часам, як Алесь быў на волі, дык нярэдка сустракаўся з ім на плошчы Перамогі, бо непадалёк ад яе ён жыў, а я працаваў. Ці наадварот, перакрыжоўваліся пры “Акадэмкнізе”, бо ягоны офіс мясціўся ў двары, дзе жыву я.

На адной з ранейшых паштовак з выяваю плошчы Перамогі развітваўся словамі “Да сустрэчы на плошчы Перамогі!”, а таму сумняваюся, што патрапіла яна да бабруйскага нявольніка, бо не атрымаў на яе адказу.

Яшчэ больш балюча было пісаць яму ў калонію №8 (нібыта ў маім родным горадзе з дзясятак тых калоній!), бо зусім не гасцінна прымаў яго Жодзіна.

Чамусьці згадаўся даўні палітычны дэтэктыў – кінафільм Вітаўтаса Жалакявічуса “Гэтае салодкае слова – свабода!” Вязні ў ім патрапілі на свабоду, а можа і таму верыцца, што хутка мінецца патрэба ліставацца, што зноў увачавідкі будзем бачыцца на пляцы Волі, на плошчы Перамогі, на іншых вольных пляцах, бульварах, вуліцах і праспектах!

*23 верасня 2013 года*



***

На радзіме – ўсё радзімае,
На радзіме – усё мілей.
Нават птушачка – шэранька-шэрая,
Верабеечка-верабей.

Да куста свайго шчыра туліцца,
Зашываецца пад страху.
Там гняздзечка яго ад вуліцы
Грэе дзетачак ўсю зіму.

«Так и люди, и где зродилися…»
Рук ад клямкі не адарваць,
І гняздзечка сваё ад вуліцы
Ратаваць будуць, ратаваць!

## ЛЯ ПОМНІКА ІЛЬІЧУ Ў БРЭСЦЕ

Гэта так рамантычна:
Прызначыць сустрэчу
Ля помніка Леніну…
Змерзнуць там ў чаканні,
Пакуль на сустрэчу з’явішся ты.
Холадам вее магільным
Ад бронзавай постаці важнай.
Гэта так рамантычна: я і Ільіч.
Што яму? Ён у баціначках фінскіх,
На тоўстай падэшве маржовай.
Я ж стыпендыю бухнуў,
У “дружбу” уклаўся ўвесь…

Гэта так рамантычна:
Сустрэцца з таварышам Леніным
У час, калі не павінна быць
Ніякіх сустрэч.

## БЕЛАРУСЫ

Панура і маўкліва
Ідуць-цягнуцца яны
На свой старажытны пасад,
Абмацваюць векавыя сцены.
Няўцямныя: ці гэта векавечнае
Сваё, наша?
І, відаць, не дайшлі б ніколі,
Каб толькі паэты,
Згараючы, як паходні,
Не асвятлялі б ім
Шлях наперад.

***

Любові няма. Яна памерла…
Я больш нікога не люблю.
Ты ўся, нібы царква на Нерлі,
Належыш Богу аднаму.

І недаступная такая,
Дзіця нябёсаў і вады,
Так блізка к сэрцу падступаеш,
Каб развітацца назаўжды.



У 2014 годзе споўнілася

**70 гадоў Янку Целушэцкаму**
**55 гадоў Міхасю Андрасюку**

Сардэчна віншуем
нашых калегаў!

Управа БЛА "Белавежа"

# СПАДЧЫНА

**Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ**
пераклаў
УЛАДЗІМІР МАРХЕЛЬ

## Першыя думкі
## ў дзень Уваскрасення

У нас двое крылаў цяпер прамяністых,
Над намі шчэ ёсць надпаветраны край...
О, Сонейка наша, Збавіцель наш Хрыстэ!
Арлінаю сілу вачам нашым дай!

А там, на прасторах шырокага неба,
Імгла ёсць і хмары, і віхар там дзьме:
Ды пільнае вока ў палёце нам трэба,
Каб Сонейка мы не згубілі ў імгле...

**Janka KUPAŁA**
przełożył
Aleksander Barszczewski

# ONA I JA
**(Яна і я. Рамантычная паэма)**

**Spotkanie**

Spotkałem ją na szlaków skrzyżowaniu,
Byliśmy dziećmi gorzkiej samotności,
Wabiły nas tajemne w krąg wołania
I ścieżek sieć wzywała ku przyszłości.

Biedni wędrowcy w mroku zabłąkani,
Ciężkim brzemieniem na wskroś przygnieceni.
Nam spadł na serce wątpliwości kamień,
Szukaliśmy otuchy w głosach ziemi.

I coś tajemne, i coś niewiadome,
Co nas oplotło skrzydłem swym potężnym,
Szeptało mnie: weź właśnie ją za żonę,
Szeptało jej: weź właśnie go za męża.

I ręce nasze na zawsze złączyło,
Błogosławiło i nadzieję dało,
I w lesie tym zakwitła nagle miłość,
Która nie gaśnie, nie przekwita wcale.

I druhny sosny "sto lat" odśpiewały,
A echa "gorzko" zawołały wokół.
Ona odziana była we mgłę białą,
A ja we frak uszyty z gęstych mroków.

Ten ślub od rzeczy złych nas zabezpieczał,
Zaklęcia ludzkie w stanie był obalić,
Siłę żywiołów umiał on zniweczyć
I nawet śmierć potrafił precz oddalić.

O, jakże piękne było zwiastowanie,
Mrok nocy wydał się obszarem modrym,
Prysnęło wreszcie to oczarowanie,
Stanęliśmy twarz w twarz ze złym i dobrym.

Ruszyliśmy z nadzieją w las przed siebie,
Tak idąc na spotkanie z własnym losem.
Dojrzeliśmy przewodnią gwiazdę w niebie,
Zwabiły nas przyjazne boru głosy.

**W chacie**

W mej chacie stań się odtąd gospodynią
I wiedz, że tylko tyś bogactwem moim.
Siądź pod ikoną, jesteś mą boginią,
Pomyślmy teraz o przyszłości swojej.

Mój skromny dom do ciebie się uśmiecha,
Wysiłkiem bardzo ciężkim go wznosiłem;
Fundament, ściany i słomianą strzechę –
Wszystko me ręce twarde wypieściły.

Widzisz, tureckich nie ma tu dywanów
Ani zamorskich ozdób i atłasów,
Podłogi skromne i zwyczajne ściany –
One z ojczystych naszych pól i lasów.

Popatrz na piec, który przy progu klęczy:
Przez mistrzów znanych nie był zbudowany.
Wznosiłem piecyk ten ja własnoręcznie
Z piachu i gliny dobrze pobielanej.

A oto łóżko – także dzieło moje,
Deski żywiczne mi nań posłużyły.
Pościel puchowa łoże to ustroi,
Aby sny dobre w nim się zawsze śniły.

I w ciszy nocnej, w wielkim upojeniu,
Skryte od ludzi, życia i wydarzeń,
Dwa ognie naszych serc się rozpromienią,
W jedno zarzewie wielkie przeobrażą.

I nas otoczą tęczą wielobarwną,
Przeszyją młode ciała błyskawice,

Do nieba pomkną przez przestrzenie czarne
Naszych dziękczynnych myśli gołębice.

Wspólnota nasza siły nam podwoi,
Miłość ku szczęściu drogę nam ukaże,
Ty będziesz zawsze gospodynią moją,
A jego twórcza i owocna siła
Budzi do życia utęsknioną ziemię.

Zaś na malutkie okna nie zważając,
Promienie przedostają się do wnętrza
I na kominie harce urządzają,
I na podłodze blaski swoje piętrzą.
Ja będę zawsze twoim gospodarzem.

**Przetainy**

Spod śniegu już wyjrzały przetainy
I bieli śniegu nic już nie uchroni.
Sczerniały górki, góry i wyżyny
I woda niczym trzmiel w strumieniach dzwoni.

Pierwiosnki już zakwitły w lesie z rzadka,
Symbole ludzkich losów – w to ja wierzę –
I uśmiechają się te pierwsze, skromne kwiatki
Do słońca i do gwiazd jednako szczerze.

Skrzydlaci goście lecą z ciepłych krajów,
Prowadzi je po nocach Mleczna Droga,
I modlitewne hymny wciąż składają,
A w hymnach tych o gniazda ptasie trwoga.

Słońce życzliwość swoją podwoiło,
Na łąki i na pola śle promienie,

Wnet odnalazły mnie w pościeli z żoną,
Poczęły głaskać, pieścić nasze twarze.
I śniło nam się lato wymarzone,
Pasieka zanurzona w letnim skwarze.

Zbudziłem się i rzekłem mojej Miłej:
Wstań, gołębico, sen przerywam tobie.
Musimy zebrać myśli, zebrać siły,
Do ciężkiej pracy trzeba się sposobić.

Już śnieg opuścił lasy, pola, łąki
I zakwitł na nich pierwszy nasz pierwiosnek,
Więc trzeba wstawać, miły mój skowronku,
Aby przywitać pracą piękną wiosnę.

**Przy krosnach**

Przy krosnach zamierzała zasiąść Miła,
By płótno utkać z szarej przędzy,
Ale w mej chacie nigdy ich nie było,
Więc trzeba zrobić jak najprędzej.
I wyciosałem z brzozy ramę nową,
Na płochę uchwyt z kloca klonu,
Zrobiłem podstopnicę też klonową
I nawój pięknie wykończony.

Czółenko zaś z jabłoni wykonałem
Rosnącej dziko w okolicy.
Płochę na miejskim rynku kupowałem,
Żona zrobiła nicielnice.

Przy krosnach tych moja najdroższa siada
I płochą mocno wątek zbija,
Więc płynie płótno – żywa radość,
A ja na cewki nici zwijam.

Tkaj, moja tkaczko, pięknie się rumienisz,
Jak błyskawica mknie czółenko.
Patrzę z zachwytem w dziwnym oniemieniu,
Niech nić nie plącze się, nie pęka.

Niech płocha równo ściegi twe układa.
Życzę ci, Miła, tak jak mogę,
By płótno było niczym piękna flaga
Albo miłości naszej droga.

A droga ta niech nas prowadzić każe
Między drzewami i ziołami
Do tych, co życie nam przynieśli w darze,
A na nich dziś spoczywa kamień.

**Wypas bydląt**

Bez śladu śnieg już dawno zniknął,
Do mórz popłynął po rozmokłej ziemi,
Skowronków pieśni wciąż nie milkną
l łąka pierwszą trawą się zieleni.

Na wypas pora pędzić krowy –
Naszą zowiemy pięknie Autorynią.
Chudoba – skarb gospodarzowy
l duma każdej dobrej gospodyni.

Przed wypędzeniem krów na paszę –
Tradycja stara tak nakazywała –
Dokoła Autorynii naszej
Żona zabiegi liczne wykonała.

Święcony chleb i sól, i wodę
Wokół bydlęcia trzykroć obnosiła,
Ku słońcu ustawiła przodem,
Zaklęcia od zarazy poczyniła.

W krynicy trzykroć zanurzała
Kawałek szkła, który chwileczkę potem
Przed oczy krowie podstawiała,
Szepcząc tajemne przy tym zwroty.

"Jasne słoneczko, księżyc biały
I gwiazdki wszystkie na niebiosach
Morzom i ziemiom światło dały,
Kwiatom przyniosły miododajną rosę.

Sił doda wasze ciepło trawom,
By mogła żywić się chudoba nasza,
Jedwabiem zazieleni się murawa,
Niech mlekodajną będzie pasza.

A wokół traw miejcie staranie,
Niech diabły i diablęta dniem i nocą
Krowom nie będą szkodzić w stanie,
Niech ludzkie oczy złe utracą moce."

**Oględziny pola**

Ogromu świata nigdy nie ogarnę,
Bo rzeczy różne świat ten tworzą:
Zarośla, las i nieużytki marne,
I pole sprzyjające zbożom.

Dziś, Miła, tylko z tobą chcę pozostać,
Ty do mnie podejdź jak najbliżej,
Obejmę czule twoją drogą postać,
Udamy się do polnych krzyży.

Dziś otoczeniu z oczu precz zejdziemy
I swe zagony obejrzymy,
Siądziemy na ogrzanej słońcem ziemi,
O urodzajach pomarzymy.

Niemały przecież mamy obszar pola,
Więc teraz myślmy tylko o tym,
By zasiać, zżąć i zwieźć w zapola
Gromadę pięknych snopów złotych.

Idziemy w polną dal objęci czule
Po ziemi, którą pług pokraje,
Ja Miłą mą do piersi swojej tulę
I widzę przyszłe urodzaje.

Dotarliśmy do starych krzyży w końcu,
Radosną upojeni wiosną,
Patrzyliśmy na świat zalany słońcem,
A serca w niebo się uniosły.

I każde z nas pragnęło podziękować
Niebiosom – dały nam najwięcej.
Los naszym życiem pięknie pokierował,
Złączając serca nam i ręce.

I wdzięczność nasza ogarniała ziemię,
Rośliny, zioła, słońce śliczne,
I tylko przyszłych naszych krzyży cienie
Mąciły radość bezgraniczną.

**Święto Zmarłych**

W dniu Święta Zmarłych poszliśmy na cmentarz,
Zabrawszy z sobą jadło poświęcone,
Bo zwyczaj przodków to rzecz dla nas święta –
Tak ja sądziłem, tak sądziła żona.

Pamięci należało dać świadectwo
O tych, co przeszli, których ziemia kryje
I łączy ich w tej ziemi zgoda i sąsiedztwo,
I oczekują na najbliższych, którzy żyją.

Falował tłum, nad ziemią się pochylał,
Drzewa wznosiły ręce swe z lamentem,
Kaplica z przygnębieniem w dal patrzyła,
Więziła w oknach skąpe światła smętne.

Doszliśmy wreszcie do smutnego celu,
Tam, gdzie spoczywa matka mojej żony.
Tyś, druhu, mym jedynym przyjacielem
Na mym ramieniu wyszeptała ona.

I łzy jej z oczu popłynęły rzewne
Na piach cmentarny i na krzyż pochyły,
I byłem w tym momencie całkiem pewny,
Że cały cmentarz płacze razem z Miłą.

I usta moje spazmy zacisnęły,
Wezbrały w sercu mym goryczy fale
I nie wiem, skąd me łzy się wzięły,
Sądziłem, że ich dawno nie mam wcale.

Po śmierci ojca, braci je wylałem,
I obu sióstr, co jednocześnie zmarły,
Jednakże łez tych nieco zachowałem
I oto dzisiaj z bólem się przedarły.

Wspomnienia gorzkie owładnęły duszę
I ja z przyczyny tej lub bez przyczyny
Rzekłem do drogiej – wyznać tobie muszę,
Ty jesteś przyjacielem mym jedynym.

**Orka**

Już socha jest przygotowana,
Właściwie wszystko w niej zmienione:
I odkładnica blachą wykładana,
Lemiesze bardzo dobrze naostrzone.

A teraz klacz do sochy swej założę
I batem trzasnę tylko tak na niby,
Na rękojeści dłonie swe położę
I grunt rozetnę na równiutkie skiby.

Zjadłem śniadanie wraz ze swoją żoną,
Ubogie pożywienie – oczywista,
A kromkę chleba równo podzieloną
Zapiliśmy studzienną wodą czystą.

Ruszyłem, lemiesz w ziemię zanurzyłem,
Wywiodłem bruzdę do samego końca,
W zagonach świeżych czułem swoją siłę
Na miarę siły wiatru oraz słońca.

Ci ludzie, którym trud nie był dawany,
Nie rozumieją prawdy pospolitej,
Co znaczy sługą być, a także panem
Tej ziemi, którą dzisiaj pracą witam.

Co znaczy zawsze wiosną i jesienią
Dla bliźnich przecież orać ziemię czarną,
Ciągle z nadzieją, dumą i pragnieniem
Do ziemi wrzucać promieniste ziarno.

I co zaklęcia, co zabiegi znaczą,
Które czynili na tej ziemi wiecznie
Jej siewcy wszyscy, wszyscy jej oracze,
Co tak trudzili się dla nas serdecznie.

Nie porzucajcie nigdy ziemi, ludzie,
Cześć oddawajcie jej w rodzinnym kraju,
Bo tylko praca ją do szczęścia budzi,
Jest źródłem życia – źródłem urodzaju.

**Bielenie płótna**

Z czeczotki kijaneczkę wystrugałem,
Rzeźbą ozdobną przystroiłem,
Na plecach płótna rulon cały
Nad staw poniosłem wspólnie z Miłą.

Zwój płótna chętnie wodzie wnet oddałem,
Skromny kaftanik zdjęła Miła,
Spódnicę wraz z koszulą podkasała
I kijaneczkę pochwyciła.

Kijanka wzbiła się i wnet opadła
Na nasze płótno wybielane,
Echo ozwało się i gdzieś przepadło,
I strumień trysnął na kolana.
A niczym iskry krople kolorowe
W tańcu szalonym i zawrotnym
Tworzyły aureole wokół głowy
I gasły w stawie bezpowrotnie.

Ale za nimi znowu następował
Kolejny rozprysk wielobarwny
I Miłej piersi on całował,
Opadał, na dnie ginął marnie.

W ten sposób żona płótno wybielała,
Po czym na plecy zarzuciła,
Poniosła je i przemoczona cała
Na łące równo rozścieliła.

Baczyła wszak, by słońce dostęp miało,
By ciepłem mogło je ogarnąć,
Bo tylko ono umie czynić białą
Płócienną szarość naturalną.

O, biel się, me płócienko, biel się całe,
I mień się niczym jasne słonko,
Przyjmij kolory mleczne, śnieżnobiałe
I jaśniej jak dojrzała słomka.

**Siejba**

Już wyschła zaorana rola w pełni,
Czas wyjąć kobiałkę ze skrzyni,
Najlepszym ziarnem trzeba ją napełnić,
Jak to mój ojciec niegdyś czynił.

Sięgnąć wypadło do zapasów zboża,
Które chroniliśmy z rozmysłem.
Teraz do worka skarb ten wsypać można –
Dwie miarki odmierzone ściśle.

Poszedłem w pole, razem ze mną żona.
Stanęła na pobliskiej miedzy,
Świeciła w górze tarcza pozłocona,
Wicherek moje ruchy śledził.

I oto gest mej dłoni uroczysty –
Sypnęło ziarno na zagony;
Zdawało się, że spada bursztyn czysty,
Zwiastując nam udane plony.

A Miła stała niczym Matka Boża,
Śledziła każdy ruch mej ręki,
Błogosławiła mnie i nasze zboże
Słowem modlitwy lub piosenki.

Uśnijcie w glebie, piękne moje ziarna
I wkrótce się obudźcie w ziemi,
Kiełkami zboża rola nasza czarna
Niechaj się szybko zazieleni.

Rośnijcie tak, jak rośnie bór za drogą,
Siły rozrodcze zachowujcie
I módlcie się do dobrych polnych bogów,
A gniewu bogów złych nie budźcie.

Niech susze swoim skwarem was nie spalą
I strugi deszczu nie stratują,
A grad i grom niech was omija z dala,
Spojrzenia złe zaś nie zmarnują.

## Pielenie ogródka

Stawiałem płoty, a kochana ma pieliła grządki
I każdy chwast wyszarpywała z ziemi bezlitośnie,
Zaś tam, gdzie brakło kiełków, dodawała wciąż sadzonki,
A przerzedzała tam, gdzie nazbyt dużo było roślin.

Ćwierkały nad nią wróbelkowie siedząc na czereśni,
Wiatr nadbiegał i ulatał na falach poranku
I właśnie wtedy głos mej Miłej zapromieniał pieśnią,
Którą nasz lud od wielu wieków zowie wciąż wiośnianką.

## Wiośnianka

Ujęła wiosna klucz słoneczny,
Z niewoli wyzwoliła ziemię
I przywołała bujne trawy,
Odziała pięknie wszystkie drzewa.

Idąc po kraju siała kwiaty,
Bieg wszystkim rzekom przyspieszyła,
Ptaszętom dała znów swobodę
I przywróciła chęć do śpiewu.

Niedługo się na łąkę udam,
Uwiję z pierwszych kwiatów wianek,
Przyłączę swój głos do skowronka
l będę pieśnią chwalić wiosnę.

Niech jak najprędzej mnie odwiedzi
I niech obejmie mnie serdecznie,
Zasieje maki w mojej duszy,
Ziarno miłości w serce rzuci.

Niech los mój kwitnie pięknym makiem,
A miłość rośnie jak pszenica,
I niech najdroższy zawsze wiernie
Pieszczoty dla mnie zachowuje.

Ta pieśń kochanej razem z pieśnią ptaków okolicznych
Łączyła się ze śpiewem drzew rosnących w tym zakątku,
Który codziennie upiększamy pracą ustawiczną.
Stawiałem płoty, a kochana ma pieliła grządki.

**Kwitnienie jabłoni**

Jabłonie kwitną już, kwitną jabłonie,
Fala białego puchu wzbiera,
A pszczeli chór dokoła dźwięcznie dzwoni
I pracowicie miody zbiera.

Usiadłem pod jabłonią z moją Miłą,
A dzień akurat był świąteczny,
Słoneczko grę promienną prowadziło
Na liściach naszych drzew pasiecznych.

I cicho grał wiaterek wśród gałęzi,
Chór ptaków dzielnie mu wtórował,
Czuliśmy z całym światem silne więzy,
Zawrotów doznawały głowy.

Wydało nam się, że jesteśmy w raju:
Biblijny Adam razem z Ewą,
A rajskie ptaki wokół nam śpiewają,
Zaś ślub nam dają rajskie drzewa.

Drużbują nam i pszczoły, i ptaszęta,
A tęcza ślubną pościel ścieli,
I tulą się do naszych nóg zwierzęta,
I pachnie czarodziejskie ziele.

Na nasze oczy płatki opadały,
Cieplutkim śniegiem nas przykryły
I cały wielki świat ucałowały,
I nas z tym światem połączyły.

Kochana ma, czy wiesz, co ty mi dajesz?
Co w moje życie młode wniosłaś?
Ty jesteś mym bogatym urodzajem
I najpiękniejszą moją wiosną.

Więc przylgnij, Miła, do mej piersi czule,
Abym mógł wierzyć zawsze, wszędzie,
Że jestem dziś i będę twoim królem,
A ty królową moją będziesz.

**Pośród łąk**

Poszliśmy tam, gdzie obszar pięknej łąki
Rozpostarł dzisiaj swe ramiona kolorowe.
Tu jeszcze nie dźwięczała kosa dzwonkiem,
Więc kwiaty niczym gwiazdy unosiły głowy.

Brnęliśmy wspólną myślą połączeni,
Aby zobaczyć to, co śliczne jest na świecie,
By móc pokłonić się urodzie ziemi
I pięknem bawić się, tak jak się bawią dzieci.

Nas łąka barwą swoich kwiatów wita,
A w każdym z nich niepowtarzalny, cudny motyw,
Można z nich wróżyć, można także czytać
Lub liczyć te, które całuje czule motyl.

Między drzewami po kamieniach woda
Wytrwale bieży w niezmierzony świat daleki,
A słońce zachwycone swą urodą
Długo przegląda się jak w lustrze w nurcie rzeki.

Zrywamy kwiaty dla najdroższej mojej,
Z nich ona splata dla swych bujnych włosów wianek
I głowę w kwiecie wielobarwne stroi,
A ja uparcie patrzę wzrokiem rozkochanym.

Suniemy z Miłą pośród fal zielonych,
Niemal do kolan w barwnych kwiatach zanurzeni,
Piersi i twarze słońcem rozpalone
I oczy poszukują drzew zbawiennych cieni.

Ale uparte słońce coraz mocniej
Rozgrzewa twarze i łaskocze trawa nogi;
Widzimy – dalszy opór bezowocny,
Gdy nasze ciała młode chłoną nastrój błogi.

Dlatego padliśmy w gęstwinie kwiatów
I usta nasze odszukały się bez słowa,
Z oczu straciliśmy kontury świata,
By stać się cząstką słońca, kwiecia i sitowia.

**Uroda świata**

O, wiosno, wiosno, ileż w tobie szczęścia!
Ile radości ty przynosisz zawsze ludziom!
Potrafisz stworzyć piękną całość z części
I w piersi ludzkiej ogień walki wzbudzić.

Zalewasz ziemię ciepłem życiodajnym,
Rozściełasz kolorowe swe kobierce,
Wszystko, co zwykłe, zmieniasz w nadzwyczajne
I piękną miłość ludziom wszczepiasz w serce.

I ja podlegam twoim dobrym prawom,
Bezbrzeżną radość wspólnie z tobą dzielę
I hołd oddaję twojej wielkiej sławie,
Pozostać chcę twym wiernym przyjacielem.

Oglądam czarodziejskie akty twoje,
Twe pieśni wyłonione są z milczenia,
Zamieniasz czernie w kolorowe stroje,
Przetwarzasz łatwo w ciepło chłód kamienia.

Więc moja myśl ku niebu wciąż ulata,
O czynach twych chcę opowiedzieć Bogu
l hymn wyśpiewać o urodzie świata,
Któremu dałaś piękno, dałaś trwogę.

Więc leć, ma myśli, wyżej i wciąż dalej,
Przeszywaj błękit, póki będziesz żyła.
Może dosięgniesz pieśni mocy stali,
Która uzbroi mnie w mocarną siłę.

Pieśń drogiej mojej zawsze będzie strzegła,
Wśród swych i obcych imię jej rozsławi,
By zapomnieniu nigdy nie uległa,
Nawet i wtenczas, gdy już świat zostawi.

Niezłomnej mocy zaś mi po to trzeba,
Aby przed złymi ludźmi bronić Miłej,
By zawsze stół wzbogacał bochen chleba,
Symbol miłości, zgody, pracy, siły.

# Дзядзька Няміра

Гэта было ў Пецярбургу пры Сянным рынку. Кватэру, якая была з аднаго пакоя і кухні, займалі дзве душы: вялізны, худы беларус па прозвішчу “дзядзька Няміра” і, яго таварышка жыцця, жонка, цётка Нямірыха.

Гэтыя дзве душы – Няміра і Нямірыха – часта змянялі жыццё. Падчас гэткіх змен яны тварыліся “адной душою”. А хоць бы калі гэтая душа раздваілася, дык Няміра быў тады голасам, а Нямірыха – ягоным рэхам.

У 1907 годзе, як толькі нанялі кватэру пры Сянным рынку (а то былі голыя сцены, свежа пабеленыя вапнай), Няміра ўвайшоў з пакункамі першы. Зняў кепку з потнага ілба, зірнуў уважна навокал, клункі свае кінуў на падлогу і сказаў рашуча:

– Рабіць!

– Рабіць! – адказала рэха з грудзей Нямірыхі.

Яны тут жа моўчкі пачалі ваўтузіцца каля ўпарадкавання кватэры. Прыняслі новыя абоі, з аржаной мукі зрабілі жбанок клею.

Тымі абоямі зараз абляпілі пакой і кухню. Затым, удваіх, давай шараваць і скрабаць вапну з падлогі, вадой гарачай збіраць нячыстоту гэтую ў вядро і выліваць у злеў. Вада вапенная шыпела і булькатала, бягучы па трубах з пятага паверха аж уніз – неспакоячы жыльцоў чатырох паверхаў. Дабегшы ўгрунь да агульнага канала, вада гэта пёрлася у глыбокую раку Няву, адтуль у Фінскі заліў і далей. А мора – каб толькі дальш уцячы ад Няміраў! А Няміры, як нейкія праявы, шугалі і шугалі вёдрамі ваду вапенную без канца у мокры злеў.

Аж-такі скончылі. Падлогі чыстыя, але яшчэ мокрыя – бо прасвечвалі, як у люстры, высокага дзядзьку Няміру і малую грубастую цётку Нямірыху.

Падлогу выцерлі на суха трапкамі, вокны адчынілі. У кватэры сталася чыста, свежа, прыемна. Няміра падаў голас:

– Досыць! Спачыць!

– Досыць... спачыць... – пачулася рэха з грудзей Нямірыхі.

Селі, спатнелыя, каб спачыць і падкрапіцца.

Прайшоў год.

З маім знаёмым я трапіў у госці к дзядзьку Няміру.

"Дзве душы" прынялі нас ветліва. Пасадзілі абодвух зараз жа за стол, на якім было ўсякага пачастунку (маларасейская запяканка, піва Вальдшлехсхен – шмат бутэляк поўных на стале і пад сталом). На прыгожых дарагіх талерках былі разложаны шынкі, кілбасы. Былі нават шпроты,ількі, сыр галандскі. Апроч гэтага былі булкі і бабкі з разынкамі... і яшчэ нешта было нязвыкла смакавітым на стале – ляндрынкі, у прыгожай бляшанай баньцы... Ляндрынкі былі дзеля таго, каб пасля яды кожны мог, седзячы за сталом, "адвясці душу", смактаць дасканалыя цукеркі, беручы свабодна іх поўнаю жменяю з чароўнае бляшанкі!

Калі б хто жадаў, акрамя багатага выбару напіткаў, глынуць чаго-небудзь кіслага, дык квартаю мог піць востры "хлебны квас" з накрытага дэнкам гарлача.

Пасля пачастунку я пачаў азірацца па пакоі. Тут стаялі два ложкі ніклёвых, а на кожным паверх пярынаў, у галовах і нагах, было накладзена па два "стагі" пуховых падушак, якія сягалі аж да столі. Я запытаўся:

– Нашто гэтулькі падушак прызапашана?

Адказаў Няміра паважным цвёрдым голасам:

– Шмат унукаў і ўнучак маем на Беларусі. Гэта – усё для іх!

– Гэта... для іх... – пачуў я рэха.

– Асабліва шмат іх маем у Віцебшчыне, – сказаў задуманна Няміра.

– Ці пісьма ад іх бываюць? – пытаюся.

– Не!

– Не...

– Чаму? – дапытваўся я, смокчучы апошнюю са жмені салодка-кіслую ляндрынку.

– Не маюць нашага адрасу, а мы – іхняга, – апусціўшы галаву, ціха казаў Няміра. Казаў амаль што шэптам апошнія словы, дык і рэха не было.

Тут, на шчырыя запросіны "дзвюх душ", я ізноў з знаёмым маім хлібнулі па чарцы надта смачнай запяканкі маларасейскай, закусілі смажанай рыбінай.

Сабе думаю:

"Гэтулькі тут марнуецца падушак і, пэўна ж, якога іншага багацця! І то без ніякае карысці! А ўнукі і ўнучкі ягоныя, што жывуць па вёсках і засценках Вялікай Беларусі нічога аб гэтым не ведаюць... не маюць адрасу свайго "дзядзькі"!!!

Я досыць позна развітаўся і выйшаў ад Няміраў.

Прайшоў з таго часу год.

Ізноў давялося мне "па знаёмасці" зайсці да Няміры. Цікавасць нецкая мяне папіхала да гэтае візыты.

Я ішоў па ўсходах наведаць дзве дзіўныя беларускія душы і думаў:

"Пэўне, за так доўгі час яны нарыхтавалі для ўнукаў і ўнучат на Беларусі шмат багацця!"

І вось я стаў прад дзвярамі Няміры. Шукаю вачмі кнопкі званка... Няма! Тырчаць толькі канцы дроцікаў – ужо не патрэбных.

Я занепакоіўся – і пастукаў кулаком у дзверы. Чакаю – атвету нетуці.

Я моцна націснуў клямку дзвярэй уніз – яны адчыніліся. Зрабіў два крокі па кухні і стаў. Нікога няма!

У кухні, апроч старога ацынкаванага вядра, у кутку (на свае патрэбы, як кажуць) ды колькіх хвастоў і галоў высмактаных ад селядцоў на падаконніку, не было ні стала, ні табарэта, ні шафы, ані крэдэнсу... Голыя сцены ды падлогі!

У тэй хвілі, аднак, з пакою дайшоў да мяне хрыплы голас п'янага мужчыны:

– Каго там чорт прынёс?!

Я асцярожна адчыніў дзверы у пакой і вось што ўбачыў: у пакоі не было ложкаў ніклёвых, ні пярын, ні падушак, ані сталоў, ані крэслаў. У кутку, на расцярушаным кулю саломы, ляжаў Няміра, пры ім – Нямірыха. Прыкрытыя былі старой гунькай. Замест падушкі, пад галовамі быў сяннік, напіханы леташнім сенам... Абое былі спіўшыміся і трудна было мне іх пазнаць... Яны, аднак пазналі мяне. Няміра ўздыхнуў:

– Прысесці прашу, калі ласка!

– Калі ласка!.. – паўтарыла рэха.

Прысесці не было на чым. На падлозе валялася шмат пустых бутэлек ад піва... было поўна лускі ад семачкаў.

Я стаў здзіўлена пры дзвярах і глядзеў. Але, убачыўшы вясёла-жартаўлівую ўсмешку ў добрых нябескіх вачах Няміры, я сказаў:

– Можа гасцілі тут вашы ўнукі?

– Дзе там! – адказала Нямірыха.

– Я бачу... падушак няма! Для іх жа сабіралі!

Няміра аблакаціўся на левай руцэ і казаў:

– Каб чалавек ведаў, дзе яны жывуць, унукі, дык, ведама... а так... чаго нам жалець!

Тут Няміра глытнуў колькі лыкаў ліманаду, прост нагбом, з бутэлькі – каб хоць на кароткі час атразвець і стацца чалавекам. Скроб вінавата-стыдліва патыліцу, нешта думаючы, і паволі загаманіў:

– Мілы мой! Найсмачнейшая страва прыесца... Перамена чалавеку часам надта патрэбна, нават спрыян... (я, гледзячы на ягоную “перамену”, саўсім інакш думаў).

– Перамена часам патрэбна чалавеку! Усё, што вачамі паглядаем, ёсцт трынь-трава... Усё паўстае з пылу – і ў пыл абярнуцца павінна!

– Але ж, – кажу, – ведама, што адно прыесца! На гэтым ёсць абапёрта мода і ўсё гэткае... нават спакой на свеце і войны... нават законы і звычаі чалавецтва – і гэтак быць павінна!

Нямірыха дагэтуль маўчала, але загукала:

– Месяцы тры назад сядзелі мы з мужам, панок, раздумваючы... Гэта ж у “Біржавых Ведамасцях” астраном паведаміў, што ў 1909 цяпе-

рашнім годзе прыйдзе раптоўна канец света. Ну, мы і думаем сабе: “Што з нашага багацця будзе тады?! Раздалі б усё ўнукам на Беларусі, але... як? Няма іхняга адрасу – і яны нашага таксама не маюць!” І вось мой муж Няміра ударыў тады кулаком аб стол, аж уся пасуда са страху кінулася са стала наўцёкі, а муж крыкнуў: “Прапіць усё!”. Я з паслухмянасці ціха ўтарыла: “Прапіць!”.

Пры гэтых славах жонкі Няміра ажывіўся, сеў і казаў:

– Ну і пілі! Як не ў сябе! Днямі і начамі пілі праз тры месяцы, калі не болей. Суседзяў паілі! Бо і што было жалець – канец света падходзіць, дык чаго шкадаваць! На што?! Для каго?! – Няміра махнуў безнадзейна рукой і, як бы шкадуючы, казаў: – А канца свету як няма, так няма!

Тут пачуўся нясмелы голас жонкі:

– Пара, ягамосць, хіба ўжо паўстаць на ногі, па-мойму... досыць гэтага свінства...

Тут Няміра як запаліўся, ускочыў – за ім жонка. Сабе думаю “Сітуацыя няпэўная, мо трэба ўцякаць”...

– Рабіць!!! – гаркнуў сільны Няміра на ўсю пустую кватэру.

– Рабіць... – паўтарыла, як рэха, жонка.

Я пажадаў ім у працы памыснасці, развітаўся і выйшаў.

Канец свету не спраўдзіўся і Няміры пачалі аднова жыць.

За апошні сярэбны гадзіннік фірмы Павел Бурэ з бралком Няміра купіў бляхі, пакроіў яе ножычкамі на “істужкі” па два сантыметры ўшыр і з жонкай пачаў плясці кошыкі. Пафарбаваў тыя кошыкі прыгожа лакавымі фарбамі.

Па колькіх днях надта рупнае працы Нямірыха заняла мейсца на Сянным рынку і разлажыла на продаж дзіўныя, яшчэ ў Пецярбургу не відзеныя, як хваліўся Няміра, кошыкі.

На рынку кошыкі Няміры сталіся навінкай.

Гаспадыні шугнулі.

Няміра празваў свае бляшаныя кошыкі “вечнымі”. Праўду казаць, дык і сам Няміра паводле прозвішча быў вечны, “неўміручы”, бо па літоўску слова *ня-мірэ* азначае “не памрэ”.

Пры Нямірысе стварыўся незлічоны натоўп купляючых. Па двух гадзінах яна распрадала увесь запас кошыкаў і вярнулася дамоў з поўнымі кішэнямі грошаў.

Дома не пілі ўжо ні гарэлкі, ні піва – бо ўсё гэта абрыдла за мінулыя тры месяцы п’янства.

Кожным днём, ледзь золак, Няміра, ускокваючы, гаркаў сільным голасам:

– Рабіць!

Рэха зараз адзывалася з жонкавых грудзей. Абое так змеханізаваліся пры працы над кошыкамі з бляхі, што адважыліся б распачаць ствараць не толькі кошыкі, але – таксама з бляхі – кублы, потым лодкі дзеля прагулкі па Няве, пасля... баркі з бляхі... Няміра, плятучы кошыкі, у думцы і планах

сядзеў ужо на сваім бляшаным “фрахтоўцу” і меціў ехаць на паказ так дзіўнага судовішча аж за граніцу.

У тым мамэнце Нямірыха ўскрыкнула, бо аб бляху пацяла мізіны палец свае рукі.

Няміра апомніўся і, убачыўшы рэчаіснасць, уздыхнуўшы, устаў і, спецыяльным квачком, памочаным у ядыне, памазаў царапіну жонкі.

Працавалі далей, моўчкі, думаючы мо аб унуках...

Па дзесяці месяцах цвёрдай працы гэтыя згодныя “дзве душы” беларускія здолелі зарабіць сабе шмат грошаў!

На Каменна-Астроўскім праспекце ў Пецярбургу купілі сабе этажны дом з цэглы, накуплялі і ўбагацілі пакоі мэблямі, грамафон з вялікай трубой купілі... накуплялі місак, талерак з залачонымі абводкамі... шмат дзюжынаў нажэй і відэльцаў.

Ва ўсім доме тым было аж шэсць пакояў. У кожным пакоі па тапчану і па адным ніклёвым ложку. На кожным ложку – у зглаоўі і ў нагах – стос падушак аж пад столь!

Дзядзька Няміра з жонкай жыў унізе, а пакоі на паверсе прызначаны былі для ўнукаў і ўнучак – калі б тыя знайшлі адрас дарагога для іх усіх “дзядзькі Няміры” і прыехалі, прынамсі, у госці.

У гэтым цагляным доме Няміраў я наведаў па двух гадах. Нязмерна ўцешыліся. Багата частавалі, пад музыку грамафона. Потым абвадзілі мяне па ўсіх пакоях. Паказалі мне багацтвы, здабытыя бляшанымі каляровымі кошыкамі.

Дзівіўся я надта з багатырскае пары, з гэтых “дзьвюх душ” беларускіх, якія сваімі залатымі рукамі і згодай, і воляй сільнай ніколі не згінуць, а будуць жыць вечна, дзе б іх не пасадзі...З глыбіні марской яны выплылі б!

Няміра казаў сумна:

– Дзяцей няма! Ёсць, праўда, унукі і ўнучкі, якім аддадзім па смерці дом і ўсё, што ў доме...

Тут і Нямірыха дадала ціха:

– Каб жа яны, дарагія ўнукі і ўнучкі, наш знайшлі!

У тэй мінуце я рашыў Нямірам дапамагчы.

Па развітанні я сеў на трамвай і ад’ехаў дамоў.

На заўтра даведаўся я адрас газеты “Віцебскія Біржавыя Ведамасці” і паслаў у рэдакцыю абвестку гэткага зместу:

*ПАЖЫЛЫЯ ЎЖО ДЗЯДЗЬКА НЯМІРА (росту два метры) І ЯГОНАЯ ЖОНКА НЯМІРЫХА (росту адзін метр 12 сантыметраў), ЯКІЯ РАДЗІЛІСЯ Ў ВІЦЕБШЧЫНЕ КАЛЯ ЛЕПЛЯ, САМІ БЯЗДЗЕТНЫЯ, ЗАПРАШАЮЦЬ У ГОСЦІ ДА СЯБЕ НА ДЗЕНЬ ТРОХ КАРАЛЕЙ УСІХ СВАІХ УНУКАЎ І ЎНУЧАК. Кожны з іх хай мае пры сабе мэтрыку нарадзінаў. Хто прыедзе без мэтрыкі – не будзе прыняты за радню. Кожны ўнук і кожная ўнучка атрымаюць на памяць па аднэй новай*

*падушцы і атрымае білет на права выйгрыша на сваю ўласнасць дзядзькавага дому, будаванага з цэглы. Розыгрыш адбудзецца у дзень ТРОХ КАРАЛЁЎ. Адрас: ПЕЦЯРБУРГ, КАМЕННА-АСТРОЎСКІ ПРАСПЕКТ, ДОМ ДЗЯДЗЬКІ НЯМІРЫ.*

Да Трох Каралей засталося часу роўна месяц. Пісьмом я паведаміў Няміру аб тым, што “прыслужыўся” яму і даў абвестку (як вышэй) у “Віцебскіх Біржавых Ведамасцях”, ведаючы, што дзядзька паходзіць з Лепельшчыны, Віцебскае губерні.

У пісьме я ўспомніў Няміравым, каб чакалі госцікаў – значыцца, унукаў і ўнучак з усёй Беларусі – на тое ж абвестка у найбольш распаўсюджанай газэце.

Раніцой на Трох Каралей я, з цікаўнасці, пайшоў на Царскасельскі вакзал, каб паглядзець, ці прыедуць «госці» да Няміравых. Менавіта на гэты вакзал цягнікі прыходзяць проста з Віцебска.

Сабе думаю: “Прыедуць, ці не прыедуць?”

А гадзіне сёмай раніцы раптам затроссяя вакзал. Потым зачмыхаў вялізны паравоз і стаў раптам... стрымліваючы тармажэннем цяжкія вагоны, якія ад гэтага тармажэння аж заіскрыліся.

Пара з паравоза засланіла спярша ўсіх і ўсё навокал. Пасля пакаваліся людзі, якія выскаквалі з вагонаў, як – не раўнуючы – вераб’і паасобку і групамі.

Каля мяне вельмі рупна ішлі цэлыя атрады выокіх, як бы дабраных малайцоў, вышыні па два метры амаль кожны.

Па хвілі, каля мяне, к выхаду з вакзала крочылі размашыста так жа паненкі, пэўна ж, “няміранкі”, бо яны былі ўсе як адна – моцнымі ў карку, румяна-прыгожымі, плячыстымі, спрытнымі, з вачамі далікатна-нябескімі, бліскучымі нейкаю затаёнаю радасцю, добрымі, ветлівымі. Пры кожнай паненцы-“няміранцы” дрыпалі старушкі-маткі або цёткі – бо даўней паненак адных у далёкую падарож не пускалі... паненка – то скарб, а як скарб, дык у дарозе мог быць праз якога “незнаёмага” злыдня скрадзены. Стоячы пры выхадзе з вакзала, я чуў прыемную, далікатную, мяккую гаворку Віцебшчыны.

Падышоў і пытаю:

– Адкуль прыехалі, дарагія?

Адказалі амаль што ўсе мілагучнымі галасамі:

– З Полацка...

– З Лепля...

– З Віцебска...

– Мінска...

– З Дзвінска...

– З Магілёва...

– З Барысава...

Чуліся галасы нават з Чарэі, Воршы, Смаленска, з Дзісны, з Невеля і

іншых беларускіх гарадоў і мястэчак. Трудна мне ўсіх іх пералічыць, але – былі адусюль.

Сабе думаю: “Няма чаго дзівіцца! Няміра – гэта даўнейшая “несмяротная” беларуская шляхта, якая закаранілася праз тысячу гадоў па ўсёй зямельцы! Няміраў не злічыць ніводзін просты, звыклы чалавек! Шчасце – сабе думаю – што не да ўсіх крэўных дзядзькі Няміры трапіла абвестка! Шчасце, што не ўсім трапіла ў рукі газета “Віцебскія Біржавыя Ведамасці!"

Унукі і ўнучкі з правадыркамі-маткамі і цёткамі ішлі і ішлі... садзіліся па колькі асоб на “ізвозчыкаў” і ехалі. Я чуў, як там і сям чуваць пры вакзале былі словы да “ізвозчыкаў”:

– Каменна-Астроўскі праспект!

Я ведаў, што адрас гэты яны вывучыліся на памяць з маёй абвесткі. Гэта мяне цешыла пры думцы, што Няміра, пэўне, хопіцца за голаў ад здзіўлення, як убачыць гэткую “армію” сваякоў, аб якіх помніў, праўда, усё жыццё...

Глядзеў я, стоячы задуменна пры вакзале, і глядзеў на сваякоў Няміры... і сам да сябе шаптаў: “Усе яны рады пазнаць дзядзьку, аб якім дасюль не ведалі, ці ёсць гэткі. Ведама, хочуць адпачыць з дарогі, угасціцца, пазнаёміцца з “другімі” сваякамі... атрымаць памятку-падушку. Напэўна кожны з прыехаўшых мог мець затаёную ахвоту выіграць дарма дом дзядзькі, выбудаваны з цэглы – бо на той час цагляных дамоў на Беларусі было мала. Вёскі, засценкі, маёнткі былі з будынкамі драўлянымі... Мо з гэтае прычыны род Няміраў заўсёды адзначаўся здаровым выглядам і асаблівай моцай – бо што хата з бярвення, то не дом з цэглы! Але... дарма ўзяць камяніцу – нічога грэшнага!”

Пры вакзале хвілёва не было вольных фурманак. І вось дзеля гэтага група хлапцоў, з дванаццаць, стаяла, паглядаючы па баках.

– Адкуль гэта прыехалі, васпаны?

Ізноў пачуў я разам моцныя галасы:

– Мы Вуллянскія... мы Чашняцкія... мы... мы... мы...

Я бачыў іх бадзёрых, моцных, радасных, адважных – бо каля тысячу вёрст праехаць зімой па завеяных снегам рэльсах, хоць і цягнікам, а трэба адвагі! У аграмаднай сталіцы не чураліся і не стыдзіліся “гукання” па -свойму, па простаму... З простага, калі захоча, будзе інтэлігент. Абы быў здаровы, моцны, “неўміручы” навечна...

Нейкая глыбокая радасць зацяплілася ў маіх грудзях. Пытаюся іх зноў:

– А куды вам, прыяцелі, трэба даехаць?

– Едзем на Каменна-Астроўскі праспект!

– Пэўне ў госці да дзядзькі Няміры, – кажу.

– Адкуль, панок, ведаеце, – пыталіся здзіўленыя і абступілі мяне.

– Каб я ды не ведаў! Я ж даваў абвестку да газеты... хіба ж чыталі?!

– Чыталі і вось прыехалі.

У пару словах я вытлумачыў ім усю справу. Зараз пад’ехала колькі

фурманак. Госцікі размясціліся, развіталіся са мною і паехалі.

Не ведаю, як Няміра з жонкай прынялі такую армію ўнукаў і ўнучак! Ці хапіла ім усім падушак? Ці дзядзька Няміра пусціў “з пылам” свой дом, бо, як казаў, з пылу ж паўстаў... Калі так, дык каму з унукаў трапіў па шчасліваму білету дарма дом той з цэглы?!

Можа дрэнна я зрабіў, што гэткую армію ўнукаў пхнуў у госці да дзядзькі Няміры...

Але... ён не смуціўся па іх, ён жа бедаваў, што, не маючы адрасоў, не ведае сваіх унукаў, а яны – не ведалі яго. І вось жа знайшліся!

Але, пэўне ж, дом пападзе ў добрыя, “шчаслівыя” рукі праўдзівага ўнука ці ўнучкі Няміры. На тое ж мэтрыкі маюць пры сабе.

Адно ведаю я: дзядзька і на старасць дасць сабе рады са сваёй жонкай – сваім рэхам. Гонар, слова шляхціца былі ў Няміры найпрыгажэйшаю цнотай характара.

Быў багаты... пааддаваў падушкі і іншае, шугнуў “сваім” і камяніцу ў Пецярбургу! Пазнаў і абдарыў усіх сваіх крэўных! Споўніў заданне свайго жыцця!

Пецярбург стаіць на тым самым месцы, як і ў 1909 годзе. Абводны канал, як і калісь, пхне свае воды ў глыбокую Няву, а Нява-рака пхне свае воды ў Фінскі заліў аграмаднага Балтыцкага мора, па якім, у думках сваіх, Няміра ўжо едзе ў вялікім акіянскім караблі-фрахтоўцу, збудаваным праз Няміру з каляровай бляхі...

Стаяць тыя самыя дамы абапал Сяннога рынку, прадаецца і бляха, з якой дзядзька Няміра клеціў з жонкай прыгожыя, афарбаваныя, “вечныя” кошыкі на вялікую радасць гаспадынь і кухарак Пецярбурга.

Няміра з жонкай зноў, у іншым мейсцы, казалі сабе: “Р а б і ц ь!” І пачалі рабіць...

Каб толькі астраном які не страшыў канцом свету!

---

**Антось з Лепля** (праўдз. Антон Васілеўскі, 1891–1984), паэт і празаік, найстарэйшы “белавежац”. Пачаў друкавацца яшчэ ў дваццатых гадах у віленскіх выданнях. Пасля вайны пераехаў жыць у Польшчу (Глівіцэ) і ўтрымліваў дзейсныя кантакты з “Нівай” і яе галоўным рэдактарам Георгіем Валкавыцкім. На “Літаратурнай старонцы” (у тыднёвіку “Ніва”) і ў альманаху “Белавежа” нр 1 былі змешчаны яго апавяданні: “Шляхецкія госці”, “Кірмаш у Глыбокім”, “Нябожчык”. У машынапісе захаваліся дзве не друкаваныя паэмы: “Пяць дудароў” і “Янкаў скарб”, а таксама “Паклон роднаму Леплю”.





Антон Васілеўскі (1891 – 1984).
Дзве фатаграфіі пісьменніка, якія захаваліся ў архіве Беларускага літаратурнага аб'яднання “Белавежа”.

# Літаратуразнаўства

## Мова, гісторыя і месца жыхарства ў беларускай літаратуры

**Арнольд Макмілін**

Для мяне вялікі гонар выступаць сёння перад гэткай шаноўнай аўдыторыяй славістаў. Мы знаходзімся ў сталіцы Беларусі, і таму я буду прамаўляць па-беларуску – на мове нацыянальна свядомых грамадзянаў гэтай краіны, хоць беларуская мова, як выглядае, перажывае пэўны заняпад. Яе нячаста пачуеш на вуліцах Мінска і пагатоў сярод дзяржаўнага чынавенства. Тым не менш, адукаваная моладзь усё больш карыстаецца беларускай мовай, бо гэта ўжо само па сабе грамадска-палітычная заява. Такім чынам, хоць беларуская мова і сутыкаецца з пераследамі, здушэннем і пагардай з боку невукаў, яна, бясспрэчна, не мёртвая. Я мог бы таксама адзначыць, што некаторыя ліберальныя каментатары кажуць пра вайну ўлады супраць культуры, мовы, гісторыі і літаратуры. Аднак я не збіраюся, як у знакамітай песні рускага барда Уладзіміра Высоцкага *“Я не люблю...”*, прыводзіць доўгі спіс прыкрых з’яў, хоць і нельга адмаўляць, што культурны клімат Беларусі, як я адзначыў у назве сваёй апошняй кнігі, сапраўды выразна халодны.

З другога боку, мы часта чуем, што пакуты спрыяюць творчасці, але, на маю думку, гэта небяспечная памылка. Падобную ідэю яскрава выказаў вялікі актор і рэжысёр Орсан Уэлз: “Італія за трыццаць гадоў пад уладай Борджа зведала войны, тэрор, забойствы і праліццё крыві – і дала свету Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы і Рэнесанс. Швейцарыя зведала братэрскую любоў, пяцьсот гадоў дэмакратыі і міру – і што яна дала свету? Гадзіннік з зязюляй”. Я не маю намеру разглядаць сёння волатаў Рэнесансу, а тым болей сям’ю Борджа, хоць некаторым, магчыма, падасца, што апошняя тэма мае больш непасрэднае дачыненне да тэмы майго выступу.

*

У сваім спавешчанні я спынюся на некаторых аспектах мовы і гісторыі гэтай краіны, а таксама беларускай літаратуры ў цэнтры і на перыферыі, у Беларусі і за яе межамі. Спадзяюся, мая прамова не будзе перагружаная імёнамі і назвамі, але пасля я магу раздаць некалькі асобнікаў на ангельскай мове, дзе больш канкрэтных прыкладаў таго, пра што я збіраюся весці гаворку.

*

Беларуская мова – ніякім чынам не *lingua franca* ні ў сусветным маштабе, ні толькі ў славянскім свеце. Аднак для нацыянальна свядомых беларусаў яна мае надзвычай важнае значэнне, якое немагчыма ўявіць, напрыклад, у гэткай краіне, як Брытанія. Там людзі ўспрымаюць сваю мову і гісторыю як нешта само сабой зразумелае і неаспрэчнае. Таму напачатку я скажу некалькі словаў пра гісторыю беларускай мовы. Яна страціла афіцыйны статус дзяржаўнай мовы яшчэ напрыканцы XVII стагоддзя і праз сто гадоў дайшла да такога заняпаду, што ў п’есах на ёй размаўлялі толькі чорт ці якія-кольвек блазны, а высакародныя персанажы казалі па-польску. Адраджэнне беларускай мовы пачалося ў XIX стагоддзі, хоць да 1905 года царскія ўлады забаранялі пісаць на ёй. Яна ненадоўга вярнула сабе афіцыйны статус у 1918 годзе, за часам Беларускай Народнай Рэспублікі, якой быў наканаваны кароткі век, затым у нейкай ступені на пачатку савецкага перыяду, ад 1920-ага да 1927 гада, і ўрэшце ад абвяшчэння незалежнасці ў 1991 годзе і да 1994 года, калі прыйшоў да улады цяперашні рэжым. У гэткай ірванай, поўнай перапынкаў гісторыі часткова палягаюць прычыны слабасці беларускай мовы. Таму тое, што склалася падобнае становішча, сумна, але нядзіўна.

Цягам амаль усяго савецкага перыяду і асабліва ў 60-я гады XX стагоддзя цяжкі лёс беларускай мовы спараджаў віхор палымянай паэзіі і ў некаторых выпадках – прозы. Напрыклад, адна маладая паэтка, Яўгенія Янішчыц, казала пра родную мову: “Памру за цябе без енку”. А ў 1986 годзе дваццаць восем буйных беларускіх пісьменнікаў нават звярнуліся з просьбай дапамагчы да Міхаіла Гарбачова. (Гэта злёгку нагадвала, як рускія сяляне звярталіся да “*царя-батюшки*”). Чарговы катастрафічны ўдар беларускай мове нанёс рэферэндум 1995 года, ініцыяваны новаабраным прэзідэнтам Беларусі. Паводле вынікаў рэферэндуму, руская мова афіцыйна атрымала роўны статус з беларускай, што, як лёгка было прадбачыць, прынесла вялікую шкоду меншай і слабейшай беларускай мове. Гэты працэс яшчэ больш паскорыла закрыццё вялікай колькасці беларускіх школ і іншых нацыянальна арыентаваных навучальных установ. Прыніжэнне мовы суправаджалася скасаваннем усёй гістарычнай нацыянальнай сімволікі – бел-чырвона-белага сцяга і герба “Пагоня” з выявай вершніка на кані. Сёння на вуліцах беларускай сталіцы, а таксама ў шмат якіх стужках кінастудыі “Беларусьфільм”, гучыць руская мова ці руска-беларуская “трасянка”, як раней называлі мяшанку з сена і саломы

на корм скаціне. Надзвычай скрушна, але далёка не дзіўна, што большасць грамадзянаў краіны гэтак занядбала беларускую мову.

*

Магчыма, гэта проста паданне, але кажуць, што Генры Форд аднойчы кінуў фразу: “Гісторыя – гэта лухта”. А ангельская пісьменніца Джордж Эліёт, пэўна сказала: “Самыя шчаслівыя жанчыны, як і самыя шчаслівыя дзяржавы, не маюць мінулага”. Аднак падобныя заявы абсалютна не прыдатныя для Беларусі, якая мусіць усячасна аднаўляць і адкрываць сваю гісторыю, каб не дапусціць размывання нацыянальнай свядомасці і нацыянальнага гонару, а значыць, смерці нацыі. Пасля распаду Савецкага Саюза прафесійныя гісторыкі могуць больш свабодна пісаць пра шляхі развіцця Беларусі; гістарычная тэматыка прысутнічае і ў творах шмат каго з найлепшых беларускіх празаікаў, а таксама паэтаў і драматургаў. Бясспрэчна, што Беларусь – адна з галоўных дзяржаў-пераемніц Вялікага Княства Літоўскага. Аднак спадчыну гэткай магутнай і слаўнай папярэдніцы падзяліць нялёгка. А сённяшняя Летувіская Рэспубліка таксама прэтэндуе на тое, каб быць *адзінай* пераемніцай Вялікага Княства, а не *адной з іх*. Пры гэтым сучасная Летува не зважае на тое, што няма дакументаў, напісаных па-летувіску, што Статуты дзяржавы – ці імперыі – сярэдзіны XVI стагоддзя напісаныя тагачаснай беларускай мовай. Больш за тое, яна ў тую эпоху нагэтулькі рознілася ад рускай, што маскоўскія ўладары патрабавалі перакладчыкаў, каб весці мірныя і іншыя перамовы. Дарэчы, уяўленне, быццам назва Вялікага Княства Літоўскага адсылае да сучаснай Летувы, не менш абсурднае за меркаванне, нібыта польскі нацыянальны паэт Адам Міцкевіч быў летувісам, адно таму, што ў першым радку паэмы “Пан Тадэвуш” ён кажа: *‘Litwo! Ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie...’* У працяг тэмы здароўя адзначу, што беларуская гістарычная літаратура, як навуковая, гэтак і мастацкая, добра пачуваецца і не дае некаторым (не будзем называць іх імёнаў) цалкам знішчыць спадчыну мінулага.

*

Трэці складнік майго выступу – гэта пытанне месца жыхарства. Спачатку я скажу колькі словаў пра літаратуру ў сталіцы і на перыферыі, а потым звярнуся да праблем эміграцыі і выгнання. У Беларусі, як і шмат у якіх іншых, калі не ўва ўсіх, краінах, літаратурнае жыццё, як правіла, засяроджваецца вакол сталіцы. Тым не менш, у розных рэгіёнах Беларусі актыўна дзейнічаюць пісьменніцкія суполкі і, пагатоў, асобныя аўтары. Галоўныя з іх месцяцца ў Берасці, Горадні, Полацку і Гомелі. Увогуле дачыненні паміж літаратурнай сталіцай і перыферыяй добрыя, аднак зрэдку здараецца, што аўтар успрымае нейкія словы як абразу, і тады можа адбыцца эмацыйны выбух нават з нагоды гэткіх эфемерных рэчаў, як сутнасць постмадэрнізму. Больш за тое, элемент сталічнага снабізму ў Менску не менш жывы, чым у Лондане ці Парыжы.

Калі звярнуцца да тых аўтараў, якія жывуць па-за межамі Беларусі, неабходна памятаць, што ёсць шмат краін, дзе пісьменнікі – часам сапраўды найвялікшыя пісьменнікі, – жывуць у замежжы. Азіраючыся на XX стагоддзе, варта толькі згадаць Томаса Мана і Бертольда Брэхта або, калі ўзяць бліжэйшы да Беларусі прыклад, выгнаннікаў з Расіі Уладзіміра Набокава і Іосіфа Бродскага. Аднак шмат каму прыйдуць на памяць знакамітыя радкі Ганны Ахматавай: *"Не с теми я, кто бросил землю..."* і эпіграф да яе паэмы *"Реквием"*, які пачынаецца словамі: *"Нет, и не под чуждым небосводом"*. Людзі з'язджаюць з роднай краіны з самых розных прычын, і хоць я разумею крытычнае стаўленне Ахматавай да выгнаннікаў і эмігрантаў, але яго не падзяляю.

Беларусы не выявілі гэткага памкнення з'ехаць з роднай краіны, як, напрыклад, у мінулым стагоддзі рускія і палякі. Бясспрэчна, найвялікшым беларускім пісьменнікам XX стагоддзя, які эміграваў з бацькаўшчыны, быў Васіль Быкаў. Ён з'ехаў, калі прыйшоў да ўлады цяперашні палітычны рэжым, бо, як ён сам мне сказаў, баяўся за сваё жыццё – у нечым падобна да Наталлі Арсенневай і Масея Сяднёва з ранейшага пакалення. У ваенны час яны апынуліся пад нямецкай акупацыяй і пад канец вайны не мелі іншага выбару, апроч як з'ехаць на Захад. (Я вярнуся да Нямеччыны трохі пазней.)

*

Васіль Быкаў – найвялікшы беларускі празаік XX стагоддзя. Яго лепш за ўсіх іншых ведаюць і ў Расіі, і на Захадзе – пераважна дзякуючы перакладам ягоных твораў на рускую мову, якія ён зрабіў сам. За апошнія гады жыцця – ад моманту эміграцыі і да смерці ў 2003 годзе – Васіль Быкаў стварыў шэраг надзвычай памятных твораў. Сярод іх не апошняе месца займае глыбока кранальная кніга ліставання з сябрам, народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным. Складзеная з празаічных мініяцюр з Хельсінкі і скрушных вершаў з Менска, яна па-сапраўднаму векавечыць трагедыю выгнання для тых, хто застаецца, калі іх сябры з'язджаюць з краіны. Пазней Быкаў жыў у Нямеччыне і Чэхіі і вярнуўся ў Беларусь перад самай смерцю. На выгнанні ён звярнуўся да жанру прыпавесцяў і дасягнуў у ім вялікага майстэрства. У большасці з іх уздымаюцца вострыя палітычныя і экзістэнцыйныя праблемы. Шмат прыпавесцяў поўныя скрухі ад таго, што беларусы, як бачылася Быкаву, ахвотна скараюцца перад прымусам. Напрыклад, адна з іх, "Музыка", – пра пазбаўленае сэнсу жыццё музыкі, якому ў сне трызніцца касмічны абрад – як выяўляецца, пахаванне, пахаванне ўсяго народа. Калі хто-небудзь запытаецца, чаму Быкаў ствараў прыпавесці толькі на выгнанні, я нагадаю, што дыктатары ўва ўсім свеце – савецкія і іншыя – ненавідзяць загадкі, сімвалізм і намёкі больш за адкрытыя выклікі. Надзвычай цікавыя мемуары Быкава "Доўгая дарога дадому", надрукаваныя за год да ягонай смерці, і некаторыя новыя творы, апублікаваныя пасля смерці аўтара. Мімаходзь адзначу, што з'явілася біяграфія Быкава ў перакладзе з ангельскай на рускую мову. У яе ўвайшло

таксама вялікае, вельмі цікавае інтэрв'ю з Быкавым, зробленае ў апошнія гады ягонага жыцця.

Імя буйнога паэта – Уладзіміра Някляева – трапіла ў міжнародную прэсу зусім не з тых прычын, з якіх хацелася б: пасля прэзідэнцкіх выбараў амаль тры гады таму. Знаходзячыся некалькі год у добраахвотным выгнанні ў Польшчы і Фінляндыі, ён стварыў шэраг бліскучых лірыка-эпічных паэм, а таксама звярнуўся да прозы. У шмат якіх творах Някляева, напісаных за мяжой, чытачу прапаноўваюцца не толькі неверагодна вобразныя, часам фантасмагарычныя карціны замежжа, але і часта скрайне скептычны погляд на Беларусь, яе мову і нацыянальную адметнасць вачамі іншаземцаў. Можна дадаць, што гэтыя іншаземцы часам з'яўляюцца ў выглядзе польскіх зданяў, пчол і іншых фантастычных істот. Прывяду толькі адзін прыклад пагардлівых заўваг фінскай пчалы, якая ўджаліла апавядальніка і – таму – ён яе пакахаў.  Вось некалькіх радкоў з паэмы “Ложак для пчалы” (2003):

**Ах, што за мова! Колькі звону ў слове!**
А восы – супраць! Авадні ўсе ў змове:
Таго няма! Сяго ёй не стае...
А як пчала на беларускай мове
Звініць-пяе!

І не адно звініць... Збірае мёд.
І не паздзіць пра мову і народ.

У іншай паэме, “Паланэз”, польская здань з гэткім самым непрыманнем ставіцца да беларускіх ідэалаў і памкненняў. Апроч скептычнай пчалы і стылізацый пад “Калевалу”, пункт гледжання фінаў таксама разглядаецца – у больш празаічным ключы – у аповесці “Няхай жыве 1 Мая!” Тут абыякавасць – горшая за пагарду. Можна таксама згадаць надзвычай скандальны раман Някляева “Лабух”, дзе спалучаюцца вострая палітычная сатыра, секс і даасізм – у такім парадку паводле значнасці. Таксама варта назваць зборнік высокаталенавітай паэзіі “Так!” – на той час Някляеў сказаў мне, што гэта, напэўна, ягоная апошняя кніга паэзіі. Я вельмі ўсцешыўся, што выйшла іначай. Жыццё за мяжой, бясспрэчна, дало Някляеву шанец свабодна, не стрымліваючы сябе, выказваць свае пачуцці, хоць ён, вядома, быў жорстка пакараны.

Яшчэ адна прычына, з якой з'язджаюць з краіны, – шлюб. У выпадку з Вальжынай Морт страта для Беларусі абярнулася набыткам для Амерыкі: яна выйшла замуж за амерыканца і цяпер жыве ў Злучаных Штатах. На жаль, Вальжына Морт пачала пісаць вершы на ангельскай мове замест роднай беларускай. Амаль з пэўнасцю можна сцвярджаць, што яе будуць больш за ўсё памятаць дзякуючы малой колькасці, але высокай якасці вершаў, надрукаваных да ад'езду ў ЗША. Прынамсі, у гэтай страце нельга вінаваціць нікога іншага: шлюб, як турма, – жыццёвая універсалія (праўда,

мне асабіста і да галавы не прыйдзе іх параўноўваць...).

*

Два гады таму ў спантанным інтэрв'ю рускамоўнаму часопісу *"Большой"* я меў неасцярожнасць мімаходзь параіць Нямеччыну як краіну, дзе беларускія пісьменнікі могуць з большай верагоднасцю знайсці да-памогу і падтрымку, чым, да прыкладу, у Вялікабрытаніі. З таго часу аб'ём ліставання ў мяне вырас у геаметрычнай прагрэсіі. Мне б хацелася назваць двух вельмі адрозных аўтараў, якія (вядома, *не* з маёй парады) досыць доўгі час жылі ў Нямеччыне, і сказаць, як там склаўся іх творчы лёс. Алесь Разанаў – буйны паэт-авангардыст філасофскага складу – атрымаў за-прашэнне ад гасціннага Нямецкага ПЭН-клубу прыехаць працаваць у Гановер. Заўсёды складаны паэт-эксперыментатар, Разанаў пачаў апісваць свой новы асяродак у чароўна простых вершах і адначасова спрабаваць сябе ў новых жанрах. Ён таксама пазнаёміўся з сваёй перакладчыцай на нямецкую і зрабіў спробу ствараць вершы па-нямецку. На маю думку, гэта натуральнае, але бясплённае пачынанне, як у выпадку з Іосіфам Бродскім, які ў Амерыцы спрабаваў пісаць па-ангельску. Разанаў цяпер вярнуўся ў Беларусь.

Другі (і зусім іншы) пісьменнік – Альгерд Бахарэвіч. Ён пачынаў панк-спеваком і ў гэтай якасці назваў Беларусь "Быдляндыяй". Пасля шэрагу розных скандалаў і шматабяцальнага пачатку кар'еры празаіка Бахарэвіч эміграваў у Гамбург. Ён не рабіў там сакрэту з захаплення Нямеччынай і нелюбові да Беларусі, але – і гэта больш істотна – стварыў у Гамбурзе некалькі цікавых, амбітна задуманых аповесцяў і розных дасціпных праектаў, як, прыкладам, гэтак званая "Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча".

Сярод эмігрантаў яшчэ большым хуліганам быў яркі паэт-экстраверт Славамір Адамовіч, аўтар злоснага верша на рускай мове *"Убей президента!"* За яго – і гэта не сталася нечаканасцю – Адамовіча пасадзілі ў турму. Пазней ён з'ехаў у Нарвегію, аднак цяпер, наколькі мне вядома, жыве то ў Беларусі, то ў Скандынавіі.

І нарэшце, у гэтым кароткім аглядзе аўтараў – і не толькі, – якія з'ехалі з Беларусі і працуюць у іншых краінах, я мушу згадаць надзвычай таленавіты беларускі "Вольны тэатр". Сутыкнуўшыся, вельмі мякка кажучы, са шматлікімі праблемамі, яго трупа не змагла больш выступаць у падполлі Беларусі, а цяпер мусіць ставіць свае п'есы за мяжой. Хоць тэатр шмат гастралюе, ён, здаецца, асеў у Англіі, дзе карыстаецца моцнай падтрымкай вядомых драматургаў і акцёраў.

Пытанне месца жыхарства змусіла мяне апісаць часам вельмі драматычныя, а часам менш напружаныя выпадкі, калі беларускія пісьменнікі яго змянялі. Разважаючы на гэтую тэму, трэба адзначыць, што не толькі тыя, хто абраў замежжа, але і некаторыя маладыя паэты ў самой Беларусі адкрыта крытыкуюць сваю культурную традыцыю, смяюцца з асобных пісьменнікаў-класікаў і пішуць на іх пароды. Я асабіста ўспрымаю гэта як адзнаку сталасці літаратуры, а не яе слабасці.

*

І яшчэ адна светлая нота: здаецца, беларуская мова нарэшце заваёўвае пазіцыі не толькі сярод нацыянальна свядомай інтэлігенцыі старэйшага пакалення, але і сярод грамадска і палітычна актыўнай моладзі, за якой будучыня краіны. Сярод іх ёсць некалькі вельмі маладых паэтаў, якім будзе прысвечаная мая наступная кніга.

*

Натуральна, што гісторыя Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, ужо не кажучы пра Расійскую імперыю, выклікае шмат спрэчак, калі пераемніцамі лічаць сябе некалькі нацый – як сказалі б некаторыя, сіяністы, украінцы, летувісы і перадусім беларусы. Усе шматнацыянальныя дзяржавы па распадзе пакідаюць гістарычную спадчыну, якую немагчыма ахарактарызаваць адназначна. І Вялікае Княства Літоўскае, якое ў час свайго росквіту распасціралася ад Балтыйскага мора да Чорнага, – не выключэнне. Як я ўжо адзначаў, часта адбываюцца дыскусіі, асабліва паміж палякамі, летувісамі і беларусамі, але істотна памятаць, што гісторыя пачалася не ў 1944 годзе і тым болей не ў 1994 годзе – яна належыць усім беларусам.

І нарэшце, у развагах пра месца жыхарства я прывёў прыклады, калі некаторыя пісьменнікі, пераехаўшы жыць і працаваць у іншую краіну, адчулі другое дыханне. Вядома, “Вольны тэатр” – у іншым становішчы, бо кожны актор і драматург з большай ахвотай звяртаўся б да гледачоў сваёй роднай краіны, калі б гэта было магчыма.

*

Нягледзячы на некаторыя адмоўныя бакі літаратурнага жыцця, якія я адзначыў на пачатку свайго выступу, беларуская літаратура нейкім чынам працягвае квітнець і ў самой краіне, і за мяжой. Я спадзяюся, што, знаходзячыся ў Мінску, некаторыя з славістаў, хто яшчэ не адкрыў для сябе багацце беларускай культуры, натхняцца ўзбагаціць свае веды. Жыве Беларусь!

# БЫЦЬ АЛЬБО НЕ БЫЦЬ
## ЯК БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАННЕ

**Серж Мінскевіч**

Сёлета адзначалася 450-я гадавіна з дня нараджэння генія сусветнай літаратуры Ўільяма Шэкспіра. Яго творы нагэтулькі “несастаральныя”, нагэтулькі выкрываюць псіхалагічныя нюансы чалавека, што нават паўстала вядомае “шэкспіраўскае пытаньне” – хто аўтар? Ці мажліва, што сын рамесніка, які быў, фактычна, малаадукаваны, бо няма яго дакументаў аб заканчэнні сярэдняй школы, раптам пачынае пісаць геніяльныя п’есы? Здзіўляе слоўнікавая шырыня п’есаў – да 29 000 адзінак! І гэта ў чалавека, які, як падавалася, быў не надта начытаны. Яшчэ адзін аргумент – не захавалася подпісаў на яго рукапісах, а само імя Шэкспір – Shakespeare – часта друкавалася праз дэфіс – *Shake-speare – Патрасаючы дзідай*. Можна дапусціць, што нехта з арыстакратаў, ці група арыстакратаў, выкарыстала прывабнае і шматзначнае прозвішча актора, як псеўданім-прыкрыццё, бо ў тыя часы займацца пісаннем – было нягодным заняткам для высокага дваранства. Прыхільнікі версіі, што за актора Шэкспіра пісаў нехта іншы, прапаноўвалі розных адукаваных вяльможаў. На сёння маецца каля 80 прэтэндэнтаў. Называліся гучныя імёны: філосаф Фрэнсіс Бэкан; паэт, драматург, шпег Крыстафер Марло; Эдвард дэ Вэр, 17-й граф Оксфард; і нават Марыя Ст’юард, каралева Шатландыі. Апошнюю пакаралі ў 1587 годзе, а дагэтуль яна была пад хатнім арыштам і мела дастаткова часу для стварэння драматургічных твораў, тым больш шатландская каралева, несумненна, мела літаратурны талент. Апрача таго, на канвентах фантастычнай літаратуры лунае напаўжартаўлівая думка, што Шэкспір быў іншапланетным пісьменнікам, якога паслалі на Зямлю для развіцця чалавецтва, каб паглыбіць самааналіз у віду Homo sapiens.

Афіцыйнае літаратуразнаўства “шэкспіраўскае пытанне” не прымае, лічыць яго спекулятыўным. Чаму чалавек, які абарачаўся ў тэатральных колах, сам быў акторам і вучыў столькі розных роляў, не мог спачатку завучваць, рэдагаваць чужыя творы, затым паспрабаваць пісаць свае, і, нарэшце, здабыць літаратурны досвед? І гэта цалкам лагічна.

Жарсці вакол Шэкспіра, “ламанне дзідаў” вакол таго, хто “дзідай патрасае”, не сціхаюць ужо амаль паўтысячы гадоў. Гэта паказвае наколькі пытанні, пастаўленыя ў яго творах, вострыя.

І, вядома, непакоіць людское ўяўленне адвечнае пытанне “Быць альбо ня быць?”. Дарэчы, менавіта з такім азначэннем пачынаецца знакаміты маналог, а дакладней салілоквій* Гамлета ў перакладзеным на беларускую мову фільме “Гамлет” знакамітага італьянскага рэжысёра Франко Дзэфірэлі, які сёлета ішоў на канале “Белсат”.

---

*Салілоквій – (ад лацінскага *solus – сам, адзін, loqui – кажу*)) – прамова, якая адрасаваная да самога сябе.

ГАМЛЕТ

*Быць альбо ня быць. Адвечнае пытанне…*

Рэдактар перакладу такім чынам завастрыў увагу гледачоў на словах героя, але пры гэтым адышоў ад формы арыгіналу, замяніўшы пяцістопны радок шасцістопным. Таксама "падправіў" аўтара, пастараўшыся праясніць фразу, здавалася б, трапным азначэннем – *адвечнае*.

Але, як вядома, салілоквій Гамлета пачынаецца:

*To be, or not to be: that is the question:*
*Whether 'its nobler…*

Вось гэтае *that is the question* (літаральна *тое ёсць пытанне*) і стварыла цяжкасці перакладнікам. Расейскі шэкспіразнавец Міхаіл Марозаў, каментуючы гэты радок, пісаў: "*Быть или не быть, вот в чём вопрос. Благароднее ли…*". – Столь же правомерна пунктуация: "*Быть или не быть. Вот в чём вопрос: благороднее ли...*" [1].

Тлумачыцца гэта тым, што заканчэнне радка адносіцца як да пачатку "быць альбо ня быць", так і да наступнага разгорнутага пытання: *Ці высакародней моўчкі трываць прашчы і стрэлы лютага лёсу альбо ўзняць зброю супраць мора бедстваў і ў працістаянні пакончыць з імі?*

Рэч у тым, што ў прыжыццёвым выданні – у зборніку п'есаў, які ў літаратуразнаўстве называецца "Good Quarto" (1604 – 1605) усе словы аддзяляліся коскамі:

*To be, or not to be, that is the question,*
*Whether tis nobler…*

А ў "Першым Фоліа", выдадзеным у 1623 годзе пасля смерці драматурга яго калегамі (некаторыя – Джон Хемінг і Генры Кондэл – самі гралі ў яго п'есах), пунктуацыя расстаўлена наступным чынам:

*To be, or not to be, that is the Question:*
*Whether tis nobler…*

Адметна, што слова *Пытанне* напісана з вялікай літары, што дэманструе яго вагу і важнасць. Сёння можна сустрэць гэтую фразу аформленую з двукроп'ямі, як прыведзена вышэй, альбо з пытальнікам і працяжнікам:

*To be, or not to be? That is the question –*
*Whether 'tis nobler…*

Такі розны выбар знакаў пунктуацыі, дае падставы для інтэрпрэтацый пры перакладзе. Таму натуральна, што кожны беларускі перакладнік

прапанаваў сваю версію пачатка Гамлетава салілоквія.

Сяргей Балахонаў піша: “Магчыма, што адзін з першых перакладаў (*салілоквія Гамлета – С.М.)* належаў аўтарству загадкавага беларускага творцы XIX ст. Альгерду Абуховічу. Аднак ад яго архіваў не засталося і знаку” [2]. Таксама ёсць сведчанні, што “Гамлета” ў 1929 годзе перакладаў Іван Краскоўскі, захаваліся фрагменты, але на конт тэксту салілоквія ў гэтым перакладзе звесткаў не стае.

На дадзены момант даступныя чытачам сем перакладаў выбітнага твора на беларускую мову. Гэта пераклады: Юркі Гаўрука (першы варыянт 1935 г), Віталя і Артура Вольскіх (1954), Сяргея Балахонава (2007/2010), Антона Францішка Брыля (2009), Кірыла Кавалёнка (2011). Варыянт апошняга перакладніка паспрабаваў адрэдагаваць Зміцер Крэчат і апублікаваў у Інтэрнеце (2012). У 2013 годзе да перастварэння слоў Гамлета па-беларуску далучыўся і аўтар гэтага артыкула.

Які пачатак Гамлетава салілоквія ў сваіх працах прапануюць беларускія перакладнікі?

Юрка Гаўрук, фактычна, канстатуе:

*ГАМЛЕТ*

*Пытанне: быць альбо не быць? Што лепей,*
*Што разумней…* [3]

У бацькі і сына Вольскіх гучыць катэгарычна:

*ГАМЛЕТ*

*Быць ці не быць? – пытанне толькі ў гэтым;*
*Што больш высакародна…* [4]

Аднак такая пастаноўка аўтаматычна адсякае іншыя магчымыя сэнсы, напрыклад – *быць – існаваць, быць – выяўляць сябе, быць – адстойваць свой пункт гледжання…*

Пераклад Кірыла Кавалёнка падобны да рытмізаванага падрадкоўніка са спарадычнымі рыфмамі, выкладзенага слупком.

ГАМЛЕТ

*Быць альбо ня быць? Вось у чым пытаньне:*
*А стрэлы і ўдары лёсу – ці варты яны трываньня?* [5]

У дадзеным выпадку першы радок скалькаваны (свядома ці міжвольна) з перакладу на рускую мову Мікалая Палевога (1837 г.). За М. Палевым “*вот в чем вопрос*” паўтарылі: А. Кронеберг (1844 г.), С. Юр’еў (1881 г.) П. Гнедзіч (1892 г.) П. Каншын (празаічны пераклад 1893 г.) К. Р. (1899 г.), М. Росаў (1907 г.), Д. Міхайлоўскі (1917 г.) А. Радлова

(1937 г.) М. Марозаў (празаічны пераклад 1939/54 гг.) і Б. Пастэрнак (1940/1960 гг.), С. Богарад (2007 г.), С. Тапер (2008 г.), Міраж (2009 г.), А. Цвяткоў (2010 г.), В. Сурнін (2013 г). З 44-х вядомых перакладаў знакамітага салілоквія Гамлета на расейскую мову – 16 (больш адной чацвёртай) рэпрэзентуе менавіта дадзены варыянт.

Вельмі творча падышоў да праблемы перакладу пачатка салілоквія Сяргей Балахонаў.

*ГАМЛЕТ*

*Быццё або Нябыт – стаіць пытанне,*
*Што больш шляхетна…* [2]

Замена інфінітываў *быць* і *ня быць* на антонімы *Быццё* і *Нябыт,* напісанымі з вялікай літары, надзвычай драматызуе развагу, узмацняе філасофскі ракурс. Гэта можна лічыць добрай вынаходкай, тым больш знойдзеныя перакладнікам словы цудоўна кладуцца на пяцістопны шэкспіраўскі ямб. А выраз *стаіць пытанне* – адсылае да фразеалагізму "стаіць пытанне рубам", г. зн. яно надзвычай важнае. Безумоўна, можна крытычна заўважыць, што ў такім пачатку салілоквія больш ад Балахонава, чым ад Шэкспіра. Ці як пракаментаваў Андрэй Хадановіч: "гэта адмысловая літаратурная гульня". Але такая інтэрпрэтацыя, несумненна, ёсць каштоўным і адметным набыткам беларускай перакладной літаратуры.

Расейскі перакладнік Гамлета Андрэй Чарноў аднойчы прамовіў: "Мне жаль ямбического затакта "To be, or not to be...", того первого безударного слога, в котором слышен резкий вдох и виден взмах поднявшейся для удара руки… [6]. У яго перакладзе пачатковы радок выглядае наступным чынам:

*Так быть или не быть?.. Ну и вопрос!..[6]*

Мажліва пра ненаціскны склад, пра большую гукавую адпаведнасць арыгіналу падумаў і Антон Францішак Брыль. Пачатак салілоквія ў яго варыянце:

*То быць – альбо не быць? Пытанне ў гэтым.*[7]

Насамрэч, даволі блізка да ангельскага гучання. Але ўсё ж такі ненаціскны склад ствараецца інфінітывам *to be*. У Шэкспіра выразна заўважаецца люстраванне фразы *to be – not to be.* Дзеяслоў супрацьпастаўлены самому сабе – толькі са знакам мінус. Антысіметрыя… Асацыятыўна падобна – матэрыя і антыматэрыя, а пры іх судакрананні – анігіляцыя... І дасягаецца простымі сродкамі *быць – ня быць,* нічога лішняга. Таму, на нашу думку, часціцы перад дзеясловам – больш нясуць адзнакі ўпарадкавання фразы дзеля рытму, чым пэўную сэнсавую нагрузку. А "вдох і взмах рукі" – гэта ўжо акторскія сродкі выяўлення, якія можна

зрабіць і ў затакту да чытання ўсяго салілоквія. Але гэта пытанні густу. Несумненна, знаходка Антона Францішка Брыля прапануе беларускаму чытачу выбар.

Аднак праблемы перакладу, што ўзнікаюць у першым жа радку, не толькі датычыцца пунктуацыі і рытму.

Некалі ў Менску наконт пачатка гамлетаўскага салілоквія аўтару гэтага артыкула давялося ўдзельнічаць у цікавай дыскусіі. Майкл Галдзянкоў – пісьменнік, журналіст, англіцыст выказаў сваё разуменне знакамітай фразы Шэкспіра. Ён слова “*that*” інтэрпрэтаваў не як указальны займеннік “*тое*”, а як злучнік – “*што*”. І такім чынам атрымлівалася іншае прачытанне фразы:

*Быць альбо ня быць, што ёсць пытаньне?*

Майкл Галдзянкоў казаў гэта з пэўнай інтанацыяй, якая прыбірала сумненне, і сцвярджаў, што ў Гамлета не было ваганняў, для яго адказ ужо вядомы – *быць!, змагацца!* А другая палова – як вынікае з такога разумення – *не быць* – гэта тое, што супрацьстаіць гэтай рашучасці, што надыходзіць звонку. Майкл Галдзянкоў, прамаўляў фразу наступным:

*Быць альбо не быць – што за пытаньне?*

і нават:

*Быць альбо не быць, дый не пытанне… Ці высакародней моўчкі трываць прашчы і стрэлы лютага лёсу альбо ўзняць зброю супраць мора бедстваў і ў процістаянні пакончыць з імі?*

– Дзе тут пытанне? – эмацыйна тлумачыў сп. Майкл. – Трэба быць сабой, а значыць высакародным!

Ускосна такую інтэрпрэтацыю пацвярджае тэкст першай публікацыі гэтага салілоквія ў “Bad Quarto” (1603 г.), дзе гэтая фраза падавалася наступным чынам:

*To be, or not to be, I there's the point…*
*To die, to sleep, is that all? I all…*

Тут “*I*” = “*aye*”, што перакладаецца, як “*так*”, таму даслоўны пераклад:

*Быць альбо не быць, так, ёсць пункт (гледжання), што памерці, заснуць гэта усё? Так усё…*

Пытанне пра змаганне з прашчамі і стрэламі было прапушчана. Праўда, адсылка да “Bad Quarto” (1603 г.) – гэта слабы аргумент, бо гэтае выданне зроблена пірацкім спосабам – фактычна “знятае” з вуснаў

невядомага актора, які граў невялікія ролі ў спектаклі. І вось як ён змог запомніць тэкст п’есы, гэтак і надрукавалі. Аднак, з іншага боку, памяць гэтага актора, несумненна, захавала тыя рэчы, якія нечым вылучаліся, былі найважнейшыя для развіцця п’есы... Чаму замест слова *пытанне* яму запомнілася *пункт*, чаму знікла змаганне? Мажліва інтэрпрэтацыя гэтага актора ў нечым супадала з інтэрпрэтацыяй Майкла Галдзенкова: для Гамлета не стаяла пытання – змагацца ці не змагацца, ісці супраць ці не ісці… Ісці трэба, але вось што будзе далей? Больш востра стаяла пытанне, што там, па смерці? Можа гэта ўсяго толькі сон?

Яшчэ адзін удзельнік дыскусіі Віктар Казулін, філолаг, журналіст, не прымаў інтэрпрэтацыю Майкла Галдзенкова, бо ў такім выпадку Гамлет выглядаў рамантычным героем. Тым, хто без вагання, паводле волі свайго сэрца ідзе на здзяйсненне вялікіх чынаў. І гэта відавочны анахранізм. Эпоха рамантызму прыйшла пазней (як мінімум яшчэ праз паўстагоддзя). Аднак менавіта рамантыкі выярчылі, узмацнілі той нібыта рамантычны запал у характары Гамлета, і цяпер назаўжды рамантычны арэол асвятляе прынца дацкага.

Віктар Казулін казаў, што пры інтэрпрэтацыі, якую прапануе Майкл Галдзянкоў прыцяняецца ўнутраная барацьба, што адбываецца ў самім чалавеку. І хоць Гамлет быў каралеўскай крыві, ён усё-ткі быў звычайным, зямным чалавекам. А паўстаць на змаганне, на помсту яго прымушае гонар роду і неверагодная з’ява – прывід бацькі. І ўсё-ткі, Гамлет да канца не верыць прывіду, таму наладжвае праверку караля Клаўдзія з дапамогай вандроўных актораў.

Сумненні ў чалавеку, ягоныя ўнутранныя запытанні – безумоўна важны сукупны складнік чалавечай істоты, і таму, як згадвалася вышэй, слова *Question (Пытанне)* у “Першым Фоліа” пастаўлена з вялікай літары.

Безумоўна, кожная інтэрпрэтацыя, кожны пераклад дадае сваю сэнсавую грань да тэксту арыгінала. Адзін інтэрпрэтатар завастрае ўвагу на адных мясцінах тэксту (гіпербалізуе, падсвятляе ці робіць кантраснымі), другі на іншых. Нават пэўнае дадаванне, упрыгожванне ці рэдагаванне на іншай мове аўтарскага тэксту, пры супастаўленні адкрывае патаемныя далягляды у сэнса-свеце аўтарскага твора.

Пад час памянёнай вышэй дыскусіі аўтар гэтага артыкула ўжо меў свой варыянт перакладу знакамітага салілоквія, праўда чарнавы, пакрэслены. І Майкл Галдзянкоў настойваў (у добрым сэнсе гэтага слова) на тым, каб уставіць яго варыянт… *не пытанне* ці *што за пытанне?* На ягоны жаль, быў прыняты бок Віктара Казуліна, хаця гэта ніякім чынам не кажа, што няма рацыянальнага зерня ў довадах Майкла.

Таму ў нашым перакладзе пачатак гучыць наступным чынам:

*Быць альбо ня быць, і ў тым пытаньне,*
*Дзе болей годнасьці…* [8]

Гэтае *ў тым* можна аднесці як да першай часткі фразы, так і да другой. Як відаць, не ўдалося захаваць у першым радку чысты ямб, аднак, у тэксце “Гамлета” інверсіі націскаў, дзе радок набліжаны да харэя, прысутнічаюць. Напрыклад, 4 радок: *Or to take arms against a sea of troubles,* які пачынаецца харэем.

У сумненнях-ваганнях Гамлета заўважаецца рух, як чалавек зямны апрыёры робіцца тым змагаром, які гатовы ісці на смерць за свае ідэалы – гонар, волю, праўду. Ці наадварот – адступае, зміраецца…

Можна адчуць, што гэты салілоквій у перакладах (пераважна расейскіх дый некаторых беларускіх) надта рамантызаваны. Але ж у трагедыях Шэкспіра заўсёды ёсць месца для гумару, для “салёных” слоўцаў. Напрыклад, пераклад Юрыя Андруховіча на ўкраінскую мову зроблены з ужываннем прастамоўя, а зрэдчас вульгарызмаў, у яго перакладзе ўвага надаецца камічнаму і сатырычнаму, што ёсць у п’есе.

Апрача таго, адметнасць Шэкспіравага стылю – гэта каламбурнасць, повязь некалькіх сэнсаў, а зрэдчас і народны эратызм, і скаброзус, што могуць хавацца ў самых высокамоўных сентэнцыях. Таму з боку дзіўнымі могуць выглядаць асобныя смяшкі ў залі, калі чытаецца шэкспіраўскі напружаны маналог. Нехта бачыць падводныя сэнсы, а нехта ўспрымае толькі тое, што на паверхні.

Не выключэнне і салілоквій “Быць альбо не быць”. Паспрабуем прасачыць рух асобы Гамлета праз моры яго сумненняў, запытанняў, а таксама пранікнуць у вераемныя каламбурныя сэнсы аўтарскага тэксту. Зробім гэта на прыкладзе супастаўлення перакладаў, але гэта не будзе азначаць, што нейкі пераклад лепшы ці горшы, папросту рэпрэзентуем свой варыянт як мажлівую праяву адной з перакладніцкіх стратэгій.

Такім чынам, перад Гамлетам, прынцам дацкім, стаіць выбар: альбо цярпець пакуты, несправядлівасць ці паўстаць супраць *мора бедстваў*. Большасць беларускіх перакладнікаў, апроч К. Кавалёнка паказалі гэта адэкватна арыгіналу:

*2. Whether ’tis nobler in the mind to sufler*
*3. The slings and arrows of outrageous fortune,*
*4.Or to take arms against a sea of troubles,*
*5. And by opposing end them?*

*2. Ці высакародней у розуме (з усведамленнем) трываць*
*3. Прашчы і стрэлы абуральнага лёсу,*
*4. Альбо ўзняць зброю супраць мора бедстваў*
*5. І ў супрацьстаянні пакончыць з імі*

(Падрадкоўнік створаны з выкарыстаннем празаічнага перакладу М. Марозава на рускую мову.)

*Што разумней: альбо цярпець удары,*
*Каменні, стрэлы яраснага лёсу,*
*Альбо узброіцца на мора крыўд…*
(пераклад Ю. Гаўрука)

*Што больш высакародна: пакарыцца*
*Прашчам і стрэлам яраснага лёсу,*
*Ці ў паядынку з цэлым морам крыўд*
*Перамагчы яго?*

(пераклад В. і А. Вольскіх)

*Што больш шляхетна: вытрываць маўкліва*
*Прасткі і стрэлы здзеклівага лёсу*
*Або ж уступным боем бездань бедаў*
*Біць і змагчы іх?*

(пераклад С. Балахонава)

*Што годна сапраўды: прымаць маўкліва*
*Ад лёсу звар'яцелага напады,*
*Ці стаўшы збройна супраць мора бедаў,*
*Тым самым іх пазбыцца?*

(пераклад А. Ф. Брыля)

*А стрэлы і ўдары лёсу – ці варты яны трываньня?*

(пераклад К. Кавалёнка)

Юрка Гаўрук і К. Кавалёнак апусцілі адну з найважнейшых для Гамлета якасцей чалавека – высакародства. "*Што разумней*" – усё-такі не зусім адпавядае аўтарскаму тэксту. Яшчэ немалая дэталь, як трываць здзекі. С. Балахонаў і А. Ф. Брыль паставілі ўдакладненне – "*вытрываць моўчкі*", "*прымаць маўкліва*". С. Балахонаў трапна заўважыў, што трэба не проста чакаць, калі "беды" прыйдуць да цябе, а выйсці ва "*ўступны бой*", што закладзена ў фразе – *And by opposing end them?*

Для эпітэту лёсу – *outrageous* – *абуральны, абражальны (*ёсць адценне – *празмерны)* – Ю. Гаўрук і В. і А. Вольскія выбралі – *ярасны*, гэта фактычна супадае з перакладам на рускую мову М. Лазінскага, дзе фігуруе *яростная судьба*. Такі эпітэт больш пасуе для твораў рамантыкаў. Цікавае азначэнне падабраў А. Ф. Брыль – *звар'яцелы* лёс. Гэта адсылае да іншай знакамітай фразы Гамлета:

*The time is out of joint; O curs'd spite,*
*That ever I was born to set it right!*

*Зьвіхнуўся век зьнявечаны! От ліха –*
*Народжаны я збавіць свет ад зьвіху!*

(у нашым перакладзе)

Аднак вернемся да салілоквія. У С. Блахонава адэкватна арыгіналу – *лёс здзеклівы*. Аўтар гэтага артыкула падабраў сінанімчнае слова да *лёсу* – *кон* (сугучнае са словам *скон*, што далей будзе абыграна) і прапанаваў эпітэт – *жорсткі*. Таксама *бой уступны = бітва стрэчная:*

*Дзе болей годнасьці: цярпець сьвядома*
*Прашчы і стрэлы жорсткага нам кону,*
*Альбо ўзьняць зброю супраць мора бедстваў*
*І ў бітве стрэчнай зьнішчыць?*
*(пераклад аўтара артыкула)*

Далей Гамлет разважае – што такое смерць? Бо ў бітве ёсць рызыка, што ты не пераможаш, а напаткаеш сваю смерць.

*5. To die: to sleep;*
*6. No more; and by a sleep to say we end*
*7. The heart-ache and the thousand natural shocks*
*8. That flesh is heir to, 'tis a consummation*
*9. Devoutly to be wish'd. To die, to sleep;*
*10. To sleep: perchance to dream: ay, there's the rub…*
*11. For in that sleep of death what dreams may come*
*12. When we have shuffled off this mortal coil…*

*5. Памерці – заснуць*
*6. Ня больш таго. І падумаць толькі, што гэтым сном мы заканчваем*
*7. Боль сэрца і тысячы жыццёвых udараў,*
*8. Якія ёсць доляй цела, бо гэта канец,*
*9. Якога можна ад усёй душы пажадаць! Памерці. Заснуць.*
*10. Заснуць: можа быць бачыць сны; так, вось у чым перашкода...*
*11. Бо ў гэтым смяротным сне, якія нам могуць прысніцца сны,*
*12.Калі мы вывернемся са смяротнага вузла сумятні…*

(падрадкоўнік)

*Смерць і сон –*
*Адно і тое ж; і сказаць, што сном*
*Канчаюцца туга, і боль, і крыўды,*
*І тысячы пакут, што чалавеку*
*Дала прырода ў дар, – такі канец*
*Сустрэў бы з радасцю. Смерць – сон, заснуць,*
*Заснуць і марыць. Так. Але пытанне:*
*Якія мары поўняць сон смяротны,*
*Калі пакінеш гэты шумны свет?*
(пераклад Ю. Гаўрука)

*Заснуць, памерці, –*
*І знаць, што сном навекі абрываеш*
*Тугу і смутак тысячы пакут*
*Жывога цела. Як жа не імкнуцца*
*Да гэтага канца. Заснуць, – памерці, –*
*Заснуць! І бачыць сны? Вось цяжкасць дзе!..*
*Якія будуць сны нас непакоіць*
*У смертным сне, калі нікчэмны свет*
*Пакінем мы?* (пераклад В. і А. Вольскіх)

*Смерць падняць, сны ўбачыць.*
*Няйнакш! Каб так давесці, што боль сэрца*
*Ды тысячы пакутаў разматых*
*Цялеснае прыроды маюць межы –*
*Схацеў бы шчыра смерць падняць, сны ўбачыць.*
*Убачыць сны? Стаіць пытанне рубам…*
*Што ў снах смяротных мроіць давядзецца,*
*Калі мы марнасць рэчаў земскіх скінем?*
(пераклад С. Балахонава)

*Ўмерці – то бок*
*Заснуць; і толькі. Гэты сон, між тым,*
*Кладзе канец і болям, і бязладдзям,*
*Што плоці прыналежаць. Успаўненне*
*Ўсяго, зайздросны шлях. Памерці. Спаць.*
*Спаць. Мо і сніць аб нечым... Вось дзе пастка;*
*Што прыйдзе там да нас, у сне смяротным,*
*Калі з душы атрусім тло жыцця?*
(пераклад А. Ф. Брыля)

*Ці мабыць лепш памерці і заснуць, заснуць, заснуць?*
*Калі канец жыцьця пагрозам і трывогам*
*Яны нясуць, то як жа можна не жадаць такога дару Бога?*
*Памерці і заснуць. І нават бачыць сны.*
*Толькі якія? Вось пытаньне… Што прынясуць яны*
*Там, за мяжою сьвету? Якія жа званы*
*Складуць санэт, калі пазбавімся мы ад слаты жыцьця?*
(пераклад К. Кавалёнка)

Блізка да арыгінала ў гэтым фрагменце атрымалася ў Ю. Гаўрука. У перакладзе спадароў Вольскіх апушчана параўнанне – "*памерці – заснуць – ня больш таго*". Дый і слова "*заснуць*" стаіць чамусьці на першым месцы, але гэта важна, што Шэкспір выходзіць на выснову, *смерць падобная сну, а не наадварот… Памерці – як заснуць, а не заснуць як памерці (!).* І гэты сон, мабыць, дае заспакаенне. Адметна, што К. Кавалёнак назваў яго – смяротны сон, што нясе канец жыцця пагрозам і трывогам – *дарам Бога*. Перакладніцкая гіпербала, скажам, надта смелая. Але і добраахвотны рэдактар перакладу Кірыла Кавалёнка Зміцер Крэчэт таксама яе пакінуў. Да рэлігійнага адсылае і пераклад А. Ф. Брыля, жаданае заканчэння жыцця ў ягоным варыянце – гэта *успаўненне ўсяго…* Рэч у тым, што слова *devoutly* мае не толькі значэнне *ад усёй душы, шчыра*, але і *набожна*. Аднак у салілоквіі гаворка ідзе пра верагоднае забойства (бітва) і нават мажлівае самазабойства, і ці пасуе тут слова *набожна*? Мо ў гэтым фрагменце адчуваецца аўтарская аглядка на царкоўныя пастулаты? Бо Гамлет рыхтуе сябе пайсці дзеля помсты на грэх. Пакінем гэтае пытанне адкрытым. Аднак

несумненна, што пераклады К. Кавалёнка і А. Ф. Брыля завастраюць увагу на гэтым.

У перакладзе С. Балахонава заўважаецца, што беларускі творца абапіраецца на архаічную лексіку – *прасткі, схацеў,* словазлучэнні – *смерць падняць*. Стылізацыя прасочваецца па ўсім тэксце ягонага перастварэння. Яна адсылае да рыцарскіх часоў. І пры тым не да часоў Шэкспіра, а да часоў самога прынца дацкага Гамлета. Стылізацыя строга вытрымліваецца і працуе на цэласнасць салілоквія.

У беларускіх перакладах маецца пераасэнсаванне. Як відаць, у арыгінале Гамлет не кажа, што перад ім стаіць пытанне, ён прамаўляе слова *rub* – тэрмін гульні ў шары. "Так называлася ўсялякая перашкода, невялікая няроўнасць на глебе ці траве, якая адхіляла шар ад прамога руху да мэты [9]. Фактычна Гамлет іранізуе, што ўсё было б не так кепска, каб не невялічкая няроўнасць, – *чорт, нейкі гарбок…* У перакладных тэкстах ёсць не проста няроўнасць, зачэпка, а *пытанне рубам* (С. Балахонаў), *цяжкасць* (В. і А. Вольскія), *пастка* (А. Ф. Брыль). Зноў-ткі Гамлет паўстае рамантычным героем, перад якім стаяць вялікія важныя праблемы. І смяшок над самім сабою прыбіраецца.

Аўтар гэтага артыкула прапанаваў у якасці эквіваленту *rub* слова *замінка.* А *шчыра жаданае завяршэнне жыцця = consummation devoutly to be wish'd* перадаецца як *дасканалы скон, (да-скана-лы)* з каламбурным дваякім сэнсам: алначасова і *перфекцыйны*, і *адчуваны яшчэ да скону,* які, пэўна, падобны да прыемнага сну. Слова *consummation* яшчэ мае значэнне *заключэнне шлюбу*. Узнікае фонавая канатацыя – заключэнне звязу (дамовы) са смерцю – вядомы з сярэднявечча матыў.

*І… памерці –*
*Заснуць – няйнакш. І гэтым сном спыніць*
*Боль духу, тысячы турбот прыродных,*
*Што дастаюцца целу. Мы жадалі б*
*Такі мець дасканалы скон. Памерці –*
*Заснуць. Заснуць! Скон – сон? Аднак замінка –*
*Якія мары ў сьне сьмяротным прыйдуць,*
*Калі мы скінем путы крутаверці?*
*(пераклад аўтара артыкула)*

У Шэкспіра, у *смяротным вузлу сумятні* (*mortal coil),* паводле каментара М. Марозава, зліты два значэнні: *сумятня* і *вяроўка, што спіральна абвіваецца вакол цела* [1]. Верагодна, тут Шэкспір робіць намінку на шыбеніцу, якая чакае бунтаўнікоў? С. Балахонаў выкарыстоўвае біблейскае *марная марнасць*. У нашым перакладзе зроблена адсылка да беларускай прымаўкі, якую выкарыстоўваў Францішак Аляхновіч у назве сваёй п'есы "Круці не круці, а трэба памярці". *Крутаверць* захоўвае вобраз кручэння, кола, спіралі, а *путы* – якраз "выводзяць" на тую вяроўку, хаця вядома, перадаць цалкам каламбур Шэкспіра не ўдаецца. У Ю. Гаўрука –

*пакінем шумны свет*, што адпавядае *сумятні*, а ў В. і А. Вольскіх зноў-ткі выяўляецца супрацьпастаўленне героя і *нікчэмнага* свету. А. Ф. Брыль вытрымлівае рэлігійную лінію ў дадзеным фрагменце: “*калі з душы атрусім тло жыцця*”. К. Кавалёнак проста выводзіць героя (і ўсіх нас) за межы гэтага свету і разгортвае сваю ўласную метафару: *якія жа званы складуць санэт, калі пазбавімся мы ад слаты жыцьця?* Зм. Крэчэт пакідае яе і ў сваёй рэдакцыі. Адкуль паходзяць гэтыя вобразы, чытачы толькі могуць гадаць… магчыма вяроўка і язык звана нейк звязаны з вобразам Шэкспіра…

*13. Must give us pause: there’s the respect*
*14. That makes calamity of so long life;*
*15. For who would bear the whips and scorns of time,*
*16. The oppressor’s wrong, the proud man’s contumely,*
*17. The pangs of despised love, the law’s delay,*
*18. The insolence of office and the spurns*
*19. That patient merit of the unworthy takes,*
*20. When he himself might his quietus make*
*21. With a bare bodkin?*

*13. Думка пра гэта прымушае нас спыніцца: існуе павага*
*14. Што стварае цярпенні гэтак доўгага жыцця.*
*15. Бо хто стаў бы выносіць бізуны і насмешкі часу,*
*16. Несправядлівыя паклёпы прыгнятальніка, пагарду ганарліўца,*
*17. Болі адпрэчанага кахання, адвалоку ў судох,*
*18. Нахабства службоўцаў і ўдары-абразы,*
*19. Якія цярплівая годнасць атрымлівае ад нягодных,*
*20. Калі б ён мог сам зрабіць разлік*
*21. Аголеным стылетам?*
(падрадкоўнік)

*Вось што трымае нас, вось дзе прычына*
*Таго, што гора гэтак даўгавечна.*
*Бо хто цярпеў бы злыя здзекі часу,*
*Прымус тыранаў і знявагу гордых,*
*Самотны стогн разбітага кахання,*
*Марудны суд, чыноўнікаў нахабнасць,*
*Пляўкі на галаву заслузе скромнай,*
*Каб мог нас вызваліць ад усяго*
*Удар кінжалам?*
(пераклад Ю.Гаўрука)

*Вось што трымае нас,*
*Вось дзе прычына ўсіх турбот адвечных;*
*Хто-б вытрымаў удары, здзекі часу,*
*Гвалт дужага, пагарду ганарліўца,*
*Разбітага кахання боль нястрымны,*
*Маруднасць суддзяў, іх несправядлівасць,*
*Улады фанабэрыстай знявагі,*

*Якія зносіць сціплая заслуга,*
*Калі-б з сабой ён разлічыцца мог*
*Кінжалам?*

(пераклад В. і А. Вольскіх)

*Вось, што спыняе, робячы даўжэйшым*
*Жыццёвы цяг ліхіх нягодаў поўны.*
*Хто б стаў трываць глум і наругу часу,*
*Уціск тыранскі, звягу фанабэрцаў,*
*Бязмоўнае каханне, суд без праўды,*
*Людзей уладных вычварнае кепства*
*І корць нягоднікаў зняславіць цноту,*
*Калі з жыццём так лёгка паквітацца*
*Лязом халодным?!*

(пераклад С. Балахонава)

*Таму й марудзім. Вось яна, прычына*
*Цягнуць і доўжыць гэтую бяду.*
*Бо хто цярпеў бы здзекі злога часу,*
*Няпраўду моцнага, пагарду ганарліўца,*
*Знявагу ад каханай, і лайдацтва*
*Закону, і нішчымнасці пляўкі*
*Што дастаюцца годнасці бязмоўнай,*
*Калі падсумаваць бы мог усё*
*Штылетам звычным?*

(пераклад А. Ф. Брыля)

*Дык вось чаму няшчасьце так жыве, так доўга!*
*А хто бы вытрымаў шаленства, што заўсёды прынясе трывога?*
*Ціск моцных або сьлепату законаў?*
*І бізуны, і зьдзекі часу? І гонар Бога-ўладара?*
*Каханьня боль, такі дарэмны, што забівае спадара*
*Свайго жыцьця. І ўсё, што шчыры чалавек трывае*
*Ад людзей няшчырых, калі б ён мог атручаным кінжалам*
*Спакой здабыць.*

(пераклад К. Кавалёнка)

У Ю. Гаўрука і В. і А. Вольскіх знайшоўся добры вобраз *сціплай/ скромнай заслугі*. Пры гэтым у Ю. Гаўрука атрымалася натуралістычная (мо занадта?) карціна. А. Ф. Брыль таксама выдатна перадаў арыгінал – *годнасць бязмоўная*.

Калі ідзе пералічэнне, то перакладніку лягчэй падбіраць адпаведнікі, тасуючы аўтарскія вобразы. Аднак жа і тут стыхія фантазіі захапіла К. Кавалёнка, у яго з’явіўся *гонар Бога-ўладара* і *атручаны кінжал*. Такім чынам перакладнік гэтага ўрыўка, як бы падказвае чытачам, што чакае

Гамлета наперадзе. Але гэтага няма ў аўтарскім тэксце. Увогуле *bodkin* – вузкі стылет падобны да шыла. Ім можна толькі закалоць. Далей не выпадкова ў тэксце ўзнікае дзеяслоў "*рохкаць*". С. Балахонаў у гэтым адрэзку трапна падабраў слова паквітацца, ён амаль дакладна адпавядае Шэкспіраўскай фразе *quietus make.* У перакладзе Ю. Гаўрука і С. Балахонава праходзіць думка, якая таксама таіцца ў арыгінальным тэксце, што калі б смерць была сном, то лёгка можна было паквітацца не толькі са сваім жыццём, але і з жыццём нягоднікаў, бо не трэба было асцерагацца ў будучым пакутлівай кары. У перакладзе А. Ф. Брыля – ідзе падсумаванне жыцця, таму няясна, на каго накіраванае дзеянне, у прынцыпе можна прачытаць і так і гэтак. У В. і А. Вольскіх і К. Кавалёнка адназначна – ён можа *разлічыцца толькі з сабой*, і *спакой здабыць (сабе).* Хаця маюцца прыхільнікі менавіта гэтай версіі. Напрыклад, перакладнікі на расейскую мову М. Маклакаў, М. Лазінскі.

Наш варыянт:

*Грызуць сумненьні… Адсюль паклон*
*Злашчасьцям, што іх пажыцьцёвымі*
*І робіць. Бо хто трываў бы зьдзекі часу,*
*Хлусьню прыўладных, кпіны фанабэрных,*
*Глумленьне над каханьнем, суд няпраўны,*
*Чыноўнікаў нахабства і паклёпы*
*Душой убогіх на рупліўцаў годных,*
*Каб ён мог паквітацца па квітках*
*Стылетам?*

У гэтым выпадку Шэкспіраўскае *Must give us pause – Гэта (думка пра гэта) прымушае нас спыніцца*. Але што за думка? Відавочна – сумненні, сітуацыя якую можна апісаць *застыць у нерашучасці*. Таму паглыбляючыся ў вобраз, мы дапусцілі такую нібыта вольнасць – *грызуць сумненьні*… Аднак калі *сумненне* утварае каламбурную сувязь з *сумленнем,* то ўзнікае канатацыя пачуцця за той паклон (павагу, шанаванне) *злашчасьцям, што іх пажыцьцёвымі і робіць.* Яшчэ марудны, цягамотны суд, атрымаўся *няпраўным*. Хаця ў С. Балахонава таксама суд – *без праўды*... Кароткі радок вымушае ісці на некаторыя ахвяры. У чарнавіку ёсць варыянт – *суд бясконцы*. Аднак, гэта падаецца перабольшаннем. Цікавы варыянт у А. Ф. Брыля – *лайдацтва закону,* хаця служкі Феміды зацягвалі суды, часта не таму, што яны лайдакі, а каб паболей павыцягваць грошай ці цалкам "пахаваць" справу з мэтаю дагадзіць некаму уплывоваму і г.д.

| | |
|---|---|
| *21 Who would fardels bear,* | *21. Хто стаў бы насіць цюкі,* |
| *22. To grunt and sweat under a weary life,* | *22. Рохкаючы і пацеючы пад знясільваючым жыццём,* |
| *23. But that the dread of something after death,* | *23. Калі бы ня страх чагосьці пасля* |

*24. The undiscover'd country from whose bourn*
*25. No traveller returns, puzzles the will*
*26. And makes us rather bear those ills we have*
*27. Than fly to others that we know not of?*

*смерці –*
*24. Неадкрытая краіна, з-за межаў (рэк) якой*
*25. Ні адзін падарожнік не вяртаецца, – не азадачваў бы волю*
*26. І не прымушаў бы нас хутчэй згаджацца пераносіць тыя беды, якія мы маем,*
*27.Замест таго, каб ляцець да іншых, пра якія мы нічога не ведаем?*
*(падрадкоўнік)*

*Хто б валок ярмо,*
*Пацеў бы, ныючы ў нудзе жыццёвай?*
*Але мы ўсё ж баімся паміраць;*
*Таемны край, адкуль няма звароту,*
*Пужае нас, і воля наша слабне,*
*І мірымся мы з нашаю нядоляй:*
*Хто ведае, што нас чакае там?*
(пераклад Ю. Гаўрука)

*Хто-б тады цягнуўся з ношай,*
*Каб вохкаць і пацець пад цяжкасцю жыцця,*
*Калі-б не жах чагосьці пасля смерці, –*
*Краіна таямнічая, адкуль*
*Няма звароту нам – зямным бадзягам,*
*Палохае, бянтэжыць нашу волю,*
*І прымушае нас цярпець нягоды,*
*Бо невядома, што нас там чакае.*
(пераклад В. і А. Вольскіх)

*Хто б згадзіўся ношу*
*Цягаць такую, рохкаць, узмакрэўшы,*
*Калі б жа страх па смерці апынуцца*
*Ў краіне невядомай, скуль вяртання*
*Вандроўніку няма, не бэсціў волю*
*І не схіляў да згоды з плоймай бедаў*
*Даўно знаёмых, а не адпраўляцца*
*Шукаць нязнаных?!*
(пераклад С. Балахонава)

*Хто б цяжар абрыдлы*
*Бясконца валачыў, крахтаў, патнеў,*
*Каб толькі страх чагосьці там, за смерцю, –*
*Ў зямлі нязнанай, скуль яшчэ ніводны*
*Вандроўнік не вяртаўся, – не змушаў бы*

*Цярпець і далей звыклую нядолю*
*Ды не шукаць нязнанай узамен?*
(пераклад А. Ф. Брыля)

*А, хто бы пад цяжарам*
*Жыцьця стагнаў і енчыў? Ды толькі страх,*
*Які закладзены быў невядома кім ці чым,*
*Перад пагрозай сьмерці – нябачным гаем, у якім*
*Усё застаецца і адкуль ніхто ніколі не вяртаўся,*
*Нас прымушае жыць у пекле пакут вядомых і знаёмых*
*І адмаўляць сабе ў іншых, у незнаёмых, невядомых,*
*І мабыць нават не пакутах, а шчасьці.*
(пераклад К. Кавалёнка)

З усіх беларускіх перакладнікаў толькі С. Балахонаў наважыўся слова *grunt* ужыць у першасным значэнні – *рохкаць*. Існуе сведчанне, што калі публіка чула гэтае слова, раздаваўся і смех, і абурэнне. Апошняе, зразумела, з ложаў высакародных гледачоў. Таму ўсё ж С. Балахонаў зрабіў правільны выбар. А тое, што *рохканне* пераўтвараецца ў *ныццё* (Ю. Гаўрук), *вохканне* (В. і А. Вольскія), *крахтанне* (А. Ф. Брыль) *стогн і енк* (К. Кавалёнак), зноў жа такі тлумачыцца рамантызацыяй/узвышэннем вобразу Гамлета, у дадзеным выпадку з дапамогай стылю.

У гэтым урыўку цікавае слова *fardel*. Яно паходзіць з арабскага – *пакунак, упакоўка, цюк* [9]. Сайт “shakespeare-navigators.com” справядліва тлумачыць, што гэта варта разумець у пераносным сэнсе *бярэма, цяжар* [10]. Тое мы бачым у перакладнікаў – *ярмо* (Ю. Гаўрук), *ноша* (В. і А. Вольскія і С. Балахонаў) *цяжар жыцця, цяжар абрыдлы* (К. Кавалёнак, А. Ф Брыль). Аднак адметны сам факт, што Шэкспір абраў менавіта гэта рэдкае слова. Трэба ўявіць, што салілоквій чытае актор і ён, вядома, можа пры прамаўленні паказаць на сваё цела – “сваю тленную ўпакоўку”. Апрача таго *fardel* сугучна з вульгарным словам, што апісвае фізіялагічныя працэсы арганізму чалавека. Зноў такі сутыкаемся з прыёмам Шэкспіра – казаць пра высокае, сумяшчае гэта з нізкім. І нават самы фанабэрны ці ўнослівы чалавек, усяго толькі чалавек з усім тым, што яму дала прырода – прыгожым і не вельмі. Каламбуру, падобнага шэкспіраўскаму знайсці для нашага перакладу не ўдалося, таму была ўжыта стратэгія “кампенсацыя каламбура”, калі каламбур арыгінальнага тэксту замяшчаецца іншым, прыблізным паводле сэнсу..

*Хто б цягаў свой цюк набіты,*
*Патнеў і рохкаў у жыцьця загоне,*
*Калі б жах ад таго, што ж там па сьмерці –*
*Таемны край, ніводзін скуль вандроўнік*
*Ня змог вярнуцца, – не бянтэжыў волю*
*Галаваломкай і не змушаў цярпець*

*Прывычныя цярпеньні, а ня мкнуць*
*Да… верагодна, новых?*

“Цюк набіты” – мае значэнне і ноша, і ў пераносным сэнсе поўны жывот, у чарнавым варыянце застаўся больш вульгарны варыянт *цюк напханы*. *Набіты* мае яшчэ некалькі анатацый – набіты як чымсьці напоўнены, так і ў прамым сэнсе набіты, збіты (ад удараў іншых людзей, лёсу…), а таксама існуе і вульгарнае устойлівае словазлучэнне са словам “набіты”. Апроч таго выраз *weary life – жыццё, што знясільвае, стамляе,* перададзена, як *у жыцця загоне*, дзе *загон* – ад слова *заганяць – знясільваць* і адначасова адсылае да прамога значэння *загон для жывёлы*. Мажліва, стратэгія кампенсацыі каламбура ў гэтым выпадку трошкі перабольшана. Дарэчы, у Юркі Гаўрука *weary life* – перакладзена вельмі цікава – *нуда жыццёвая*. А ў беларусаў ёсць прымаўка: “Нуда горш кароcты”. *Нуда* – гэта *цяжкі, прыгнечаны псіхалагічны стан чалавека*, яшчэ і *млоснасць*, а яшчэ і *вашывасць*. Ю. Гаўрук збіраў фальклор і пэўна ведаў апошняе значэнне слова *нуда*. А паводле слоўніка Даля *нуда*, (між іншым зафіксаванае на смаленшчыне) гэта “*неволя, принужденье, крайнее стесненье, гнет; худое житье;* || *немочи телесные, особенно накожные, свороб, чесотка, короста,* смол. ниж. перм. *тошнота, длительная дурнота*” [11]. Юрка Гаўрук, несумненна, “выкарыстаў кампенсацыю каламбура” і атрымалася вельмі ёміста.

Разнастайна беларускія перакладнікі падышлі да слова “*puzzle*” *азадачваць, заблытваць*. У Ю. Гаўрука “*невядомы край адкуль ніхто не вярнуўся*” *пужае нас*, у А. і В. Вольскіх “*палохае, бянтэжыць волю*”, у А. Ф. Брыля – змушае *цярпець і далей звыклую нядолю*, у К. Квалёнка *проста прымушае жыць у пекле пакут*. Вось у С. Балахонава *ён бэсціць волю*. Нетрывіяльна сказана – адначасова *трэпле і ганіць*. Падобна, зноўткі адсылка ў час рыцарства, калі тое што перашкаджае волі, азначала тое, што і зневажае волю.

У варыянце К. Кавалёнка мы сустракаемся з выкрываннем прытоенага ў арыгінале сэнсу, калі перакладчык тлумачыць тое, што аўтар хацеў перадаць ледзь не паўнамінкаю. У гэтым перакладзе гаворыцца, што мы ў патойбочным невядомым краі маем усё-ткі шанц знайсці *не незнаёмыя пакуты, а шчасьце*. У Шэкспіра пра шчасце гаворкі не ідзе, але ж, вядома, калі ёсць пекла, павінен быць і рай. Дый, безумоўна, жыве надзея на салодкі міг перамогі. Хаця надзея на гэта ў большасці выпадкаў вельмі і вельмі прывідная.

Далей па тэксце:

| | |
|---|---|
| *28. Thus conscience does make cowards of us all;* | *28. Гэтак сумленнае ўсведамленьне баязьліўцамі робіць нас усіх;* |
| *29. And thus the native hue of resolution* | *29. І гэтак прыроджаны колер рашучасьці* |
| *30. Is sicklied o’er with the pale cast of thought* | *30. Пакрываецца хваравіта-бледным* |

*31. And enterprises of great pith and moment*
*32. With this regard their currents turn awry,*
*33. And lose the name of action.*

*адценнем думкі,*
*31. І пачынанні моцнай сарцавіны і значнасьці*
*32. Праз гэта свае плыні паварочваюць убок*
*33. І губляюць само імя дзеяння.*
(падрадкоўнік)

Заканчэнне салілоквія – вельмі важнае, бо гэта выснова, і сігнал, што зараз будзе іншая сцэна.

*Задумаешся так – і страх агорне.*
*І павядае яркі квет адвагі*
*Пад бледнай хваткай непазбыўных дум,*
*І пачынанні буйнага размаху*
*Без рэчышча сплываюць у нябыт,*
*Няспраўджанымі застаюцца.*
(пераклад Юркі Гаўрука)

*Нас робіць баязліўцамі развага.*
*Прыродны колер мужнасці таксама*
*Ліняе пад наплывам бледных дум.*
*І пачынанні, што ўзляцелі буйна,*
*Сцішаюць ход, губляючы пры гэтым*
*Самое імя дзеяння.*
(пераклад В. і А. Вольскіх)

*Вось думка, што зрабіла баязліўцаў*
*З усіх. Бо як намеры ні квітнеюць –*
*А ў ценю гэтай думкі цвет іх жухне,*
*І справы, што і моц, і веліч мелі,*
*Пужліва збочваюць адразу, і губляюць*
*Самую назву дзеяў...*
(пераклад А. Ф. Брыля)

*Одум баязліўцаў*
*З нас робіць, і прыродная рашучасць*
*Марнее ўшчэнт, суздром яскравасць траціць.*
*Так самыя вялікія задумы,*
*Ледзь збочыўшы, змяняюць свой напрамак,*
*Ніколі не ўвасобяцца ва ўчынкі.*
(пераклад С. Балахонава )

*Вось так, сумленьне чалавека нас робіць трусамі бяз волі,*
*Калі кладзе на яркасьць каляроваю*
*Рашучасьці цень кволай думкі.*
*І ўсё глыбокае, рашучае і важнае*

*Зьмяняе назву, накірунак і астатняе...*
(пераклад К. Кавалёнка)

Для перакладнікаў сталася складанасцю – дык што ж, паводле Гамлета, нас робіць баязліўцамі? У арыгінале стаіць слова *conscience*. Аўтар гэтага артыкула звярнуўся па дапамогу да ангельскага беларусіста Арнольда Макміліна. Выявілася, для сучасных ангельцаў гэта слова азначае *сумленне*. Але ў часы Шэкспіра яно магло азначаць і *свядомасць*. (Таму ў падрадкоўніку стаіць словазлучэнне *сумленнае ўсведамленне*.) Паводле сайта "shakespeare-navigators.com" у гэтым кантэксце ***conscience:*** *consciousness, reflection – свядомасць, развага* [10].

К. Кавалёнак ужыў прамое значэнне – *сумленне* робіць нас баязліўцамі. Увогуле у яго перакладзе шмат гаворыцца пра боскае, шмат рэлігійных тэрмінаў (больш чым у арыгінале) і таму – *сумленне* не дае нам ісці на грэх забойства і самазабойства. У гэтым ракурсе ў дадзеным перакладзе ўсё лагічна. Але ж у арыгінале, відавочна, шырэйшае поле для ўспрымання. Ю. Гаўрук эфэктна абышоў паўсталую праблему дзеясловам *задумаешся*. В. і А. Вольскія абралі *развагу*. А. Ф. Брыль два разы паўтарыў слова думка:

*Вось думка, што зрабіла баязліўцаў*
*З усіх. Бо як намеры не квітнеюць –*
*А ў ценю гэтай думкі…*

С. Балахонаў знайшоў ёмістае слова – *одум*… Гэта не проста *думанне*, працэс асэнсавання чаго-небудзь, а яшчэ і *стан паглыблення ў сябе*. У нашым перакладзе ўжыта *сьвядомасьць*, як і прапануе сайт "shakespeare-navigators.com" – тое, што дае нам мажлівасць усведамляць. Гамлет вяртаецца назад да свайго першага запытання, дзе кажа *ці высакародней трываць бедствы лёсу ўсвядомлена, з поўным разуменнем?* Фактычна, кола замкнулася – і вось перад намі прычыны гэтага трываньня-цярпення. Менавіта здольнасць лагічна разважаць, усведамляць, асэнсоўваць, аналізаваць, спараджае *думку*, якая і спыняе *рашучасць*. Мы ўсведамляем што церпім *мора бедстваў*, усведамляем, што трэба паўстаць супраць гэтага цярпення, усведамляем, што гэта можа прывесці да новых пакутаў і нават смерці, і усведамляем, што пасля смерці – "невядомы край" і мажліва яшчэ большыя пакуты... і што тады, дзеля чаго тады паўставаць? Як разарваць зачараванае кола?

У арыгінале метафарычна сказана – *the native hue of resolution is sicklied o'er with the pale cast of though – колер рашучасьці пакрываецца хваравіта-бледным адценнем думкі*. А што гэта за хваравіта бледнае адценне. І зноў-такі сутыкаемся з каламбурам. Слова *cast* ня толькі адценне, але і *ліцейная форма*, і *гіпсавы злепак*, а значыць і *пасмяротная маска*. Двайны сэнс – *рашучасць пакрываецца і бледным адденнем думкі* і ў той жа час *бледнай пасмяротнай маскай думкі*… Ну так, бяздумная

рашучасць вядзе да смерці… А думка, нагадваючы пра смерць, прымушае нас адступіць ад рашучасці... Аднак ёсць яшчэ і трэці момант. Тут трэба ўспомніць афарыстычную шэкспіраўскую фразу “Увесь свет тэатр, а людзі ў ім акторы”. *Cast* – яшчэ і размеркаванне роляў (адсюль, напрыклад, *кастынг*). Наша думка і выдае нам ролі ў свеце, на жаль, бледныя ролі, якія вядуць адно – да пасмяротнай маскі. У гэтым выпадку Гамлет як бы сягае са сцэны і ідзе да публікі са сваімі пытаннямі – хто вы? хто з вас якія выконвае ролі і якія ролі выканае праз момант?

І вось пасля асэнсавання сукупнасці ўсіх гэтых запытанняў усе магчымыя *пачынанні* буйнага размаху / што ўзляцелі буйна (варыянт Ю. Гаўрука і В. і А. Вольскіх), *самыя вялікія задумы* (С. Балахонаў), *справы, што і моц, і веліч мелі* (А. Ф. Брыль), *усё глыбокае, рашучае і важнае* (К. Кавалёнак) *без рэчышча сплываюць у нябыт* (Ю. Гаўрук), *сцішаюць ход* (В. і А. Вольскія), *пужліва збочваюць адразу* (А. Ф. Брыль) *ледзь збочыўшы, змяняюць свой напрамак* (С. Балахонаў).

Усе перакладнікі апісальна характарызавалі гэтыя *пачынанні*. Сапраўды, 31 радок даволі загадкавы. Аднак існуе падрабязны каментар на сайце Sheacspear Resource Center:

31 радок *And enterprises of great pith and moment…*

*enterprises* (ад стара-французскага *entreprendre*, “узяць на сябе”) азначае – пачынанні;

*pith* (ад стара-ангельскага *pitha* праз стара-немецкую *pith*), што першапачаткова азначала ядро фрукта, як у персіку, у пераносным сэнсе стала азначаць *спінны* ці *косны мозг*, тут *сарцавіна* як цэнтр моцы, энергіі.

*moment* – можа падасца, што ўказвае на своечасовасць, але насамрэч у гэтым кантэксце азначае важнасць [12].

Такім чынам гэта не проста *пачынанні буйнага размаху*, а тыя, што зараджаюцца у самым цэнтры, ядры, сарцавіне – фактычна – унутры нас, для якіх наш арганізм абалонка (*вобраз персіка*). Гэтыя задумы-пачынанні важныя, але ж і значэнне часу таксама ня можна да канца прыбіраць. Задумы-пачынанні, якія нарадзіліся ў нас, патрабуюць рашучых неадкладных дзеянняў. Але ж пасля асэнсавання, развагі, усведамлення іх важнасць знікае. І вось таму яны *their currents turn awry… свае плыні паварочваюць убок*. Але ж адкуль жа бяруцца гэтыя плыні? Чаму ў задум-пачынняў ёсць плыні, ток? Рэч у тым, што, як уяўлялі старажытныя, наш арганізм мае вадкасці: кроў, жоўць, чорную жоўць і слізь… Ад іх суадносін залежыць тэмперамент чалавека, а значыць і роля яго ў грамадстве і свеце. І вось свядомасць ці ўзважаная думка бяруць верх над парывамі, над тымі імпульсіўнымі пачынаннямі. А лішняя вадкасць, як вядома, вызваляецца. Зноў-такі сутыкаемся з іроніяй/самаіроніяй Шэкспіра. І падумаўшы, па пэўным часе, чалавек варты толькі на такія ўчынкі, якія і ўчынкамі не назавеш… Такія ўчынкі *lose the name of action (губляюць само імя ўчынку/ дзеянню)*.

У нашым варыянце перакладу дадзенага фрагмента слова *гіпсавы* падаецца як нагадка на маску ці то пасмяротную, ці то тэатральную

(сумную). Для супрацьпастаўлення *бялёсаму* пастаўлены *румянец*. А для пачынанняў быў знойдзены карацейшы сінонім – *зачын*:

*Так сьвядомасьць*
*З нас баязьліўцаў робіць і ўкрывае*
*Рашучасьці прыроджаны румянец*
*Бялёса-гіпсавым адценьнем думкі,*
*Й зачыны, што сасьпелі ў сарцавіне,*
*Па роздуме вядуць свой ток у бок*
*І не мянуюцца – «учынак».*

Аўтар гэтага артыкула знайшоў 10 перакладаў знакаміцейшага соліloквія Гамлета на ўкраінскую мову. Яшчэ адзін не апублікаваны – маецца ў рукапісу, апроч таго ёсць сведчанне пра адзін пераклад XIX стагоддзя, які да нас не дайшоў. Вядома больш за два дзясяткі перакладаў на польскую мову (пачынаючы з XVIII ст.). Як было сказана вышэй, на расейскую мову ў свабодным доступе ў сеціве можна знайсці 44 пераклады (калі пастарацца дык і болей). Сярод іх маюцца вольныя, іранічныя, слэнгавыя, і, нават, зарыфмаваныя.

Цяпер вядомыя 7 перакладаў на беларускую мову салілоквія Гамлета (адзін з іх нязначна змененая рэдакцыя папярэдняга, то можна лічыць, што ўсіх перакладаў 6 з паловай...). Шмат гэта ці не? У 2010 годзе Сяргей Балахонаў у сваім блогу прызнаўся: «Хочацца, каб перакладаў маналога Гамлета на беларускую мову зрабілася болей. Я магу толькі намякнуць пра гэта сучасным беларускім паэтам і перакладчыкам. Паслухаюць яны ці не, прадказаць немагчыма…»

Кожны перакладнік праводзіць сваё даследаванне, адкрывае свае пласты арыгінала, сваё разуменне. І спрабуе сыграць ці на пэўны час пераўвасобіцца ў Гамлета. Напрыклад, Сяргей Балахонаў запісаў дэкламацыю свайго перакладу. Апрача таго, як заўважае перакладнік “Гамлета” на рускую мову Андрэй Чарноў “мова як стрэлкі гадзінніка змяшчаецца ў часе. Перакладнікам робіцца той, хто раней заўважыць, што гадзіннік адстаў” [6]. Трэба дадаць, што ідзе наперад ня толькі мова, але і ўсё светаўспрыманне. Для новых пакаленняў яно іншае, як бы мы не перадавалі сваім дзецям усё самае лепшае, шчырае, карыснае. Новыя пакаленні чытаюць класіку і чуюць яе па-свойму, і знаходзяць там свае нудотнасці і свае цікавосткі. Таму пытанне – будуць ці ня будуць – новыя пераклады Шэкспіра на беларускую мову ў XXI стагоддзі не стаіць. Скажам з рамантычным запалам – яны будуць!

А пакуль маем, што маем. Але і гэта ладны даробак.

## Дадатак

HAMLET

*1. To be, or not to be: that is the question:*
*2. Whether 'tis nobler in the mind to suffer*
*3. The slings and arrows of outrageous fortune,*
*4. Or to take arms against a sea of troubles,*
*5. And by opposing end them? To die: to sleep;*
*6. No more; and by a sleep to say we end*
*7. The heart-ache and the thousand natural shocks*
*8. That flesh is heir to, 'tis a consummation*
*9. Devoutly to be wish'd. To die, to sleep;*
*10. To sleep: perchance to dream: ay, there's the rub;*
*11. For in that sleep of death what dreams may come*
*12. When we have shuffled off this mortal coil,*
*13. Must give us pause: there's the respect*
*14. That makes calamity of so long life;*
*15. For who would bear the whips and scorns of time,*
*16. The oppressor's wrong, the proud man's contumely,*
*17. The pangs of despised love, the law's delay,*
*18. The insolence of office and the spurns*
*19. That patient merit of the unworthy takes,*
*20. When he himself might his quietus make*
*21. With a bare bodkin? who would fardels bear,*
*22. To grunt and sweat under a weary life,*
*23. But that the dread of something after death,*
*24. The undiscover'd country from whose bourn*
*25. No traveller returns, puzzles the will*
*26. And makes us rather bear those ills we have*
*27. Than fly to others that we know not of?*
*28. Thus conscience does make cowards of us all;*
*29. And thus the native hue of resolution*
*30. Is sicklied o'er with the pale cast of thought,*
*31. And enterprises of great pith and moment*
*32. With this regard their currents turn awry,*
*33. And lose the name of action.*

ГАМЛЕТ

*1. Быць альбо ня быць, там (у гэтым) ёсць пытанне.*
*2. Ці высакародней у розуме (з усведамленнем) трываць*
*3. Прашчы і стрэлы абуральнага лёсу,*
*4. Альбо ўзняць зброю супраць мора бедстваў*
*5. І ў супрацьстаянні пакончыць з імі… Памерці – заснуць,*

6. *Ня больш таго. І падумаць толькі, што гэтым сном мы заканчваем*
7. *Боль сэрца і тысячы жыццёвых udараў,*
8. *Якія ёсць доляй цела, бо гэта канец,*
9. *Якога можна ад усёй душы пажадаць! Памерці. Заснуць.*
10. *Заснуць: можа быць бачыць сны; так, вось у чым перашкода...*
11. *Бо ў гэтым смяротным сне, якія нам могуць прысніцца сны,*
12. *Калі мы вывернемся са смяротнага вузла сумятні,*
13. *Думка пра гэта прымушае нас спыніцца: існуе павага*
14. *Што стварае цярпенні гэтак доўгага жыцця.*
15. *Бо хто стаў бы выносіць бізуны і насмешкі часу,*
16. *Несправядлівыя паклёпы прыгнятальніка, пагарду ганарліўца,*
17. *Болі адпрэчанага кахання, адвалоку ў судох,*
18. *Нахабства службоўцаў і ўдары-абразы,*
19. *Якія цярплівая годнасць атрымлівае ад нягодных,*
20. *Калі б ён мог сам зрабіць разлік*
21. *Аголеным стылетам?Хто стаў бы насіць цюкі,*
22. *Рохкаючы і пацеючы пад знясільваючым жыццём,*
23. *Калі бы ня страх чагосьці пасля смерці –*
24. *Неадкрытая краіна, з-за межаў (рэк) якой*
25. *Ні адзін падарожнік не вяртаецца, – не азадачваў бы волю*
26. *І не прымушаў бы нас хутчэй згаджацца пераносіць тыя беды, якія мы маем,*
27. *Замест таго, каб ляцець да іншых, пра якія мы нічога не ведаем?*
28. *Гэтак сумленнае ўсведамленьне баязьліўцамі робіць нас усіх;*
29. *І гэтак прыроджаны колер рашучасьці*
30. *Пакрываецца хваравіта-бледным адценнем думкі,*
31. *І пачынанні моцнай сарцавіны і значнасьці*
32. *Праз гэта свае плыні паварочваюць убок*
33. *І губляюць само імя дзеяння.*

(падрадкоўнік)

*ГАМЛЕТ*

*Пытанне: быць альбо не быць? Што лепей,*
*Што разумней: альбо цярпець удары,*
*Каменні, стрэлы яраснага лёсу,*
*Альбо узброіцца на мора крыўд*
*І знішчыць іх змаганнем. Смерць і сон –*
*Адно і тое ж; і сказаць, што сном*
*Канчаюцца туга, і боль, і крыўды,*
*І тысячы пакут, што чалавеку*
*Дала прырода ў дар, -- такі канец*
*Сустрэў бы з радасцю. Смерць – сон, заснуць,*
*Заснуць і марыць. Так. Але пытанне:*
*Якія мары поўняць сон смяротны,*

*Калі пакінеш гэты шумны свет? –*
*Вось што трымае нас, вось дзе прычына*
*Таго, што гора гэтак даўгавечна.*
*Бо хто цярпеў бы злыя здзекі часу,*
*Прымус тыранаў і знявагу гордых,*
*Самотны стогн разбітага кахання,*
*Марудны суд, чыноўнікаў нахабнасць,*
*Пляўкі на галаву заслузе скромнай,*
*Каб мог нас вызваліць ад усяго*
*Удар кінжалам? Хто б валок ярмо,*
*Пацеў бы, ныючы ў нудзе жыццёвай?*
*Але мы ўсё ж баімся паміраць;*
*Таемны край, адкуль няма звароту,*
*Пужае нас, і воля наша слабне,*
*І мірымся мы з нашаю нядоляй:*
*Хто ведае, што нас чакае там?*
*Задумаешся так – і страх агорне.*
*І павядае яркі квет адвагі*
*Пад бледнай хваткай непазбыўных дум,*
*І пачынанні буйнага размаху*
*Без рэчышча сплываюць у нябыт,*
*Няспраўджанымі застаюцца.*

Пераклад Юркі Гаўрука.

(Шэкспір У. Санеты. Трагедыі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1989, – С. 262 – 263.)

*ГАМЛЕТ*

*Быць ці не быць? – пытанне толькі ў гэтым;*
*Што больш высакародна: пакарыцца*
*Прашчам і стрэлам яраснага лёсу,*
*Ці ў паядынку з цэлым морам крыўд*
*Перамагчы яго? Заснуць, памерці, –*
*І знаць, што сном навекі абрываеш*
*Тугу і смутак тысячы пакут*
*Жывога цела. Як жа не імкнуцца*
*Да гэтага канца. Заснуць, -- памерці, --*
*Заснуць! І бачыць сны? Вось цяжкасць дзе!*
*Якія будуць сны нас непакоіць*
*У смертным сне, калі нікчэмны свет*
*Пакінем мы? Вось што трымае нас,*
*Вось дзе прычына ўсіх турбот адвечных;*
*Хто-б вытрымаў удары, здзекі часу,*
*Гвалт дужага, пагарду ганарліўца,*
*Разбітага кахання боль нястрымны,*

*маруднасць суддзяў, іх несправядлівасць,*
*Улады фанабэрыстай знявагі,*
*Якія зносіць сціплая заслуга,*
*Калі-б з сабой ён разлічыцца мог*
*Кінжалам? Хто-б тады цягнуўся з ношай,*
*Каб вохкаць і пацець пад цяжкасцю жыцця,*
*Калі-б не жах чагосьці пасля смерці,* --
*Краіна таямнічая, адкуль*
*Няма звароту нам – зямным бадзягам,*
*Палохае, бянтэжыць нашу волю,*
*І прымушае нас цярпець нягоды,*
*Бо невядома, што нас там чакае.*
*Нас робіць баязліўцамі развага.*
*Прыродны колер мужнасці таксама*
*Ліняе пад наплывам бледных дум.*
*І пачынанні, што ўзляцелі буйна,*
*Сцішаюць ход, губляючы пры гэтым*
*Самое імя дзеяння.*

Пераклад Віталя і Артура Вольскіх.

(У.Шэкспір. Трагедыі. Мінск: Дзярж. выд. БССР. Рэдакцыя мастацкай літаратуры, 1954. – С.202.)

*ГАМЛЕТ*

*Быццё або Нябыт – стаіць пытанне,*
*Што больш шляхетна: вытрываць маўкліва*
*Праскі і стрэлы здзеклівага лёсу*
*Або ж уступным боем бездань бедаў*
*Біць і змагчы іх? Смерць падняць, сны ўбачыць.*
*Няйнакш! Каб так давесці, што боль сэрца*
*Ды тысячы пакутаў размаітых*
*Цялеснае прыроды маюць межы –*
*Схацеў бы шчыра смерць падняць, сны ўбачыць.*
*Убачыць сны? Стаіць пытанне рубам:*
*Што ў снах смяротных мроіць давядзецца,*
*Калі мы марнасць рэчаў земскіх скінем?*
*Вось, што спыняе, робячы даўжэйшым*
*Жыццёвы цяг ліхіх нягодаў поўны.*
*Хто б стаў трываць глум і наругу часу,*
*Уціск тыранскі, звягу фанабэрцаў,*
*Бязмоўнае каханне, суд без праўды,*
*Людзей уладных вычварнае кепства*
*І корць нягоднікаў зняславіць цноту,*
*Калі з жыццём так лёгка паквітацца*
*Лязом халодным?! Хто б згадзіўся ношу*

*Цягаць такую, рохкаць, узмакрэўшы,*
*Калі б жа страх па смерці апынуцца*
*Ў краіне невядомай, скуль вяртання*
*Вандроўніку няма, не бэсціў волю*
*І не схіляў да згоды з плоймай бедаў*
*Даўно знаёмых, а не адпраўляцца*
*Шукаць нязнаных?! Одум баязліўцаў*
*З нас робіць, і прыродная рашучасць*
*Марнее ўшчэнт, суздром яскравасць траціць.*
*Так самыя вялікія задумы,*
*Ледзь збочыўшы, змяняюць свой напрамак,*
*Ніколі не ўвасобяцца ва ўчынкі.*

Пераклад Сяргея Балахонава (рэдакцыя 2010 г.)
(http://balachon.blog.tut.by/2010/09/)

*ГАМЛЕТ*

*То быць – альбо не быць? Пытанне ў гэтым.*
*Што годна сапраўды: прымаць маўкліва*
*Ад лёсу звар'яцелага напады,*
*Ці стаўшы збройна супраць мора бедаў,*
*Тым самым іх пазбыцца? Ўмерці – то бок*
*Заснуць; і толькі. Гэты сон, між тым,*
*Кладзе канец і болям, і бязладдзям,*
*Што плоці прыналежаць. Успаўненне*
*Ўсяго, зайздросны шлях. Памерці. Спаць.*
*Спаць. Мо і сніць аб нечым... Вось дзе пастка;*
*Што прыдзе там да нас, у сне смяротным,*
*Калі з душы атрусім тло жыцця?*
*Таму й марудзім. Вось яна, прычына*
*Цягнуць і доўжыць гэтую бяду.*
*Бо хто цярпеў бы здзекі злога часу,*
*Няпраўду моцнага, пагарду ганарліўца,*
*Знявагу ад каханай, і лайдацтва*
*Закону, і нішчымнасці пляўкі*
*Што дастаюцца годнасці бязмоўнай,*
*Калі падсумаваць бы мог усё*
*Штылетам звычным? Хто б цяжар абрыдлы*
*Бясконца валачыў, крахтаў, патнеў,*
*Каб толькі страх чагосьці там, за смерцю,*
*Ў зямлі нязнанай, скуль яшчэ ніводны*
*Вандроўнік не вяртаўся, не змушаў бы*
*Цярпець і далей звыклую нядолю*
*Ды не шукаць нязнанай узамен?*
*Вось думка, што зрабіла баязліўцаў*

*З усіх. Бо як намеры ні квітнеюць –*
*А ў ценю гэтай думкі цвет іх жухне,*
*І справы, што і моц, і веліч мелі,*
*Пужліва збочваюць адразу, і губляюць*
*Самую назву дзеяў...*

Пераклад Антона Францішка Брыля (2009 г.).
(http://ilnur.livejournal.com/87651.html)

*ГАМЛЕТ*

*Быць альбо ня быць? Вось у чым пытаньне:*
*А, стрэлы і ўдары лёсу – ці вартыя яны трываньня?*
*Ці мабыць лепш памерці і заснуць, заснуць, заснуць?*
*Калі канец жыцьця пагрозам і трывогам*
*Яны нясуць, то як жа можна не жадаць такога дару Бога?*
*Памерці і заснуць. І нават бачыць сны.*
*Толькі якія? Вось пытаньне! Што прынясуць яны*
*Там, за мяжою сьвету? Якія жа званы*
*Складуць санэт, калі пазбавімся мы ад слаты жыцьця?*
*Дык вось чаму няшчасьце так жыве, так доўга!*
*А, хто бы вытрымаў шаленства, што заўсёды прынясе трывога?*
*Пагарду ўладароў сусьвету? Ціск моцных або сьлепату законаў?*
*І бізуны, і здзекі часу? І гонар Бога-уладара?*
*Каханьня боль, такі дарэмны, што забівае спадара*
*Свайго жыцьця. І ўсё, што шчыры чалавек трывае*
*Ад людзей няшчырых, калі б ён мог атручаным кінжалам*
*Спакой здабыць. А, хто бы пад цяжарам*
*Жыцьця стагнаў і енчыў? Ды толькі страх,*
*Які закладзены быў невядома кім ці чым,*
*Перад пагрозай сьмерці – нябачным гаем, у якім*
*Усё застаецца і адкуль ніхто ніколі не вяртаўся,*
*Нас прымушае жыць у пекле пакут вядомых і знаёмых*
*І адмаўляць сабе ў іншых, у незнаёмых, невядомых,*
*І мабыць нават не пакутах, а шчасьці.*
*Вось так, сумленьне чалавека нас робіць трусамі бяз волі,*
*Калі кладзе на яркасьць каляровую*
*Рашучасьці цень кволай думкі.*
*І ўсё глыбокае, рашучае і важнае*
*Зьмяняе назву, накірунак і астатняе...*

Пераклад Кірыла Кавалёнка (2011 г.)
(http://www.vershy.ru/content/manale-chastka-byts-al)

*ГАМЛЕТ*

*Быць альбо ня быць? Вось у чым пытанне:*
*А стрэлы, ўдары лёсу – ці вартыя яны трывання?*
*Ці, мабыць, лепш памерці і заснуць, заснуць, заснуць?*
*Калі канец жыцця пагрозам і трывогам*
*Яны нясуць, то як жа можна не жадаць такога дару Бога?*
*Памерці і заснуць. І нават бачыць сны.*
*Але якія? Вось пытанне! Што прынясуць яны*
*Там, за мяжою свету? Якія жа званы*
*Складуць санет, калі пазбавімся мы ад сляты жыцця?*
*Дык вось чаму няшчасце так жыве, так доўга!*
*А хто бы вытрымаў шаленства, што заўсёды прынясе трывога,*
*Пагарду ўладароў сусвету, ціск моцных, слепату законаў,*
*Ды бізуны, ды здзекі часу, ды гонар Бога-ўладара,*
*Кахання боль, такі дарэмны, што забівае спадара*
*Свайго жыцця, ды ўсё, што годны чалавек трывае ад нягодных,*
*Калі б ён мог атручаным кінжалам*
*Спакой здабыць? А хто бы пад цяжарам*
*Жыцця стагнаў і енчыў? Ды толькі страх,*
*Які закладзены быў невядома кім ці чым,*
*Перад пагрозай смерці – нябачным гаем, у якім*
*Ўсё застаецца і адкуль ніхто ніколі не вяртаўся,*
*Нас прымушае жыць у пекле пакут вядомых і знаёмых*
*І адмаўляць сабе ў іншых, у незнаёмых, невядомых,*
*І мабыць нават не пакутах, а шчасці.*
*Вось так, сумленне чалавека нас робіць баязліўцамі бяз волі,*
*Калі кладзе на яркасць каляровую*
*Рашучасці цень кволай думкі.*
*І ўсё глыбокае, рашучае і важнае*
*Змяняе назву, накірунак і астатняе...*

пераклад Кірыла Кавалёнка, рэдакцыя Зміцера Крэчата (2012 г.)
(http://www.vershy.ru/content/manale-chastka-byts-al)

*ГАМЛЕТ*

*Быць альбо ня быць, – і ў тым пытаньне –*
*Дзе болей годнасьці: цярпець сьвядома*
*Прашчы і стрэлы жорсткага нам кону*
*Альбо ўзьняць зброю супраць мора бедстваў*
*І ў бітве стрэчнай зьнішчыць? І… памерці –*
*Заснуць – няйнакш. І гэтым сном спыніць*
*Боль духу й тысячы турбот прыродных,*
*Што дастаюцца целу. Мы жадалі б*
*Такі мець дасканалы скон. Памерці –*

*Заснуць. Заснуць! Скон – сон? Аднак замінка –*
*Якія мары ў сьне сьмяротным прыйдуць,*
*Калі мы скінем путы крутаверці?*
*Грызуць сумненьні… Адсюль паклон*
*Злашчасьцям, што іх пажыцьцёвымі*
*І робіць. Бо хто трываў бы зьдзекі часу,*
*Хлусьню прыўладных, кпіны фанабэрных,*
*Глумленьне над каханьнем, суд няпраўны,*
*Чыноўнікаў нахабства і паклёпы*
*Душой убогіх на рупліўцаў годных,*
*Каб ён мог паквітацца па квітках*
*Стылетам? Хто б цягаў свой цюк набіты,*
*Патнеў і рохкаў у жыцьця загоне,*
*Калі б жах ад таго, што ж там па сьмерці –*
*Таемны край, ніводны скуль вандроўнік*
*Ня змог вярнуцца – не бянтэжыў волю*
*Галаваломкай і не змушаў цярпець*
*Прывычныя цярпеньні, а ня мкнуць*
*Да… верагодна, новых? Так сьвядомасьць*
*З нас баязьліўцаў робіць і ўкрывае*
*Рашучасьці прыроджаны румянец*
*Бялёса-гіпсавым адценьнем думкі,*
*Й зачыны, што сасьпелі ў сарцавіне,*
*Па роздуме вядуць свой ток у бок*
*І не мянуюцца – «учынак».*

Пераклад аўтара артыкула ( 2013 г.)
(https://www.facebook.com/serge.minskevich)

Літаратура


1. http://lib.ru/SHAKESPEARE/shks_hamlet9.txt_with-big-pictures.html
2. http://balachon.livejournal.com/686424.html
3.Шэкспір У. Санеты. Трагедыі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1989, – С. 262 – 263.
4. Шэкспір. У.Трагедыі. Мінск: Дзярж. выд. БССР. Рэдакцыя мастацкай літаратуры, 1954. – С.202.
5. http://www.vershy.ru/content/manale-chastka-byts-al.
6. http://lib.ru/SHAKESPEARE/shks_hamlet15.txt
7. http://ilnur.livejournal.com/87651.html
8. https://www.facebook.com/serge.minskevich 24.04.2014.
9. http://www.enotes.com/shakespeare-quotes/not-that-question
10 http://shakespeare-navigators.com/hamlet/HamletNotes31.html#76
11. http://slovari.yandex.ru/~книги/Толковый%20словарь%20Даля/НУДА/
12. http://www.bardweb.net/content/readings/hamlet/lines.html

# Ad memoriam

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ
## ВІКТАРА АЛЯКСАНДРАВІЧА ХОРАВА
ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Гэты матэрыял рыхтаваўся да 80-гадовага юбілею доктара філалагічных навук, прафесара, Заслужанага дзеяча навукі, Ганаровага прафесара Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, **Віктара Аляксандравіча Хорава**, але лёс, на жаль, распарадзіўся інакш ...

Віктар Аляксандравіч Хораў нарадзіўся 22 лютага 1932 года ў горадзе Волагдзе, дзе правёў сваё дзяцінства і скончыў сярэднюю школу. У 1949 годзе ён прыехаў у Маскву і паступіў у Маскоўскі дзяржаўны універсітэт імя М.В. Ламаносава, які скончыў у 1954 годзе і быў накіраваны ў аспірантуру Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР. Пасля заканчэння аспірантуры ў 1957 г. і паспяховай абароны кандыдацкай дысертацыі (*Польская пралетарская паэзія 20-е – 30-е гады*) В.А. Хораў быў запрошаны на сталую працу ў Інстытут славяназнаўства і балканістыкі АН СССР. У 1978 г. ён таксама паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю на тэму: *Станаўленне сацыялістычнай літаратуры ў Польшчы* і атрымаў навуковую ступень доктара філалагічных навук, а ў 1993 г. – вучонае званне прафесара, у 2009 г. – званне Заслужанага дзеяча навукі Расійскай Федэрацыі і ў 2012 г. – званне і дыплом Ганаровага прафесара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

Працоўная дзейнасць В.А. Хорава звязана з Інстытутам славяназнаўства РАН, у якім ён працаваў да апошняга дня свайго жыцця. Паслужны спіс В.А. Хорава: 1957–1988 гг. малодшы, затым старэйшы і вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР; 1988–2005 гг. намеснік дырэктара таго ж інстытута; 2005–2012 загадчык аддзела славянскіх літаратур і галоўны навуковы супрацоўнік РАН. В.А. Хораў вёў вялікую навуковую і навукова-арганізацыйную працу, паспяхова спалучаў яе з выкладчыцкай дзейнасцю ў расійскіх, польскіх і беларускіх універсітэтах, займаўся падрыхтоўкай навуковых кадраў, перакладамі мастацкай і навуковай літаратуры, рэдакцыйнай і выдавецкай працай.

Навуковыя і грамадскія абавязкі В.А. Хорава цяжка нават пералічыць. З 1989 года ён узначальваў Спецыялізаваны вучоны савет па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый пры Інстытуце славяназнаўства РАН, быў членам Вучонага

савета МДУ імя М.В. Ламаносава, Старшынёй Міцкевічаўскай камісіі Савета па гісторыі сусветнай культуры РАН, членам расійскага Нацыянальнага камітэта славістаў, расійска-польскай гістарычнай камісіі, намеснікам старшыні «Асацыяцыі культурнага і дзелавога супрацоўніцтва з Польшчай» і інш.

В.А. Хораў быў выдатным вучоным з сусветным імем. Яго працы атрымалі шырокую вядомасць і выдаваліся ў многіх краінах. Спіс навуковых публікацый В.А. Хорава налічвае больш за 400 назваў на рускай, польскай, украінскай, нямецкай, балгарскай, беларускай і іншых мовах. Працы В.А. Хорава дзівяць сваёй арыгінальнасцю, глыбінёй і навуковай навізной. Варта спецыяльна падкрэсліць значнасць літаратуразнаўчых адкрыццяў В.А.Хорава ў польскай і рускай навуцы. Перш за ўсё – гэта ўзначалены ім міжнародны праект «Расія – Польшча. Узаемнае бачанне ў літаратуры і культуры», які прадстаўляе ўпершыню распрацаваны В.А. Хоравым новы кірунак у літаратуразнаўстве – *імагалогію*. Да гэтага адкрыцця вучоны ішоў доўгі час і прысвяціў яго распрацоўцы дзесяць апошніх гадоў свайго жыцця. Пра гэта сведчаць яго фундаментальныя даследаванні «Польшча і палякі вачыма рускіх літаратараў. Імагалагічныя нарысы» (2005), «Польская літаратура XX стагоддзя 1890–1990» (2009), «Успрыманне Расіі і рускай літаратуры польскімі пісьменнікамі (нарысы)» (2012). Гэтыя кнігі сталі важнай падзеяй у літаратуразнаўстве Расіі, Польшчы і іншых краін. І гэта не выпадкова: у іх не толькі сабраны і сістэматызаваны велізарны матэрыял ад XII стагоддзя да сучаснасці аб жыцці, культуры, гісторыі рускага і польскага народаў, але **ўпершыню** прадстаўлены новыя імёны іх дзеячаў, па-новаму інтэрпрэтаваныя гістарычныя падзеі, архіўныя крыніцы, мастацкія творы і гістарычныя дакументы, якія не выкарыстоўваліся раней.

Па праблемах імагалогіі В.А. Хоравым было арганізавана і праведзена дзевяць міжнародных навуковых канферэнцый і былі выдадзены пад яго рэдакцыяй і з яго прадмовамі зборнікі матэрыялаў гэтых канферэнцый.

Заслугоўваюць увагі даследаванні В.А. Хорава як абагульняючага характару («Аб літаратуры народнай Польшчы», 1961; «Станаўленне сацыялістычнай літаратуры ў Польшчы», 1979), так і працы, прысвечаныя творчасці пісьменнікаў XIX і XX стст. (В. Бранеўскі, С. Дыгат, К. Філіповіч, Л. Кручкоўскі, Б. Чешко, Ю. Кавалец, В. Мысліўскі, Я. Івашкевіч і многіх іншых), літаратурнай кампаратывістыкі («Балады А. Міцкевіча ў перакладах А.С. Пушкіна», «А. Міцкевіч і Ф. Прэшэрн», «Дастаеўскі ў свядомасці польскіх пісьменнікаў» і інш.)

Асаблівай увагі заслугоўваюць выдадзеныя пад кіраўніцтвам прафесара В.А. Хорава і з яго аўтарскім удзелам працы акадэмічнага характару, якія не маюць аналагаў у сусветнай гісторыі літаратуразнаўства: у трох тамах «Гісторыя літаратуры славянскіх народаў» і ў двух тамах «Гісторыя літаратуры Усходняй Еўропы пасля другой сусветнай вайны» (Т.1, 1995; Т.2 2001).

Больш за паўстагоддзя В.А. Хораў узначальваў паланістычную навуковую школу ў СССР, а пазней – у Расійскай Федэрацыі. Яго вучні – шэсць дактароў навук і шматлікая група кандыдатаў, якія працуюць ва ўніверсітэтах і Акадэміі Навук Расіі, Польшчы, Беларусі, Літвы, Грузіі і інш.

В.А. Хораў унёс неацэнны ўклад у развіццё міжнароднага супрацоўніцтва СССР, а пазней Расійскай Федэрацыі з замежнымі краінамі, у якім асаблівае месца займала супрацоўніцтва з Польшчай. Ён узначальваў і паспяхова рэалізоўваў важныя для навукі абедзвюх краін міжнародныя праекты, выдаваў сумесныя калектыўныя працы, займаўся перакладамі мастацкай і навуковай літаратуры, быў навуковым кіраўніком аспірантаў і кансультаваў дактарантаў, рэцэнзаваў і

апаніраваў навуковыя працы сваіх калег і вучняў.

Навуковую і навукова-грамадскую дзейнасць В.А. Хораў паспяхова сумяшчаў з выкладчыцкай працай, актыўна супрацоўнічаў з многімі ўніверсітэтамі – Маскоўскім дзяржаўным імя М.В. Ламаносава, Гродзенскім імя Янкі Купалы, Варшаўскім, Кракаўскім педагагічным імя Камісіі Эдукацыі Народовэй, Шлёнскім і інш.

В.А. Хораў быў членам рэдакцыйных саветаў шэрагу навуковых часопісаў: «Славяназнаўства», «Славянскі альманах» (Расія), «Acta Polono-Ruthenica», «Postscriptum», «Przegląd Humanistyczny» (Польшча), «Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы» (Беларусь).

Варта адзначыць ролю прафесара В.А. Хорава ў станаўленні і развіцці паланістыкі Беларусі, асабліва яго супрацоўніцтва з Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы. Доўгія годы абарона кандыдацкіх дысертацый па польскай літаратуры была звязана з удзелам прафесара В.А. Хорава: яго запрашалі на паседжанні саветаў і ў якасці адаптаванага члена савета як спецыяліста-паланіста і як апанента дысертацый, і як навуковага кіраўніка аспірантаў. Ён быў удзельнікам шматлікіх навуковых канферэнцый, арганізаваных Беларускай Акадэміяй Навук.

У навуковай дзейнасці В.А. Хорава адмысловае месца заняў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, у якім склаўся першы ў Беларусі паланістычны цэнтр і куды пасля заканчэння аспірантуры была накіравана на працу адна з першых яго вучаніц С.П. Мусіенка. Пад кіраўніцтвам В.А. Хорава ў 1972 г. у Спецыялізаваным дысертацыйным савеце Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР яна абараніла першую ў гісторыі беларускай паланістыкі кандыдацкую дысертацыю «Жанрава-стылёвыя пошукі ў сучаснай польскай прозе (канец 50-х – сярэдзіна 60-х гг.)». Прафесар В.А. Хораў быў навуковым рэдактарам першай у Савецкім Саюзе манаграфіі С.П. Мусіенка «Творчасць Зоф'і Налкоўской» і стаў навуковым кансультантам яе доктарскай дысертацыі «Рэалістычны раман у польскай літаратуры 20-х – 30-х гг.», якая была паспяхова абаронена ў 1993 годзе ў тым жа Вучоным савеце Інстытута славяназнаўства. С.П. Мусіенка стала першым на Беларусі доктарам філалагічных навук – паланістам.

У 1989 годзе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце была створана першая ў гісторыі беларускай навукі і дыдактыкі кафедра польскай філалогіі і В.А. Хораў дапамагаў у яе арганізацыі сваёй вучаніцы С.П. Мусіенка, якая была яе загадчыцай на працягу 21 года і ўзняла яе на ўзровень міжнароднай значнасці. Пры Гродзенскім універсітэце ў тым жа 1989 быў адкрыты музей Зоф'і Налкоўскай. Яго стварала на ўласныя сродкі С.П. Мусіенка. А побач быў настаўнік, вучоны В.А. Хораў, які дапамагаў ва ўсім і ў арганізацыі работы музея, і ў правядзенні ў Гродзенскім універсітэце першай міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай З. Налкоўскай, і ў рэдагаванні калектыўнага зборніка яе ўдзельнікаў.

З моманту стварэння часопіса «Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы» В.А. Хораў быў нязменным сябрам яго рэдакцыйнага савета.

У 2011 годзе кафедра польскай філалогіі адзначала свой дваццацігадовы юбілей, на якім В.А. Хораў быў не толькі ганаровым госцем. Ён быў душой нашага калектыву, добрым настаўнікам і сябрам. У выступленнях прарэктара і загадчыцы кафедры падкрэслівалася значнасць заслуг Віктара Аляксандравіча, а ён, як заўсёды, бачыў далей і не толькі падтрымаў ініцыятыву С.П. Мусіенка па стварэнні Навукова-дыдактычнага каардынацыйнага цэнтра *Міжнародны інстытут Адама Міцкевіча*, але дапамог у яго арганізацыі, удзельнічаў у стварэнні яго

«Статута», выпрацоўцы асноўных напрамкаў яго дзейнасці.

За заслугі і вялікі ўклад у сусветную навуку, за ўмацаванне міжнароднага супрацоўніцтва і перш за ўсё за шматгадовае плённае навуковае і дыдактычнае супрацоўніцтва з Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы Савет універсітэта ад 26 сакавіка 2012 г. пастанавіў у гонар 80-гадовага юбілею В.А. Хорава прысвоіць яму званне «Ганаровы прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы» і ўзнагародзіць яго медалём «За заслугі. Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы». Урачыстае пасяджэнне Савета ўніверсітэта было прызначана на 24 мая 2012 года. Падрыхтоўку да яго з кранальным клопатам вяла вучоны сакратар А.І. Мялешка. Да гэтай даты была прымеркавана міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная юбілею В.А. Хорава, і падрыхтавана выстава яго навуковых прац і перакладаў мастацкіх твораў польскіх аўтараў на рускую мову.

Гэты дзень пачынаўся з шматлікіх інтэрв'ю, якія праводзілі з Віктарам Аляксандравічам абласное і гарадское тэлебачанне, беларускае і польскае радыё, прэса, на аснове якіх былі створаны тэлевізійныя фільмы. Яны сталі жывым сведчаннем гісторыі супрацоўніцтва прафесара В.А. Хорава – вучонага сусветнай значнасці, прадстаўніка рускай, замежных Акадэмій Навук і шэрагам універсітэтаў, з Гродзенскім універсітэтам.

Пасяджэнне вяла прафесар, д.ф.н. старшыня Навукова-дыдактычнага каардынацыйнага цэнтра «Міжнародны інстытут Адама Міцкевіча» С.П. Мусіенка. Міжнародную канферэнцыю адкрыла Першы прарэктар універсітэта Святлана Уладзіміраўна Агіевец, якая адзначыла важнасць навуковых адкрыццяў прафесара В.А. Хорава і з дзівоснай сардэчнасцю падзякавала юбіляра за яго супрацоўніцтва і ўклад у беларускую навуку і асабліва за супрацоўніцтва з Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы, за падрыхтоўку вядучага вучонага С.П. Мусіенка. Ад імя абласнога кіраўніцтва з вітальнай прамовай выступіў Павел Канстанцінавіч Скрабко – начальнік упраўлення ідэалагічнай працай Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта. Ён казаў пра ўнёсак В.А.Хорева ў сучасную навуку і падкрэсліў значнасць яго супрацоўніцтва з навукоўцамі Гродзеншчыны. Складальнік новага выдання кнігі «Прафесары Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы» прафесар, кандыдат гістарычных навук С.А. Габрусевіч прадставіў навуковую біяграфію В.А. Хорава. Дэкан філалагічнага факультэта ўніверсітэта дацэнт, кандыдат філалагічных навук І.С. Лісоўская, разам з сусветнай значнасцю прац прафесара В.А. Хорава, адзначыла плённасць і выніковасць яго супрацоўніцтва з Гродзенскім універсітэтам, кафедрай польскай філалогіі. Дырэктар навуковай бібліятэкі ГрДзУ магістр М.В. Грынько адкрыў выставу навуковых прац В.А. Хорава. Варта адзначыць, што працы юбіляра, выдадзеныя ў XXI стагоддзі, у Беларусі прадстаўляліся ўпершыню і былі падораны аўтарам бібліятэцы ГрДзУ. Загадчыца аддзела выданняў на замежных мовах Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Яўхіма Карскага Л.С. Латыга прадставіла зборнік мастацкіх твораў польскіх аўтараў у перакладах В.А. Хорава і з яго ўступнымі артыкуламі.

Праца канферэнцыі пачалася з інаўгурацыйнага даклада Заслужанага дзеяча навукі, прафесара, д.ф.н. В.А. Хорава «Імагалагічны аспект культурнай памяці». Прадстаўляючы новы этап сваіх даследаванняў у галіне імагалогіі, дакладчык сказаў знамянальныя словы: «Праца гэтая працягваецца». У навуковым лёсе прафесара гэтаму дакладу наканавана было стаць яго лебядзінай песняй ...

Прафесар С.П. Мусіенка расказала пра апошнія навуковыя працы юбіляра.

Далей даклады чыталіся паводле гісторыка-часовага прынцыпа – «уздоўж» развіцця літаратуры і літаратуразнаўчай думкі, якая ахоплівае перыяды ад пачатку XIX да пачатку XXI стагоддзяў. Сярод дакладчыкаў канферэнцыі былі вядомыя навукоўцы Польшчы і Беларусі: прафесары Я. Лаўскі (Беласток), І.В. Жук (Гродна), А. Кежунь (Беласток); дацэнты А.І. Білюценка, А.А. Брусевіч, С.В. Ганчар, В.С. Істомін, якія прадстаўлялі Гродзенскі універсітэт, А. Яніцкая (Беласток), М.М. Хмяльніцкі (Мінск) і маладое пакаленне даследчыкаў – старшы выкладчык А.П. Нялепка, аспіранты Ю.С. Фірага, В.М. Свяцельская і магістрант А.В. Гук.

Навукова і канцэптуальна канферэнцыя была надзіва плённай і мела, бясспрэчна, наватарскі характар. Усіх яе ўдзельнікаў аб'ядноўвала пачуццё духоўнага святла. Выступы дакладчыкаў суправаджаліся цікавымі дыскусіямі, у якіх актыўна ўдзельнічаў прафесар В.А. Хораў.

У 16 гадзін гэтага ж дня пачалося ўрачыстае пасяджэнне Вучонага савета, прысвечанае прысваенню В.А. Хораву звання «Ганаровы прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы».

Цырымонію адкрыў рэктар універсітэта прафесар д.ф.-м.н. Я.А. Роўба. У сваёй прывітальнай прамове ён адзначыў заслугі В.А. Хорава ў сусветнай навуцы і падзякаваў юбіляра за шматгадовае плённае супрацоўніцтва з Гродзенскім універсітэтам.

«Паважаны Віктар Аляксандравіч! – сказаў рэктар. – Ад імя ўсіх тых, хто сабраўся ў гэтай зале, маю гонар сардэчна вітаць вас у сценах Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы!

У гэтай аўдыторыі Вас добра ведаюць як аўтарытэтнага вучонага з сусветным імем... Ваша навуковая, педагагічная дзейнасць сапраўды шматгранная. Вы ўзначальваеце міжнародныя праекты, нацыянальныя камітэты, камісіі, асацыяцыі, навуковыя саветы. Ваша дзейнасць атрымала грамадскае прызнанне не толькі ў Расійскай Федэрацыі, але і далёка за яе межамі, заслужана адзначана дзяржаўнымі ўзнагародамі... На Савеце нашага ўніверсітэта прынята рашэнне аб прысваенні Вам звання «Ганаровы прафесар ГрДУ імя Янкі Купалы».

З біяграфіяй прафесара В.А. Хорава Савет пазнаёміла прафесар С.П. Мусіенка, якая падкрэсліла міжнародную значнасць В.А. Хорава і яго навуковай школы. Яго вучні – шэсць дактароў і вялікая група кандыдатаў навук – працуюць ва ўніверсітэтах і акадэміях навук шэрагу краін. Хораў быў сталым удзельнікам усіх навуковых канферэнцый, арганізаваных кафедрай, уваходзіў у склад рэдакцыйных саветаў і калегій, навуковых выданняў, якія выпускаюцца кафедрай. Аказваў вялікую дапамогу ў стварэнні Навукова-дыдактычнага каардынацыйнага цэнтра «Міжнародны інстытут Адама Міцкевіча».

За заслугі, вялікі ўклад у польскую і рускую навуку, кіраўніцтва міжнароднымі праектамі і распрацоўку новага літаратуразнаўчага кірунку – *імагалогіі* В.А. Хораў быў удастоены 17 узнагарод Расійскай Федэрацыі і 14 узнагарод Рэспублікі Польшча.

Прамова В.А. Хорава ўзнаўляецца цалкам. Яна стала яго апошнім публічным выступленнем.

«Глыбокапаважаны Спадар Рэктар! Глыбокапаважаныя Члены Вучонага Савета! Дарагія сябры і калегі!

Дзякую за аказаны мне высокі гонар. Ваша рашэнне – адна з важнейшых у маім жыцці падзей. Для мяне гэта не толькі прызнанне маіх асабістых заслуг. Гэта

прызнанне адзінства і дасягненняў рускай і беларускай паланістыкі. Значную ролю ў ёй адыгрывае кафедра польскай філалогіі Гродзенскага ўніверсітэта, у стварэнні якой мне давялося ўскосна ўдзельнічаць. Зразумела, галоўным маторам у арганізацыі кафедры і яе плённай працы была С.П. Мусіенка. Яна ж з’яўляецца ініцыятарам і арганізатарам шматлікіх міжнародных канферэнцый і публікацый, якія адбыліся ў Гродне, абавязковым удзельнікам канферэнцый і калектыўных прац, якія выдаюцца ў Інстытуце славяназнаўства РАН у Маскве, які я тут прадстаўляю.

З кафедрай польскай філалогіі Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы нас звязваюць самыя цесныя навуковыя і сяброўскія кантакты. Мы не раз у розных саставах удзельнічалі ў канферэнцыях у Гродна. Я добра памятаю першую навуковую канферэнцыю 16–18 мая 1989 года, праведзеную С.П. Мусіенка і прысвечаную выдатнай польскай пісьменніцы Зоф’і Налкоўскай, чыя творчасць найцяснейшым чынам звязана з Гродна. Тады ж у Гродзенскім універсітэце быў адкрыты музей пісьменніцы, а на доме, у якім яна жыла, мы адкрывалі мемарыяльную дошку. А праз 15 гадоў, у маі 2004 года, на чарговай канферэнцыі, прысвечанай З. Налкоўскай («Творчасць З. Налкоўскай і славянскія культуры»), былі падведзены значныя вынікі працы кафедры, якая падрыхтавала шмат кваліфікаваных спецыялістаў па польскай мове, польскай літаратуры і культуры.

Дыдактычная дзейнасць кафедры паспяхова спалучаецца з навуковай. Я назаву толькі некаторыя з нашых навуковых сустрэч. Гэта, напрыклад, дзве міжнародныя канферэнцыі і два тамы публікацый па праекце «Шлях да ўзаемнасці». Гэта кнігі прысвечаныя творчасці Элізы Ажэшка – «Творчасць Элізы Ажэшка і беларуская літаратура» (2002) і «Творчасць Элізы Ажэшка ў эстэтычнай прасторы сучаснасці» (2010) і іншыя даследаванні.

Не магу не ўспомніць і аб грандыёзнай міжнароднай навуковай канферэнцыі «Адам Міцкевіч і сусветная культура» (12–17 мая 1997 г.), плёнам якой з’явіліся цэлых пяць тамоў публікацый. Цэнтральная канферэнцыя, прысвечаная творчасці Міцкевіча ў гонар 200-годдзя з дня нараджэння паэта, не выпадкова прайшла менавіта ў Гродне. Вядома, наколькі значную ролю ў станаўленні паэзіі Адама Міцкевіча адыграла этнічна разнастайная народная культура, перш за ўсё беларуская, характэрная для радзімы паэта – Навагрудскага рэгіёну. Таму асаблівую значнасць набывае створаны пад кіраўніцтвам прафесара С.П. Мусіенка навукова-дыдактычны каардынацыйны цэнтр «Міжнародны інстытут Адама Міцкевіча».

Да нацыянальных, бытавых, псіхалагічных праблемаў польска-беларускага памежжа звярталіся ў сваіх мастацкіх творах і эсэістыцы многія польскія пісьменнікі. У XX стагоддзі беларускія матывы, падобна Э. Ажэшка ў XIX ст., найбольш ярка выявіліся ў творчасці лепшага, на мой погляд, сучаснага польскага пісьменніка Тадэвуша Канвіцкага. Я рады, што менавіта ў Гродне мне давялося апублікаваць артыкул аб захапленні Канвіцкага Беларусю, яе людзьмі, прыродай, мовай. Хочацца паўтарыць сказанае пісьменнікам аб Беларусі: «Калі я ўспомню беларускае слова, калі падзьме вецер з паўночнага ўсходу, калі ўбачу палатняную кашулю з сумнай вышыўкай, калі пачую крык болю без скаргі – заўсёды мацней заб’ецца маё сэрца, заўсёды вырвецца аднекуль лірычны смутак, заўсёды падплывае раптоўны халадок нявызначаных згрызот сумлення, пачуцця віны і сораму.

Беларусь, шэра-зялёная Беларусь з велізарным небам над ільняной галавой, занадта добрая, занадта мяккая, занадта высакародная на нашы часы».

Дазвольце яшчэ раз ад усяго сэрца падзякаваць Гродзенскі дзяржаўны

універсітэт імя Янкі Купалы за аказаны мне высокі гонар».

Гэты дзень завяршыўся пасяджэннем Праўлення «Міжнароднага інстытута Адама Міцкевіча», на якім былі падведзены вынікі яго працы за 2011 год, абмеркаваны напрамкі яго далейшай дзейнасці і прынята прапанова В.А. Хорава хадайнічаць аб рэгістрацыі гэтай арганізацыі. Усё гэта дае падставу лічыць «Міжнародны інстытут Адама Міцкевіча» завяшчаннем прафесара В.А. Хорава беларускім паланістам.

Далей адбылася працэдура прысваення В.А. Хораву звання «Ганаровы прафесар ГрДУ» і ўручэння яму медаля і дыплома.

Студэнткі ўніверсітэта ў нацыянальных касцюмах і вянках з рамонкаў і васількоў апранулі юбіляра ў мантыю. Рэктар уручыў яму медаль і атэстат. Студэнт I курса факультэта мастацтваў і дызайну А.В. Загарка выканаў песню на словы У. Някляева «Янка Купала». Атмасфера цырымоніі была адначасова і ўрачыстай, і незвычайна сардэчнай. Усе прысутныя – вучні, сябры, калегі віншавалі Ганаровага прафесара, жадалі яму доўгіх гадоў жыцця, поспехаў у працы, плённага супрацоўніцтва з Беларуссю і Польшчай. Сярод нас быў пасапраўднаму вялікі навуковец і дзіўна абаяльны, сціплы, добры і выдатны чалавек. Здавалася, Віктар Аляксандравіч не адчуваў стомы: ахвотна фатаграфаваўся, даваў інтэрв'ю працоўнікам радыё і тэлебачання, наведаў музей гісторыі ўніверсітэта, пра які распавёў яго дырэктар У.М. Сытых, адказваў на пытанні, гутарыў, дарыў свае кнігі. Афіцыйная сустрэча непрыкметна мяняла свой характар і ператваралася ў сяброўскую гутарку. Усе прысутныя спадзяваліся на працяг гэтай цудоўнай інтэлектуальнай садружнасці з цяпер ужо Ганаровым прафесарам ГрДзУ В.А. Хоравым, якое доўжылася з універсітэтам каля пяцідзесяці гадоў.

З універсітэту мы выйшлі даволі позна. На горад апускалася змярканне, быццам дзень не хацеў сыходзіць. Увечары Віктар Аляксандравіч яшчэ піў чай і на маю прапанову застацца яшчэ на адзін дзень, каб адпачыць пасля, хоць і прыемных, але даволі напружаных падзей, ён адказаў, што павінен правесці пасяджэнне Спецыялізаванага савета, што вучоным сакратарам яго прызначыў сваю вучаніцу д.ф. н. Ірыну Адэльгейм, што хоча напісаць яшчэ адну кнігу, матэрыял да якой ужо сабраны, і, галоўнае, ён хоча ў Маскве стварыць цэнтр паланістыкі. Я, у сваю чаргу, выказала трывогу за лёс гродзенскай паланістыкі і пра тое, што ў «Міжнароднага інстытута Адама Міцкевіча» да гэтага часу няма памяшкання, на што ён адказаў: «Ты павінна зарэгістраваць свой інстытут».

А пасля мы ўспомнілі аб адкрыцці музея Зоф'і Налкоўскай і кафедры польскай філалогіі, аб канферэнцыі, прысвечанай Адаму Міцкевічу, і аб сённяшніх ўрачыстасцях. І нечакана Віктар Аляксандравіч сказаў: «Я ўжо стары». Я адказала, што такія, як ён, старымі не бываюць. «Успомні, як цёпла цябе віншавалі мае дзяўчынкі (гаворка ішла аб гарадзенскіх паланістках). І пачула ў адказ: «У цябе вельмі выхаваныя дзяўчынкі».

Горкая іронія лёсу: у ноч з 24 на 25 мая Віктара Аляксандравіча Хорава не стала. Ён памёр далёка ад дома, сям'і, месца службы. І ўсе цяжкасці арганізацыі жалобных мерапрыемстваў ляглі на далікатныя плечы Першага прарэктара ГрДУ Святланы Уладзіміраўны Агіевец, якая праявіла не толькі арганізацыйныя здольнасці, але незвычайную чуласць і сардэчнасць да блізкіх людзей, жонкі, вучняў адышоўшага з жыцця В.А. Хорава. Гродзенскі ўніверсітэт дастойна праводзіў у вечнасць свайго «Ганаровага прафесара».

Усім нам было вельмі цяжка перажыць гэтую трагічную нечаканасць. Смерць

прафесара Віктара Аляксандравіча нагадвала перапынены палёт. Ён сышоў у вечнасць пасля заканчэння прысвечанай яму міжнароднай канферэнцыі, пасяджэння Праўлення Навукова-дыдактычнага каардынацыйнага цэнтра і пасля ўрачыстага пасяджэння Савета ўніверсітэта, які прысвоіў яму званне «Ганаровы прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы». Ён сышоў, як сыходзілі класічныя прафесары мінулых эпох, апрануўшыся ў мантыю і пакінуўшы сваім вучням духоўную спадчыну: свае навуковыя працы – працы па-сапраўднаму вялікай, эпахальнай значнасці. Больш за 50 гадоў ён узначальваў, ствараў і тварыў міжнародную паланістыку, умеў аб’яднаць і запаліць святлом свайго таленту і вядомых навукоўцаў многіх краін, і творчую моладзь. В.А. Хораў падрыхтаваў некалькі пакаленняў дактароў і кандыдатаў навук з розных краін свету. Ён адкрыў новы кірунак у літаратуразнаўстве і шчодра адорваў бліскучасцю свайго таленту, клопатам, сардэчнай дабрынёй сваіх вучняў, сяброў, калегаў.

Мы будзем памятаць і любіць Вас, дарагі Віктар Аляксандравіч. Светлая і вечная Вам памяць.

прафесар, д.ф.н. С.П. Мусіенка,<br>вучні, сябры, калегі.

Пераклад з рускай<br>А.В. Гук

# Сярод кніг



## Ніл Гілевіч, *З Божай ласкі – дасеўкі. Вершы 2011—2012,* Мінск 2014, 56 с.

Ніл Гілевіч належыць да старой у добрым сэнсе слова, гэта значыць класічнай беларускай паэтычнай школы, якая стваралася напрыканцы XIX і пачатку XX стагоддзяў такімі выдатнымі творцамі, як Францішак Багушэвіч, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, якімі верш, паэтычны твор разумеўся, па-першае, як арганічны феномен, ягоная ўнутраная форма залежала ад духоўнага зместу. А гэта, па-другое, абгрунтоўвала шырокую, шматбаковую яго функцыянальнасць. Акрамя эстэтычных ці нават вузка аўтатэлічных рэфлексій вершы беларускіх паэтаў класічнай школы выконвалі, таксама арганічна, асноўныя для кожнага жанра, рода і віда мастацтва функцыі – пазнаўча-асветніцкую і нацыянальна-выхаваўчую. Такім чынам, паэзія беларускіх класікаў была дзейсным чыннікам у грамадскім і палітычным жыцці нацыі, народа, дзяржавы.

З антычных часоў, аднак, вядома, што палітыкі (тыраны, дэспаты, дыктатары ды іх мутацыі і варыянты, копіі, падробкі, манекены), якія часам убіраюцца ў шаты мецэнатаў, мягка гаворачы, не любяць свабодалюбівага і незалежнага Слова. І таму такіх паэтаў, творцаў, філосафаў або выганяюць з Краю (Авідзій), або змушаюць прыняць атруту (Сэнека, Сакрат), або трымаюць пры сабе на кароткай прывязі (не даем балючых прыкладаў). А для непакорлівых застаецца шлях Эзопа, або Спартака, або шлях падпольшчыка. Такое асабліва востра праяўляецца на зломе родава-кланавых, сацыяльна-грамадскіх ці ідэйна-палітычных сістэм. Новая сістэма робіць іх ценямі папярэдняй формы ладу.

Кніга Ніла Гілевіча, аб якой гаворка, не мае сваёй метрыкі – яна самвыдавецкая, падобна як і ягоны Збор твораў у 23 тамах. Што ж, гэта толькі доказ таго, што Паэты застаюцца Паэтамі нават “у ценю”, калі ўжо і творы і іх публікацыя з’яўляюцца выключна “З Божай ласкі”. Вялікая культуровая прастора, на якой гаспадарыў Ніл Гілевіч дагэтуль, выявіла месцы, дзе ранейшае зерне або не ўзышло, або зарасло куколлем, або

высахла на сонцы, або трапіла ў незавершаную аратым раллю – і дбайнаму сейбіту, пакуль ёсць яшчэ неабходны час дасеяць тыя пустастаны, Ніл Гілевіч і ў гэтай кнізе ідзе па сваім полі і дасейвае яго “дасеўкамі”. Ён па-гаспадарску ў руху, як і раней, этычна заклапочаны лёсам Радзімы, яе душою-моваю, гісторыяй-скарбніцай, культурай-дзейбаю. Ніл Гілевіч, як і раней, бярэ на сябе боль шматлікіх пакаленняў беларусаў, якія, як ён раней, але і цяпер, бачаць здзеклівыя адносіны да сваёй нацыянальнай сутнасці. У сваіх «дасеўках» паэт гаворыць і пра знешніх ворагаў тытуль-нага народа, і пра сваіх, унутраных, інтэлігентаў-рэнегатаў, і пра маўчанне Мецэната.

Большасць твораў у гэтай кнізе Ніла Гілевіча – гэта аднастрофныя паэтычныя бездакорныя формы майстра, якога характарызуе віртуознае ўмельства прымяняць рытарычныя фігуры выказвання, напаўняць верш сатырычнымі ўколамі пад прыкрыццём алегорыі, сімволікі, алюзіі, іншасказання, каб зноў вярнуцца да апелятыўна-імпрэсіўных зваротаў, выкарыстоўваючы аратарскую інтанацыю, лексіку ды стылістыку – і каб яшчэ раз праявіць сябе выдатным лірыкам у трэнах, прысвечаных памяці жонкі Ніны.

Вялікія паэты – вучаць добраму да канца, кладучы галаву на плаху за Радзіму.

## Iwan Bunin. *Wciąż smutno wierzę w swoje szczęście…* Pod redakcją Iwony Anny NDiaye i Grzegorza Ojcewicza, Instytut Słowiańszczyzny Wschodniej UWM w Olsztynie, 2013, 472 ss.

Ольштынскае славістычнае навуковае асяроддзе адзначыла – адзінае ў Польшчы – 80-ю гадавіну атрымання Буніным Нобелеўскай прэміі 1933 года ў літаратуры выданнем выдатнай кнігі, якая па сваім змесце з’яўляецца своеасаблівым энцыклапедычным даведнікам пра гэтага вельмі рускага, унікальнага эміграцыйнага пісьменніка – паэта і празаіка. Том складаецца з васьмі раздзелаў. Асноўнае месца прысвечана азнаямленню польскага чытача з некаторымі вузлавымі этапамі жыцця Івана Буніна (I. Ustami Buninów. II. Emigranci rosyjscy o Iwanie Buninie), а таксама з навейшай польскай рэцэпцыяй ягонай творчасці (III. Bunin z perspektywy XX wieku). Раздзелы IV і V – гэта двухмоўная (руская і ў перакладзе на польскую мову) анталогія (1886—1953) найперш паэтычных твораў аўтара “Жыцця Арсеннева”, але і шасці празаічных шэдэўраў, якія тут жа хочацца назваць: Огнь пожирающий, 1923; Солнечный удар, 1923; Остров Сирен, 1932; В такую ночь, 1949; Un petit accident, 1949; Бернар, 1952. VI раздзел прысвечаны Бунініяне (бібліяграфія аб жыцці і творчасці пісьменніка на рускай і польскай мовах. Падаецца спіс кніжных і часопісных публікацый Буніна ў Польшчы, а таксама яго Выбраныя творы і Выбранае перша-друкаў). У VII раздзеле даецца алфавітны пералік усіх твораў Нобелеўскага лаўрэата. Завяршаецца том раздзелам “Бунін у фатаграфіях”.

## Elżbieta Feliksiak, *Antropologia literatury. Interpretacje i studia,* Kraków 2014, 436 ss.

Аўтар гэтай кнігі, Эльжбета Фяліксяк, па адукацыі германістка і паланістка, шматгадовы навуковы супрацоўнік Універсітэта ў Беластоку, заснавальнік і кіраўнік Кафедры Тэорыі і Антрапалогіі літаратуры, цяпер прафесар emeritus. Па сямейных абставінах Э. Фяліксяк зроднена з беларускай культурай, ведае яе мову.

Сустрэча ў 70—80-х гадах мінулага стагоддзя ў Беластоку з жывой культуровай беларускай рэальнасцю (а ўвесь час даследчыца жыве ў Варшаве) адгукнулася ў яе асабістым вопыце і даследаваннях праблемай шматкультурнай ( у тым ліку і найперш польска-беларускай) памежнасці Польшчы, ва ўнутраным супольным этасе. Грэцкае слова ethos тлумачыцца ў слоўніках як звычаі, норавы, маральнасць. Э. Фяліксяк тэрмін гэты інтэрпрэтуе па-свойму – jako trud oswajania przestrzeni danej nam do przeżycia – w kontekście problemów granicy między tym, co etyczne, a tym, co egzystencjalne i konkretne.

Даследчыца ўсведамляе, што этас і этыка па сваіх сэнсах стаяць побач. Таму яна пытаецца: Czy pytanie o ethos jest tym samym, co pytanie o etykę? I адказвае: To zależy od punktu widzenia: na pewno nie jest tym samym wprost, ale jedno przecież wyrasta z drugiego. Этыка, такім чынам, разумеецца ёю як сістэма павіннасцей норм дзеяння. А этас – pytania etyczne przenoszą się w sferę doświadczenia jednostkowej i zbiorowej tożsamości, гэта значыць на глыбейшы ўзровень чалавечага існавання. З гэтай глыбіні, з глыбіні этаса Фяліксяк ставіць шэраг іншых пытанняў, між іншых, што значыць быць літаратурай?

Тэрмін ethos, які тут трэба было падкрэсліць і наблізіць яго да чытача, разам з тэрмінам katharsis з'яўляецца ў гэтай кнізе ключавым словам.

Кніга складаецца з чатырох раздзелаў: I. Pola argumentacji (прастора аргументацыі), II. Sny o wielokulturowej pamięci (сны пра шматкультурную памяць), III. Mówiące krajobrazy (краявіды, якія гавораць), IV. Rozmowa jako odnawialne źródło energii (размова як аднаўляльная крыніца энергіі).

Каб быць найбольш дакладным паспрабую навукова складаны і багаты змест кнігі перадаць мовою арыгіналу, словамі Аўтара, тым болей што Аўтар карыстаецца сваімі паняццямі, катэгорыямі і тэрмінамі. Так, у першым раздзеле Фяліксяк піша, што profil tej książki kształtuje się na skrzyżowaniu teorii i antropologii literatury, projektując obraz twórczości XIX i XX wieku w kontekście filozofii otwartej i umiarkowanego realizmu poznawczego. Dominantą, która spaja tak różne pola badawcze w całość nieoczywistą, jest tutaj szeroko pojęta komparatystyka. Цікавяць яе relacje (суадносіны) między literaturą a historią i pamięcią, między sferą fikcji a sferą działania, między myśleniem opowieści a logiką życia w świecie.

У другім раздзеле – główny nurt stanowią badania skupione wokół pytań o związki tekstów kultury z doświadczeniem życia na wielonarodowych pogra-

niczach (…). Kontekstem interpretacyjnym w tych badaniach są historia, psychosocjologia i antropologia filozoficzna. Spośród metod syntetyzującego opisu materiału najskuteczniejsza okazuje się (…) hermeneutyka jako poszukiwanie sensu w horyzoncie dialogu wokół wartości tradycyjnych, prowadzonego pod kątem sporu o etyczne granice świadomości „unowocześniającej” przez próby zapomnienia.

У трэцім раздзеле – czytając literaturę (…) wychylamy się poza oswojoną przestrzeń antropologiczną. Pytamy nie tylko o wartość estetyczną dzieła, ale też o to, w jaką nas ono siłę wyposaża i jakie otwiera horyzonty, jak pobudza nasze myślenie, otwierając je naprawdę bycia. Interpretacja, czyli odpowiedź dziełu (…) jest oswajaniem i przyswajaniem tego, co jawiło się jako obce. (…) Właśnie dlatego przestrzeń antropologiczna jest tak ściśle powiązana z ethosem. (…) Dzięki literaturze i sztuce mamy miejsce (swój ethos) w dziejowości pytań i odpowiedzi.

У чацвёртым раздзеле Фяліксяк прадстаўляе typy ukrytego wymiaru literatury kreującej wizję człowieka w przestrzeni jego materialnego i duchowego życia. Są to: rozmowa, która wyrasta z mistycyzmu wiary, rozmowa, która wyrasta z mistycyzmu zwątpienia, rozmowa, która rozświetla miejsce obecności.

### *У беларускасці наш паратунак...*<br>*Мікола Гайдук (1931—1998) – асоба і справа,*<br>**Міхалова–Бельск-Падляшскі–Беласток 2013, 250 с.**

### **Юрка Геніюш,** ***Смыком па сэрцы,***<br>**Kamunikat.org, Беласток 2013, 242 с.**

Беларускія пісьменнікі Польшчы, старэйшыны, заснавальнікі літаратурнага аб’яднання “Белавежа” ўвайшлі ў сталыя гады, калі і можна ўжо, і трэба адзначаць высокія даты шаноўных калег. Такая пашана выказваецца і ў дачыненні да нашых памерлых сяброў... Так, да 60-годдзя з дня нараджэння Міхася Шаховіча (паэт адыйшоў у 47 гадоў) выйшла ягонае “Выбранае” (2012). Да 70-годдзя Уладзіміра Гайдука была выдадзена кніга “Полымя роднае. Выбранае” (2011) і як бы наўздагон у 2013 годзе адыходу “самотніка ў свеце рэчаў” – паэтычны зборнік “Дзівасіл”.

У 2013 годзе з’явіліся яшчэ дзве кнігі, якімі ўшаноўвалася памяць такіх творчых індывідуальнасцей, як Юрка Геніюш (паміж 75 і 80 гадамі з дня нараджэння) і Мікола Гайдук, зборнік прымеркаваны да 80-ых угодкаў з дня нараджэння. Гэтыя два выданні выйшлі ў свет дзякуючы энтузіязму родных, блізкіх знаёмых ды беларускіх дзеячаў, якія пераважна ў прамым сэнсе мастацкім словам не займаюцца, але якія ўмеюць знайсці адпаведныя фінансавыя сродкі на такое мерапрыемства.

Па рэдагаванні, кампазіцыі матэрыялу, нават графічнаму афармленню гэтыя кнігі зроблены, як гаворыцца, на свой смак і эстэтычны густ. Што ж,

у нашай грамадскай шматкультуровай рэальнасці і моўнай інтэрферэнцыі ды наогул малой граматнасці ў дачыненні да пісьмовай беларускай літаратурнай мовы яны напэўна выканаюць сваю рэкламна-даведніцкую функцыю. Шкада, што ў адным і другім выпадку ў іх згублены творчы крытэрый. У кнізе Юркі Геніюша на першым месцы неабгрунтавана аказаліся газетныя матэрыялы, як фельетоны, жанр, які не мае, па сутнасці, ніякага значэння ні для творчай біяграфіі Аўтара, ні тым болей для гісторыі беларускай літаратуры ў Польшчы. А тое, што найбольш вартаснае, арыгінальнае, непаўторнае, – жанр мініяцюр у прозе, гэтая паэтычная проза, якая застаецца творча-фірменным знакам Геніюша і якая выразна адрознівае ягоную вобразна-рытмічную стылістку ад творчасці Ларысы Геніюш (Маці не засланяе Сына, Юрка не губляецца ў ценю Ларысы) – тое зніжаецца, спрашчаецца, "абзываецца" слоўкам "жменька". Сам Аўтар такой назвы не ўводзіў для іх азначэння.

Кніга Юркі Геніюша магла б абысціся і без вершыка-панегірыка, адрасаванага старэйшаму Калегу, які не можа, на жаль, яго прачытаць і адпаведна ацаніць (што напэўна зрабіў бы з характэрным яму сарказмам), і тым болей ёй (кнізе) не патрэбна т а к о е ўступнае слова.

Кніга, прысвечаная Мікалаю Гайдуку, узнікла з сустрэч-чытанняў у трох беларускіх асяродках, дзе жыў і працаваў гэты выдатны беларускі пісьменнік, педагог і збіральнік фальклору. Шмат у ёй ялейнасці, хваласпеву і не толькі выказанага ў панегірычных слабенькіх вершыках. Ну каму яны патрэбныя, тыя сільвіі? Памерлы ж не прачытае, а жывым яны запаўняюць прастору кнігі пустым зместам. Невядома, чаму назвы раздзелаў маюць пераклад на польскую мову. А пераклад "асоба і справа" (на тытульнай старонцы) як „osoba i dzieło" – дык гэта увогуле адвольнасць.

Нияк двухсэнсоўна гучыць пытанне, заяўленае на самым пачатку кнігі: "Мікола Гайдук – **чаму** (падкрэслена – мною) заслужыў на памяць?" – пытанне як бы ад таго, хто трымае ключы ад адзінай справядлівай "вагі", якая яму паказвае: заслужыў – або не заслужыў. Вельмі жорсткая ацэнка такой вагі. На шчасце, кніга ратуецца двума вельмі цікавымі раздзеламі: "З эпісталярнай спадчыны" і "З рукапіснай спадчыны".

У 2013 і 2014 гадах выйшлі кнігі:

Юрка Б а е н а, *Шкатулка святла* [паэзія]

Сяргей К а в а л ё ў, *Крывіцкі апокрыф* [п'есы]

Уладзімір Г а й д у к, *Дзівасіл* [паэзія]

Mira Ł u k s z a, *Życie pozagrobowe i inne* [проза]

Дзмітры Ш а т ы л о в і ч, *Сляды на зямлі* [паэзія]

Дзмітры Ш а т ы л о в і ч, *Успаміны. 1955—1988* [проза]

Ян Ч ы к в і н, *Ідэя. Вобраз. Інтэрпрэтацыя* [артыкулы]

Міра Л у к ш а, *Падарункі* [паэзія для дзяцей]

Віктар С т а х в ю к, *Пакуль змеркне дзень* [проза]

Галіна Т в а р а н о в і ч, *Пайсці, каб вярнуцца* [проза]

# ТЭРМАПІЛЫ

Адрас: 15-420 Białystok, Plac Uniwersytecki 1

выдае

**Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”**

Графіка
(на стр. 115, 120, 160, 253)
*Уладзіміра Правідохіна*

**Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji**


## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў. Усе матэрыялы прымаюцца ў электроннай і раздрукаванай форме.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.





Mariusz Śliwowski
ul. Kolejowa 19; 15-701 Białystok
tel. 602 766 304,
e-mail: prymat@biasoft.net, www.prymat.biasoft.net